

ГНЕЎ ПАЭТА —
ГНЕЎ НАРОДУ

АПОВЕСЦЬ ПРА
БРАГІНСКАЕ ПАДПОЛЛЕ

ЗАЛАТЫ
ЮБІЛЕЙ РЭСПУБЛІКІ

НАВАПОЛАЦК
У АБ'ЕКТЫВЕ

РЭСПУБЛІКА
ЎШАНОЎВАЕ
ДЗЕЯЧАЎ КУЛЬТУРЫ

ЯК ВЫГЛЯДАЛА
БЕЛАРУСЬ
У МІНУЛЫМ

АДКУЛЬ
УЗЯЛІСЯ
СЛОВЫ

БУДЗЬЦЕ ВЕТЛІВЫЯ

МАЙСТАР СПОРТУ
ПРА СПОРТ


2

ЛЮТЫ

МІНСК, 1969

*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС*

●

**Заснаваны ў 1953 годзе**

# МАЛАДОСЦЬ

**ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР**

## У НУМАРЫ:



**Выдавецтва «Звязда»**

Вокладка **Ю. Архіпава.**

Шмуцтытул **В. Шаранговіча** (стар. 3).

**На стар. 91 фотакарэспандэнты БелТА засведчылі гістарычны момант — уручэнне нашай рэспубліцы ордэна Кастрычніцкай Рэвалюцыі.**



# ПАЭЗІЯ ПРОЗА

● ВАСІЛЬ МАКАРЭВІЧ ● АДАМ СЦЕПАНЕНКА ● ІВАН КАЛЕСНІК ● АЛЕСЬ ЖУК ● ВІКТАР ГАРДЗЕЙ ● КАЗІМІР КАМЕЙША ● ЭДУАРД ЯРАШЭВІЧ ● УЛАДЗІМІР ПРАВАСУД ● ЯЎГЕН АДАМОВІЧ І МІКАЛАЙ МІШЧАНЧУК.





**Васіль МАКАРЭВІЧ**

# РАЗГНЕВАНЫЯ КАНТЫНЕНТЫ

## 1. ГОЛАС ЗЯМЛІ

Сябе, жыццё і час
якой спазнаць цаной?
Гарэзаю была —
вяртлявай маладухай.
Цяпер жа баба я,
цяпер верацяном
кружуся ў пальцах я
у века-папрадухі.
А нітка часу ўсё
цячэ,
цячэ,
цячэ.
Няма канца нідзе той вечнасці-кудзелі.
Суровай ніткай я
абвіта да вачэй.
Што будуць ткаць з яе:
абрус ці саван белы?
Бярыце, людзі, ўток!
Хачу вам памагчы!
Вось вам чаўнок,
а гэта вось — аснова!
Бо не міністры вы,
не грузчыкі — ткачы
дабра і зла —
палотнаў пажыццёвых.
Сачу я: з ніткі той
каршун пятлю ўе,
шавец жа суча дратву без спачыну.

Шаноўны прэзідэнт
                    і дзень і ноч снуе
для змоў і для інтрыг
                    тугую павуціну.
І вось дзяржаўны ўзмах
                    дзяржаўнае рукі
(Што для тае рукі
                    камбайны, умалоты?),
і, ўрэзаўшыся ў сінь,
                    снуюць, як чаўнакі,
над галавой маёй
                    са свістам самалёты.
А выбухне траціл —
                    шалёнаму шалець!—
і баабаб з зямлі
                    вылазіць, быццам рэпа.
Над джунглямі плыве
                    сатканы з дыму шлейф,
зямлю аперазаць
                    гатовы чорным крэпам.
Глядзіце, людзі, ўсе!
                    Глядзіце ў сотню лінз—
каторы год і век
                    аб крэмень крэмень трэцца.
У дыме і агні
                    вы бачыце эскіз
на чорным палатне
                    вайны апошняй, трэцяй...
Што будзе, як яна
                    грымотна загрыміць
і грудзі мне і твар
                    засцеле чорнай сажай?
Які наступны век
                    рассечаную ніць,
жыцця і часу ніць,
                    для чалавецтва звяжа?..

## 2. ПІСЬМО В'ЕТНАМЦАЎ АМЕРЫКАНСКАМУ ПРЭЗІДЭНТУ

Ад агню нябёсы пажухлі,
абгарэла хмары крыло.
Для прышэльцаў нязваных
джунглі,
як заблытанае сіло.

Пад нагою у нас
                    старцёры.
А мільгне ў паднябессі цень,
вастраносых ракет верацёны
ціха кружаць:
                    шукаюць мішэнь.

Вось такая цыбатая штука,
быццам птушка з гнязда,
                    без прынукі
у лінялае неба нырне —
пахавальную ў Штаты пашле.

Рэактыўны след, як вудзільна.
З Вашынгтона
                    пад самы бок
закідаеце лоўка, на дзіва,
карабля цяжкі паплавок.

Батарэйная кананада
і снарады — нібы прынада.
Што за ўлоў вудзільна сагне?
Наша помста і люты гнеў.

Бот па джунглях чаўкае, хлямае,
нас шукаюць у рэчцы на дне.
Мы ж пад іхні і гвалт і лямант
едзем часам на іх спіне.

У карыце цясніны голай
іх зачынім, нібы мышэй.
На смяротным тым палігоне
ў нас на мушцы жывая мішэнь.

Ці з фанеры ці не з фанеры —
хай жа мацае кулямёт!
Мы дзіравім, як шыфаньеры,
іх крыж-накрыж і — навылёт...

Дык якія ж, скажы, давядзецца
вам стрыгчы, прэзідэнт, дывідэнды?
Трупы тыя, што ў рад палеглі,
як з'араныя ў полі плугі.

Верым мы, што ўжо хутка трэсне
пад табой прэзідэнцкае крэсла,
з Капітолівае гары
загрыміш ты у тартарары.

Бо не толькі па аэрадромах —
знайце гэта! — ноччу і днём
мы таксама па Белым доме
свой прыцэльны агонь вядзём!

## 3. ПЛАВАЮЧЫ МОГІЛЬНІК

Амерыканскіх салдат, забітых у в'етнамскіх джунглях, адпраўляюць на пахаванне ў Злучаныя Штаты.
(З газет.)

Акіян Ціхі я.
Ды не знаю спачыну
ад напалму і гулкіх грымот.
Пру, нібы дамавіну,
на плячы цяжкі параход.
Як глухой аплявухай,
хваляй грукну ў парэпаны борт,
як у бубен, зноў бухну
ды іду на усход,
на усход!
З дна майго, як тапельцы,
усплываюць самлелыя дні.
Параход ледзь грабецца,
патушыўшы ў каютах агні.
Ён вязе тры паверхі
анямелай густой цішыні.
Чайкі кінуцца з вэрхалам:
— Дагані,
дагані,
дагані!..
Я дзіўлюся ад ранку:
што нясу я за цяжар такі?
Мо падбітыя танкі
ці паломаныя штыкі?

Зазірнуў я у трумы —
адхіснуўся, як злодзей які:
у сініх цынкавых трунах —
мерцвякі,
мерцвякі,
мерцвякі...
Мо няварта пужацца?
То ж грымотнай вайны умалот.
Колькі ім? Дзевятнаццаць?
Рукі зведзены, бровы — ўразлёт.
Іх, нібы чараціны,
падкасіў ды працяў кулямёт
сярод нейкае балацявіны
навылёт,
навылёт,
навылёт.
— Атлантычны, малеча!
Несці больш параход не магу!
Узвалі ты на плечы
гэты могільнік, гэту тугу.
У субтропіках душных,
захінуўшы ў густую смугу,
ты нясі аж да сушы...
Ну, а я не магу,
не магу.
Сам, стамлёны, прылягу
каля нейкіх нязнаных шырот,
і з-за архіпелага
я гляджу на усход,
на усход.
За далёкімі маякамі
над бяздоннаю прорвай вод
з воч, як прывід, знікае
грузны могільнік-параход.

## 4. САМАСПАЛЬВАННЕ

У знак пратэсту супраць амерыканскай агрэсіі ў В'етнаме некалькі чалавек спалілі сябе перад Белым домам.
(З газет.)

Самаспальванне! Гэтак, як пальма,
жанчына палае. Вакол — ні душы!
Тонкае полымя, быццам купальнік,
стан аблягло. Паспрабуй — патушы!

Можа, былая яна манекеншчыца?
Можа, хацела згарэць ці павесіцца,
што не жадаў браць тавараў банкір,
той у якога мазгі набакір?

Не! Бізнесмен яе, нібы цукерку,
смачна кінуў бы за шчаку...
Быццам цягнік маладую цяцерку,
век так жанчыну
перашчыкнуў.

Белы дом, нібы айсберг, марудна
перад вачамі плыве і плыве.
Белы дом пахіснецца няўклюдна
і пад сабой пахавае яе.

Полымя льецца барвовае, смуглае
ў шара зямнога ля круглых шчок.

І напалову яго абвугліла,
быццам парэпаны той гаршчок.

Заўтра ў газеце здарэнняў калонка,
быццам прасечаная палонка:
Лондан,
        Нью-Йорк, Вашынгтон, Парыж...

Ну, а жанчына пальмаю тонкай
перад Белым домам гарыць.

## 5. БАСТЫЛІЯ XX ВЕКУ

> Каля Пентагона адбылася самая буйная дэманстрацыя, у якой удзельнічала каля ста тысяч чалавек. Яны пратэставалі супраць вайны ў В'етнаме.
>
> (З газет.)

Страх, нібы штык,
                    па ўсім Пентагоне,
страх працінае
                какарды, пагоны.
Забіўся ў кут, нібы горны марал,
тытулаваны чын —
                    адмірал.
Бровы высока ўзняў
                    ад здзіўлення.
знаць ён не хоча
                  такога дзялення.
Дзеляцца: хто — за вайну,
                          а хто—не...
Трэба кожнаму быць
                    на вайне!
Каб у спякоту
              і люты холад
гэтых упартых
              дэтройцаў-бамбіз
мучыў няўмольным удавам
                голад —
вешаць, расстрэльваць і бамбіць!..
Толькі сэрцы хлапцоў
                    не астылі.
Мо Пентагон —
              гэта іх Бастылія?
Адно што рабіць трэба наадварот:
не выпускаць тут нікога
                        з варот!
Хай павоююць тады геніяльна
у гэтым каменным мяшку
                        генералы,
хай тут супраць
                адзін аднаго
з усіх калібраў
              вядуць агонь,
Калі ж навоюцца ўдосталь ваякі,
выпусціць можна на волю ўсіх,
каб, як рэдкасць музейную,
                          ўсякі
глядзеў і падоўгу дзівіўся з іх.
А пра вайну
заікнуцца раптам
ці там пра нейкі яшчэ палігон —

**людзі турнуць іх усіх,**
**як вар'ятаў,**
**будуць гнаць і свістаць**
**наўздагон.**

## 6. З ДУШНЫХ КРЭСЛАЎ...

Палата лордаў запатрабавала ад Вільсана адказу, ці праўда, што англійскія вадалазы знаходзяцца ў дэльце Меконга.
(З газет.)

**З крэслаў душных лорды прамоклыя**
**узіраюцца праз манаклі.**
**Не відно праз брытанскі туман**
**ля Меконга нідзе англічан.**

**Цені нейкія. Можа з Даласа**
**там арудуюць вадалазы,**
**каб хоць пару маршчыністых міль**
**прапалоць ад грымотных мін?**

**Не! Вайной ліхой забрытаная,**
**каля скручаных шэрых ліян**
**апускаецца ціха Брытанія**
**ля Меконга у акіян.**

**...Так фашысты перад сабой**
**па дарозе гналі раніцай**
**хлопца з конікам і бараной,**
**каб на міне самім не ўзарвацца.**

**Барана клыкастым зуб'ём**
**глуха шоргала, скрыгатала,**
**аж пакуль уверх не ўзлятала,**
**развярнуўшы сухі чарназём.**

**...Гоняць карнікі англічан**
**у сыры меконгскі туман,**
**і ідуць на дно адразу**
**анямелыя вадалазы.**

**Не ўцячы і тым ад куль,**
**хто схаваўся за іх спіною.**
**Кулямётнай доўгай чаргою**
**партызаны ай-джы сякуць.**

. . . . . . . . . . . . . . . . .

**З крэслаў душных лорды прамоклыя**
**узіраюцца праз манаклі —**
**не відно праз брытанскі туман**
**ля Меконга нідзе англічан.**

## 7. ЧАЦВЁРТЫ РАУНД

Вядомы амерыканскі баксёр Клей быў асуджаны на пяць год турэмнага зняволення за тое, што адмовіўся паехаць ваяваць у В'етнам.
(З газет.)

**Што ж, выходзь на рынг, дружа Клей,**
**ды удар, як пластыр прыклей,**

на памост каб працiўнiк рухнуў,
як на дол сасна ў завiруху.

Рукавiцы — дзве галаўнi,
дзе каторая i даткнецца,
як ад чорнай сажы — зiрнi! —
з лапушыну знак астаецца.

Боксу юны i бог i маг,
рынг твой сёння — зала судовая.
Палiцэйскiя па баках,
тлум i вэрхал, як у Садоме.

I працiўнiк твой — Пентагон,
твой працiўнiк — хiтры i дужы.
Ён не б'е рукавiцай тугой,
ну, а нечым адразу глушыць.

Хоць няўклюдны, як пухавiк,
ды лупцуе злева i справа.
Клей, ты ведаеш — ён прывык
бiць працiўнiка не па правiлах.

Той, хто мае грашовы мяшок,
хто трымае ў руках уладу,
неслухмяных за кожны грашок
б'е дубiнкай i б'е прыкладам.

Ну, а ты не хаваўся ў кут,
бой ты вёў з паднятым забралам.
Дык лупцуй жа працiўнiка й тут,
каб яго ажно дрыжыкi бралi!

Ты нямееш каля сцяны.
I ўзрываецца громам зала...
Хамы! Рукi табе яны
незаўважна для ўсiх звязалi.

Нiкнеш нiжай усё галавой
ты, жыццём, як жорнамi, цёрты...
Клей! Мой дружа! Ты выйграеш бой!
За табою раунд чацвёрты!

## 8. ЛIРЫЧНАЕ АДСТУПЛЕННЕ

Мiстэр Долар i мiстэр Фунт,
з Вашым здароўем што стала?
Марка даўно прадракае —
капут! —
I спiхвае з п'едэстала.

Нядаўна i ты яшчэ, франк,
быў ганарысты, як франт.
Цяпер, як старога, ад ранку
на бiржы трасе лiхаманка.

I марка-какотка, на ўздзiў,
Вам не ўсмiхнецца пры стрэчы.
Якi ж Вас паралюш разбiў,
якi груз прыгнуў Вам плечы?

Няўжо надарвалiся без пары?
Цi, можа, старасць — не радасць?

Банкіры і ліхвяры
ніяк не дадуць Вам рады.

Пранырлівы бізнесмен
на свой бізнесменскі бязмен
уважвае Вашу вагу,
пра акцыі — ні гу-гу...

Было, што святыя з святых,
у срэбнай аправе-робе
сядзелі на крэселках залатых
з золата чыстай пробы.

Цяпер ледзь не кожны дзень
з усмешкай скупой
і манернай
пад кожнага з Вас прэзідэнт
падсоўвае крэсла фанернае,

бо золата пацякло
туды, дзе бушуе вайны цыклон.
І некуды Вам дзявацца
ад дэвальвацыі, ад дэвальвацыі!

## 9. БАЛАДА ПРА ЧОРНУЮ ПТУШКУ

Я, Зямля, і ў сне нават помню
пра абвугленую Японію.

Крыга ж гэта, што летам сплыла
з Ледавітага ў Ціхі і Сіні,
на якой гняздо звіла
птушка чорная —
Хірасіма.
Шугануў агонь над ёй,
закіпеў, як смала ў чане.
Між абвугленых чорных секвой
раскаціўся сувой маўчання.

Як ляцела — смерці вяшчун —
так, абвугленая, і ўпала
на расплаўлены нейкі валун,
што ёй стаў п'едэсталам!

І з Аляскі і з дымных Курыл
бачна, колькі ў размаху
па-вар'яцку заломленых крыл
прадсмяротнага жаху.

У вачах яе — немы крык,
у вачах — чорны грыб і калекі...
Ды ужо нізашто не закрыць
ёй абвугленыя павекі.

Хай глядзіць у іх прэзідэнт,
і цырульнік, і будачнік,
хай жа бачаць яны кожны дзень
тую трэцюю, будучую...

Боль абвугліў і мне душу:
колькі год, колькі год — не пад сілу!—
я, Зямля, на плячы нашу
птушку чорную,—
Хірасіму!..



● Адам СЦЕПАНЕНКА

● Мал. Б. АРАКЧЭЕВА

# ПАЛЕСКАЯ БЫЛЬ

## ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ АПОВЕСЦЬ

*На ўскраіне Брагіна ўзвышаецца помнік ахвярам вайны. Не злічыць усіх, хто быў расстраляны тут, у гэтых пясках ля пасёлка. У гады фашысцкай акупацыі гэта было жудаснае месца. І раніцою і позна ўвечары адсюль даносіліся жахлівыя крыкі жанчын і дзяцей, чуліся аўтаматныя і вінтовачныя стрэлы. Хто мог ведаць, што жнівеньскім ранкам 1942 года тут была расстраляна група падпольшчыкаў, якія гераічна змагаліся з акупантамі ў сваім родным гарадку...*

*Каб не масавыя рэпрэсіі супроць камуністаў і актывістаў, людзі задумаліся б: за што гітлераўцы расстралялі Мікалая Дубіну, Яўгенію Скараход, Віктара Елішэвіча, Міхаіла Клішэвіча, Ананя Фурса, Клаву Абушэнка, Рамана Беразняцкага, Назара Яфіменку, Клаву Юдзянок, Таццяну Шчука, Івана Бабіча, Пятра Анапрэенку, Мікалая Лявоненку? За што так жорстка распраўіліся з іх сем'ямі, бацькамі, жонкамі, дзецьмі?..*

*Цяпер стала вядома, што яны былі з тых, хто не скарыўся захопнікам, свядома і добраахвотна ўзяўся за небяспечную і цяжкую справу — патрыятычную падпольную работу ў тыле ворага. Схопленыя фашыстамі, яны мужна перанеслі ўсе катаванні і бясстрашна пайшлі на смерць, нічым не заплямійшы сваё сумленне.*

*Рэдка хто з брагінцаў старэйшага пакалення не ведае Пятра Зіновіча, Аляксандра Міхневіча, Сцяпана Філіпенку, Івана Садчанку, Фёдара Загаранскага, Савелія Рэпчанку,*

*Пракопа Марчанку, Яўгена Дэмуса, Міколу Скарахода, Вольгу Скараход, Дзяніса Стрыбука, Гаўрылу Пятрэнку, Кастуся Коўша, Сямёна Камеку, Вольгу Сімукову. Гэта тыя, хто ў гады вайны мужна змагаліся супроць акупантаў. Сёння гэтыя простыя і сціплыя людзі жывуць і працуюць у розных кутках нашай неабсяжнай краіны, многія з іх — на сваёй Брагіншчыне.*

*Пра тое, як нараджалася і дзейнічала падполле ў Брагіне і Савічах, як пачынаўся і разгортваўся партызанскі рух у раёне, расказваецца ў гэтай дакументальнай аповесці. Вядома, яна не прэтэндуе на поўнае і ўсебаковае адлюстраванне гісторыі падпольнай і партызанскай барацьбы на Брагіншчыне. Працуючы над ёю, я выкарыстаў толькі тое, што мне стала вядома з расказаў жыхароў, падпольшчыкаў і партызан, якія засталіся жывымі, з паказанняў арыштаваных карнікаў і дакументаў, што захаваліся ў архіве. Таму я загадзя прашу прабачэння ў тых, хто па меры магчымасці памагаў падпольшчыкам і партызанам, але імёны чые тут не названы.*

*Аўтар.*

## 1

Стаяў жнівень 1941 года.

Гітлераўскія войскі рваліся да Масквы. Ужо былі захоплены Мінск, Віцебск, Магілёў, Гомель, Смаленск, а далёка ў тыле ў палескім гарадскім пасёлку Брагін працягвала жыць савецкая ўлада. Гул пралятаючых фашысцкіх самалётаў, водгулле артылерыйскай кананады ды пастаянныя трывожныя навіны падавалі вестку аб вайне, напаўнялі сэрцы трывогай за лёс Радзімы.

Поўным ходам у раёне ішла мабілізацыя. З шумнага і мнагалюднага двара райваенкамата прыцемкамі адыходзілі ваеннаабавязаныя. Яны перапраўляліся праз Дняпро паблізу вёскі Жылічы і на Чарнігаўшчыне ўліваліся ў часці дзеючай Чырвонай Арміі. Туды ж, за Дняпро, кідаючы сваё жыллё, праклінаючы фашыстаў, эвакуіраваліся мірныя жыхары, перапраўляліся табуны калгаснай жывёлы, вывозіліся каштоўнасці і дакументы.

Яшчэ працавалі цэхі мясцовага прамкамбіната. Масла, кансервы, ватоўкі, гімнасцёркі, бялізна — усё гэта грузілася на аўтамашыны і вечарамі вывозілася з Брагіна. З раённых баз і магазінаў адпраўляліся коўдры, паліто, валёнкі, тканіна, мяшкі з цукрам, крупамі, скрыні з макаронам, сухарамі, бочкі з газай і бензінам.

Работнікі прадпрыемстваў і магазінаў, як і жыхары гарадка, не цікавіліся, куды ўсё гэта вывозіцца. Усім было ясна: эвакуіруюцца матэрыяльныя каштоўнасці з раёна, дзе на невялікім участку ля Дняпра савецкія войскі ўмацоўвалі абарону. Але пільнае вока магло заўважыць, што каля вёскі Сялец аўтамашыны збочвалі ўлева да лесу, у кірунку вёскі Рудня-Жураўлёва. Толькі райкому партыі і нямногім камуністам было вядома, што прадукты і тавары вывозяцца ў лес, на падрыхтаваныя партызанскія базы.

Брагінскі раён, размешчаны ў глыбіні Палесся, далёка ад шашы і чыгунак, пазней за іншыя раёны Беларусі быў акупіраваны гітлераўцамі. У гэты кароткі час брагінцы пад кіраўніцтвам райкома партыі паспелі падрыхтавацца да барацьбы. Словы звароту Савецкага ўрада: «Не пакідаць ворагу ні кілаграма збожжа, ні літра гаручага, ства-

рацць невыносныя ўмовы для фашыстаў» — знайшлі гарачы водгук у сэрцах людзей. У першыя дні вайны для барацьбы з варожымі дэсантамі ў раёне быў створаны знішчальны атрад, у які ўвайшлі камуністы і камсамольцы. Камандзірам атрада быў зацверджаны былы загадчык аддзела райкома партыі, у мінулым камандзір Чырвонай Арміі, Мікалай Прыходзька, а камісарам — сакратар райкома партыі Дзюндзікаў. Калі пагроза акупацыі стала яўнай, райкомам партыі была пастаўлена новая задача: з прыходам фашыстаў пайсці ў лес, да падрыхтаваных баз, для арганізацыі партызанскай дзейнасці ў тыле ворага.

Да таго, як атрад па сігнале ў поўным складзе пакіне Брагін і пойдзе ў лес, усе байцы былі распушчаны па хатах, каб арганізаваць мабілізацыю ваеннаабавязаных і эвакуацыю жывёлы і тэхнікі на ўсход.

26 жніўня ў суседнім Хойніцкім раёне паявіліся механізаваныя часці гітлераўцаў. Па сігнале баявой трывогі ўвесь асабовы склад атрада ў спешным парадку сабраўся ў Брагіне. Аднак адпраўку яго ў лес па невядомых прычынах камандаванне затрымала. Толькі атрымаўшы чарговае данясенне аб перамяшчэнні нямецкіх танкаў і аўтамашын з пяхотай да Брагіна, камандаванне аддало загад аб выступленні. Але ўжо было позна. Калона нямецкіх войск, што праходзіла ля вёскі Амелькаўшчына, захапіла вёску Лубенікі, адрэзаўшы такім чынам партызанскія базы ад Брагіна. Зблыталіся разлікі і планы атрада, і Прыходзька не мог прапанаваць які-небудзь здавальняючы план дзеянняў. Тады Дзюндзікаў аддаў загад спехам пагружацца на аўтамашыны і рухацца да Дняпра. Байцам і камандзірам атрада ён растлумачыў:

— Тыя, хто ведае наш намер пайсці ў лес, няхай думаюць: «Не засталіся ў тыле, а панічна ўцяклі за Дняпро». Мы ж павернем у Ручаёўскія лясы, а адтуль хутка вернемся на свае базы.

Такое распараджэнне супакоіла байцоў. Але выпадак разбурыў і гэтыя разлікі. Перадаўшы на Дняпры аўтамашыны ваеннаму камандаванню савецкіх войск, Дзюндзікаў пайшоў на даклад у мястэчка Любіч. Адтуль ён не вярнуўся, і лёс яго застаўся невядомым. У той жа дзень з штаба прыйшлі старшыя афіцэры і пачалі расфарміроўваць атрад, накіроўваючы людзей у воінскія падраздзяленні. Многія камуністы былі назначаны на партыйную работу ў армію. Былы начальнік мабілізацыйнага пункта Пётр Зіновіч і камуніст Сапоненка настойліва даводзілі камандаванню, што ў Брагінскім раёне патрэбна пакінуць хоць бы невялікую групу камуністаў для арганізацыі партызанскай дзейнасці: у лясах ля Брагіна падрыхтаваны базы са зброяй, прадуктамі і вопраткай. Іх прапанова знайшла падтрымку камандавання адной з воінскіх часцей, і неўзабаве быў атрыманы дазвол — пакінуць у раёне восем камуністаў на чале з Сапоненкам, які ўзяў да сябе ў групу Пятра Зіновіча, пракурора Брагінскага раёна Магурова, дырэктара нарыхтоўчай канторы Біркова і камуністаў Жураўскага, Чарняка, Лявоненку і Дзяльца.

Калі вячэрні змрок згусціўся над Дняпром, група Сапоненкі пераправілася на правы бераг ракі і ўзяла кірунак у Ручаёўскія лясы.

## 2

Звычайна зіма настае на Палессі ў студзені. Але ў тую першую ваенную зіму ўжо ў сярэдзіне лістапада падзьмулі халады, зямля па-

крылася роўным белым дываном. Моцныя маразы скавалі льдом азёры і рэчкі.

Марозная раніца. Ціха шумяць прыпудраныя снегам Лубенікаўскія лясы, шамаціць на дубах жухлае лісце, чуваць трэск наледзянелых галін. У лясную музыку ўліўся новы гук — скрып снегу. Гэта між соснамі замільгала постаць чалавека; ішоў, крыху накульгваючы на левую нагу, каржакаваты, сярэдняга росту мужчына, з вінтоўкай за плячыма, у сялянскім кажуху і валёнках. Твар яго зарос густой рыжай шчэццю. Але з-пад шапкі блішчалі вочы, выдаючы маладога чалавека. Гэта быў Пятро Рыгоравіч Зіновіч.



Пятро ЗІНОВІЧ.

Ён вяртаўся з урочышча Міхалёва Стража. Кожную раніцу жыхары партызанскай зямлянкі, замаскіраванай у густым ельніку, хадзілі ў гушчар, да хаткі лесніка Усціна Скачка, дзе быў схаваны радыёпрыёмнік, забіралі ў яго вячэрнія зводкі Саўінфармбюро і прыносілі на базу.

Сёння была чарга Пятра. Ішоў ён з благім настроем — нейкая трывога пасялілася ў сэрцы, і, хоць зусім не хацелася думаць, думкі лезлі ў галаву самі сабой. «Зноў нашы адступаюць... У небяспецы Ленінград і Масква... Фашысты рвуцца на Каўказ... Няўжо канец? Не! Гэтага не можа быць... Мы — камуністы — не страцім веру ў перамогу». І зноў: «Штосьці нядобрае творыцца з Сапоненкам, Магуровым, Бірковым, Чарняком і Жураўскім... Сапоненка часта пачаў адлучацца. Па два-тры дні не бывае на базе. Кажуць, што праз сваякоў у вёсцы вядзе разведку іназіранні за Брагінам, вывучае абстаноўку... Але што з таго?.. Ужо тры месяцы, як трымаем у руках зброю, а ні аднаго стрэлу яшчэ па фашыстах не зрабілі. Як было восем чалавек, так і засталося...»

Прадзіраючыся праз густы ельнік, Пятро ўлавіў у марозным паветры знаёмы пах дыму. «Ну, вось і дома. А хлопцы — малайцы! Здагадаліся напаліць печку...»

Пераступіўшы парог зямлянкі, Зіновіч паставіў у кут вінтоўку, агледзеўся. Ля «буржуйкі» сядзеў на кукішках Сапоненка і падкідваў у печку дровы. Убачыўшы Зіновіча, прычыніў дзверцы, падняўся і пайшоў яму насустрач.

— А, Пятро! Добры дзень! Я сам толькі што прыйшоў, замёрз... А яны дрыхнуць,— ён жэстам паказаў у цёмны кут, дзе на цвёрдых шырокіх нарах у вопратцы і абутку, накрыўшыся кажухамі, ляжалі шэсць барадатых мужыкоў. Па тым, як некаторыя паварочваліся з боку на бок, пакашлівалі, было відаць, што ніхто ўжо не спіць.

— Колькі можна спаць? Кладземся з цемрай, работы ніякай, ядзім тры разы на дзень. Гэтак можна праваяваць усю вайну,— загаварыў, ні да каго не звяртаючыся, Піліп Дзялец.

Ён узняўся з нар і падышоў бліжэй да печкі. Сапоненка злосна паглядзеў на яго, але нічога не сказаў. Услед за Піліпам усталі і селі на ўскраек нар Жураўскі, Чарняк, Лявоненка і Біркоў. Толькі Магуроў, час ад часу кашляючы, застаўся на сваім месцы. Ён кепска сябе адчуваў: яго даймаў раматус.

Зняўшы кажух, Зіновіч сеў ля печкі побач з Сапоненкам на кругляк, які замяняў лаўку.

— Ну, чым сёння парадуеш нас, Пятро Рыгоравіч? — запытаў Лявоненка, закручваючы ў кавалак газеты тытуню-самасаду.

Зіновіч спачатку быў намерыўся пераказаць змест чарговай зводкі і пракаменціраваць тую яе частку, дзе гаварылася аб цяжкіх баях пад Масквой і Ленінградам. Ён хацеў выказаць сваю думку, што Маскву і Ленінград нашы не здадуць немцам і што ў бліжэйшы час трэба чакаць змен на фронце. Праўда, гэта была нічым не падмацаваная яго асабістая думка. Яму проста хацелася гэтага. Пятро думаў падбадзёрыць таварышаў, якія ўсё больш нудзіліся. Але ў прысутнасці Сапоненкі ён не хацеў рабіць каментарыяў, бо апошні не любіў слухаць апраўданняў наконт адступлення нашых войск.

— Нічога няма суцяшальнага і сёння. Адступаюць нашы... Цяжка пад Масквой...— глыбока ўздыхнуўшы, сказаў Зіновіч, перадаючы аркуш у рукі Сапоненку.

— «У акружаным Ленінградзе голад... Вораг у ста дваццаці кіламетрах ад Масквы... Пасля ўпартых баёў нашы войскі пакінулі...» — чуўся ў цішыні зямлянкі хрыплаваты голас Сапоненкі.

Пакуль ён чытаў, Зіновіч абводзіў позіркам таварышаў. Яны ўсё ніжэй спускалі галовы. Дзялец і Лявоненка часта смакталі самакруткі, выпускаючы густыя клубы дыму, якія сінім воблакам плавалі пад столлю.

— Відаць, не ўтрымаецца Масква. Вунь якая сіла прэ...— першы загаварыў Біркоў пасля таго, як Сапоненка скончыў чытку.

— І не больш як праз дзень-два будзе аб'яўлена аб гэтым па радыё,— падтрымаў яго Сапоненка.— Чулі, у сённяшнім паведамленні сказана: з Масквы эвакуіруюцца прамысловыя прадпрыемствы. Напэўна, выехаў ужо і ўрад...

— Браточкі! Што ж гэта будзе далей? Няўжо канец? — няўпэўнена і ціха выдыхнуў Жураўскі, пераводзячы позірк то на Сапоненку, то на Біркова.

Зіновіч слухаў гэтыя словы, яны болем аддаваліся ў сэрцы. Трывога за лёс Радзімы напаўняла і яго душу. Там, у лесніка, першы пазнаёміўшыся са зводкай, ён таксама задаваў сабе трывожнае пытанне: няўжо канец? Адказ знайшоў у сваім сэрцы. Яно падказвала, што ў гэты цяжкі час, як ніколі, патрэбна вера. Трэба верыць Радзіме, ураду, Чырвонай Арміі, і гэтая вера, як сцяг, дапаможа згуртавацца, знайсці ў сабе сілы, каб перамагчы нават у самым безвыходным становішчы. Прыкладаў падобнага гісторыя ведае нямала. Але як гэта даказаць Сапоненку і іншым, якія страцілі веру нават ва ўласныя сілы?

Думка, якую выказаў Сапоненка аб падзенні Масквы праз два-тры дні, вывела Зіновіча з раўнавагі, і ён упершыню загаварыў адкрыта, разам выклаў усё тое, што накіпела ў апошні час:

— Хопіць! І без таго нудна. Лепш пагаварылі б пра тое, што нам рабіць далей. Гэта ж тры месяцы знаходзімся ў тыле ворага, а яшчэ не зрабілі ні аднаго стрэлу... Правільна гаворыць Піліп: сядзім у лесе, як на курорце. Выходзіць, забыліся, для чаго нас паслалі ў тыл праціўніка, на што нам дадзена ў рукі зброя. Цяпер не толькі Масква, уся

краіна ў небяспецы, і кожны сумленны чалавек жыве з клятвай у грудзях: перамагчы або памерці! А што мы зрабілі тут, у тыле, каб Маскве было лягчэй? Скуру сваю ратуем і ўсё!..

Зіновіч, гнеўны і разззлаваны, падхапіўся з кругляка. Ён падышоў да вядра і прагнымі глыткамі пачаў піць з конаўкі ваду. Усе глядзелі на яго, і ніхто не асмельваўся загаварыць першы. Горкія, але справядлівыя словы, выказаныя Зіновічам, прымусілі задумацца над сваім становішчам. Піліп Дзялец і Васіль Лявоненка ў душы радаваліся: Зіновіч шчыра выказаў тое, што было на душы і ў іх.

Сапоненка, расхваляваны і злосны, з чырвонымі плямамі на твары, камячыў у руках аркуш паперы — зводку — і абдумваў адказ. Ён ведаў, што адказ павінен быць не Зіновічу, а ўсім таварышам, бо яны хочуць ведаць, якія яго далейшыя планы, ці мае ён намер арганізоўваць баявую дзейнасць атрада.

Калі б у яго быў намер змагацца, ён, не задумваючыся, прызнаў бы, што, сапраўды, да гэтага часу яны адседжваліся ў лесе. У той час як многія іх таварышы, што пайшлі ў Чырвоную Армію, гераічна змагаюцца на франтах, абараняючы Радзіму ад вераломнага ворага. Але бяда ў тым, што не мог ён гэтага сказаць сваім таварышам. Дамагаючыся там, на Дняпры, адпраўкі ў тыл хоць бы невялікай групы, Сапоненка быў упэўнены, што за месяц ён створыць свой партызанскі атрад. Не менш ста чалавек. І тады, размясціўшыся ў Лубенікаўскіх лясах, маючы на базах запасы харчавання і боепрыпасаў, ён сваімі дзеяннямі будзе наводзіць жах на гітлераўцаў. Але на справе атрымалася інакш. Ужо ў першы месяц знаходжання ў тыле ён зразумеў: да вясны стварыць у раёне атрад не ўдасца. У некаторых вёсках паявіліся «прыпіснікі»-ваеннапалонныя, якім удалося ўцячы з лагераў, але і яны, знясіленыя і хворыя, збіраліся ў партызаны толькі вясной, пасля таго, як за зіму падлечацца і папраўяцца.

У гэты час і ўзнік у Сапоненкі план: распусціць сваю групу да вясны па дамах. Ён меркаваў, што за зіму можна прыгледзецца і вывучыць людзей. А вясной кожны з васьмі таварышаў можа прывесці з сабой у лес па тры, па пяць чалавек. А гэта азначае, што ў лес прыйдзе гатовы баявы атрад.

Сапоненка яшчэ больш умацаваўся ў сваім рашэнні пасля таго, як, у выніку неаднаразовых наведванняў сваякоў і знаёмых, дазнаўся, што нямецкіх карных органаў у Брагіне няма. Паліцыя як быццам бы камуністаў і актывістаў не чапае. І ён зрабіў вывад: да вясны змен у такой палітыцы не будзе. «Жывуць жа ў Брагіне і навакольных вёсках былыя савецкія актывісты, і іх ніхто не чапае? Чаму не можам і мы — восем чалавек — пражыць на паўлягальным становішчы да вясны?»

Сапоненка цяпер і вёў усё да таго, каб пачаць ажыццяўляць свой план. Але адна справа рашыць самому. А як паставяцца да гэтага таварышы? І ён пачаў паціху выведваць думку хлопцаў. Біркоў, Жураўскі і Чарняк адразу ж падтрымалі Сапоненку, знайшоўшы яго рашэнне адзіна правільным у такой абстаноўцы, і абяцалі падтрымку.

Магуроў захварэў і марыў пра цёплую печ. Таму ён асабліва не працівіўся плану Сапоненкі, але сказаў, што падтрымае тых, хто будзе ў большасці. Сапоненка ведаў, Дзялец і Лявоненка па натуры такія ж упартыя, як і Зіновіч. Яны настроены па-баявому, гатовы змагацца хоць сёння, і калі іх удасца пераканаць, то толькі большасцю. Сапоненка пакуль устрымліваўся адкрываць ім свой план, але цяпер, калі Зіновіч выступіў так рэзка, зразумеў, што размову давядзецца весці адкрыта.

Стараючыся паказаць, што ён не пакрыўдзіўся на Зіновіча, Сапоненка загаварыў спакойна:

— З цябе, Пятро, атрымаўся б някепскі камісар. Запальваць сэрцы патрыятычнымі прамовамі, клікаць байцоў на «ўра» ты ўмееш. А вось камандзіра з цябе не будзе! Камандзір, ацэньваючы абстаноўку, павінен ведаць, калі трэба дзейнічаць, а калі пачакаць...

— Ці нельга было б больш ясна. Да чаго хіліцца гэтая размова? — не стрымаўся Зіновіч.

— А да таго, што мы апынуліся ў такім становішчы, калі трэба пачакаць. І сёння мы вымушаны па-ваеннаму рашыць — ці павінна наша невялікая група заставацца і надалей у лесе і прымаць нейкія дзеянні, ці на зіму разысціся па дамах, каб вясной прывесці ў гэтыя лясы больш людзей.

— І як «па-ваеннаму» вырашыла гэтае пытанне камандаванне? — з'едліва запытаў Пятро.

— Гэта давядзецца вырашыць усім нам разам. А калі ты хочаш ведаць маю асабістую думку, то я лічу, што мы павінны да вясны разысціся, бо весці барацьбу з фашыстамі васьмі чалавекам проста немагчыма. Да вясны мы разгубім і гэты касцяк...

— Вось цяпер усё зразумела! — зноў загаварыў Зіновіч з непрыязнасцю ў голасе.— Цяпер я зразумеў, чаму Сапоненка так часта адлучаўся з лагера. Аказваецца, разведваў, ці можна пад бокам у немцаў у цяпле і ўтульнасці перачакаць вайну...

З нар падхапіўся Біркоў і накінуўся на Зіновіча:

— Перастань пароць гарачку, Пятро! З табою нельга спакойна размаўляць. Адзін ты — шчыры патрыёт. А мы, бачыш, здраднікі! Так і глядзім, каб здацца ворагу. Як ты мог падумаць такое пра сваіх таварышаў? — пасля невялікай паўзы Біркоў загаварыў зноў: — Цяжка нашым пад Масквой, пад Ленінградам. Але гэта не азначае, што мы тут павінны безразважна рызыкаваць жыццём. Каму гэта патрэбна? Каб выйграць час для накаплення сіл, замацавацца на выгадных пазіцыях і нанесці сакрушальны ўдар па ворагу, армія вунь ухіляецца ад пераўзыходзячага ў сіле праціўніка! Дык хіба гэта злачынна, калі мы на зімовыя месяцы схаваем зброю, падбярэм кожны па некалькі чалавек і вясною рушым на ворага. Нас ужо збярэцца не восем, а каля паўсотні. Я лічу, мы павінны зрабіць толькі так.

Лявоненка зрабіў апошнюю зацяжку, кінуў акурак у печку і загаварыў, як заўсёды, спакойна і разважліва:

— Дзіўна і непераканальна ўсё гэта гучыць. Няхай нас пакуль мала. Але мы закліканы дзейнічаць супроць гітлераўцаў, узнімаць у людзей, што апынуліся ў акупацыі, баявы дух, умацоўваць упэўненасць у нашай перамозе. І ўсе сумленныя людзі будуць ісці да нас, у лес, каб змагацца з ненавісным ворагам. Немагчыма сабе ўявіць, якая будзе нанесена шкода нашай справе, калі ў свой час жыхары Брагіншчыны даведаюцца, што група актывістаў склала зброю і вярнулася з лесу...

З абурэннем загаварыў і Дзялец:

— Наогул, мне не зразумела: няўжо Сапоненка і Біркоў думаюць усур'ёз, што немцы і паліцыя пакінуць у спакоі да вясны актывістаў, якія тры месяцы са зброяй у руках знаходзіліся ў лесе...

І ён пачаў скручваць папяросу.

Зіновіч рашуча ўстаў з кругляка:

— Вы як хочаце,— кіўнуў ён позіркам на Сапоненку і Біркова,— а я не пайду з вамі добраахвотна аддаваць сябе ў рукі паліцаяў. Думаю, не зробяць гэтага Дзялец і Лявоненка. Чым мы будзем займац-

ца, абдумаем самі. Адно магу з упэўненасцю сказаць — усю зіму мы будзем трымаць зброю ў руках.

Сапоненка падняў галаву і змераў Зіновіча злосным позіркам. Павольна, скрозь зубы працадзіў:

— І ўсё ж, я думаю, ты адумаешся, Пятро. Пойдзеш за намі. Шкада, што я не зразумеў цябе раней, а то застаўся б ты за Дняпром...

Зборы былі нядоўгія. Сапоненка дастаў з-пад нар доўгую скрынку і паклаў у яе пяць вінтовак, перад гэтым густа змазаных ружэйным маслам. Усе пяцёра дасталі з кішэняў патроны. Удваіх з Жураўскім занеслі скрынку ў адзін з бліжэйшых тайнікоў.

Неўзабаве яны сабралі ў рэчавыя мяшкі свой невялікі скарб, моўчкі развіталіся з Зіновічам і яго сябрамі і пайшлі адзін за адным дарогаю на Брагін. Цяжка ступаючы, абапіраючыся на кіёк, апошні ішоў Магуроў. На павароце ён павярнуўся, махнуў рукой: «Бывайце!» Яны ўжо схаваліся за густым хмызняком, Дзялец і Лявоненка пайшлі ў зямлянку згатаваць што-небудзь паесці, а Зіновіч яшчэ доўга стаяў і глядзеў туды, куды пайшлі яго нядаўнія таварышы.

## 3

Кароткі зімовы дзень, нарэшце, канчаўся. З таго часу, як Мікалай Дубіна пачаў працаваць бухгалтарам спіртзавода, час для яго як быццам спыніўся. Пакутліва доўга цягнуліся службовыя гадзіны, калі ён мусіў быць на месцы і корпацца ў паперах. А той работы — на якую гадзіну, не болей...

На самай справе, Брагінскі спіртзавод толькі адкрыўся, выпрацоўка прадукцыі невялікая, улік і справаздачнасць простыя. Вось і даводзілася штодзень выкладваць на стол папкі з бухгалтарскімі дакументамі, корпацца ў іх для прыліку...

Прыгадвалася, як ранняй вясной 1934 года маладым хлопцам Мікалай дабіраўся да Брагіна, куды яго накіравалі на працу пасля заканчэння школы бухгалтараў, як на першым часе ён сумаваў па родных і сябрах, што засталіся на радзіме пад Бабруйскам. Неўзабаве цікавая работа і новыя сябры цалкам захапілі яго. Прыйшлося заседжвацца вечарамі, рабіць бягучыя праводкі, звяраць бухгалтарскія дакументы, афармляць асабовыя рахункі. Неўзабаве старшыня арцелі Пятро Зіновіч на агульным сходзе адзначыў стараннасць Мікалая, а на бліжэйшых выбарах прапанаваў выбраць яго сакратаром камсамольскай арганізацыі арцелі. Яму да спадобы прыйшлася работа з камсамольцамі. За новым сакратаром пацягнулася моладзь, і ён у гэтым занятку знаходзіў задавальненне. На пачатку ён не звяртаў увагі на прыгожанькую, з кучаравымі валасамі Лену Скараход, якая працавала таксама ў бухгалтэрыі. Іх сталы стаялі ўпобачкі. Але пасля аднаго з культпаходаў у кіно ён паглядзеў на яе інакшымі вачыма. Дэманстраваўся кінафільм «Чапаеў», і Мікалай апынуўся побач з Ленай. Яна першая ў перапынку паміж часткамі (тады кінакарціны дэманстраваліся адным апаратам) павярнулася да Мікалая і ціхім голасам запытала, ці падабаецца яму кінафільм. Мікалай, чамусьці збянтэжыўшыся, разгублена замармытаў, што любіць усе ваенныя фільмы. Пасля кіно ён праводзіў яе дамоў. Усю дарогу гаварылі аб прачытаных кнігах і прагледжаных фільмах. З гэтага часу ён пачаў браць у кіно два білеты. Непрыкметна прыйшло каханне. У 1936 годзе

яны пажаніліся. Вяселле гулялі дружным камсамольскім калектывам. Увесь вечар Зіновіч жартам напяваў маладым песеньку, якая стала ў той час вядомай:

*— Жадаем яшчэ вам прыбытку у хаце*
*Ні мала, ні многа — штогод па дзіцяці.*
*Не будзе вам крыўды яшчэ і за тое,*
*Калі пашанцуе на год і па двое...*

Старшыня арцелі аказаўся пракарам: праз год Алена Васільеўна нарадзіла Мікалаю двух сыноў. Блізнят назвалі Ігарам і Уладзімірам. А яшчэ праз два гады ў Мікалая паявілася дачка Нэла. Радасці мужа і жонкі не было межаў.

І раптам — вайна...

Мікалай Дубіна неўзабаве быў залічаны ў знішчальны атрад, радуючыся, што і ён разам з камуністамі будзе змагацца ў тыле працўніка. А тое, што ў атрадзе быў і Зіновіч, якога Мікалай так паважаў, радавала ўдвая. Але калі на Дняпры атрад быў расфарміраваны, Мікалай трапіў у адну з дзеючых часцей Чырвонай Арміі. Два месяцы ён з баямі адступаў да Харкава. Каля Палтавы полк трапіў у акружэнне. Пасля спробы вырвацца з акружэння байцы, каб не трапіць у палон, пачалі разгрупоўвацца. Мікалай схаваўся ў лесе і, калі нямецкія часці адышлі, не знайшоўшы сваіх, пачаў прабівацца на Брагіншчыну. Па дарозе ўспомніліся словы Зіновіча, сказаныя на Дняпры перад адыходам у варожы тыл з групай: «Запомні, Мікалай, калі здарыцца што-якое, кіруйся ў свой раён, мы будзем рады прыняць цябе...»

З такімі думкамі ён прабіраўся дадому. Прапытваў заадно і пра партызан. У дарозе высветліў, што пра партызан нідзе нічога не чуваць. А дзе Зіновіч, Сапоненка, Магуроў і іншыя? Што з імі? На гэтае пытанне ніхто нічога не мог адказаць. «Пачакаю да вясны»,— супакойваў сябе Мікалай. А каб нямецкія ўлады не надта чапляліся, ён уладкаваўся бухгалтарам на спіртзавод. Ціхая і непрыкметная работа. Затое самому тут, у будынку раённай управы, дзе была бухгалтэрыя спіртзавода, усё відно. Бачна, хто шчыра служыць фашыстам, а хто толькі зачапіўся за месца да лепшых часоў. А што такія лепшыя часы настануць, Мікалай быў упэўнены. За два месяцы баёў ён бачыў, як рашуча змагаюцца савецкія воіны з гітлераўскімі ордамі, перамолваюць адборныя часці гітлераўцаў, іх тэхніку. Настане свята і на нашай вуліцы...

Рыпнулі дзверы. У пакой зайшоў высокі, дбайна апрануты хлопец. На ім было цёмнае паліто з набіўным каўняром і такая ж цёмнага колеру шапка.

— Час заканчваць работу, пан Дубіна. Выслугоўваецеся? — знарок сур'ёзна прабасіў незнаёмец, але тут жа вусны яго расплыліся ва ўсмешцы.

— Пачакайце, пан Дэмус. Разам пойдзем,— у тон яму, усміхаючыся, прамовіў Мікалай і пачаў паспешліва запіхваць паперы ў шафу.

З Яўгенам Дэмусам Мікалай пазнаёміўся нядаўна. Праўда, ён яго ведаў яшчэ да вайны. Яўгенаў бацька працаваў дырэктарам сярэдняй школы ў вёсцы Савічы, а Яўген вучыўся ў гэтай жа школе. У Брагін часта прыязджаў са школьнымі камсамольцамі, сустракаліся і ў райкоме камсамола. Мікалаю раілі асцерагацца Дэмусаў: «Калі ім давяраюць фашысты, значыць, іх трэба баяцца». І хто мог бы падумаць, што камсамолец Жэня Дэмус — прадаўся немцам!

Мікалай бачыў, як адварочваліся ад яго пры сустрэчы некаторыя хлопцы і дзяўчаты. Але не выпала з-пад яго ўвагі і тое, як горка пера-

жываў гэта Жэня. Увабраўшы галаву ў плечы, з грымасай пакуты на твары, ён таропка праходзіў міма, каб не чуць крыўдных насмешак, што даносіліся да яго.

Аднойчы Мікалай рашыўся пагутарыць з Жэнем. Ідучы раніцай на работу ва ўправу, ён дагнаў яго каля радыёвузла.

— Добры дзень, пан Дэмус! — на ўсякі выпадак асцярожна, прывітаўся Мікалай.

Для Яўгена слова «пан» прагучала як насмешка. Злосць закіпела ў грудзях. Рэзка павярнуўшыся, ён было разгневаўся, але, сустрэўшы дабрадушны позірк, стрымана адказаў:

— Што вам ад мяне патрэбна?

Не без падстаў Мікалай меркаваў, што Яўген, маючы справу з прыёмнікам, напэўна, слухае Маскву. Таму без усякай асцярогі запытаў:

— Што перадаюць па радыё нашы з Масквы?

Мінутная разгубленасць апанавала Яўгенам, але Мікалай зразумеў гэта і супакоіў:

— Не бойцеся мяне, Жэня: я ваш сябар!

Усё яшчэ не разумеючы і не давяраючы, Яўген рэзка, але ціха напомніў:

— Я сын намесніка бургамістра і сам служу немцам. Гэта вам вядома?

— Ведаю, але я веру вам. Вы ж камсамолец!

Наступіла маўчанне, вочы Яўгена заіскрыліся радасцю:

— Дзякуй, таварыш...— прамовіў ён дрыготкім голасам і моцна пацiснуў руку Мікалаю вышэй локця. Супакоіўшыся, Яўген у некалькіх словах расказаў пра навіны з Масквы. Гэта былі цяжкія весткі пра адступленне нашых войск. Развітваючыся, ён сказаў: — Я прыпомніў вас. Вясной на раённай камсамольскай канферэнцыі ў прэзідыуме сядзелі разам...

Знаёмства з Мікалаем падбадзёрыла Яўгена. Ён убачыў у асобе Мікалая старэйшага таварыша, які не толькі зразумеў яго душу, але якому можна было даверыцца. Цяпер, бываючы часта ва ўправе, ён не прамінаў выпадку заглянуць у кабінет Мікалая і пагутарыць. Мікалай быў рады такім сустрэчам, бо Яўген заўсёды меў больш дакладныя звесткі аб становішчы спраў на фронце.

Вось і сёння Яўген забег да Мікалая паведаміць цікавую навіну, якая разнеслася па Брагіну. Укладваючы ў шафу дакументы, Мікалай не спяшаўся пачынаць размову, мабыць, разлічваючы пагутарыць па дарозе, але Яўген не стрымаўся:

— Арыштаваны Сапоненка, Магуроў, Біркоў, Жураўскі, Чарняк.

У Мікалая апусціліся рукі, ён адышоў ад шафы і са здзіўленнем вымавіў:

— Не можа гэтага быць, Жэня! Яны ў лесе, у партызанах! Гэта я дакладна ведаю.

— Кажуць, учора прыйшлі з лесу. Думалі зарэгістравацца ва ўправе. А іх раптоўна арыштавалі...

— З імі быў Зіновіч. Не чуў, Жэня, ён таксама арыштаваны? — разгублена запытаў Мікалай.

Дэмус пацiснуў плячыма.

— Магчыма. Але я чуў толькі гэтыя прозвішчы.

Пакуль Дубіна апранаўся і зачыняў за сабой дзверы, прынесеная Яўгенам навіна не выходзіла з галавы: «Няўжо арыштавалі і Зіновіча? Чаму яны апынуліся ў Брагіне?»

# 4

Апоўдні завіруха аціхла. І хоць шэрая мгла зацягнула ўсё неба, над заходнім небасхілам праступала панурае, хмурнае сонца.

Расчысціўшы снег на двары, Міхаіл Халіманчык спыніўся на ганку, закурыў і паглядзеў праз плот. Вуліца была пустая. На душы неспакойна ад перажытага страху і горычы. У двухстах метрах ад яго дома знаходзіцца будынак паліцыі, і Халіманчыку часта даводзілася быць нявольным сведкам зверстваў паліцаяў над савецкімі людзьмі. Днём здраднікі шнырылі па пасёлку і бліжэйшых вёсках, вышуквалі яўрэяў, а вечарам, злосна гарлапанячы п'янымі галасамі, прыводзілі ў паліцыю няшчасных. На досвітку асуджаных на смерць жанчын і дзяцей з бледнымі тварамі і жахам у вачах вялі на расстрэл у Касачоўскі парк.

«Гады! Каты! Вылюдкі!» — сам сабе шаптаў Халіманчык.

А цяпер, як гром сярод яснага неба, пранеслася па Брагіну вестка пра расстрэл Сапоненкі, Магурова, Жураўскага і Чарняка. Тое, што гэтыя людзі самі прыйшлі з лесу, выклікала ва ўсіх недаўменне. Першыя актывісты, якія тры месяцы знаходзіліся ў лесе, так проста, легкадумна прынялі рашэнне аддацца ў лапы ворагу!

Поўнай нечаканасцю для брагінцаў было і тое, што пасля іх арышту два дні паліцыя аўтамашынамі вазіла ў Брагін з Лубенікаўскіх лясоў зброю, боепрыпасы, прадукты, адзенне, гаручае. Спачатку ні ў кога не было сумненняў — партызанскія базы выдалі Сапоненка, Магуроў, Жураўскі і Чарняк.

«Як яны маглі зрабіць такую подласць?..» — абураліся жыхары. І раптам усіх іх, разам з сем'ямі, расстралялі! Жывым быў пакінуты толькі Біркоў. Яго прынялі на работу конюхам у паліцыю. Цяпер людзі праклінали Біркова. «Якой цаной купіў сабе жыццё, баязлівец!» — кідалі яму ў твар.

У тыя дні ў Брагіне распаўсюдзілася аб'ява акупацыйных улад да ўсіх грамадзян раёна. У ёй назначалася прэмія ў пяць тысяч марак і маёнтак Гарадзішча таму, хто ўкажа месцазнаходжанне небяспечнага «бандыта» Зіновіча Пятра Рыгоравіча.

«Вось гэта сапраўдны камуніст! — гаварылі паміж сабой жыхары.— Відаць, добра насаліў, калі так цэняць яго ворагі...» Каму было вядома, што Зіновіч знаходзіўся ў лесе разам з Сапоненкам, з аб'явы ўведалі намнога больш. Яны зразумелі, што ў лесе паміж партызанамі адбыўся разлад. Зіновіч, а, магчыма, з ім і іншыя, адмовіўся легалізавацца, застаўся ў лесе са зброяй і таму для акупантаў уяўляў небяспеку.

Чытаючы аб'яву, Халіманчык радаваўся за Зіновіча, за яго правільнае рашэнне. Зараз бы і яго напаткаў такі лёс, як Сапоненку і яго прыхільнікаў...

Абмятаючы венікам снег з валёнкаў, Халіманчык кінуў позірк праз плот і ўзяўся за клямку, але ў гэты час заўважыў дзяўчыну з клуначкам у руках, якая ішла па вуліцы да яго хаты. Прыгледзеўшыся, пазнаў, што гэта Вольга Скараход — былы касір арцелі «Чырвоны Кастрычнік», дзе шмат гадоў ён працаваў. Халіманчык ведаў, што да гэтай прыгожай, вясёлай дзяўчыны доўгі час заляцаўся старшыня арцелі Зіновіч і ўжо строіў планы пра жаніцьбу, але перашкодзіла вайна.

Вольга расчыніла брамку, зайшла ў двор і, заўважыўшы гаспадара, сказала:

— Добры дзень! Я да вас ненадоўга...

— Заходзь, заходзь, Волечка. Даўненька не бачыліся! — ступіў да яе насустрач Халіманчык і дапамог зачыніць брамку.

Калі яны ўзняліся на ганак, Вольга азірнулася і ціха запытала:

— Дзядзька Міша, хто ў вас дома?

— Свае: жонка і дзеці. Чужых нікога няма.

— І ўсё ж я павінна сказаць толькі вам, чаго прыйшла...

— Ну, кажы,— крыху хвалюючыся, падспешыў Міхаіл.— Я цябе слухаю...

— З вамі хоча сустрэцца чалавек, які прыйшоў ад Зіновіча,— прагаварыла яшчэ цішэй Вольга. Неспакойна паглядзеўшы па баках, спытала: — Ці зможаце вы сёння да каменданцкай гадзіны пабыць у нас?



**Вольга СКАРАХОД.**

Халіманчык не раздумваў. Дзеля таго, каб уведаць хоць слова пра Пятра Рыгоравіча, ён гатовы быў ісці куды хочаш.

Халіманчык — стары жыхар Брагіна — і перад вайной лічыўся лепшым шаўцом арцелі «Чырвоны Кастрычнік», у якой працаваў з дня яе арганізацыі. Старшыня арцелі з вялікай пашанай адносіўся да Халіманчыка, раіўся часам з ім.

— Вядома, змагу,— адказаў ён.— Вось толькі не ведаю, якую прычыну выбраць для наведвання. Паліцаі ў вячэрнія гадзіны цікавяцца, куды і чаго ідзеш...

— Я захапіла з сабой чаравікі і яшчэ сёе-тое са старога абутку,— указала Вольга на клуначак.— Паліцаі ведаюць, што вы шавец, вось вам і будзе прычына — прынесці мне чаравікі.

— Добра. А можа, табе і праўда трэба што адрамантаваць, Воля? — нечакана запытаў ён.

— Трэба было б, але яшчэ паспеем,— усміхнулася яна.

— Ну, заходзь, Волечка, у хату, пагавары з маёй Васілісай. Яна рада будзе.

Халіманчык расчыніў дзверы і прапусціў наперад дзяўчыну.

Пад вечар Мікалай Халіманчык выйшаў з дома і пайшоў па заснежанай вуліцы, міма паліцыі, у цэнтр гарадскога пасёлка. У левай руцэ ён трымаў пару старых жаночых туфляў, на якіх віднеліся новыя латкі.

Выйшаўшы на цэнтральную вуліцу, Халіманчык звярнуў увагу, што і тут ніхто не прыбірае снег з тратуараў. Рэдкія прахожыя ідуць проста пасярэдзіне слаба расчышчанай вуліцы. Цяпер акупіраваны ворагам Брагін як бы той, што быў раней, і — не той... Звонку нібыта ўсё засталося так, як і было. Тыя ж вуліцы, дамы, тая ж школа, клуб, сталоўка. Але гэта толькі з выгляду. Пустынныя вуліцы. Людзі не

выходзілі з дамоў, стаіліся, чакаюць. На вокнах зачынены аканіцы. Пры многіх дамах няма ўжо платоў: спалілі на дровы. Будынак клуба цяпер усе абыходзяць: там размясцілася паліцыя. Школа ператворана ў нямецкую казарму. На тэлеграфных слупах і сценах дамоў бялеюць распараджэнні акупацыйных улад: аб здачы зброі, аб забароне зборышчаў, аб рэгістрацыі на біржы працы і г. д. Групамі і па адным, гарлапанячы, шпацыруюць па вуліцах толькі немцы і паліцаі. Як гаспадары, заходзяць яны ў дамы, забіраюць усё, што трапляе пад руку, вымагаюць самагонку, пагражаюць расправай. Праходзячы міма сталоўкі, дзе цяпер бар, Міхаіл пачуў музыку, п'яныя галасы цягнулі нейкую незнаёмую, нудную песню.

Халіманчык хацеў хутчэй прайсці паўз сталоўку, але ў гэты час, як на тое ліха, адтуль выйшаў паліцэйскі Лявон Васека, п'яны, з неахайна загорнутым скруткам пад пахай. Міхаіл адступіў убок, даючы яму дарогу, але Васека спыніўся.

— Бачыў матэрыяльчык! — паказаў ён на скрутак.— Раней толькі генералам давалі, і то не ўсім...— І сілком пхаў скрутак у рукі Міхаілу: — Не, ты палюбуйся, Халіманчык!

— Бачу, бачу. Добрыя будуць шаравары,—сказаў Міхаіл, разглядаючы сукно. — Усім далі, ці толькі камандзірам?

— Не ўсім... Тым, хто вызначыўся... Прэміі... Зразумеў!..

— Значыць, у вас сёння тут урачыстасць нейкая? — Халіманчык кіўнуў галавой на сталоўку.

— Перамогу замочваем... Ясна? Рудакова пад Хойнікамі ведаеш? Учора разграмілі там партызанскі атрад. Двое сутак біліся. Яны ў будынку МТС умацаваліся, а мы штурмам узялі іх і спалілі ўсіх. Калі б не мы, хойніцкая паліцыя не справілася б. Зразумеў? — Васека вырваў з рук Халіманчыка сукно і завіхляў па вуліцы.

Халіманчык ужо чуў пра гэты «славуты» бой двух паліцэйскіх гарнізонаў з трыма партызанамі ў будынку Рудакоўскай МТС і цяпер не мог стрымацца ад усмешкі. Ён пайшоў у другі бок і хутка звярнуў у ціхі дворык, абгароджаны шчыкетнікам, з хатай і пуняй пад адной страхой. Не паспеў зрабіць і некалькіх крокаў, як насустрач яму з хаты выйшла Вольга Скараход. Яна паказала вачыма на прычыненыя дзверы пуні і пачала развешваць на паркане нейкія мокрыя анучы. Зачыняючы за сабой дзверы, Халіманчык пачуў за спіной знаёмы голас:

— Не зачыняйце зусім, бо цёмна...

Халіманчык павярнуўся і ад нечаканасці ледзь не крыкнуў: перад ім стаяў Зіновіч! І хоць на ім быў непрывычны сялянскі кажух, а твар зарос барадой, ён адразу пазнаў яго.

— Пятро Рыгоравіч! Гэта ты? Якая нечаканасць! — вымавіў радасна Міхаіл, паціскаючы таму руку.

— Ён самы! Дзякую, што прыйшоў! — усхвалявана адказаў Зіновіч, ляпаючы Халіманчыка левай рукой па плячуку. Яны ўселіся на нейкую дошку і загаварылі адразу шчыра, з поўным даверам адзін да аднаго. Зіновіч пачаў распытваць Халіманчыка пра жыццё і парадкі ў акупаваным Брагіне. Праўда, ад Вольгі ён ужо многае чуў, але, размаўляючы з Міхаілам, захацеў заглянуць у яго душу, выявіць настрой.

— Ну, як жывём, Міхаіл Іванавіч? — запытаў Зіновіч, гледзячы ў вочы Халіманчыку.

— Якое гэта жыццё! У вечным страху. Куды ні пойдзеш, усюды смерць гойсае... Лепш памерці, як так жыць,— цяжка ўздыхнуў Халіманчык.

— Памерці не дзіва,— запярэчыў Зіновіч.— Вось жылі Сапоненка, Магуроў, і — няма іх. Разумныя людзі, а загінулі недарэчна. Смерць — гэта не выйсце...

— Ты адукаваны, Пятро Рыгоравіч, партыйны чалавек, многае паспеў пабачыць і перажыць. Парай, як жыць далей?

— Перш за ўсё — перамагчы страх,— усміхнуўся Зіновіч.— Няхай вораг баіцца. Ён, як злодзей, уварваўся ў наш дом. Мы ж на сваёй зямлі, у сваім доме і павінны адчуваць сябе гаспадарамі. Што датычыць парады, як жыць, то лепшым дарадчыкам у гэты час з'яўляецца тваё сумленне. Адных яно пабуджае на барацьбу, другіх вядзе на хаўрус з ворагам, — наўмысна ўхіліўся ад прамога адказу Зіновіч.

— Я цябе сур'ёзна пытаю, а ты ў сумленні маім пачынаеш сумнявацца, — з крыўдай у голасе адазваўся Міхаіл. — Ты мне скажы канкрэтна, што я павінен рабіць, і тады ўбачыш, якое маё сумленне!

Зіновіч паклаў Міхаілу руку на плячо:

— Не крыўдуй на мяне, браток. Я павінен быў праверыць цябе.

— Навошта выпрабоўваць... Сэрца кліча да помсты, калі бачыш, як звяры заварушыліся. А што рабіць і з чаго пачынаць, не ведаеш...

Міхаіл не бачыў у змроку, як засвяціліся вялікай душэўнай цеплынёй і радасцю вочы Зіновіча. Прыемна яму было бачыць Міхаіла такім, якім яго ведаў раней, якім хацеў сустрэць. Захацелася моцна абняць яго, сказаць прыемныя словы, але ў апошняе імгненне ён перамог гэтае пачуццё, вымавіў цвёрда і ўпэўнена:

— Не падай духам, стары! Барацьба толькі пачынаецца.

Рука Зіновіча раптоўна стала цяжкой, сціснула плячо Міхаіла:

— Хутка скончыцца для фашыстаў спакойны час.

Выказаная Зіновічам упэўненасць перадалася і Халіманчыку. Ён адчуў у гэтых словах шчырасць і праўду і разам з тым заўважыў, што Зіновіч мае нейкі план, і пашкадаваў ужо, што пагарачыўся, а таму з неспакоем запытаў:

— Што думаеш, Пятро Рыгоравіч, рабіць далей? Якая патрабуецца дапамога ад мяне?

Прамаўчаўшы пакуль што адносна сваіх планаў, Зіновіч пачаў размову, дзеля якой і паклікаў сюды Халіманчыка.

— Я хачу некалькі дзён пабыць у Брагіне,— ціха сказаў ён.— Трэба пабачыцца з сябрамі. Дом Вольгі пад наглядам, і мне нельга больш заставацца тут. Ці зможаш ты схаваць мяне ў сваім доме на некаторы час?

Халіманчык задумаўся. Хто ведае, якія думкі выклікала ў яго галаве нечаканая просьба Зіновіча... Але не цяжка здагадацца, аб чым будзе думаць у гэты час чалавек, у якога двое малых дзяцей, чый дом — перад будынкам паліцыі.

Маўчанне парушыў Зіновіч:

— Рызыка вялікая. Глядзі сам... Я не пакрыўджуся.

Міхаіл зварухнуўся:

— Калі цябе задавальняе суседства з паліцыяй, месца для схованкі ў мяне знойдзецца. А раздумваў я не наконт рызыкі: трэба пагутарыць з жонкай. Ці зразумее яна мяне? Наогул, размаўляць будзем разам.

— Дзякуй, сябар!.. Я думаў, што збаішся.— Зіновіч абхапіў дзвюма рукамі за плечы Міхаіла, прыціснуў яго да сябе і прашаптаў даверліва: — Суседства з паліцыяй — гэта добра... А Васіліса твая — разумная жанчына, яна зразумее...

Вызваляючыся ад абдымкаў Зіновіча, Міхаіл удакладніў умову:

— Значыць, апоўначы я чакаю. Вольга правядзе цябе загуменнем проста ў двор...

— Дамовіліся. Чакай.

Было ўжо цёмна, але святла ў доме Скараходаў не палілі. Каля брамкі Міхаіл убачыў Вольгу. Яна стаяла ў ценю шчыкетніку і з трывогай глядзела ўздоўж вуліцы, пераступаючы з нагі на нагу. «Малайчына! Ведае ўсё...» — падумаў Халіманчык, праходзячы міма дзяўчыны. На хаду ціха сказаў:

— Глядзі, замерзнеш... Ідзі ў хату і кліч Пятра. Ён усё растлумачыць.

З жонкай Міхаіл так і не пагутарыў у гэты вечар. Уходжваючыся позна ў пуні, Халіманчык рыхтаваў для Зіновіча месца на сенішчы. А калі прыйшоў у хату, жонка ўжо спала. Не распранаючыся, ён прылёг на лаве і пачаў чакаць.

Апоўначы пастукалі ў акно. І хоць стук быў асцярожны, прачнулася і жонка:

— Хто гэта позначы стукаецца? Міхаіл, чуеш?

Халіманчык накінуў на плечы кажушок і паспяшаўся супакоіць жонку:

— Не палохайся, Васіліса. Гэта свае. Выходзь за мной у сенцы, убачыш, хто гэта...

Пры мігатлівым святле газоўкі Васіліса пазнала начнога госця, хоць ён быў у дзіўнай вопратцы, меў вялікую бараду. Яна доўгі час недаверліва і моўчкі ўглядалася ў яго твар, не верачы сваім вачам. Неймаверным здавалася, што той, каго па ўсім раёне шукаюць карнікі, зараз у яе доме, пад бокам у паліцыі. Бадай, больш страх, чым радасць, авалодваў ёю ў гэты час. Страшным здаваўся цяпер некалі жаданы ў яе доме Пятро Рыгоравіч.

Ён першым парушыў маўчанне:

— Пагрэцца і адпачыць трэба, дарагая Васіліса. Ды і справы ёсць важныя ў Брагіне... Вось і прыйшоў да старых сяброў. Спадзяюся, не адмовіце?

Васіліса невідушчымі вачыма глядзела на Зіновіча. Страх, жаночы жаль, боль — усё перамяшалася. Вось і яна, слабая жанчына, пастаўлена перад неабходнасцю выканання свайго абавязку. У памяці ўсплылі словы з аб'явы: «Хто ўкажа бандыта Зіновіча — узнагарода. За ўкрывальніцтва — смерць». Дрыжыкі прабеглі па ўсім целе, а перад вачыма не Зіновіч, а яе дзеці: «Божа мой! Што будзе з імі?..»

Потым, нібы ачнуўшыся, Васіліса кіўнула галавой:

— Што людзям, тое і нам... Хадзем, Пятро Рыгоравіч, у хату.

## 5

Першая ноч у Халіманчыкавай пуні прайшла кепска. У закутку, зробленым наспех на сенішчы, было цесна і парна. Ад частага варочання з боку на бок ляцела пацяруха, набівалася ў вушы, рот, нос, за каўнер, выклікаючы непрыемнае адчуванне. А шостай гадзіне сон знік. Спачатку Зіновіч прыслухоўваўся да скавытання ветру за сцяной і невыразнай размовы вартавых ля будынка паліцыі, потым аддаўся ўспамінам аб перажытых днях.

...З адыходам групы Сапоненкі паявілася трывога за лёс баз. Разлічваючы на горшае, Зіновіч і яго сябры адразу ж пачалі прымаць

меры, каб перахаваць частку прадуктаў і рэчаў. Раскідаўшы завалы галля ў адным з глухіх куткоў лесу, яны два дні перацягвалі скрынкі, мяшкі з мукой, крупамі, цукрам у іншае месца, глыбей у зараснік. Але ўжо пад канец другога дня зразумелі непасільнасць гэтай работы і бескарыснасць яе, бо на снезе заставаліся сляды.

«Будзем спадзявацца на бога»,— пажартаваў Зіновіч і прапанаваў не траціць дарэмна часу, а пачаць баявыя аперацыі на шашы Хойнікі — Рэчыца. Гэта з радасцю і адабрэннем прынялі таварышы.

Першая ж засада, абстрэл нямецкай аўтакалоны і ўдачлівы адыход натхнілі сяброў на новыя справы. Яшчэ двойчы схадзілі на шасейку, і — зноў удача: паставілі міну і закідалі гранатамі паліцэйскую машыну, якая спынілася для расчысткі завалы.

Да новай далёкай вылазкі падрыхтаваліся загадзя. Рашылі выходзіць днём, каб пад вечар дабрацца да месца. У тую раніцу ніхто не спяшаўся ўставаць з нар. Нарэшце Лявоненка не вытрымаў і выйшаў з зямлянкі. Дыхаючы ранішняй прахалодай, ён пачуў далёкі шум машын у тым баку, дзе быў Брагін. Выйшаўшы на ўзлесак, спыніўся, нібы ўкапаны: за які кіламетр ад яго саскоквалі з аўтамашын карнікі.

Да зямлянкі бег, не азіраючыся. Паспелі схапіць толькі вінтоўкі і мяшкі з боепрыпасамі і харчам. Беглі пад пошчак ружэйна-кулямётнага агню. Але неўзабаве зразумелі, што гэта баязлівыя карнікі абстрэльваюць лес перш, чым у яго ўвайсці.

Праз два дні вярнуліся ў гэты абжыты і звыклы лес. Але цяпер яго нельга было пазнаць. Усюды віднеліся сляды ботаў і аўтамашын; многія дрэвы і хмызняк паламаны або прымяты; завалы сукоў і галінак развернуты; у густым хмызняку выкапаны свежыя ямы; усюды валяліся скрынкі і папяровыя мяшкі з-пад прадуктаў.

Агледзеўшы лес, Зіновіч і яго таварышы пераканаліся, што ўсе склады знойдзены і разрабаваны.

— Інфармацыя дакладная,— заключыў Зіновіч.— Кажыце, сябры, як быць далей?

— Што ж, мы засталіся без харчоў і, галоўнае, без боепрыпасаў,— прамовіў Дзялец.

Лявоненка прапанаваў усім перачакаць да вясны ў яго сваякоў у вёсцы Вуглы. Дзялец згадзіўся з ім. Чакалі, што скажа Пятро Рыгоравіч. Пасля доўгага роздуму ён загаварыў:

— Так, гэта канчатковы ўдар. Хто б мог падумаць! Пасля такога ганебнага правалу мне тут больш рабіць няма чаго. Падамся на родную Віцебшчыну: там, напэўна, партызаны дзейнічаюць ва ўсю. А рашэнне ваша аб пераходзе на нелегальнае становішча да вясны — правільнае. Шкадую, што не змагу выкарыстаць вашу прапанову...

Развітваючыся з сябрамі, Зіновіч не выказаў ім тады свайго намеру прабрацца ў Брагін перш, чым рушыць на радзіму. Трэба было растлумачыць матывы такога небяспечнага кроку, а ён не хацеў раскрываць свае задумы дачасна.

Ідэя аб стварэнні ў Брагіне падполля ўзнікла ў яго нечакана. Ён ведаў, у гарадку і навакольных паселішчах ёсць нямала камуністаў і камсамольцаў, якім удалося ўцячы з палону або выбрацца з акружэння. Безумоўна, многія з іх гараць жаданнем рабіць штосьці карыснае для Радзімы. І ўжо, мабыць, робяць. Вось калі б знайсці іх, згуртаваць невялікую групу!

Ухапіўшыся за сваю ідэю, Пятро ў думках развіваў яе ўсё далей... Тады з дапамогай такой арганізацыі можна паспяхова рыхтаваць да вясны байцоў для партызанскага атрада, а таксама праводзіць пат-

рыятычную работу сярод насельніцтва. Гэта ж зноў-такі барацьба! Тайная, цяжкая і не менш важная, чым у лесе.

Думкі аб стварэнні падпольнай антыфашысцкай групы так захапілі Зіновіча, што ён рашыў неадкладна прабірацца ў Брагін і дзейнічаць.

Але як і з чаго пачаць? Хто мог параіць, падказаць? У лесе, па дарозе ў Брагін, чакаючы, пакуль сцямнее, Зіновіч старанна абдумаў план дзеяння. Ён вырашыў, што яму трэба спачатку дзесьці ў Брагіне надзейна схавацца, адкуль можна было б вывучаць людзей і працаваць па стварэнню падполля. Цяплілася надзея знайсці такі прытулак у доме самага блізкага для яго чалавека — Вольгі Скараход.

Услед за гэтым пойдуць тайныя сустрэчы і размовы з людзьмі. Будуць высвятляцца настроі і адбірацца людзі найбольш надзейныя для выканання асобных заданняў. Наспела рашэнне пачаць з былых работнікаў арцелі «Чырвоны Кастрычнік»: з гэтымі людзьмі ён звязаны гадамі супольнай працы, добра ведае іх і верыць у падтрымку.

Не ведаў Зіновіч, раздумваючы над планамі, што ў Брагіне на кожным скрыжаванні ўжо развешаны аб'явы аб яго росшуку. Даведаўшыся аб гэтым ад Вольгі, ён рашуча заявіў:

— Мне неадкладна трэба ісці!

Вольга занепакоілася:

— Куды ж ты сярод белага дня? Схавайся пакуль у пуні, а да вечара што-небудзь прыдумаем...

Днём доўга абмяркоўвалі, каму можна даверыцца. Пасля падрабязных роспытаў аб сваіх знаёмых Пятро ўспомніў пра Міхаіла Халіманчыка.

— Гэты чалавек не выдасць,— упэўнена сказаў ён і папрасіў Вольгу асцярожна паклікаць яго для размовы.

І вось цяпер, варочаючыся ў душным закутку, Зіновіч думаў над сваімі планамі. Яму не цярпелася сустрэцца і пагутарыць з былым бухгалтарам арцелі Мікалаем Дубінам, даведаўшыся ад Вольгі, што ён дома. «А ці не рана? — закрадвалася сумненне.— Можа спачатку прыглядзецца... Усё ж, чаму чалавек раптам паспяшаўся на службу да немцаў?..»

Крокі на двары, а затым скрып дзвярэй перапынілі роздум Пятра, насцярожылі. Пачуўся ненатуральны кашаль, і Зіновіч адразу пазнаў Халіманчыка. Схапіўшы кажух, Пятро саскочыў з сенішча.

— Як спалася? — на паўголаса спытаў Міхаіл пасля ўзаемных прывітанняў.

— Цеснавата, але нішто сабе: у цеснаце ды не ў крыўдзе,— жмурачыся ад святла, што пранікала праз дзверы, прагаварыў Пятро.

— Ну, вось табе і сняданак...— Халіманчык указаў на посуд, пакінуты на скрынцы ля дзвярэй: — Там знойдзеш кавалачак цукру да вару. Чаю, прабач, няма...

— Дзякую! Мне б вочы прамыць крыху.

— Вада ў пляшцы. А ручнік вось. Давай я табе палью на рукі. І еш хутчэй, пакуль не астыла бульба.

Памыўшыся, Зіновіч накінуў на плечы кажух і прыладзіўся ля скрынкі. Апетытна еў вараную бульбу з кіслым агурком. Кіпень разагрэў яго і выклікаў прыемную бадзёрасць.

— Як жыве Мікалай Дубіна? — пацікавіўся, памагаючы Халіманчыку складаць у вядро посуд.

— На вуліцы выпадкова сустракаўся з ім двойчы. Першы раз запытаў, што я чуў пра цябе. Калі я паціснуў плячыма, з сумам прагаварыў: «Ішоў, спадзяваўся, а ён — як у ваду кануў...» А нядаўна ба-



**Міхаіл ХАЛІМАНЧЫК.**

чыў яго з сынам намесніка бургамістра. Вясёлы такі быў, паляпаў мяне па плячы і гаркнуў на ўсю вуліцу: «Не тужы, стары, скора фашыстам капцы!» Мяне дрыжыкі працялі, не ведаў, куды падзецца. А яны засмяяліся, падміргнулі мне і пайшлі. Падвядзе яго бестурботнасць, вось убачыш, Пятро!

— Так. Ненадзейнага таварыша сабе падабраў,— прагаварыў Зіновіч і на хвіліну задумаўся.— А што, калі запрасіць яго сюды і пагутарыць з ім?

— Небяспечна гэтак адразу...

— Рызыка, вядома, ёсць. Але мы з табой Мікалая ведаем не першы дзень. Няўжо ёсць сумненне наконт яго?

— Не, сумнявацца няма падстаў, але хто ведае, што ў яго за дружба з Дэмусам?

— Каму ж, як не нам з табой, перасцерагчы яго ад благіх таварышаў?

— Яно, вядома. Глядзі сам, Пятро Рыгоравіч. Ты лепш разбіраешся ў людзях...

— Вось і добра. Тады зробім так. Запрасі Мікалая да сябе, скажы, што навіны ад Зіновіча ёсць. Прывядзі яго ў пуню, пакажы, колькі корму нарыхтаваў на зіму. У размове больш распытвай яго і менш гавары сам. Калі, скажам, на працягу якіх-небудзь трыццаці мінут не выйду, то вядзі яго з двара.

Кіўнуўшы галавой у знак згоды, Халіманчык забраў вядро з посудам і развітаўся.

Спачатку Халіманчык меў намер сустрэцца з Дубінам ва ўправе. «Наведвальнікаў туды заходзіць шмат, і мой прыход будзе звычай-

ным»,— думаў ён. Але ў ходзе далейшых разважанняў давялося адмовіцца ад гэтага намеру. Там, у кабінеце Дубіны, можна прыцягнуць да сябе ўвагу. І сам ён можа збянтэжыцца. Вырашыў сустрэць бухгалтара, калі ён будзе ісці на абед.

За некалькі мінут да абедзеннага перапынку Халіманчык быў ужо на цэнтральнай вуліцы. Прайшоўся міма ўправы і спыніўся за мостам каля шчыта з аб'явамі. Робячы выгляд, што чытае аб'явы, ён уважліва назіраў за дзвярыма ўправы. І не заўважыў, як з другога боку падышоў паліцай Лявон Васека і, спыніўшыся за некалькі крокаў, сачыў за ім. Паступіўшы добраахвотна адным з першых на службу да фашыстаў, Васека з першых жа дзён праявіў сябе заўзятым прыхільнікам гітлераўцаў. Сваім знаёмым і суседзям ён з нейкай зласлівасцю гаварыў: «Вось пакончым з яўрэямі, возьмемся за камуністаў». І ён не толькі гаварыў, але і дзейнічаў. Разам з такімі ж, як сам, вернымі гітлераўскімі халуямі, як Мікалай Васанскі, Міхаіл Шылец, Іван Скараход, Эдуард Галаўня, ужо цікавалі за былымі савецкімі актывістамі і заносілі іх у чорны спіс. І хоць афіцыйнага распараджэння, каб брацца за іх, яшчэ не было, яны адчувалі — не сёння-заўтра такое ўказанне будзе...

Халіманчык адчуў, што за ім сочаць. Заўважыўшы паліцэйскага, ён крыху збянтэжыўся ад нечаканасці:

— Добрага здароўя, пан Васека! — пачціва вымавіў Халіманчык, зняўшы шапку, і, нечакана для сябе, пакланіўся.

Не адказаўшы на прывітанне, Васека няstrога прамовіў:

— Заві мяне проста Лявон Васільевіч. Мы з табой, так сказаць, аднаму рамяству навучаны. Праўда, ты заўсёды выслужваўся перад камуністамі, у перадавіках хадзіў, а я толькі рабіў выгляд, што працую. Ды ладна, спадзяюся, што заслужыш давер'е нашай новай улады. Ты дзе працуеш?

— Пакуль нідзе не працую, па... Прабач, Лявон Васільевіч,— папраўляючыся, таропка прагаварыў Халіманчык.

Васека нахмурыў бялёсыя бровы і падазрона паглядзеў на шаўца.

— Чакаеш сваіх?

— Якіх сваіх? Пустое гаворыш... Ты ж ведаеш, у мяне сям'я, дзеці. Куды мне там...

Кінуўшы позірк на ўправу, Халіманчык заўважыў Мікалая. Жадаючы хутчэй адкараскацца ад паліцэйскага, ён сказаў:

— Вось чакаў Дубіну. Можа, у іх што-небудзь знойдзецца для мяне...

Цяпер ужо і паліцэйскі заўважыў Мікалая і прымірэнча прапанаваў:

— А ты давай да нас, у паліцыю. Будзеш заўсёды, як кажуць, «сыты, п'яны і нос у махорцы».

— Не, на гэтую службу я не здатны. Характар мой не падыходзіць, ды і здароўе неважнецкае,— схітрыў Халіманчык.

— Гэта так, характар у нас трэба мець цвёрды і нервы моцныя,— задаволена сказаў Васека. І да Мікалая: — Здароў, бухгалтар!

— Агульнае прывітанне! — весела кіўнуў Мікалай і хацеў ужо прайсці міма, але запыніўся.

— Вось хто па ўсіх даных падыходзіць у паліцыю. І што ты знайшоў добрага ў сваёй бухгалтэрыі? — загаварыў да яго Васека.

— Я, пан Васека, чалавек мірнай прафесіі. Мая зброя — канцылярскія лічыльнікі,— з усмешкай адказаў Дубіна.

— Табе не лічыльнікамі трэба шчоўкаць, а затворам,— не сунімаўся Васека.

— Не ўсім жа шчоўкаць затворам. Трэба ж каму і падбіваць рахункі. А на гэта не кожны здатны: трэба мець галаву,— казаў, жартуючы, Мікалай.

— А што, паліцэйскім не трэба мець галавы? — пакрыўдзіўся Васека.

— А навошта яна ім? За іх думаюць іншыя,— паспяшаў з адказам Мікалай.

Гэта было ўжо занадта. Бліснуўшы злосным позіркам, Васека прасіпеў:

— Я табе папомню гэтыя словы!

— Вы мяне няправільна зразумелі, пан Васека. Я хацеў сказаць, што паліцэйскія — людзі ваенныя і ў сваіх дзеяннях звязаны загадамі шэфаў,— знайшоўся Мікалай.— Я не хацеў вас крыўдзіць, пан Васека. Прашу прабачэння...

Васека крыху памякчэў і сабраўся было пайсці, але прыпыніўся і з'едліва кінуў:

— Падзякуй, што твае косці не тлеюць у пяску за бойняй. Ты ж, здаецца, быў камсамольскім сакратаром...

Мікалай некаторы час стаяў і глядзеў услед паліцэйскаму. Разгубленасць змянілася злосцю. Ён злаваў на сябе за паспешлівасць і гарачку, але яго ахоплівала ўсё большая нянавісць да гэтых нягоднікаў, якія на кожным кроку пагражаюць расправай, атручваюць і без таго горкае жыццё. Злосць прарвалася, і да Халіманчыка данесліся сказаныя праз зубы словы:

— Мы яшчэ паглядзім, чые косці будуць тлець у пяску... Здраднік! — Пасля ён павярнуўся да Халіманчыка: — Чаго ён прычапіўся?

Той пацiснуў плячыма.

— Я чакаў цябе, а ён падышоў і пачаў папракаць, чаму нідзе не працую. Прапанаваў паступіць у паліцыю.

— Гад! Усюды свой нос уткне,— не стрымаўся Мікалай.— Ну, гавары, Міхаіл Іванавіч, якую маеш справу?

Халіманчык даверліва загаварыў:

— У мяне ёсць да цябе справа, Мікалай. Пойдзем да мяне. Тут блізка. І пагутарым...

— Чаму такая паспешлівасць? І чаму да цябе? Хіба тут не можам пагутарыць? — пацікавіўся Дубіна.

Халіманчык падышоў бліжэй і ціха сказаў:

— Ёсць навіны ад Зіновіча.

Мікалай здзіўлена і з недаверам паглядзеў на Халіманчыка. Тое, што ён пачуў, пераўзышло ўсё, што чакаў. Усю восень наводзіў даведкі пра Зіновіча, але ніхто нічога не мог сказаць пра яго. І вось цяпер, калі яго шукаюць карнікі, ён сам даў пра сябе вестку... Не верачы сваім вушам, Мікалай перапытаў:

— Паўтары, што ты сказаў?

— Тое, што чуў,— усміхнуўся Міхаіл. І яму стала ясна: цяпер Мікалай пойдзе хоць на край свету.

## 6

— Заходзь, тут нам ніхто не перашкодзіць,— сказаў Халіманчык, прапускаючы наперад у пуню Дубіну.— Дзе б нам прысесці?

— Што тут заседжвацца на холадзе. Кажы хутчэй, што чуваць пра Зіновіча? — горача загаварыў Мікалай.

— Пра сур'ёзную справу сабраўся гаварыць з табой. Не гарачыся.

Халіманчык прысунуў бліжэй да дзвярэй скрынку, сеў ямчэй і дастаў капшук з тытунём.

Пакорпаўшыся ў кішэні, Мікалай працягнуў яму пачку цыгарэт.

— Пакаштуй добрай махорачкі...

Прыкурыўшы цыгарку і зрабіўшы глыбокую зацяжку, Халіманчык круціў у руках пачак, разглядаючы яго з усіх бакоў.

— І колькі такіх штучак атрымліваеш за службу? — не то ўсур'ёз, не то жартам спытаў Халіманчык.

— Такія штучкі выдаюцца толькі раённаму начальству,— шматзначна адказаў Мікалай, сядаючы побач.

— Ты ж не бургамістр, можа?

— Але я сябар сына намесніка бургамістра. Як бачыш, гэтага дастаткова, каб Жэнька прыносіў мне з бацькавага пайка цыгарэты,— усміхнуўся Мікалай.

— Пра тваю дружбу з Дэмусам цяпер многія гавораць у Брагіне. Павінен сказаць, што размовы гэтыя не дужа прыязныя.

Усмешка ўмомант зляцела з вуснаў Мікалая.

— Ну і няхай! Я нават ведаю, што і ты асуджаеш мяне. Нічога вы не разумееце ў гэтай дружбе!

— А што тут разумець? Якая ў цябе можа быць дружба з гэтым хлопцам, які разам з бацькам прадаўся фашыстам.

Мікалай рэзка падхапіўся з месца.

— Яўген Дэмус — сапраўдны камсамолец! — Мікалай выхапіў з кішэні рукавіцы, з адной з іх дастаў складзены лісток паперы і сунуў яго ў рукі Халіманчыку: — Вось чытай! Гэта ўжо дзесятая зводка аб становішчы на фронце, якую прыняў Жэня з Масквы. Пакуль толькі мы з Жэнем ды сёй-той з нашых знаёмых ведаем, што робіцца на фронце і дзе гэты фронт. А хутка аб гэтым будуць ведаць усе жыхары...

Не спускаючы здзіўленых вачэй з Мікалая, Халіманчык павольна падняўся са скрынкі. «Вось чаму Мікалай крыкнуў тады: «Фашыстам капец!» — пранеслася ў галаве.

— Бачыш, я ад цябе нічога не ўтойваю,— першым загаварыў Мікалай, зноў сядаючы разам з Халіманчыкам на скрынку.— Не цягні, хоць слова скажы пра Зіновіча. Мне ён цяпер патрэбен вунь як! — Мікалай рукою правёў па падбародку.

Халіманчык адказаць не паспеў. У глыбіні пуні зашамацела сена, і пачуўся ўзрушаны голас Зіновіча:

— Хопіць гуляць у хованкі. Тут я!

Голас гэты Дубіна пазнаў бы з тысячы галасоў. Хутчэй механічна, чым асэнсавана, ён кінуўся насустрач і падхапіў на рукі з'ехаўшага з сена Зіновіча. На мінуту яны замерлі ў моцным мужчынскім абдымку. Потым, абняўшыся, падышлі да дзвярэй. Мікалай усадзіў Зіновіча на скрынку і, адышоўшы два крокі, пляснуў у далоні:

— Цябе і пазнаць немагчыма. Дзед ды і толькі!..

— А ведаеш, Пятро Рыгоравіч, начальнік паліцыі Галаўня выхваляўся, што хутка зловіць цябе. Ён нават заявіў ва ўправе, што ты хаваешся ў Вуглах разам з Лявоненкам.

— Вось як! — здзіўлена вымавіў Зіновіч.— Лявоненка і Дзялец сапраўды хаваюцца ў Вуглах. Трэба папярэдзіць іх праз сваякоў.

— Я ўжо гэта зрабіў. Нядаўна бачыў ва ўправе брата Лявоненкі і папярэдзіў яго. Праўда, той бажыўся, што нічога не ведае...

— Малайчына, Лук'янавіч! — не стрымаўся Зіновіч.

— Я, на самай справе, паверыў Галаўні. А ты тут, у Брагіне, ды яшчэ пад бокам у паліцыі!..

Пакуль яны размаўлялі, Халіманчык моўчкі выйшаў і вярнуўся з зэдлем. Зіновіч і Дубіна ўжо сядзелі на сене. Услед за Міхаілам у пуню зайшла Вольга Скараход з клуначкам. Звяртаючыся да Зіновіча, Халіманчык сказаў:

— Есці прынесла: думае, што галодны ты тут.

— Пароюю, Волечка, прыйшла,— весела загаварыў Зіновіч.— Паслухаем цікавыя навіны... І ты, Міхаіл Іванавіч, сядай да нас на сена, тут зручней...

Халіманчык хацеў сесці так, каб аднначасова назіраць і за домам, але, убачыўшы, як Вольга мосціцца на скрынцы ля дзвярэй, далучыўся да таварышаў.

— Расказвай, Лук'янавіч, як там пад Масквой... З таго часу, як пашкуматалі нашы базы, я зусім адарваўся ад усяго.

— Калі апошні раз вы чыталі зводкі з Масквы? — пацікавіўся Мікалай у Зіновіча.

— У пачатку снежня. Цяжка тады было пад Масквой...— уздыхнуў Зіновіч, успомніўшы свой разлад з Сапоненкам.

— Тады я парадую вас, сябры! Фашыстам капцы пад Масквой!

— Зноў капцы... Толкам раскажы,— нездаволена загаварыў Халіманчык.

— Ну, атрымалі па зубах і — адкаціліся ад Масквы.

— Ты па парадку, Лук'янавіч, як у зводцы, а то сапраўды цяжка зразумець, што ж адбылося пад Масквой,— заўважыў Пятро Рыгоравіч.

— Ну, калі, як ў зводцы, то добра. Дзе лісток, што я табе даваў? — звярнуўся ён да Халіманчыка.

Міхаіл дастаў з кішэні так і не прачытаную, скамечаную паперку і падаў Дубіне. Мікалай таропка разгарнуў яе і пачаў чытаць:

*«...6 снежня 1941 года войскі нашага Заходняга фронту, знясілеўшы праціўніка ў папярэдніх баях, перайшлі ў контрнаступленне супроць яго ўдарных флангавых груповак...»*

Міхаіл і Вольга, не дыхаючы, лавілі кожнае слова. Гэта была першая навіна з фронту, каторую яны пачулі за час акупацыі.

На Зіновіча паведамленне аб поспехах Чырвонай Арміі зрабіла ашаламляльнае ўражанне. Колькі хваляванняў перажыў ён у цяжкія летнія і асеннія дні, калі кожная зводка з Масквы прыносіла толькі боль і трывогу! Але і тады яго не пакідала ўпэўненасць у перамозе нашых войск. І вось цяпер ён сядзеў збянтэжаны, разгублены. Адчуўшы, як па шчацэ скацілася гарачая сляза, Пятро схамянуўся, выхапіў з рук Мікалая лісток і, трасучы ім, загаварыў утрапёна:

— Вось яно... Пачынаецца, сябры! Гэтак будзе на ўсім фронце. Усюды будуць бітыя фашысты. І на захопленай тэрыторыі не будзе ім спакою... Віншую вас з гэтай вялікай і радаснай падзеяй! А цябе, Лук'янавіч, асобна віншую. Добрую справу вы задумалі з Жэнем!

— Ды гэта што! — збянтэжана вымавіў Мікалай.— Вось калі б прыдбаць узрыўчаткі ды бабэхнуць паліцыю...

— Вунь чаго захацеў! — усміхнуўся Халіманчык.

— Будзе час, і з паліцыяй рахунак звядзём,— загаварыў Зіновіч.— Цяпер жа людзям патрэбна праўда аб становішчы на фронце, аб тым, што робіцца ў краіне. Фашысты старанна ўтойваюць гэта ад народаў акупіраваных тэрыторый, каб трымаць іх у страху і паслухмянасці. Страх, як вядома, расслабляе чалавека, робіць яго пакорлівым і прыгнечаным. Самую суровую расправу ўчыняюць яны над тымі, хто не схіляе галавы. Спадзяюся, зараз ты зразумеў, Мікалай, што

распаўсюджванне зводак з'яўляецца важнай і сапраўды баявой справай?

— Зразумеў,— задумліва прамовіў Мікалай.— Толькі... вазьмі з сабой, Пятро Рыгоравіч! — нечакана папрасіў Мікалай.

— Куды? — здзівіўся Зіновіч.

— Ведаю, пойдзеш хутка адгэтуль. Разам будзем шукаць партызан...

Зіновіч марудзіў з адказам. «Госцем лічаць...» Кінуўшы позірк на Міхаіла і Вольгу, прачытаў тое ж на іх тварах. Вочы іх нібыта гаварылі: «Праўда ж, пойдзеш?»

Прыйшоў час расказаць аб сваіх задумах, паглядзець, як паставяцца да іх сябры, і Зіновіч нечакана для ўсіх сказаў:

— Нікуды я ад вас не пайду да вясны. Няхай шукаюць, вынюхваюць, а я буду ў Брагіне.

Ён узняўся і хутка пачаў хадзіць узад-уперад, стараючыся сагрэць закачанелую хворую нагу, якую ён пакалечыў яшчэ ў маленстве.

Затым пачаўся расказ аб правале плана партызанскай дзейнасці ў раёне і аб цяжкасцях, што ўзніклі ў сувязі з гэтым; аб разладзе, які адбыўся ў лесе. Сябры слухалі яго з цікавасцю, не перапыняючы. Яны пачулі, нарэшце, праўду аб тым, што адбылося ў Лубенікаўскіх лясах.

— Пасля правалу перада мною было тры дарогі.— Заканчваючы свой расказ, Зіновіч сеў на скрынку побач з Вольгай і сказаў: — Схавацца з сябрамі і спакойна дачакацца вясны; пайсці на Віцебшчыну на пошукі партызан; прабрацца ў Брагін, каб стварыць антыфашысцкую групу і арганізаваць барацьбу патрыётаў у падполлі.

Халіманчык і Дубіна ўзняліся са сваіх месц, падышлі да дзвярэй. Нечаканае рашэнне Зіновіча застацца ў Брагіне, нягледзячы на вялікую небяспеку, выклікала да яго вялікую павагу і давер.

Ад усведамлення таго, што ў іх далейшым жыцці настаюць важныя перамены, настрой ва ўсіх змяніўся. Дабрадушны твар Халіманчыка прасвятлеў, стомленыя вочы заіскрыліся, і ён сказаў:

— Гэта добра, што не пакідаеш нас у такі час. А ў дапамогу і падтрымку мы да цябе ўсе...

— А цяпер наша задача,— загаварыў Зіновіч,— аб'яднаць найбольш надзейных адзіночак-падпольшчыкаў. Вы запытаецеся, навошта? Што гэта дасць? Прыгадайце тую казку, як бацька даказаў сынам, дзе іх сіла, прапанаваўшы зламаць спачатку адзін пруток, а затым увесь венік. Сілы нашы, з'яднаныя разам, зламаць цяжэй. Ды і змагацца гуртам лягчэй і больш надзейна. Я лічу, касцяк такой групы ў нас ужо ёсць — нас чацвярых і Жэня Дэмус. У далейшым прымаць у групу будзем у адзіночным парадку, пасля таго, як праверым кожнага на справе. А цяпер давайце цвёрда дамовімся: па-першае, выконваць мае распараджэнні. Без майго ведама не прымаць ніякіх самавольных дзеянняў. Па-другое, строга захоўваць канспірацыю. Трэба памятаць: усякая неасцярожнасць і паспешлівасць можа загубіць усю нашу справу...

— Вось гэта правільна — не стрымаўся ад захаплення Мікалай. Слухаючы Зіновіча, ён прыгадаў прачытаныя кніжкі аб падпольшчыках грамадзянскай вайны. Уяўленне малявала карціны выбухаў, таямнічыя друкарні ў цёмных падвалах, склады са зброяй, сходы падпольшчыкаў. Потым успомнілася, як белагвардзейцы катавалі злоўленых партызан, але тыя вытрымалі ўсе здзекі і ішлі на смерць з горда ўзнятай галавой. Вельмі хвалявалі Мікалая такія кнігі. І цяпер, калі на яго звярнулі ўвагу, працягваў, бянтэжачыся: — У мяне на сэрцы нібыта свята якое. Такое адчуваў толькі ў арміі, калі пры-

маў прысягу...— Мінуту памаўчаўшы, звярнуўся да Зіновіча: — Жыць пяройдзеш да мяне на сенішча...

— Чаму да цябе? — нездаволена запытаў Халіманчык.

— На ўскраіне не так небяспечна, як тут, пад бокам у паліцыі. Ды і нам сустракацца будзе вальней,— растлумачыў Мікалай.

— Не, Лук'янавіч, хавацца, думаю, лепш там, дзе менш будуць шукаць. Калі Міхаіл не супраць, я застаўся б тут.

— Вядома, я не супраць. Мы ж дамовіліся...— узрушана загаварыў Халіманчык.

— А як жа сустракацца? — недаўменна запытаў Дубіна.

— А навошта? Чым менш сустрэч, тым больш надзейна.— Зіновіч усміхнуўся і паглядзеў на Халіманчыка: — Між намі будзе надзейны сувязны. Гэта Міхаіл. Наогул, ніхто, апрача вас, не павінен ведаць, што я ў Брагіне.

— А Жэнька?

— Я думаю, пакуль не трэба гаварыць і яму.

— Правільна,— падтрымаў Халіманчык.— Зразумей, Мікалай, не таму, што мы яму не давяраем...

— Тлумачэнняў не патрэбна,— перапыніў яго Мікалай.— Каб менш людзей пра гэта ведала. Згода!

— А як жа з харчаваннем? — клапатліва запытала Вольга і, убачыўшы звернутыя да яе даверлівыя вочы сяброў, збянтэжана апусціла галаву.

— Пракарміць аднаго чалавека — глупства,— прагаварыў Мікалай, і яго словы дружна пацвердзілі сябры.

## 7

Нарада ў бургамістра раёна зацягнулася.

Мікалай Дубіна ўжо даўно склаў дакументы, сабраўся на абед, а дырэктар спіртзавода ўсё яшчэ не прыходзіў. Пайсці дамоў, калі тут гаспадар, ён не мог. Мала для чаго можа спатрэбіцца? Але не толькі гэта затрымлівала бухгалтара. Мінула некалькі дзён пасля сустрэчы з Зіновічам, і Мікалай адчуў: трэба мяняць свой распарадак дня. Ён ужо не мог, як раней, сядзець і чакаць, калі, нарэшце, закончыцца дзень. Цяпер у яго не хапала часу, хоць работы ў бухгалтэрыі не прыбавілася. Сэнс заданняў Зіновіча: устанаўленне знаёмстваў, вывучэнне людзей, зносіны з жыхарамі. Для гэтага патрабуецца час і пастаянныя адлучкі з канцылярыі. Доўга раздумваў, як зрабіць, каб былі «і ваўкі сытыя, і авечкі цэлыя». Выйсце напрошвалася адно: падладзіцца да дырэктара і атрымаць дазвол на адлучку хоць бы ў другой палавіне дня. Прычын для гэтага можна знайсці колькі хочаш: ці мала куды трэба адлучыцца бухгалтару па службе. Сёння якраз момант падыходзячы для размовы з шэфам.

У гэты час у кабінет таропка ўвайшоў невысокі, вастраносы чалавек з паголенай галавой.

— Прабачце, Мікалай Лук'янавіч, я вас затрымаў,— сказаў ён.— Пасля нарады паклікаў мяне пан Казак,— і ён пачаў нехлямяжа апранацца.

«Ведаем мы вашы асабістыя размовы»,— падумаў Мікалай, гледзячы на парожні партфель, які раніцой быў наладаваны бутэлькамі. З пустым ён ніколі ва ўправу не прыходзіў.



Мікалай ДУБІНА.

Калі дырэктар, нарэшце, апрануўся, Мікалай нерашуча загаварыў:

— З вашага дазволу, я хацеў бы схадзіць пасля абеду на завод, праверыць парадак уліку сыравіны і гатовай прадукцыі.

— Не пярэчу. Дарэчы, да мяне даходзяць весткі, што рабочыя крадуць бульбу. Прашу, звярніце ўвагу...

— Пастараюся...

— Да пабачэння! — паспяшаўся развітацца дырэктар і пайшоў да выхаду. Аднак ля дзвярэй затрымаўся: — У вас ёсць знаёмыя на заводзе?

— Няма.

— Шкада.— Дырэктар вярнуўся да стала, хвіліну вагаўся, затым адважыўся: — Пан Дубіна, я вам давяраю. Прашу цаніць гэта. Я маю весткі, што сярод рабочых паявіліся камуністычныя лістоўкі. Нібыта пра нейкае паражэнне нямецкіх войск пад Масквой... Пастарайся даведацца, адкуль і якім чынам яны пранікаюць на завод.

— Хто ж мне скажа.. Усім вядома, дзе я працую...

— А ты паспрабуй. Не спяшайся з высновамі... Значыць, дамовіліся?

Язык не паварочваўся вымавіць кароткае слова «згодзен», якое таіла ў сабе штосьці паганае.

— Мая служба ў немцаў абавязвае садзейнічаць барацьбе з праціўнікамі новай улады,— ухіліўся ад прамога адказу Мікалай.

Адказ дырэктару спадабаўся. На вялікае Мікалаева здзіўленне, ён нечакана сказаў:

— Бухгалтарскія справы ў вас у парадку. Раю часцей бываць між рабочых...

Зачыніліся дзверы, а Мікалай яшчэ стаяў і паціскаў плячыма: цяжка было ўявіць, як проста ўсё вырашылася. «Ну што ж, я выкарыстаю вашу параду, пан дырэктар!»

Мікалай адамкнуў ключом тумбачку, выцягнуў і адставіў убок адну шуфляду, прыгнуўшыся, выняў з тайніка некалькі палавінак лісткоў са сшытка, спісаных выразнымі друкаванымі літарамі.

Для зручнасці і хуткасці чытання Зіновіч перапрацоўваў доўгія зводкі Саўінфармбюро, якія дастаўляў яму Халіманчык ад Жэні Дэмуса, і пераказваў асноўныя навіны з Масквы.

Мікалай яшчэ раніцой, як толькі атрымаў іх ад Халіманчыка, хутка прачытаў і цяпер, прабягаючы вачыма тэкст, шкадаваў: «Малавата перадае Рыгоравіч!». Але тут жа запярэчыў сабе: «Ці многа зробіш за кароткі зімовы дзень у такіх умовах? Калі Міхаілу, Вользе і Жэньку дастаецца столькі ж, дык гэта не так і мала».

Некалькі лісткоў Мікалай адклаў убок, астатнія паклаў на месца. Іх намячалася пазней раздаць сябрам з раённай управы, якіх ён ужо займеў.

Замкнуўшы стол, Дубіна хутка апрануў сваё старое паліто. У адну з рукавіц запхнуў лістоўкі і насунуў яе на руку. Гэта быў ягоны спосаб пераносіць тайныя паперы. Ён лічыў: у выпадку небяспекі рукавіцу можна адкінуць непрыкметна. «Мой лёс заціснуты ва ўласным кулаку»,— часта любіў жартаваць ён з сябрамі.

Мікалай выйшаў на вуліцу. Было бязветранае, сухое надвор'е. У паветры кружыліся і нетаропка ападалі кволыя сняжынкі. Мікалай нацягнуў на руку другую рукавіцу і рушыў да свайго дома. Каму магло прыйсці ў галаву, чаму ў яго на руках не парныя рукавіцы! Ды і тады, раніцой, пры сустрэчы з Халіманчыкам, ніхто, бадай, з боку не прыкмеціў бы, як яны спрытна пры поціску рук абмяняліся імі. А заўтра ў яго зноў будуць свае рукавіцы, але змест тайніка ў яго пісьмовым стале абновіцца.

На спіртзаводзе Мікалай затрымаўся нядоўга. Менш за ўсё яго цікавілі ўлік і захаванасць сыравіны, хоць пры сустрэчы і размове з майстрам даводзілася рабіць выгляд, што заклапочаны гэтым пытаннем.

Аглядаючы прыбудову, дзе папярэдне апрацоўвалася сыравіна, яму зноў давялося сустрэцца і перагаварыць з Паўлам — круглатварым, стрыжаным хлопцам у парванай ватоўцы і ваенных штанах. Пазнаёміўся з ім на мінулым тыдні. Выкурваючы прапанаваную бухгалтарам цыгарэту, Павел сам пачаў расказваць, якія пакуты яму давялося перанесці ў лагеры для ваеннапалонных пад Кіевам і як з дапамогай адной жанчыны ўдалося ўцячы. Каб падтрымаць размову, Мікалай пацікавіўся, дзе ён ваяваў і як трапіў у палон. Нечакана выявілася: яны ваявалі ў адной часці, якая апынулася ў акружэнні пад Палтавай. Многа байцоў тады было ўзята ў палон, але больш схавалася ў лесе. Мікалаю прыемна было адкрыцца, што яны аднапалчане. Саслужывец, вядома, абрадаваўся. І пасыпаліся ўзаемныя пытанні: «А памятаеш на Дзясне? А атакі пад Лубнамі!..»

Неўзабаве Павел прызнаўся: «Дацягну тут толькі да вясны, а потым — памінай, як звалі!» У канцы размовы Павел даверліва папрасіў Мікалая, як мясцовага жыхара, звязаць яго з партызанамі: «На цябе надзея. Памажы!»

Так у Мікалая паявіўся на заводзе свой чалавек.

Сёння іх сустрэча не была такой доўгай і адкрытай для ўсіх, як у мінулы раз. Знайшоўшы Паўла ў цёмнай і бруднай прыбудоўцы, Мікалай кінуў яму, як старому знаёмаму:

— Прывітанне, аднакашнік!

— Добры дзень! — адказаў Павел. Ён прыставіў да сцяны лапату і падышоў да Мікалая.

— Як жыццё? Якія навіны? — звярнуўся да яго Мікалай.

— Пра жыццё не пытай. Сам ведаеш...— горка ўсміхнуўся Павел. І дадаў: — А навіны цяпер самыя важныя мы чакаем ад цябе...

— Гэта так, але ведай,— папярэдзіў Мікалай: — толькі адна зводка пабывала сярод вас, а дырэктар ужо ведае пра яе...

— Не можа быць! Якім чынам?

— А гэта я павінен запытаць у вас? — і Мікалай расказаў аб сваёй размове з дырэктарам і параіў надалей хлопцу: — Зводкі пераказвайце вусна, а чытаць давайце толькі надзейным!..

— Добра, улічым.

Як было раней дамоўлена, Мікалай сунуў Паўлу ў рукі рукавіцы. Павел ведаў, што далей рабіць. Пакуль бухгалтар вымаў з кішэні цыгарэты і запалкі, той намацаў паперу ў адной з рукавіц і неўпрыкметку дастаў і паклаў у кішэню. Гэтак жа непрыкметна паклаў у рукавіцу сваю скамечаную паперку і, прыкурваючы цыгарэту, прашаптаў:

— Запісаў, як прасілі, прозвішчы ўсіх хлопцаў, якія выказалі жаданне ісці ў партызаны. Гутарыў асабіста.

Мікалай кіўнуў галавой, моцна паціснуў руку, забіраючы адначасова свае рукавіцы, і, не азіраючыся, пашыбаваў да выхаду.

Мікалай Дубіна жыў ля Касачоўскага парку ў доме цешчы. Тут жа жыў яе сын Мікола Скараход. Як інвалід фінскай вайны, у армію ён не прызываўся. Жылі адной, дружнай сям'ёй. Скараход, як і Дубіна, па прафесіі бухгалтар. Да вайны працаваў у райфінаддзеле, а цяпер уладкаваўся ў кантору лясніцтва рахункаводам. У Дубіны са шваграм даўняя дружба. Скараход на чатыры гады маладзейшы, але ён ужо бывалы салдат, браў «лінію» Манергейма і ў дваццаць гадоў стаў інвалідам. А калі ў першыя дні акупацыі Скараход паказаў сябе ненавіснікам гітлераўскага парадку, Дубіна канчаткова даверыўся яму. З таго часу нічога не ўтойваў ад свайго сябра. Даведаўшыся ад Яўгена Дэмуса пра весткі з Масквы, Дубіна расказваў іх у першую чаргу швагру, разам радаваліся поспехам, абменьваліся думкамі. Аб нечаканай сустрэчы з Зіновічам расказаў у той жа вечар, не ўтаіўшы нават, дзе ён хаваецца. Так і Мікола Скараход стаў байцом антыфашысцкай групы.

Сёння Дубіна з работы прыйшоў раней, чым звычайна. Зняўшы паліто і валёнкі, ён прылёг на канапу, узяў у рукі кнігу, але чытаць не давялося. Адразу ж каля яго паявіліся дзеці. Чатырохгадовыя Ігарок і Вовік праворна залезлі на канапу, уселіся верхам на бацьку і, радасныя, упрошвалі, перапыняючы адзін аднаго:

— Татачка, даражэнькі, павазі нас!

Двухгадовая Нэла стаяла ля ўзгалоўя, прыхіліўшыся тварыкам да бацькавай шчакі і пішчала ад радасці.

Зайшоў Мікола Скараход. Распрануўшыся ў прыхожай, ён стаяў ля дзвярэй, паціраючы рукі, і, усміхаючыся, глядзеў на пляменнікаў.

— Ну, хопіць! Замучылі бацьку. Бяжыце цяпер на печ да бабулі.

— І праўда, халаднавата тут. Ідзіце да бабулі...

Дубіна зачыніў шчыльна дзверы і вярнуўся на сваё месца. Скараход прысеў побач.

— Бачыў Яўгена Дэмуса? — запытаў Скараход, паднімаючы з падлогі кнігу.

— Не.

— Ён цябе ўсюды шукаў. У мяне пытаўся...

— Пасля палудня я быў на спіртзаводзе. Адтуль адразу дамоў, не заходзячы ва ўправу. Ён не казаў, навошта я яму патрэбен?

— Важныя навіны ўведаў ад бацькі. Кажа, нямецкая жандармерыя прыбыла ў Брагін. Надоўга. Больш нічога не сказаў.

— Цікава, для чаго тут спатрэбілася жандармерыя?

Скараход пацiснуў плячыма.

— Пажывем — убачым. Што новага атрымаў сёння ад Зіновіча?

— Прыемная зводка... Нашы наступаюць на Харкаў. Заўтра зайдзі да мяне на работу, дам адзін экземпляр.

— Мне не адзін патрэбен.

— Размнажай сам, колькі хочаш. Адзін жа Зіновіч не можа зрабіць на ўсіх.

Перагортваючы кнігу, Скараход прагаварыў:

— Віктару Елішэвічу даручу: ён хутка надрукуе на машынцы.

— Хіба ў яго ёсць пішучая машынка?

— Ёсць. Калі нашы адступалі, ён прынёс яе з пракуратуры і схаваў.

— Трэба сказаць Зіновічу.

— Пра Елішэвіча ты сказаў яму?

— Так.

— Я лічу,— заўважыў Скараход,— трэба было б папрасіць у Зіновіча дазволу залічыць Віктара ў нашу групу. Вельмі талковы і смелы хлопец. Жонку ён перад вайной адправіў да сваіх бацькоў за Маскву, і там яна засталася. Дзве маленькія дзяўчынкі пад наглядам цешчы, дзе жыве і сам. Зараз ён нідзе не працуе, мае шмат вольнага часу...

— Не выйдзе. Пятро Рыгоравіч у падпольную групу залічвае тых, каго асабіста добра ведае і з кім разам працаваў. З нашых спісаў ён загадаў былога слесара арцелі Пракопа Марчанку і касіра маслазавода Яўгенію Скараход хутчэй праверыць на справе і прыцягнуць у групу. За два-тры месяцы старанна вывучыць усіх і выпашыць, каго з іх можна залічыць у будучы партызанскі атрад. А пакуль што назіраць за імі, выяўляць іх настроі і пашыраць на іх свой уплыў, даваць ім канкрэтныя заданні. Трэба змагацца за кожнага свайго чалавека. І тых, хто вагаецца, трэба перацягваць на свой бок: інакш яны могуць апынуцца ў лагеры праціўніка.

— А як жа са зброяй? — раптам запытаў Скараход.

— Пакуль аб гэтым размовы не было. Але і так ясна: без зброі ў лесе нам рабіць не будзе чаго.

— Значыць, ужо цяпер трэба здабываць і назапашваць зброю і боепрыпасы,— удакладніў Скараход.

— Канечне, кожны з нас павінен клапаціцца, каб была ў запасе зброя. Я сваю вінтоўку схаваў яшчэ восенню каля Глухавіч,— пацвердзіў Дубіна.— У бліжэйшыя дні трэба перанесці бліжэй. Адчуваю, хутка спатрэбіцца...

## 8

Пракоп Марчанка — майстар на ўсе рукі. Ён умее кавяць розны хатні рыштунак, літаваць і лудзіць посуд, рабіць з бляхі вёдры і тазы, слясарыць, бярэцца за любы механізм, ад гадзінніка да трактара.

— У Прокі залатыя рукі,— казалі пра яго жыхары.

Але не ўсім брагінцам вядома, якой цаной далося яму ўсё гэтае ўмельства. Пасля смерці бацькі дзесяцігадовым падлеткам маці аддала Проку ў Хойнікі на вучобу да слесара. Але яму патрэбен быў не вучань, а работнік дармовы, і Прока аж два гады пеклаваўся, даходзячы да ўсяго сваім розумам.

Самастойна яму працаваць давялося нядоўга. Непрыкметна прыйшоў час ісці на вайсковую службу, дзе ён і набыў спецыяльнасць электратэхніка. Дэмабілізаваўшыся з арміі, застаўся ў Брагіне, працаваў на прамкамбінаце.

У 1936 годзе, пасля смерці маці, ажаніўся з маладой настаўніцай Ганнай Гапоненка.

Калі пачалася вайна, Пракопа прызвалі ў армію па першай мабілізацыі. Развітаўшыся з жонкай і маленькімі дачушкамі, пайшоў на заходнюю граніцу, насустрач грому вайны. Калі б у той час Пракопу хто сказаў, што праз два месяцы Брагін будзе акупіраваны фашыстамі, а сам ён будзе дома, не толькі не паверыў бы гэтаму, але і высмеяў бы такога дзівака.

...Ваентэхнік Пракоп Марчанка з групай салдат праявіў мужнасць і адвагу, знаходзячыся ў акружэнні: яны ўзрывалі на аэрадромах склады з боепрыпасамі і паруча-змазачнымі матэрыяламі.

Але аднойчы пад Чарнігавам шчасце ім здрадзіла. Падарваўшы склады, яны больш месяца блукалі ў тыле праціўніка і не маглі перабрацца праз лінію фронту на Дзясне. Каб не трапіць у палон, рашылі паглыбіцца ў лес і шукаць партызан. Пошукі былі няўдалыя, і давялося прабірацца ў Брагін. Усю дарогу непакоіла думка: дзе цяпер жонка і дзеці?

Жонка з дзецьмі была дома. З таго часу, як і ён дома, мінула больш месяца. Але спакою няма. Неспакойна ад таго, што ў такі трывожны для Радзімы час ён — дома.

Разумеючы мужа, Ганна, як магла, старалася супакоіць яго: маўляў, не па сваёй волі і не адзін ты такі...

Вядома, Пракоп меў патрэбу не ў такім суцяшэнні, яму ў той час патрэбна была парада аб тым, як жыць, як перабыць зіму. Літаваць ды лудзіць людзям посуд — хіба гэта занятак? А пайсці да партызан, як аказалася, не такая лёгкая справа. Трэба было спачатку ведаць, дзе партызаны. У сваім раёне, як даведаўся Пракоп, іх няма, ды і наўрад ці будуць, бо разрабаваны базы са зброяй і боепрыпасамі. Кажуць, у тыле застаўся Зіновіч, але пасля таго, як яго пачалі ўзмоцнена шукаць і нават абяцаюць прэмію, мабыць, паехаў некуды далёка... Дзе і як знайсці дарадчыка? Гэта таксама не простае пытанне. Не ўсім можна цяпер даверыцца. Людзі сталі нейкія скрытныя: паспрабуй разбярыся, хто што думае. Вось, напрыклад, былы бухгалтар арцелі Мікалай Дубіна прынёс гэтымі днямі рамантаваць насценны гадзіннік і пакінуў унутры механізма зводку Саўінфармбюро. І неяк падазрона, настойліва распытваў пра настрой. Паспрабуй разбярыся, што гэта — правакацыя ці праверка? Але як бы там ні было, прынесеная зводка аб перамозе пад Масквой выклікала радасць не толькі сваёй сям'і, але і сярод жыхароў Кавакі, куды гэтую навіну паспела занесці Ганна, наведаўшыся да бацькоў.

У гэты вечар Пракоп, чакаючы прыходу Мікалая Дубіны, у пярэднім пакоі з паяльнікам у руцэ ўходжваўся ля перакуленага вядра. Рэзкі пах паленага жалеза і паяльнай кіслаты разнёсся па ўсёй хаце.

У дзвярах паявілася Ганна:

— Я прасіла цябе, Прока, зачыняць дзверы, калі пачынаеш чадзіць...

— Прабач, Ганначка, забываюся. Запалі, калі ласка, лямпу і пастаў мне бліжэй, а я пайду прачыню аканіцы.

Вярнуўшыся ў хату, Пракоп скінуў з плячэй пінжак і схіліўся над табурэткай. У цьмяным святле бледнасць хударлявага твару рэзка выдавала, што гэтаму чалавеку ў свае няпоўныя трыццаць гадоў давялося нямала перажыць.

Толькі ён урупіўся ў занятак, як без стуку ў хату зайшоў Мікалай Дубіна. Пасля прывітання Пракоп запрасіў госця ў пярэдні пакой:

— Распранацца не прапаную, холадна ў мяне: раз у два дні палім у грубцы — эканоміць даводзіцца...

— Мае таксама ўвесь час на кухні, а дзеці з печы не злазяць,— у тон яму адказаў Мікалай і, расхінуўшы паліто, усеўся ля стала.

Пракоп паправіў лямпу, што вісела пад столлю ў драцяной аправе, і прысеў таксама, паклаўшы закуродымленыя рукі на стол. Мінуту моўчкі глядзелі адзін на аднаго: гаспадар насцярожана і дапытліва, госць прыязна і даверліва. Дубіна, на дзіва, загаварыў не пра рамонт гадзінніка:

— Ну, як зводка? Здорава нашы далі прыкурыць немцам пад Масквой! А зараз наступаюць на Харкаў, узялі Бервянкова і Лазавую. Вось якія, братка, навіны!..

Пракоп быў у нерашучасці. Як зразумець Дубіну? У мінулы раз здалёку распытваў, а сёння пачаў уадкрытую.

— Я цябе не разумею, Мікалай,— з неспакоем і шчыра загаварыў Пракоп.— То зводку падсоўваеш мне, то заводзіш такую гаворку... Не разумею, хто ты такі? Навошта ўсё гэта патрэбна?..

Дубіна зняў шапку, прыгладзіў валасы.

— Бачыш, як атрымліваецца ў жыцці...— загаварыў ён даверліва.— Да вайны былі ў адной камсамольскай арганізацыі, працавалі разам, верылі адзін аднаму. А цяпер прыйшоў іншакшы час. Многія па першаму кліччу Радзімы сталі на яе абарону ў радах Чырвонай Арміі або ў радах мсціўцаў у тыле ворага. Некаторыя адкрыта пайшлі на службу да немцаў. Ды сярод іх і такія, што не паверыў бы! А ёсць і такія — ні вашым, ні нашым. Яны і да немцаў не ідуць і супроць іх не выступаюць. Вось і паспрабуй без праверкі ўведаць чалавека? Асабліва, калі шукаеш сабе аднадумцаў для сумеснага змагання...

Такая шчырасць яшчэ больш здзівіла і азадачыла Пракопа. І ён не спяшаўся адкрывацца, а з перасцярогай сказаў:

— Гаворыш пра змаганне, а сам служыш у немцаў...

— Служба службе розніца. Можа, гэта толькі маскіроўка...

— А я так думаю: калі рашыў змагацца, то не маскіравацца трэба, а браць зброю і — у лес!..

— Ну, гэта потым. А пакуль трэба шукаць людзей, каторыя згодныя на барацьбу.

— Як я зразумеў, ты і мяне, у сувязі з гэтым, правяраў?

— Канечне.

— Мяркуючы па гаворцы, ты ўжо давяраеш мне?

— Не я адзін. Уся наша група верыць табе. Вось чытай! — Мікалай выняў з рукавіцы лісток паперы і паклаў перад разгубленым Пракопам.

*«Пракоп Фёдаравіч!*

*Твая нянавісць да фашыстаў і рашучасць змагацца з імі аб'ядноўвае нас разам у свяшчэннай барацьбе ў тыле ворага. Можаш лічыць сябе членам нашай падпольнай групы, у якой аб'ядналіся ўсе твае сябры. Аб задачах і планах падпольшчыкаў табе раскажа Мікалай. Заданні ад мяне будзеш атрымліваць праз Дубіну або Міхаіла Халіманчыка. Чакаю твайго адказу.*

*З прывітаннем П. ЗІНОВІЧ».*

Прачытаў яшчэ і яшчэ раз. Разгубленасць хутка мінула, а на змену ёй нахлынулі пачуцці душэўнай радасці ад усведамлення таго, што зноў стаў салдатам. І Мікалай Дубіна цяпер стаў нейкі інакшы, зразумелы, блізкі.

А Мікалай камячыў у руках цыгарэту, глядзеў на Пракопа, усміхаўся і маўчаў. І не патрэбны былі ніякія словы. Усё, чым жыў, што думаў, што хацеў сказаць, што адчуваў у гэты час Пракоп Марчанка, было напісана ў яго прамяністых, вільготных вачах.

Мікалай прыкурыў ад лямпы цыгарэту і зацягнуўся. У той вечар яны яшчэ доўга гаварылі. Позна свяціліся шчыліны не надта прычыненых дзвярэй, і з пярэдняга пакоя чулася мужчынская гаворка. Як ні прыслухоўвалася Ганна, лежачы ў пасцелі, але нічога не магла разабраць.

Правёўшы госця, прыйшоў у спальню Пракоп. Заўважыўшы, што жонка не спіць, сказаў:

— Заўтра іду на працу ў прамкамбінат...

Ганну мучыла цікаўнасць, і яна рыхтавалася запытаць, але Пракоп апярэдзіў яе:

— Дамовімся, Анюта: ні аб чым не распытваць мяне. Гэтак будзе лепш і спакайней для цябе...

Заклаўшы рукі пад галаву, ён доўга ляжаў з расплюшчанымі вачыма.

## 9

Сяброўка Вольгі Яўгенія Скараход — невысокая круглатварая жанчына. Гладкія валасы зачэсаны назад, вочы шэрыя, крыху пукатыя, рашучыя. І яшчэ яна была смелая і на дзіва адкрытая: усё, што думала гаварыла шчыра, у вочы.

Апынуўшыся ў акупацыі, яна, як і многія хлопцы і дзяўчаты ў яе становішчы, неаднаразова задумвалася, як жыць далей. Але гэтыя разважанні ні да чаго не прыводзілі, і толькі яна злавала на сябе за сваю бездапаможнасць. Яна не магла спакойна размаўляць з тымі маладымі і здаровымі хлопцамі, якія аказаліся дома, а не там, дзе ім належала быць.

«Кубарамі і папругамі, што паначаплялі праз плячо, умелі выхваляцца перад дзяўчатамі, а прыйшоў час Радзіму абараняць, у запечкі пахаваліся!» — з'едліва высмейвала яна пры сустрэчы сваіх былых аднакласнікаў Мікалая Марчанку, Сяргея Пацегу, Рыгора Шаўкуненку і іншых, што вярнуліся з палону. Асабліва ненавідзела паліцэйскіх і актыўных памагатых немцаў. А Біркову праходу не давала: «Як цябе зямля носіць на гэтым свеце! Яшчэ партыйцам быў, міліцыяй кіраваў, палкія прамовы на сходах гаварыў! Верылі табе і не ведалі, якое ў цябе паганае нутро».

«Прыкусі язык, Жэня! Набярэшся бяды...» — раілі ёй знаёмыя і сябры. А яна бестурботна адмахвалася: «Хіба я не праўду кажу».

Але вось прыйшоў 1942 год, і Яўгенію Скараход нібыта падмянілі. Яна стала ціхая, нейкая абыякавая. Знікла ў яе ўсё зласлівае і непрымірэнчае. У бальніцы, дзе працавала бухгалтарам, больш не асуджала ўстаноўленыя парадкі, змяніла адносіны да нямецкіх урачоў. Нават з паліцэйскімі размаўляла стрымана. Тыя, хто перасцерагаў яе, успрынялі перамену як вынік свайго разумнага ўздзеяння. І толькі некаль-

кі чалавек у Брагіне ведалі сапраўдную прычыну. Гэта былі тыя, хто разам з ёю аб'ядналіся для сумеснай барацьбы і падказвалі ёй новую лінію паводзін.

Вайна і акупацыя не толькі не парушылі даўнюю дружбу Вольгі і Яўгеніі, але яшчэ больш зблізілі іх. Адыходзячы паспешліва ў лес перад прыходам немцаў, Зіновіч паабяцаў забраць іх неўзабаве ў атрад. Яны чакалі гэтага дня, але мінула пакутлівая восень, настала зіма, а ад Зіновіча ні гуку. Пакутавалі ў здагадках, распытвалі знаёмых, нават хадзілі на пошукі — усё дарэмна. І раптам — яўка сяброў Зіновіча. Потым аб'ява аб росшуку яго самога. І хоць усё гэта канчаткова пераканала ў бескарыснасці далейшага чакання, Жэня не пераставала пытаць у сяброўкі: «Што чуваць пра Зіновіча?» І нечакана для Жэні аднойчы Вольга сказала, што ён жывы і хаваецца ў надзейным месцы... У той жа дзень Вольга прынесла ад сяброўкі пісьмо Зіновічу. Не ў характары Жэні плакаць ад гора і шчасця, але калі Вольга прынесла адказ, не стрымала слёз.



Яўгенія СКАРАХОД.

Ад бальнічных варот да адной з ускраінных вуліц, праз агароды, у глыбокім снезе, пратаптана вузкая сцяжына. Яўгенія, выйшаўшы з бальніцы, накіравалася было па ёй, але потым раптам павярнула ўправа і пайшла па вуліцы. Хадзіць па цэнтральнай вуліцы, дзе заўсёды многа немцаў і паліцэйскіх, было небяспечна. Сёння ж трэба было сустрэцца з Вольгай.

Каля будынка ўправы яе паклікалі. Давялося прыпыніцца. Да яе падышоў мажны, каржакаваты мужчына, у ладна пашытым паліто і шапцы, заўсміхаўся:

— Добры дзень, Жэня! Не пазнаеш сваіх!

Гэта быў Сяргей Пацега з Мокраца. Некалі яны вучыліся ў адным класе. Жэня адразу пазнала яго, але не ўзрадавалася сустрэчы. Пацега да вайны працаваў настаўнікам у Грушным. У першыя дні вайны прызываўся ў Чырвоную Армію, а цяпер — дома.

— І ты ўжо адваяваўся! — здзіўлена запытала Жэня, намагаючыся ўсміхнуцца.

— Адваяваўся. Дзякуй богу, галава засталася цэлая.— Раптам прапанаваў: — Нам па дарозе. Пойдзем разам.

— Чым думаеш цяпер займацца? — пацікавілася Жэня.

— Мая гуманная прафесія настаўніка ўсякай уладзе патрэбная. Падаў заяву. Думаю не адмовяць. Пан Дэмус мяне ведае, разам працавалі.

— Не адмовяць. Ім патрэбны выхавацелі «новага парадку». Ды яшчэ калі самі, на каленях, просяць,— у тон яму сказала Жэня, адчуваючы, як у яе закіпае ў сярэдзіне.

Улавіўшы непрыязны тон, Сяргей напомніў:

— Ты, Жэня, якая была, такая і засталася,— злюка! Нездарма хлопцы называлі цябе прыдзірай...

— Якая ўжо ёсць. Не люблю крывіць душой.

— Што кепскага знаходзіш у тым, што я буду вучыць дзяцей?

— Дрэнна, што ты хутка забыўся на свой абавязак абараняць радзіму! Шукаеш, каб прыстасавацца да новай улады. Гэта хіба не подла?

Пацега безнадзейна махнуў рукой:

— Позна ўжо гаварыць пра гэта. Цяпер самы час пра сябе падумаць і пра сям'ю. І табе, Жэня, раю, як ты кажаш, прыстасавацца, калі яшчэ не працуеш. Інакш вясной апынешся ў Германіі.

Далейшая размова з былым школьным таварышам была непрыемнай. Памятаючы наказ Зіновіча, Жэня пакутліва стрымлівала сябе і шукала магчымасці пакінуць яго. Але раптоўна Пацега спыніўся:

— Мне сюды,— указаў ён на вялікі дом з правага боку вуліцы.

Жэня здзівілася. Яна ведала: дом быў нежылы, яго гаспадароў — яўрэяў — расстралялі яшчэ восенню. Пацега, усміхаючыся, растлумачыў:

— Мне дазволілі тут пасяліцца з сям'ёй. Заходзь — госцяй будзеш.

Жэня не адказала, рэзка павярнулася і таропка пайшла сваёй дарогай.

...Дзверы адчыніла Вольга.

— А я думала, ты ўжо не прыйдзеш! Ну, распранайся і лезь да мяне на печ: холадна ў нас. Дома я адна, усе нашы пайшлі да суседзяў.

Дома ў Вольгі малодшая сястрычка і бабулька. Бацькі памерлі яшчэ да вайны. Тады яны жылі добра. Вольга ўжо зарабляла грошы, сястрычка вучылася, бабулька гаспадарыла. І непрыкметна старэйшая ўнучка стала нявестай. Да прапановы Зіновіча выдаць за яго Вольгу бабуля аднеслася з недаверам. Потым, зразумеўшы сур'ёзнасць яго намеру, расплакалася ад радасці. Але радасць бабулі была нядоўгая. Пачалася вайна, і вяселле давялося адкласці. Зіновіч застаўся для іх сваім чалавекам, заходзіў часта, памагаў грашыма, прадуктамі. Як роднага і блізкага, праводзілі яго з атрадам апалчэнцаў і на доўгі час страцілі ўжо ўсякую надзею калі-небудзь сустрэцца. Магчыма таму, Вольга вельмі ўзрадавалася нечаканаму вяртанню Зіновіча...

— Распранацца я не буду, хутка дамоў пайду, а пасяджу вось тут побач з табой,— сказала Яўгенія, сядаючы ля печы.— Ведаеш, я сустрэла Сяргея Пацегу. Помніш яго?

— Не.

— Нельга паверыць, каб ён стаў такім нягоднікам! А яшчэ настаўнік! Людзі ў гэты страшэнны час з горада ў вёску выязджаюць, а ён, наадварот, не паспеў прыбегчы з палону і — ужо з Мокраца перабраўся ў Брагін, заняў яўрэйскі дом, ходзіць і прапаноўвае свае паслугі. Зараз, кажа, самы час падумаць пра сябе. Вось падлюга, дык падлюга! Хоча настаўнікам уладкавацца. Але, пабачыш, далей пойдзе: такія для фашыстаў — знаходка!..

— Хлопцы нашы, напэўна, ужо ведаюць пра яго. Яны пра кожнага, хто прыбывае ў Брагін, інфармуюць Пятра...

— Як ён там? Даўно ты ў яго была? — ажывілася Жэня.

— Мне не дазваляе нават блізка падыходзіць, кажа, сочаць за нашай сям'ёй. З Халіманчыкам сустракаюся часта, і праз яго перадаю ўсё, што патрэбна. Апошні час у кнігі ўрупіўся, перадала яму «Авадня» і яшчэ некалькі кніг. У Генадзя Джажоры дастала. Ён усю біблія-

тэку парткабінета прыхаваў. Вельмі ўжо непакоіцца пра яго бабулька наша. Колькі разоў на дні ўспамінае, моліць бога зберагчы яго, кожную ноч выходзіць і правярае, ці вялікі мароз. А ўчора прачнулася і кажа: «Пятро Рыгоравіч сніўся. Можа, здарылася што?...» Пад вечар не вытрымала і пайшла пасядзець да Васілісы. Вярнулася задаволеная, кажа: «Ну і людзі — гэтыя Халіманчыкі! Дай бог ім здароўя! Проста, як сына, глядзяць».

Сяброўкі пасмяяліся, потым Вольга працягвала:

— Міхаіл расказвае, што Зіновіч падоўгу распытвае яго, што робіцца ў Брагіне: яго цікавіць усё. Ну, а Міхаіл за дзень абыдзе ўсіх нас, зводку забярэ ў Дэмуса і, вядома, яму пакажа. Дарэчы, Жэнька, сёння Міхаіл цікавіўся, як з пішучай машынкай.

— Перадай, што ўсё ў парадку. Як дамовіліся, гэтак і зроблена. Дубіна з Міколам Скараходам учора прынеслі яе ў наш скляпок, і я цяпер магу друкаваць лістоўкі і зводкі. Вось паглядзі маю першую работу.

Яўгенія дастала з сваёй сумкі некалькі ліосткоў — друкаваны тэкст апошняй зводкі Саўінфармбюро, працягнула Вользе.

— Прыгожа. Зусім інакш выглядае, калі надрукавана. Я гэта забяру сабе.

— Канечне, гэта табе. Дубіна яшчэ раніцай забраў усе свае лісткі. Кажа, усім хлопцам раздам...

— Мікалай — малайчына! — не стрымалася ад хвальбы Вольга.— У яго ўсюды свае сябры. Нават у Глухавічах стварыў групу надзейных хлопцаў. Вось толькі — неасцярожны ён... Баюся, як бы не пагарэў...

— Усе мы такія, Волечка. У парыве гневу забываем пра асцярожнасць,— уздыхнула Жэня, прыгадаўшы сваю нядаўнюю гарачлівасць у абыходжанні з паліцэйскімі.

— У цябе ў склепе машынка? — нечакана запытала Вольга.

— Так, я яе парожняй кадушкай прыкрыла.

— А склеп вялікі?

— Вялікі. Хадзіць у ім можна.

— Дзе ён у цябе знаходзіцца?

— У двары, за сенцамі. А што? — насцярожылася Жэня.

— Разумееш, Дэмус нацягаў з радыёвузла розных дэталей. Калі пра гэта даведаўся Зіновіч, папрасіў сабраць прыёмнік на батарэях, каб ён мог забраць яго з сабой, у лес. Дубіна і Прока Марчанка пыталі ў мяне, дзе б можна ў надзейным месцы заняцца гэтай работай. Вось я і падумала...

Яўгенія зразумела ўсё: «Склеп зусім падыдзе для гэтага. Ды і дом іх на ўскраіне. Так што, няхай прыходзяць і працуюць: ім ніхто не перашкодзіць...»

— Добра, што я здагадалася запытаць пра гэта ў цябе.

Зарыпеў снег пад вокнамі, пачулася прыглушаная жаночая гамонка, і тут жа пастукалі ў дзверы.

— Нашы,— упэўнена сказала Вольга, саскочыўшы з печы.

— Пара і мне дахаты,— прамовіла Яўгенія і пачала збірацца.

## 10

Міхаіл Халіманчык засядзеўся ў Пракопа Марчанкі, але гаспадар усё не вяртаўся.

— Ён у вас заўсёды так затрымліваецца? — пацікавіўся Міхаіл у жонкі.

— Не ведаю, што здарылася... — паківала галавой тая.

«Нічога не зробіш, трэба дачакацца»,— падумаў Міхаіл і, каб не замінаць залішне гаспадыні, перайшоў у другі пакой. Схіліўшыся над томікам Пушкіна, ён не чуў, як увайшоў Прока. І толькі калі той пачаў прымошчвацца побач, адарваўся ад чытання.

— Сустрэўся з Іванам Федчанкам у Касачоўскім парку,— нібыта апраўдваючыся, прагаварыў Пракоп.— Пакуль туды дайшоў, пагутарылі хвілін пяць, ды назад... Добрых хлопцаў падабраў Ваня ў Касачове, просіць больш зводак, абяцае ўзамен паўдзесятка вінтовак з патронамі.

— Вельмі добра! — усклікнуў Міхаіл.— Зіновіч звяртаецца да ўсіх з просьбай больш даставаць зброі і боепрыпасаў. Партызаны ўжо збіраюцца, а зброі няма. Распытай, калі ласка, дзе яны бяруць зброю і ці можна яшчэ дастаць?

— Кажуць, восенню падабралі дзесьці паблізу вёскі і схавалі. Абяцалі выявіць...

— Харошыя хлопцы? Раскажы...

— Падлеткі дванаццаці-трынаццаці гадоў. Федчанка крыху старэйшы, паспытаў ужо ад паліцаяў палак, паказваў чорную спіну. Прыгразіў бобікам партызанамі, дык і адлупцавалі.

— Гарачы, відаць, хлапец, пільнуй яго, глядзі, каб не сплахаваў...

— Здаецца, не з такіх. Казаў, білі моцна, але не прызнаўся нават пра размову з паліцэйскім.

— Малайчына!

Мінуту памаўчалі. Пракоп чакаў, якія ёсць указанні ад Зіновіча. На мінулай сустрэчы ён перадаў падрабязную інфармацыю пра адноўлены немцамі прамкамбінат, пра людзей, што працуюць там, і пра сістэму аховы.

— Пятро Рыгоравіч задаволены інфармацыяй і прасіў паведамляць пра ўсё, што адбываецца на гэтым прадпрыемстве,— загаварыў Міхаіл.— А яшчэ ён просіць звярнуць самую сур'ёзную ўвагу на ваеннапалонных, якія працуюць на прамкамбінаце. Іх, усё ж, там пятнаццаць чалавек. І Зіновіч хоча ведаць, на каго з іх можна разлічваць. Добра было б мець між іх свайго чалавека. Ды і пра зводкі не забывайце: няхай усё ведаюць рабочыя.

Міхаіл узняўся з-за стала і пачаў зашпільваць паліто.

— Калі да мяне пытанняў няма, дык я пайду,— прагаварыў ён.

Пракоп таксама паспешліва ўзняўся і пачаў апранацца:

— Пытанняў няма. Усё зразумела. Разам пойдзем. Павалаводжуся з прыёмнікам...

— Ну, тады мне няма патрэбы ісці туды,— заўважыў Міхаіл.— Забяры, калі ласка, напісаны Зіновічам зварот да жыхароў Брагіншчыны і скажы, каб Яўгенія адстукала на машынцы як мага больш экземпляраў,— і ён перадаў Пракопу складзены лісток паперы.

За брамай разышліся ў розныя бакі. Паставіўшы каўнер, Міхаіл пайшоў цёмным завулкам. Пачалася мяцеліца. Парывісты вецер з завываннем кідаў камякі снегу, сляпіў вочы, сняжынкі прыліпалі да адзення. Халіманчык некалькі разоў прыпыняўся, выціраў мокры твар, аглядаўся па баках і зноў крочыў.

Памяшканне радыёвузла ўбачыў здалёк. І не таму, што ў гэтым адзіным доміку гарэла святло, а па дашчатай агароджы блізка ля тратуара. Дзе б ні бываў Міхаіл у пасёлку, заўсёды стараўся прыцемкам прайсці міма гэтага плота. І заўсёды каля трэцяга слупка ад брамкі, агледзеўшыся па баках, затрымліваўся ўсяго на некалькі

секунд. Гэтага малапрыкметнага руху было дастаткова, каб з тайніка, паміж слупком і плотам, дастаць лісток — чарговую зводку, якую пакідаў тут для яго штодзень Яўген Дэмус.

Цяпер трэба было выканаць яшчэ адно заданне перш, чым вярнуцца дамоў. Зіновіч папрасіў яго сустрэцца з сваяком жонкі Мікалаем Сымонавічам Марчанкам.

Мікалай Марчанка, вайсковы камандзір у званні капітана, да вайны часта праводзіў водпуск у сястры ў Брагіне, і Зіновіч яго бачыў не раз. Ад людзей, ды і ад самога Халіманчыка, чуў пра яго шмат добрага. Нядаўна, уцёкшы з лагера ваеннапалонных, Марчанка аказаўся ў сястры. Даведаўшыся пра гэта, Зіновіч з надзеяй цёр рукі:

— Партызанскім камандзірам будзе. Чалавек халасты, у Брагіне, акрамя сястры, нікога няма. Дзе ж яшчэ знайсці такога?

Аднак ужо неўзабаве Дубіна, а ўслед за ім Мікалай і Жэня пачалі паведамляць: Марчанка і гаварыць не хоча пра партызан. Упэўнены, што вайна з немцамі прайграна, лічыць за лепшае пачакаць, што будзе далей, на службу да немцаў не збіраецца.

Не толькі Зіновіч, але і ўсе, хто ведалі Мікалая, са здзіўленнем і абурэннем адносіліся да такіх яго паводзін.

— Чакаць яму давядзецца нядоўга. Хутка зразумее, што ў яго толькі два шляхі: альбо да нас, альбо да фашыстаў,— суцяшаў сябе Зіновіч.

І сапраўды, наступныя падзеі пацвердзілі гэта.

Прыбыўшы ў Брагін, жандармерыя на чале з нацыстам Вільгельмам Фрыдрыхам падпарадкавала сабе мясцовую паліцыю і ўзмацніла карную дзейнасць у раёне. Спехам створаная ў першыя дні акупацыі паліцыя не магла больш задавальняць акупантаў. Ператварыўшыся ў банду рабаўнікоў і п'яніц, яны скампраметавалі сябе перад насельніцтвам. Да таго ж, у паліцыі было шмат нестраявых дахадзяг, якія нічога не разумелі ў вайсковай справе.

Разабраўшыся ў гэтым, Фрыдрых неадкладна распусціў ранейшую паліцыю і з дапамогай раённай управы пачаў фарміраваць у Брагіне паліцэйскі гарнізон. Толькі некаторыя адпетыя паліцаі, такія, як Лявон Васека, Іван Скараход, Аляксандр Марчанка, Іван Шылец, Павел Боўда, падышлі для далейшай службы і ў ліку першых былі залічаны ў новы атрад. Асноўную ж масу людзей Фрыдрых падбіраў з ліку мясцовых жыхароў прызыўнога ўзросту і ваеннапалонных, карыстаючыся насіллем і пагрозамі.

Мікалая Марчанку адным з першых выклікалі ў жандармерыю і ў той жа дзень кінулі ў падвал, як назаўтра брагінцы гаварылі, за тое, што адмовіўся служыць у фашыстаў. Цяпер ясна было ўсім: расстрэл або ў лепшым выпадку — адпраўка ў лагер.

Каля двух тыдняў пратрымалі Мікалая ў турме і, усім на дзіва, выпусцілі. На другі ж дзень, даведаўшыся аб гэтым, Зіновіч і падспешыў Халіманчыка: «Сёння ж схадзі да яго і канчаткова высветлі, што думае рабіць далей і як паставіцца да прапановы аб уходзе ў партызаны. Ды глядзі — у размове будзь асцярожны. Калі згодзіцца, неадкладна адправім у Вуглы да Лявоненкі...»

З нейкай горыччу ў душы Міхаіл падышоў да дома, дзе жыў Марчанка. Прыгнятала сумненне: «Ці адумаўся...»

У сенцах у цемры Халіманчык доўга мацаў па сцяне, стукаў вёдрамі, пакуль знайшоў, нарэшце, клямку. Гаспадыня, сярэдніх гадоў жанчына, узняўшы над галавой газоўку, разглядала з печы прышэльца:

— Гэта ты, Мікола? — санлівым голасам спытала яна.

— Спаць улеглася, а дзверы не запёртыя. Мусіць, Мікалая няма яшчэ? — запытаў Халіманчык, спыніўшыся ля парога.

Гаспадыня кіўком галавы ўказала на дзверы ў другі пакой:

— Там ён. Цэлы дзень праляжаў у пасцелі. Ідзі, супакой яго. Пагутарце...

Пракоп, не спыняючыся, агледзеўся і, пераканаўшыся, што вуліца пустынная, шмыгнуў у двор Скараходаў. Каля ўваходу ўспомніў пра даручэнне Халіманчыка — перадаць Жэні лісток ад Зіновіча — і павярнуў да ганка.

Фядора Восіпаўна, пажылая гаспадыня дома, сядзела на зэдлі ля камінка і паліла лучыну. Жэня стаяла побач і мыла посуд. На печы надрыўна кашляў яе бацька — Іван Уладзіміравіч.

— Добры вечар! — прывітаўся Пракоп, стоячы ля парога.

— Вечар добры! — адказала Жэніна маці і замітусілася каля госця, запрашаючы праходзіць і садзіцца.

Жэня не дала яму прайсці ў пакой, бо ўбачыла ў яго руках скрутак і зразумела, з чым прыйшоў Пракоп, таму адразу ж сказала:

— Ідзі да хлопцаў, яны з лямпай чакаюць цябе. Я таксама хутка прыйду.

Неўзабаве Жэня, управіўшыся, пачала збірацца. Яна набрала ў старое вядро гарачага вугалля з «буржуйкі», на якой стаяла цёплая вячэра, апранула ватоўку, завязала цёплую хустку і выйшла.

Маці, паназіраўшы моўчкі за дачкой, глыбока ўздыхнула, патушыўшы лучыну, і падалася на печ.

— Іван, а Іван! — пакратала яна за нагу мужа.

— Што табе? — адгукнуўся той, прыўзняўшыся на локці.

— Зноў у нас у склепе сабраліся.

— Хто?

— Тыя ж, што і ў першы раз. І Жэня да іх пайшла.

— Ну і што. Значыць, гэтак трэба!

— Я не пра тое. Табе давядзецца зноў пабыць на вуліцы, пакуль разыдуцца.

— Так, так. Абавязкова. А то яны залезлі ў скляпок і думаюць, што ніякі чорт там іх не знойдзе...

Іван Уладзіміравіч, крэкчучы, злез з печы, моўчкі апрануўся ў поцемку і выйшаў на вуліцу.

Лямпа-газоўка, падвешаная да столі, цьмяна асвятляе чырванаватым святлом змрочнае падзямелле.

Бліжэй да святла ўладкаваліся Пракоп Марчанка, Яўген Дэмус і Мікалай Дубіна. Перад імі на перакуленай уверх дном кадушцы раскіданы радыёдэталі і асобныя вузлы. Пракоп, схіліўшыся над шасі прыёмніка, чадзіць паяльнікам. Яўген і Мікалай, прысеўшы на дошцы, якой адгароджаны зімовы запас бульбы, уважліва сочаць за работай Прокі, гатовыя ў любы момант памагчы яму.

— Пашукайце супраціўленне, — папрасіў Пракоп.

Яўген падсунуў на калені невялікую фанерную скрыначку з радыёдэталямі і пачаў корпацца. Мікалай узяўся перабіраць дэталі на кадушцы, некаторыя падносіў бліжэй да лямпы, узіраўся ў маркіроўку.

Пракоп паклаў паяльнік у вядро з гарачым вуголлем і падышоў

да Жэні, якая, прымасціўшыся у кутку, выстуквала на пішучай машынцы.

— Табе тут не цёмна?

Жэня перапыніла работу, узняла на Пракопа стомленыя ад напружання вочы, усміхнулася:

— Прывыкла. Я цяпер амаль увесь тэкст ведаю на памяць, і работа ідзе хутчэй...

Пракоп узяў у рукі адну з надрукаваных лістовак і прабег па ёй вачыма. Яна заклікала жыхароў і былых воінаў Чырвонай Арміі зрываць усе мерапрыемствы фашыстаў, уступаць у партызанскія атрады і граміць акупантаў. Азнаёміўшыся, нарэшце, з тым зваротам, што сам прынёс ад Зіновіча, Пракоп задаволена прагаварыў:

— Добра напісана. Кожнае слова яснае і зразумелае.— Пракоп узяў увесь стосік лістовак, пакруціў у руках, пашамацеў старонкамі і паклаў на месца, а затым пацікавіўся: — Колькі адгрукала?

— Прыкладна, каля ста. Паперы засталося на адну закладку. Не ведаю, дзе дастаць. Я ўжо не магу браць у бальніцы: нам адпускаюць вельмі мала...

— Мікалай, ты б прынёс з сваёй канцылярыі? — звярнуўся Пракоп да Мікалая Дубіны.

— Усё, што мы маглі дастаць са Скараходам, я прыносіў,— адказаў той.— Нам паперы ўправа не адпускае. Таму даводзіцца пісаць на лістах з кніг і на розных бланках...

— А ведаеце, сябры, у мяне мільганула думка — паспрабуем дастаць паперы ў друкарні,— нечакана заявіў Пракоп. І тут жа дадаў: — Там працуе мой сусед Свірыдзенка, ды і начальнік друкарні Савелій Рэпчанка крыху знаёмы.

— Было б някепска дастаць друкарскай паперы,— з цікаўнасцю загаварыла Жэня.— Але як гэта можна зрабіць?

— Папрасіць,— удакладніў Пракоп.— А як больш пераканаўча і асцярожна растлумачыць гэтую просьбу, мы павінны абдумаць разам...

— Прапанова слушная,— падтрымаў Дубіна.— Але трэба параіцца з Зіновічам. Я толькі супроць таго, каб рабіць гэта праз Рэпчанку. Незразумелы ён для нас чалавек, а ў акупантаў карыстаецца давер'ем. Праўда, пакуль ён толькі друкуе для іх розныя гаспадарчыя бланкі. Але хто можа заручыцца, што заўтра ён не пачне выпускаць фашысцкую газету?..

— Усё можа быць, але мне не верыцца, каб такі чалавек прадаўся немцам,— працягваў Пракоп Марчанка.— Ён жа настаўнік, жыў і працаваў у Мінску. Прыехаў да цешчы па дзяцей, і тут застала вайна. А вы ведаеце, Кацярына Андрэеўна Скараход доўгі час была старшынёй пасялковага Савета, апошні час працавала бухгалтарам райана, адным словам, паважаны ў Брагіне чалавек. І хто ведае, каб яна мінулай восенню не памерла, можа ягоны лёс павярнуўся б інакш... А то ў такі час у чалавека на руках двое малых дзяцей...

— Жонка Рэпчанкі без вестак прапала,— падтрымала размову Жэня Скараход. Яна добра ведала жонку Савелія — урача Ніну Раманаўну, бо ў школьныя гады таварышкавала з яе сястрой Вольгай.

Мікалай Дубіна пазнаёміўся з Рэпчанкам нядаўна, калі той пачаў працаваць у друкарні. І хоць па характары Мікалай даверлівы, але, назіраючы, як ветліва адносяцца да Рэпчанкі начальнік паліцыі Галаўня і бургамістр Казак, у душы неўзлюбіў яго. Цяпер, выслухаўшы сяброў, Мікалай нечакана змяніў сваю думку:

— Калі Зіновіч адобрыць, то і я не супроць.

Усе дружна засмяяліся. Зразумеўшы прычыну вясёлага настрою, Мікалай паспрабаваў растлумачыць: — А наогул гэтага вашага Рэпчанку трэба яшчэ праверыць. Тое, што ў яго была добрая цешча і сам ён настаўнік, яшчэ нічога не азначае. Пацега вунь настаўнік, а ў фашыстаў следчым зрабіўся?

— Якім следчым? Што ты мелеш! — здзіўлена спытала Жэня.

— Звычайным, Жэнечка. Пры жандармерыі. Мучыць, катуе людзей,— манерна адказаў Мікалай.

— Не, ты сур'ёзна?

— Упаўне! Яўген, пацвердзі! — Дубіна павярнуўся да Дэмуса, які сядзеў са скрыначкай на каленях і моўчкі слухаў гаворку.

— На жаль, Яўгенія Іванаўна, гэта праўда.

У шэрых вачах Жэні ўспыхнуў агеньчык нянавісці, на круглых шчоках выступілі чырвоныя плямы.

— Падлюга! А яшчэ — і настаўнік! Ніколі не думала б, што выбера ён гэткую дарогу...

— Пападзешся, свой чалавек будзе ў жандармерыі — паможа,— пажартаваў Прока.— Ты ж калісьці, здаецца, вучылася з ім у адным класе?

— Паможа на той свет адправіцца,— рэзка абурылася Жэня.— Ды я хутчэй у твар яму плюну, чым буду з ім размаўляць!..

Пракоп падышоў да Дэмуса:

— Дзе супраціўленне і кандэнсатар?

— Усё перакапаў і — не знайшоў...— адказаў Яўген.

— Тады запішы ў сваю памятку і пастарайся дастаць. У бліжэйшы час мы закончым мантаж.

— Пастараюся. Прабрацца б толькі ў склад, дзе захоўваюцца адабраныя ў жыхароў прыёмнікі, і любую дэталь можна падабраць. Трэба нам з Генам Джажорам штосьці прыдумаць.



Яўген ДЭМУС.

— Толькі будзьце асцярожныя,— папярэдзіў Мікалай Дубіна.

— Ну, на сёння, сябры, хопіць. Час ужо не ранні,— прапанаваў Пракоп Марчанка і пачаў складваць інструмент.

Дэмус і Дубіна склалі ў скрынку дэталі і схавалі яе пад парожнюю кадушку.

— А лістоўкі, хлопцы! — спахапілася Жэня. І да Мікалая: — Падзялі на ўсіх лістоўкі. Ды глядзі, каб усім пароўну...

Пракоп Марчанка пайшоў першы. Яўген Дэмус рашыў заначаваць у Дубіны. Яны разам вылезлі з пограба. Усё яшчэ выў вецер, але снег ужо не валіў. Хмары з усіх бакоў зацягнулі неба, і не было відаць ні месяца ні зорак. Ледзь віднеліся ў цемры будынкі і рэдкія слупы ад спаленых платоў і агароджы.

Ля брамы хлопцы сутыкнуліся з Іванам Уладзіміравічам. «Позна заседжваецца ў суседзяў...» — падумаў Мікалай, праходзячы міма. Яму было няўцям, што стары вяртаўся ў хату, добра прамёрз на варце пад страхой суседавай пуні.

*(Далей будзе.)*







## Іван КАЛЕСНІК



Мы двойчы смерць перажывалі...
Каля дарог, ля самых хат
Без дамавін сяброў хавалі.
Тады з нас кожны быў салдат.

Пад пераможнаю вясёлкай
Ішлі байцоў ушанаваць.
Сяброў трывожылі мы зноўку,
Каб іх у трунах пахаваць...

Не толькі мы кранулі выспы,
Бугры, пакрытыя сіўцом,
Здалося нам, што вораг сыпаў
Вакол фугасам і свінцом.

Здалося, зноў сяброў хаваем
Каля дарог, ля самых хат.
Здалося, сэрцы боль жахае,
Што пёк іх тры гады назад...



Душа жывая не пацерпіць догму.
Не па натуры верхаглядства мне.
Маю душу — дакладнейшы сейсмограф —
Любое адхіленне ўстрапяне.

Яна каардынаты занатуе,
Адкуль ідуць пагрозныя штуршкі.

Чаму зямля пяе і лемантуе,
Чаму крычаць і спяць мацерыкі?

Душа не дрэмле і ў збуцвелым быце,
Бунтуе ў паўсядзённай мітусні.
Вядома ёй, што мае тут адбыцца,
Бо ў заўтра раскадыраваны дні.

Блакіт начны прашчупвае лакатар —
Ніводнай парушынкі не міне.
Ні золата, ні бог, ні праваката
Здаровае істоты не глыне.

Душа жывая не пацерпіць догму,
Якая тленам і падманам тхне.
Маю душу,— дакладнейшы сейсмограф,—
Бы куляй, дысгармонія кальне.



Устанем, давай, апаўночы
І пройдзем з табой па Маскве.
Яна, нібы кратэр, ракоча
І ціхаю песняй жыве.

Не верыцца.
Вечара мала ім.
Як сінія зоры на снег,
Між соснаў у парку Ізмайлаўскім
Дзявочы рассыпаўся смех.

Пара ўжо дадому.
Ды дзе там!
На месцы застанецца дом.
А недзе гудзе Дамадзедава —
Люблю рэактыўны гром.

Трамвай адыходзіць астатні —
Рукой на расстанне махнём.
Прыпынімся трошкі ў Астанкіне
І зблізку на вышку зірнём.

Як добра, бадзёра і свежа!
Астылі асфальт і масты.
Не дрэмлюць крамлёўскія вежы
І ля Маўзалея пасты.

На горад без стомы глядзім мы.
Заснежыла вейкі зіма.
Масква — гэта сэрца Радзімы,
А сэрцу спачыну няма...

ПРОЗА



● Алесь ЖУК

● Мал. К. ЦІХАНОВІЧА

ДВА АПАВЯДАННІ

# ЖОНКА ГЕРОЯ

## I



Ухадзіўшыся па гаспадарцы, яна драмала на гарачай чарэні печы. У хаце былі прыцемкі, і ад дажджу, які глуха шастаў па гонтавым даху, і ад нуднай асенняй шэрані за шыбамі вокнаў — ад усяго гэтага было неяк адзінока. Яна нікога не чакала ў гэты непагодлівы нядзельны надвячорак, бо ведала, што нават суседка Волька палянуецца перайсці праз вуліцу да яе ў такі дождж, і таму неяк крыху спалохалася і разгубілася, калі пачула, як грукнулі ў сенцах дзверы, як там цяжка затупалі ботамі па падлозе і нечая рука пачала мацаць па дзвярах, шукаючы клямку. Жанчына саскочыла з печы, сунула ногі ў гумавыя боты, якія стаялі тут жа ля печы, пад услонам, падбегла і адчыніла дзверы.

Мужчыны ўвайшлі ў хату і спыніліся ля парога. Абодва яны былі ў пачарнелых і злубянелых на дажджы плашч-палатках, з якіх частымі кроплямі цякла на падлогу вада.

— Авой, дождж які! Чаго вы стаіцё? — спахапілася яна.— Вось тут вешайце. Дарма, хай капае!.. Вось тут на вушаку цвік. Бушлаты давайце сюды, на шафу павешу... Гэта ж хлюпата на дварэ такая!

— Нічога, нічога, не турбуйцеся, калі ласка.

— Праходзьце, праходзьце да стала, а я святло запалю, а то змерклася ўжэ.

Яна пстрыкнула выключальнік, зацягнула на вокнах фіранкі.

— Ну, то будзем знаёмы,— нізкі, круглатвары мужчына працягнуў халаднаватую, вільготную руку.— Будзем знаёмы, Марыя...

Ён змоўк, запытальна паглядзеў на яе, каб падказала.

— Ганна... Ганна Антонаўна,— засаромелася яна.

— Прабачце, забыўся... Памяць...— сумеўся вайсковец.

Яго сябар, стройны, хударлявы мужчына ў цёмна-карычневым касцюме, да якога ніяк не стасаваліся заляпаныя гразёю кірзавыя боты, з густой сівізною ў роўна зачэсаных назад чорных валасах, прыветна кіўнуў галавою, моцна пацінуў руку:

— Васіль Ігнатавіч. Лепш — проста Васіль.

— Мы, Ганна Антонаўна, з Сяргеем разам ваявалі. Рашылі праведаць вас, а то забывацца пачынаем. Мы, калі з Сяргеем ляжалі ў шпіталі, столькі адзін аднаму расказвалі! — зноў першы загаварыў вайсковец.— Бач, забыўся нават, як вас і завуць...

— Дарма, ці мала што забываецца,— пачала заспакойваць яго Ганна.

Не было ўжо таямнічасці і загадкавасці — Ганна ведала цяпер, што рабіць і гаварыць. Яна дастала з шафы льняную сурвэтку з мохрыкамі па краях, накінула яе на стол, потым пачала завіхацца ля печы, збегала ў каморку — і хутка на стале стаяла крыху запацелая бутэлька з гарэлкаю, кіслыя гуркі, нарэзанае тугімі роўнымі кавалачкамі сала, стаялі талеркі з наварыстаю капустаю,— Ганна ўмела гатаваць і любіла гэтым пахваліцца.

— Хопіць, хопіць, Ганна Антонаўна! Сядайце ўжо. Нам нават няёмка крыху,— затрымаў і пасадзіў яе на крэсла вайсковец.

— А як жа! Здарожыліся... Ды каб не было чым частаваць...

— Ну, то за ўсё добрае! За памяць пра Сяргея, за гаспадыню, за дом гэты! — падняў шклянку вайсковец.

Ганна прывыкла за апошні год да такіх гасцей. Гэта дзеля іх яна павесіла на сцяну фатаграфіі Сяргея, яго граматы, што ляжалі ўсю вайну і пасля вайны спакойна на дне старога куфра, які застаўся ад свякрухі і цяпер стаяў у сенцах.

— А мы з Васілём, як прачыталі ў газеце, дзе жывяце, яшчэ летам збіраліся да вас, думалі, мо памагчы чым трэба. Каб не Сяргей, крышка была б нам з Васем у сорак трэцім! Нямецкія танкі да нас у тыл прарваліся. Ноч была цямнюшчая, мароз... Падабраў ён нас, у нейкае гумно занёс, схаваў у сена. Трое сутак з намі сядзеў, аднекуль есці прынёс, перавязаў. Потым нашы стукнулі па гэтым чортавым кліне... Не вытрымаў ён, выбег, як пачалася перастрэлка. Ля гумна яго і секанула... У шпіталь разам нас павезлі,— ціха кончыў вайсковец і дадаў: — Добры быў хлопец.

— Налівайце, налівайце яшчэ! Адагрэйцеся хоць,— пачала запрашаць яна.

Ганна ўжо наслухалася расказаў пра геройства Сяргея ад былых яго аднапалчан, якія пачалі прыязджаць пасля артыкула ў газеце, дзе расказвалася пра апошні подзвіг яе мужа. І яна прывыкла, і ёй здавалася, што расказваюць пра нейкага зусім не знаёмага чалавека і чамусьці глядзяць на яе з павагаю, некаторыя нават з зайздрасцю.

Мужчыны выпілі яшчэ. Яна адмовілася піць, чакала, што запытаюцца, як жылі да вайны з мужам. Яна была гатова гаварыць, як заўсёды, што Сяргей з братам былі асілкамі на ўсю ваколіцу, што Сяргей быў лепшы трактарыст на ўсю МТС... Гэта яна расказвала ўсім і гэтак жа, як і цяпер, старалася больш частаваць гасцей, чым расказваць, і яны, магчыма, потым успаміналі толькі яе гасціннасць...

Але мужчыны не распытвалі нічога, закурылі і пачалі ўспамінаць, называць незнаёмыя ёй гарады, імёны.

Ёй успомнілася сваё.

...На вёсцы цэлы тыдзень толькі і размоў было, што пра іх вяселле. Неяк вельмі ўжо не верылася вяскоўцам, што Сяргей, за якога з радасцю пайшла б любая прыгажуня ў наваколлі, бярэ Сідараву Ганначку, маленькую, лядашчую, праўда, на дзіва ўвішную на рабоце. Жанкі гадалі, што пагнаўся ён на працавітыя рукі, бо маці яго памерла, а гаспадарку трэба было глядзець...

Многа яшчэ чаго гаварылі, але што ёй было да таго! І зіма для яе зімою не была, і шчаслівейшага за яе чалавека не было, і зайздросцілі ёй сяброўкі,— бачыла, як глядзяць яны на яе і на Сяргея на танцах.

А потым прыйшла вясна. Сяргей паехаў недзе ў далёкі калгас — МТС была на два раёны — і сабраўся дадому толькі праз месяц. Прыехаў п'янаваты, насуплены. І яна праплакала ўсю ноч, а ён нават не павярнуўся да яе, быццам побач была не жонка, не жанчына нават... Раніцаю не захацеў снедаць і гэтакі ж пануры, чужы нейкі, паехаў зноў. У той раз ён не прывёз мыць бялізну і больш ніколі не прывозіў.

На вёсцы пачалі пагаворваць, што ў яго завялася другая, не раўня ёй, Ганне. Спачатку пагаворвалі зласліва, а потым са спагадаю ў голасе, асабліва пасля таго, як у яе нарадзіўся сын. І яна спадзявалася яшчэ, што пераменіцца Сяргей, што вернецца, хоць не да яе, дык, можа, да сына.

Але ён не перамяніўся.

Пра яго пісалі ў газетах, яму ўручалі граматы: ён быў усё ж лепшым трактарыстам, ім ганарылася нават вобласць.

А яна пакідала малога на рукі сваёй маці, дзень у дзень ішла на работу.

І яна не праводзіла Сяргея, калі праводзілі, галосячы, сваіх мужчын жанкі.

Сяргей не заехаў нават развітацца з ёю, і жанкі гаварылі, што праводзіла яго на вакзал і плакала другая...

— Ганна Антонаўна, — пакратаў яе за руку вайсковец, — выпіце з намі апошні раз.

Яна безуважна ўзяла шклянку, выпіла з некай прагаю.

— Скажыце, Ганна Антонаўна, што гэта за малы на той картцы? — кіўнуў вайсковец на рамку з фатаграфіямі, што вісела над акном.

— Сын мой. У блакаду памёр. Пяць гадкоў было. Ад тыфу...

— Прабачце, я не хацеў... Забыў, што і сын у вас... Мае, праўда, уцалелі ў вайну, а Васіль пасля вайны сваіх усё шукае,—нават на след не натрапіў.

Яна паглядзела на маўклівага вайскоўцавага спадарожніка і толькі цяпер убачыла яго вочы — чыстыя-чыстыя, блакітныя вочы, якія глядзелі нібы скрозь дым, затоена-балюча і добра...

Вайсковец зноў зірнуў на фатаграфію:

— Быў бы, як бацька, герой.

— Нам пара, Ганна Антонаўна. На службу заўтра, ды і вам на работу, а мы тут з Васілём разышліся... — устаў з-за стала вайсковец.

Яна праводзіла іх да варот, да заляпанага гразёю матацыкла.

II

Не спалася. Можа таму, што нудна і аднастайна шоргаў шорсткім лісцем па шыбіне бэз, нібы прасіўся ў хату абагрэцца, што праз акно глядзела халоднае вока месяца. У хаце пахла папяросным дымам, гарэлкаю — нечым мужчынскім, даўно забытым. Невядома чаму, усё ўспаміналіся глыбока запалыя, журботна-выцвілыя вочы маўклівага спадарожніка.

Яна ўстала, падышла да акна, расчыніла яго: вецер разагнаў хмары, і над зямлёю плыла асенняя ноч, абмытая нейкім сумным, халодным месячным святлом. Пасярод лагчыны, што пачынаецца ад самае яе — канцавое — хаты, роўным лускавіннем блішчэла сажалка, і над ёй хіліліся ў паклоне зламаныя старыя вербы, нібыта цягнуліся да месяца, што нерухома застыў далёка ад берага. За сажалкаю ўзбіраўся на ўзгорак стары парк, з дрэў якога час ад часу зрываліся і трапяталі на ветры, летучы да сажалкі, адзінокія дрыготкія лісточкі, нібы пісьмы, поўныя адчаю і нявыказанага суму, пісьмы, якім ніколі нікуды не даляцець, ніколі не быць прачытанымі...

Зрабілася раптам так горка і балюча, так шчымліва і знямогла сціснулася сэрца.

Назаўтра па яе прыехалі на поле з раённага музея, каб яна зноў расказвала пра мужа-героя. І яна пакорліва пайшла да нізенькага, абцягнутага брызентам газіка, — маленькая, няўклюдная ў гумавых ботах, у ватоўцы, — пайшла, цяжка ступаючы па вільготнай свежай раллі, абмінаючы белыя, толькі што выкапаныя карчы бульбы.

# ВОДСВЕТЫ ЗОРАК

Здавалася, стаяў не канец жніўня, а была позняя восень, дажджы ішлі цэлы тыдзень, халодныя і нудныя. Дарогі раскіслі, і лужыны з кожным днём большалі, а ў лагчынах сталі падобныя на невялікія каламутныя азёрцы. Машыны не прабіваліся з шашы ў лясную вёсачку, і жанчыны, баючыся, каб не застацца без хлеба, заквашвалі дзежкі.

Голуб сядзеў за сталом, набіваў патроны і паглядаў за акно, дзе ўсё сеяўся дождж, — нібы і яму ўжо надакучыла вось так церусіцца і церусіцца. Нявесела думалася, што адпачынак не ўдаўся, што не выйшла нават пахадзіць уволю на паляванне, паначаваць у стагах сена, ля вогнішчаў на далёкіх лясных азёрах і балотах. Трацілася апошняя надзея, што наладзіцца надвор'е і можна будзе з Лідаю хадзіць па грыбы, якіх павінна быць, хоць закладай касу. Ліда будзе ехаць сёння вечарам, мабыць, апранутая па-гарадскому, у туфельках і без плашча. Будзе ехаць не да яго, а да сваіх бацькоў, у вёску, што за пяць кіламетраў адсюль, таксама сярод мокрага лесу і балот. Голуб уяўляў, як Ліда будзе выходзіць, магчыма, адна на начную пустэльную шашу, потым будзе ў цемені і гразі ісці яшчэ тры кіламетры. Ён пачынаў злавацца на яе, што ўгаварыла ехаць на адпачынак дадому, — ён хацеў падацца на Нарач, зняць там хату, і яна прыехала б да яго. Яны жылі б разам, хадзілі на паляванне, па грыбы, разам, толькі ўдваіх. Голуба мучыла, што яна не зразумела ці, яшчэ горш, прыкідвалася, што не разумее яго жадання быць разам, яго змучанасці ад гэтай раздвоенасці — быць з ёю нейкія тры разы на тыдзень, кожны раз вяртацца дадому пад раніцу, употайкі ад

суседзяў. Для яго прайшла ўжо тая пара шчаслівай узрушанасці спатканняў, яму хацелася, каб яна была не проста знаёмаю жанчынаю, хацелася прыходзіць да яе кожны дзень, ісці разам раніцаю на работу, знаёміць са сваімі сябрамі і называць жонкаю.

Ён і зараз уяўляў, як будзе прыходзіць да яе вечарамі, глядзець тэлевізар, будзе прыкідвацца кавалерам, будзе сядзець з ёю ноччу ў настылых сенцах, цалаваць яе і думаць, што яшчэ трэба ісці дадому сцяжынаю праз балота, набрынялае ад дажджу, і ў цемнаце ён не раз праваліцца ў твань і набярэ ў боты...

Голуб сабраў набоі ў патранташ, накінуў куртку і выйшаў на двор, зняў з мапеда, які стаяў пад страхою, цырату, завёў матор, уключыў святло, з сумам падумаў, што не па такіх дарогах ездзіць на гэтай «тэхніцы» і што трэба будзе купіць бацьку матацыкл.

Змеркдася. Маці недзе забавілася ў суседак, бацькі яшчэ не было з абходу. Голуб уявіў, як ідзе ён недзе па лесе, стары, высахлы, нібы згінаецца пад цяжарам мокрае брызентавае плашч-накідкі. Ён добра помніў, як захваляваўся тады бацька, калі ён сказаў, што паедзе ў горад давучвацца ў аспірантуры. Голуб ведаў, што бацьку не хочацца, каб сын кідаў работу ў лясніцтве. Але бацька не запярэчыў, бо не ведаў, што сын ідзе на работу ў міністэрстве, каб быць бліжэй да Ліды. Цяпер бацька, мабыць, здагадаўся, што сын зманіў яму, але не будзеш жа лаяцца пасля двух гадоў ростані.

У хаце за шафаю Голуб знайшоў стары рэчавы мяшок, запхнуў у яго матчыны новыя гумавыя боты, матчын плашч, узяў у кішэню ліхтарык.

Слабасільны мапедзік, якому ў пору бегаць толькі па асфальце, выў маторам і паволі круціў колы, якія слізгаліся па дарозе. Голуб апіраўся нагамі, адпіхваўся, каб не ўпасці. Калі б не паляўнічыя бахілы, ногі былі б ужо даўно мокрыя. Пакуль выехаў на шашу, узмакрэў лоб, балелі ногі і рукі, нібы ён насек і выцягнуў з гушчару добры воз дроў. Матор перагрэўся і горача дыхаў жалезам і маслам. Голуб паставіў мапед, лінуў на яго прыгаршчы вады з лужыны. Вада з трэскам адскоквала ад нагрэтага жалеза. Голуб закурыў, каб перадыхнуць самому і даць астыць матору.

Па асфальце мапед каціўся роўна і хутка.

Праз кіламетры чатыры Голуб спыніўся.

Дождж сціх. Было цёмна і холадна. Дзьмуў паўночны вецер. Голуб падняў каўнер. Мокрая ад поту майка на плячах стала халаднажалезнаю. Голуб закурыў і пачаў хадзіць сюды-туды ўпоперак шашы, шорхаючы адзін аб адзін бахіламі, каб сагрэцца. Потым далёка за ўзгоркам над шашою засвяцілася, і Голуб здагадаўся, што ідзе аўтобус, а неўзабаве і ўбачыў яго з трыма белымі сонцамі фар, якія набліжаліся і раптам зніклі ў лагчыне. Трывожным сполахам свяцілася цемень. Потым святло нечакана патухла. Праз колькі хвілін яно зноў запалілася, і аўтобус, светлы і шпаркі, як шчасце, набліжаўся і, не збаўляючы ходу, пранёсся міма Голуба, пругка стукаючы маторам ды несучы казытлівы пах разагрэтае саляркі.

Голуб, раптоўна разгублены і спустошаны, цяжка пайшоў да мапеда і толькі тады заўважыў «казла», які спуджана заморгаў падфарнікам і спыніўся ля яго. У кабіне запалілася святло, пстрыкнуў замок дзверцаў — і ён убачыў Ліду, такую нечакана прыгожую, з падведзенымі вачыма, падфарбаванымі вуснамі, у кароткай спадніцы, у шпілечках на нагах, у ружовай спартыўнай куртачцы з блакітным каўнерыкам.

— Няўжо ты хацеў падвезці мяне на сваім кату? А які ты!? — за-



смяялася яна сваімі прыгожымі роўнымі зубамі, і ён адчуў, які ён нехлямяжы, у заляпаных гразёю бахілах, у размоклай і пляскатай, як блінец, шапцы, з «сідарам» за плячыма, побач з ёю, такою ўпэўненаю ў сваёй прывабнасці.

— Ты ж толькі за намі не ўздумай ехаць, — наказвала яна. І ён не разумеў, ці яна гаворыць сур'ёзна, ці хоча пахваліцца перад сваімі спадарожнікамі, — траіма вясковымі жанчынамі, — як ён кахае яе. Ён адчуў, што яму становіцца горача і хочацца закрыць рукою гэты прыгожы белазубы рот.

— Ладна... — толькі і знайшоўся адказаць ён і асцярожна зачыніў дзверцы.

І калі машына прапала ў начной чарнаце, ён падумаў, што недарэчна хваляваўся з-за яе, быццам калгасны аграном не можа сустрэць сваю дачку на машыне. Але было чамусьці непрыемна ад яе смеху, ад паблажлівай забароны не ехаць за ёю, ад таго, што ёй, мабыць, не прыйшло і ў галаву падумаць, як ён будзе дабірацца дадому па гэткай гразі, што прыехаў ён сюды дзеля яе.

Пад ветрам пабялеў асфальт, і колы лёгка шумелі. Ад думкі, што асфальт скора кончыцца і пачнецца гразь, Голубу стала злосна, і ён са злосцю гнаў мапед і па шашы, і па прасёлку, з радасцю, помслівою і дурною, чакаў, што вось-вось не вытрымае і заклінуецца ад гарачыні маленькі кулачок поршня.

Дома ўжо не было святла. Голуб паставіў пад страху мапед, ахінуў цыратаю, выйшаў на вуліцу, доўга мыў у лужыне боты.

— Гэта ты, Павел? — запыталася з цемнаты маці.

— Не. А што, бацькі няма? — у сваю чаргу запытаўся Голуб.

— Мабыць, не прыйдзе. Ён у такую пагоду як натоміцца, дык да-

дому не даходзіць, начуе ў Ігната. Састарэў ужэ. Табе, можа, вячэраць даць? — клапатліва азвалася маці.

— Не трэба. Я сам вазьму, — супакоіў яе Голуб, зайшоў у свой пакой, запаліў святло. Потым ён схадзіў у сенцы, прынёс талерку з салам, гуркоў, узяў кубак, зроблены з раскляпанай снараднай гільзы, вярнуўся ў сенцы і наліў амаль поўны самагонкі.

Святло праз занавеску падала на матчын твар, і Голуб пстрыкнуў выключальнікам. Ён у цемнаце піў самагонку, хрумстаў гурком і зноў піў і адчуваў, што не праходзіць сум, адзінота. Вось не атрымалася ў яго са шчасцем, і не быў ён шчаслівым гэтыя два гады, і кахае ж Ліду, кахае... Голуб піў і ўяўляў, як сядзіць бацька з Ігнатам у закінутай сярод гушчару леснічоўцы з пачарнелых бярвенняў, абодва пасівелыя ад старасці, барадатыя, п'юць самагонку, кураць махорку, ад дыму якой сіне, а калі добра вып'юць, заспяваюць сумную даўнюю песню, потым будуць спаць, спакойна і моцна. Успомнілася, як са шкадаваннем і любасцю гаварыла пра бацьку маці, і ўявіў, што было б, каб сказаў Лідзе, што вернецца назад у лясніцтва...

Потым ён курыў, глядзеў за акно. На двары крыху распагодзілася, і водсветы скупых далёкіх зорак холадна блішчэлі на вадзе лужын. А ён усё сядзеў і курыў. І не чуў, як зноў пачаўся дождж.

## У бліжэйшых нумарах апавяданні Вячаслава АДАМЧЫКА.

ПАЭЗІЯ



●Дваццаты век

●●——————

●●●——————

●●●● Лесарубы



Віктар ГАРДЗЕЙ

●

Стагоддзяў, што мінулі, цэлы лес,
Амаль забытых, розных і маўклівых...
Дваццаты век, ты дрэвам пасталеў,
Шмат перажыў, і самы ты шчаслівы.
Ты з багны кволым парасткам прарос,
Набраўся сіл, не падружыў з іконай,
Высока праўду і надзею ўзнёс
Сваёю пышнай густалістай кронай.
Вайной знявечаных бяроз і верб
Да сонца смела цягнуцца галіны.
Дваццаты век, ты з імі ажывеш!
І згладзяцца глыбокія маршчыны.
І да канца не будзеш ты прасіць
У хцівасці і здрады прымірэння,
Жыццё не менш шчаслівае дасі
Вякам наступным з цвёрдага карэння.

●●

Снег пачарнеў, а быў жа белы-белы.
Няўжо зноў ранняя вясна прыйшла?
А я іду, нічуць не пастарэлы,
Мая ж пляменніца нічуць не падрасла.
Але адчуў: іду далей у сталасць,
У дваццаць першую сваю вясну.
І ўжо сур'ёзны — о, жыццё настала!—
Я не магу да раніцы заснуць.
Іголкай дзён са смуткам і тугою
Сшываю я у дваццаць першы раз
Зіму з зімою, а вясну — з вясною,
Нібы лісткі распухлых важных спраў.
Падшыўку год пражытых, быццам дзённік,
Каб прачытаць у старасці, вяду.
Жыву у заўтрашнім сягоння
І падаю, ўстаю і зноў іду.

А снег чарнее! Быў жа белы-белы...
Я сустракаю першую вясну...
І ўжо сур'ёзны, раптам пасталелы,
Я не магу да раніцы заснуць.

●●●

Прыбег сюды, у цень зялёны бору,
Пасля грымотных, праліўных дажджоў,
Каб наталіцца пахамі чабору,
Суседства папрасіць у верасоў.
Яшчэ зямля пад соснамі сырая,
Схаваная у чырвані брусніц,
А бор шуміць, і я ў ім адчуваю
Дыханне стогадовых навальніц.
Дажджы ішлі, то ціхія, то з ветрам,
Дый сёння з той настырнасцю ідуць...
Яны цякуць цераз лясныя нетры,
Зямлю перамываюць, як руду.
Пясчаны грунт... Пясок залатаносны!..
Мой родны бор, ты шмат гадоў вякуй!
Хай па крупінцы залатыя сосны
Дажджамі вымываюцца з пяску.

●●●●

Раніцою пахне дурнап'ян,
Звоняць пчолы ў сіняве чабору.
Крывічоў патомкі і драўлян
На бярвеннях селі сярод бору.
Стомы раскруціліся кругі
У вачах хлапцоў, што у спяцоўках
Тут палуднуюць, нібы багі,
Пры агні — на лесараспрацоўках.
Так мне з імі хораша пабыць
На палянах з дзеразою ніцай,
У бары, дзе волкі пах
грыбы
Заварылі ў водары жывіцы.

# ПАЭЗІЯ



• *Магілы камісараў*

•• ——————

••• ——————



## Казімір КАМЕЙША

●

Магілы камісараў...
Строгія бары,
І небасхіл у водблісках ажурных...
Да шорсткай прыхіляюся кары,
Нібы да вашых скураных тужурак.
З тужурак вы не выраслі сваіх,
З тых дзён вы нават іх не распраналі.
Пасечаныя у рубцах ствалы
Мне твары вашы так напамінаюць.
І песні сёння вашы я пяю,
Што вы імчалі смела на тачанках.
І ў каравуле за ўсіх вас стаю
І бачу вашы сны начамі.
Вы дрэвам,
            паміраючы тады,
І гнеў і галасы свае аддалі.
І вашы несмяротныя гады
Ўсё кроны неўміручыя гайдаюць.

●●

О, вёскі, частаколу коп'і...
Шалёўкай хаты зіхацяць...
І каміны, як тэлескопы,
У неба зорнае глядзяць.

...Плылі вякі, і дыму колцы
Ў мільён зліваліся арбіт.
І смешна, нібы на круцёлцы,
Кружыўся з небам краявід.

...Быў год шчаслівы,
                        высакосны,
Ўзляцелі зорныя сыны...
Здаецца, ірванушча ў космас
І нашых хатаў каміны.



Лясы, знаёмыя паляны,
Барадамі звісае мох,
І трубіць зноў марозны
ранак
У паляўнічы рог.

Лыжня з забытага дзяцінства
Бяжыць, знікае за гарой.
І зноў мяне вяртае ў цішу
Знаёмых сосен і бяроз.

Я свой тут кожнае
галінцы.
Мае тут дні і вечары.
Як на вясковай вечарынцы,
Завея кружыць да зары.

**Паэму Рамана Тармолы «Навальнічны раён», вершы Раісы Баравіковай, Людмілы Забалоцкай, Валянціны Коўтун чытайце ў сакавіцкім нумары.**

● Эдуард ЯРАШЭВІЧ
● Мал. Ф. БАРАНОЎСКАГА

# СЦЕНЫ СВАЙГО ДОМА

АПОВЕСЦЬ

## 14

У плашчы, без шапкі выйшаў Раман з дому. Крочыў і паглядаў на высокае, блакітнае неба, на голыя дрэвы, чуў гаркавата-востры пах зямлі. Яго забавіў нават верабей, што шукаў спажывы сярод вуліцы. Верабей падпускаў яго на крок-два, потым успырхваў, адлятаў і зноў скакаў-круціўся, абклёўваў лапік зямлі да апошняга моманту, калі нядоўга і пад нагу патрапіць. Сырыя гэтыя лапікі зямлі выглядвалі з-пад снегу. А пасярэдзіне вуліцы ручаём бяжыць вада. Збяжыць скора, калі стаіць такая цеплыня... Раман сам сабе ўсміхаецца. Вось яно як павярнулася: лічыў, што слова Шурэйчыка не мае вагі, а менавіта праз яго атэстацыю займеў яшчэ двух кліентаў, дакладней — кліентак. Студэнткі. Кватаруюць па суседству з Шурэйчыкам. Папрасілі хутчэй адрамантаваць гадзіннікі, бо спазняліся на заняткі. У адным стрэлка мінутная зламалася, другі трэба было пачысціць. Пасядзеў крыху, наладзіў.

Праўда, і тут без аўтарытэту маці не абышлося. Ведаюць яе студэнткі. І пэўна ж таму даволі смела прыйшлі да яго. Ну, няхай пакуль дзейнічае аўтарытэт маці, а там ён і свой нажыве...

Раман выйшаў на цэнтральную вуліцу і павярнуў да плошчы. Калі намерыўся перайсці на другі, сонечны, бок вуліцы, пачуў, што яго хтосьці гукнуў. Азірнуўся і ўбачыў Сяргея Верасава. Кепка на галаве, пацёртая скураная куртка, галіфэ, боты — увесь выгляд Сяргея змусіў Рамана ўсміхнуцца: «Цікава, ці заглядаецца ён на жанчын?»

— Куды выбраўся? — спытаў Сяргей, паціскаючы руку.

— Ды так... на свет глянуць. А сам куды і адкуль?

— Матаюся, Раман.— Сяргей крануў яго за локаць. Пакрочылі разам.— У мяне ж тры аб'екты. Гэты вось карабок,— Сяргей паказаў вачыма на будынак камбіната бытавых паслуг,— ужо скора і здаў бы. Дык сантэхнікаў не дачакацца. Ездзіў ужо да начальніка ўпраўлення. А той адно: пакуль што на пускавых аб'ектах сантэхнікі...

Яны спыніліся ля будынка, Сяргей глянуў на вокны, прыслухаўся

Пачатак гл. у № 1.

і, расчаравана махнуўшы рукой, дастаў з кішэні папяросы. Закурылі.

— Не бядуй. Прыедуць калі-небудзь,— весела кінуў Раман.

— Ха-ха... Калі-небудзь! — Сяргей зацягнуўся.— Зойдзем. Пакажу табе тое-сёе.

Яны зайшлі ў будынак, падняліся на другі паверх. Сяргей адчуваў сябе тут гаспадаром. Яму ж, Раману, было дзіўна бачыць новы дом не звонку, а знутры.

— Ну, бачыш? — гаварыў Сяргей.— Нішы, стаякі атынкаваны? Атынкаваны. І каналы гатовы. Толькі ім, сантэхнікам, і ўзяцца! А выцягні іх... Адно слова: субпадрадчыкі.— Зайшлі ў вялікі пакой. Сяргей агледзеў столь, сцены, і тон яго перамяніўся, вусны кранула ўсмешка: — Як табе работка? Гэта тынкоўшчыкі — іншым павучыцца... Зірні на адкосы, на падугі! А русты? Ведаюць сваё хлопцы! А былі і такія... гора набраўся!

— Ды на такой рабоце набярэшся.

Раман падышоў да акна, і Сяргей стаў побач з ім. Адсюль, з вышыні, відаць была большая частка мястэчка. У садах ляжаў яшчэ снег, а дахі скрозь ужо былі чыстыя — белыя, аранжавыя, шэрыя, барвовыя дахі.

Раман узіраўся ў гэтую markdown рознакалёрнасць, і нейкі незнаёмы неспакой закрадваўся ў яго душу. Працавалі на першым паверсе тынкоўшчыкі. Яны голасна перагаворваліся. А лепш бы яму іх не чуць... Стаяў побач Сяргей. Ды лепш бы не тут ім сустрэцца... І нават ад паху гэтага дома, свежага, рэзкага паху вапны, было яму не па сабе.

Ён падумаў, што сказаць, каб зараз жа пайсці адсюль, ды, наўздзіў, не знаходзіў слова. Што яго тут трымае?

— Пайшлі мо піва пап'ём? — згадаў Раман.

— Можна. Зойдзем толькі да хлопцаў.

Яны сышлі на першы паверх, але Раману зусім не хацелася бачыць тых хлопцаў, ён сказаў:

— Я цябе на ганку пачакаю.

Сяргей няўцямна паціснуў плячыма. Выйшаў з будынка ён скора, чамусьці павесялелы, і адразу загаварыў:

— Дык такая, Раман, справа. Заходзіў я да Малініна. Сапраўды, патрэбен майстэрні другі чалавек. І гаварыў я ўжо з Гучковым.

— Хто гэта?

— Старшыня гарпасялковага Савета.

— Тваімі стараннямі, значыць? — Раман кісла ўсміхнуўся.

— Чаму? Гучкоў ведаў, што ў Малініна работы не адбіцца.

— Ды бачу, яму не такі клопат, як табе.

— Ну, у яго спраў па горла. Але сам згадзіўся, што раней трэба было звярнуць увагу на майстэрню.

— І трэба было табе чапаць старшыню! — вымавіў Раман, не таячы прыкрасці: следам за тымі дзвюма студэнткамі ці мала хто завітаў бы да яго з гадзіннікамі?

— А як бы ты хацеў? — спытаў Сяргей.

— Быццам не разумееш! Такі твой клопат не ў маю карысць.

— Ну, Раман! — Сяргей махнуў рукой.— Не ў тваю карысць? Нібы на свеце адзін ты і жывеш...

Раман змоўчаў. Што здарылася, таго не паправіш. Няхай... Але дакуль так будзе: ад сяброў — адны непрыемнасці?

Яны ішлі, і Сяргей гаварыў, што яму, Раману, нішто не перашкодзіць працаваць у майстэрні, калі толькі ён захоча: урэшце, зручным момантам рана ці позна надыходзіць канец, на момантах лёгка ехаць,

ды цяжка саскочыць... Ён, Раман, падтакваў, а думаў адно: «Эх, Сяргей, сам ты рэжаш наша сяброўства. Можаш і дарэзаць...»

Піва было халоднае, ажно заходзіліся зубы, ды піў Раман, не адрываючы куфель ад вуснаў. А калі дапіў, адчуў на сваім плячы чыюсьці цяжкую руку. Павярнуўся і ледзьве пазнаў Шурэйчыка: быў той паголены, падстрыжаны і зусім цвярозы.

— Як п'ём, то нікога не бачым? — Шурэйчык весела зіркнуў і на Сяргея.— Што, і так яно бывае?

— Хто цябе не прызнае? — усміхнуўся Раман.

— Тых я і сам знаць не хачу! А з цябе, Раман, працэнты! — Шурэйчык смяяўся, паказваючы тым, што ўвогуле ён гаворыць не ўсур'ёз, жартуе.

— Якія працэнты? — спытаў Сяргей, паставіўшы на столік свой куфель.

— Ну як жа? Кліентаў падкідаю. Ды якіх! — і Шурэйчык глянуў на Рамана.— Былі ў цябе сёння студэнткі?

— Ну, былі.

— А ты чым незадаволены?

Раман прамаўчаў: не перад Сяргеем бы такая размова... Упершыню ўзнікла жаданне хутчэй адчапіцца ад Шурэйчыка. Дастаў з кішэні грошы.

— На піва толькі хопіць. Пляшку, Пятро, іншым разам.

— Правільна сказаў: іншым! Сёння я з палучкай. Так што прашу! — Шурэйчык павёў рукой, прапануючы Раману і Сяргею сесці за столік.

Сяргей не зважыў на запрашэнне.

— Пайду,— глянуў на гадзіннік.— Справы ёсць.

Кароткі позірк яго як апёк Рамана. «Ну што? Мо пасядзіш з Шурэйчыкам? Паслухаеш яго ды на мяне паскардзішся?» — нібы пытаў Сяргей.

І Раман кінуў Шурэйчыку:

— Не спяшайся, Пятро. Няма калі мне.

І выйшаў за Сяргеем на вуліцу. Шурэйчык падаўся за імі, але з ганка не саступіў:

— Куды вы, хлопцы? Ад душы частую! — І ўжо цішэй данеслася да іх: — І што там за справы знайшліся?

Сяргей засмяяўся. А Раману было не па сабе ад гэтай нечаканай Сяргеевай улады над ім. І, нібы знарок, Сяргей вымавіў:

— Бачу, ты сам сабе гаспадар.

— Хто яго ведае... хто тут гаспадар,— нявесела кінуў Раман.

Яму раптам захацелася ўбачыць маці. Яны развіталіся.

Поціск Сяргея быў моцны, як заўжды.

## 15

Нават хворыя, якім яна, медсястра Вера Міхайлаўна, заўсёды знаходзіла цёплае, ласкавае слова, заўважылі перамену ў яе настроі. Ранейшая шчырасць была ў яе ўвазе да іх, але, мусіць, не так весела, не так жыва размаўляла яна цяпер. І даволі часта хто-небудзь са старых знаёмых пытаў, ці не стамілася яна ўжо ад работы, ад іх стогнаў ды енкаў. Яна адказвала жартам і толькі бліжэйшай сяброўцы Ксені Сцяпанаўне расказала пра свае журботы. А што магла параіць Ксеня Сцяпанаўна? Тое ж сказала: трэба, каб Раман пажыў дома, сярод сваіх, сярод даўніх сяброў.

Яна таіла ад яго, што не стала рабіць яму «рэкламу». Але занепакоіў яе партфель, яго, Раманаў, партфель, у якім былі карабкі з дэталямі для гадзіннікаў. І неяк яна не стрывала, спытала ў Рамана:

— А дзе ты, Рома, узяў усё гэта?

— Дзе? Ганчарэнка мне даў,—бесклапотна адказаў ён.

— А ці ж сам Ганчарэнка іх штампуе?

— Ха! Не наштампуе!? Але ён начальнік; яму гэтыя запчасткі — не клопат. Я ж казаў, падзяліўся са мной.

На тым размова абарвалася. Ды спакою ўжо не было. Пасля нядоўгіх ваганняў Вера Міхайлаўна зайшла да старога Малініна і спытала, хто яго забяспечвае запчасткамі. Малінін адказаў, што атрымоўвае іх па строгім уліку. А за наступнымі яе пытаннямі растлумачыў, што прыватным асобам запчасткі не прадаюцца. І яна ўжо не сумнявалася, з якіх рук трапілі запчасткі да Рамана. І не магла трываць, не сказаць Раману пра гэта — чакала толькі хвіліны.

Штодзень спяшалася яна дадому. Распытвала Рамана, дзе ходзіць, з кім страчаецца. Але гаварыў ён вельмі неахвотна пра сустрэчы нават са сваімі сябрамі, часам і раздражнёна. Яна адчувала, што не ад роспытаў гэтая раздражнёнасць, але і не магла пэўна ведаць, ад чаго.

І сёння яна ішла дадому, думаючы пра Рамана. На плошчы агледзелася: мо дзе тут ён. Не ўбачыла. Купіла ў кіёску «Огонёк» і ўжо нідзе не спынялася.

Яна адразу заўважыла, што Генка чымсьці ўзрушаны. Паклала на стол «Огонёк». Звычайна ён ледзь не з рук вырываў часопіс, а тут не варухнуўся. Спадылба зірнуў на яе так, як ніколі не пазіраў: нібы яна зрабіла штосьці нядобрае. Спытала, што здарылася. Генка маўчаў, а вусны ўздрыгвалі, на шчоках азначыліся жаўлакі. Чырвань залівала яго шчокі. Ёй здалося, што ён зараз закрычыць, але вымавіў ціха, праз сілу:

— Пра нас так не гаварылі ніколі. А сёння пры ўсіх Цімчанка сказаў, што Раман... ён, як жабрак: што людзі паднясуць, тым і жыве.

— Як жа гэта? — спытала яна, ужо ўявіўшы, што адбылося там, у школе.

І затым гарачыня прыліла да твару яе, неяк раптам аслабелі рукі, якія заўжды рабіліся як не свае ад вялікага хвалявання. Яна села, чуючы ў руках гэтую слабасць.

«Ці ж я не думала, што так могуць сказаць? Не аднойчы думала»,— пранеслася ў яе галаве.

Цяпер яна разумела Генкаў позірк. Хто ж яшчэ, як не яна сама, вінаватая.

Яна нешта гаварыла Генку, нешта рабіла ў хаце. Пакрысе супакойвалася. І раптам убачыла на этажэрцы два гадзіннікі. Наручныя, жаночыя.

— Чые гэта, Гена? — спытала яна.

— Не я ж іх прынёс! — на ўвесь голас азваўся ён, абыякава, безважна гартаючы часопіс.

Яна не звяртала ўвагі на яго тон. Чаго ж яшчэ чакаць?..

«Дык чые ж гадзіннікі? Мабыць, нехта на рамонт прынёс...»

Яна дачакалася Рамана, ведаючы, што скажа яму.

— А я, мама, заходзіў у бальніцу. Размінуліся недзе з табой,— вымавіў Раман, знімаючы плашч.

— Размінуліся мы, Рома. Ты сядай.

Ён, прыўзняўшы бровы, весела і недаўменна пазіраў то на яе, то на Генку. І апусціўся на крэсла, гучна ляпнуўшы далонямі па каленях.

А яна сядзела на канапе. Цяпер, пазіраючы ў вочы яму, магла гаварыць.

— Хто, Рома, прынёс гадзіннікі?

— Дзяўчаты. Студэнткі. А што?

— Прабач, Рома, што не сказала табе раней. Лічыла, так яно лепш — маўчаць. Але няшчырасць дабра не прыносіць. За гадзіннікамі гэтымі наша ганьба. Усёй нашай сям'і. Ты мо так не думаеш...

Яна расказала пра ўсё, што пачула ад Генкі. Раман ледзь не ўскіпеў:

— Не рабіце з мухі слана! Адзін нейкі дурань скажа, а вы ўжо...

— Ёсць разумныя. Але што яны могуць думаць пра гэту тваю работу? Як ні прыкінь, як тут ні павярні, а не ўзвышае яна цябе. А яшчэ я табе скажу... Гэтыя дэталі, што ты маеш... якія табе даў Ганчарэнка... яны — крадзеныя. Ці табе ўсё роўна?

— А я пра гэта не думаю, адкуль яны ў яго ўзяліся. Не мая справа!— кінуў Раман. І, як апамятаўшыся, пільна глянуў на яе.— А ты адкуль ведаеш, што яны крадзеныя?

— Я заходзіла да Малініна. Ён мне растлумачыў, як і што робіцца. Не падзяліўся з табою Ганчарэнка — купіў ён цябе, Рома.

— Вось яно як...

Ціха прагучаў яго голас. Не раздражнёнасць, злосць, а нешта іншае ад глыбокай крыўды легла на твар яго.

З болем пазірала яна на яго. Разумела, што вось цяпер многае павернецца ў яго душы. Ці ачужэе ён, ці перасіліць сваю крыўду? Нічога не магла ведаць і загаварыла зноў — занадта доўга трымала яна гэтыя словы ў сабе:

— Я вінавата перад табой, Рома. Што маўчала дагэтуль. Табе трэба было ведаць, што я думаю, з першага дня. Але твая крыўда не цяжэй за маю, ты гэта зразумей. Быў бы падлеткам, а ты ж ужо ў сталых гадах. Інакш бы табе жыць, працаваць... Каб ніхто словам не крануў годнасці тваёй, каб мы табой ганарыліся. Бацька, Рома... я памятаю яго наказ... хацеў, каб ты стаў упоравень з тымі, каго называюць сапраўднымі людзьмі. Ты падумай, ці ж гэта не ад цябе залежыць?

Нібы камень наваліўся на яго — так цяжка было яму слухаць яе. Ён змяніўся ў твары, адкуль толькі браліся тыя маршчыны...

— Ну, добра... Я не вазьму больш у рукі чужы гадзіннік... Але і не вярэдзьце мне душу... Хапае ёй без гэтага.

Ён устаў, дрыготкімі пальцамі ўзяў папяросы, выйшаў. Было чуваць — спыніўся ў сенцах.

Вера Міхайлаўна зірнула на Генку. Са сціснутымі вуснамі, склаўшы, як дарослы, на грудзях рукі, стаяў ён ля акна. Яна бачыла ў позірку яго — ён свайго дачакаўся...

## 16

Знаёмыя весніцы былі расчынены нахлашч. Ступіўшы ў двор, Раман убачыў Наташку. У чырвоных гумавых боціках, у наглуха зашпіленым палітончыку, дзяўчынка стаяла на ніжняй прыступцы ганка і паглядала на лужыну, што займала амаль паўдвара. Яна пачула крокі і з той жа ўвагай угледзелася ў Рамана.

— Я гэта, Наташка, я. Дзень добры табе.— Раман нахіліўся, падаў дзяўчынцы руку. — А гэта цукеркі. Ды бяры, бяры! Табе яны.

Дзяўчынка зірнула на карабок і прагаварыла:

— Я ў мамы спытаю.

— Што спытаеш?

— Ці можна браць.

— Ну, гэта мы ўладзім. А дзе ж твая мама?

— Мые падлогу.

— Ага. Тады мы яе пачакаем. Толькі трымай карабок у сваіх руках. Мае, ведаеш, стаміліся ўжо. Праўда.

Дзяўчынка недаверліва ўсміхалася, але карабок узяла. У гэты час у сенцах з тазам вады ў руках паказалася Валя.

— О-ой! — збянтэжана і весела ўсклікнула яна. — Чым гасцей сустракаю!

— Добры дзень, Валя. Госці не ў час? Але мы перашкаджаць не будзем. Мы тут з Наташкай пагуляем, а ты ўпраўляйся сабе.

— А што гэта ў цябе? — зважыла Валя на дачку, паставіўшы ля ног таз.

А ён пазіраў на яе. Упершыню ўбачыў яе ў простым ружовым халаціку, басаногую, на галаве яе ледзь трымалася хусцінка.

— Гэта дзядзя прынёс,—пачуў Раман голас дзяўчынкі.

— Твайго, Валя, дазволу чакае,—сказаў ён. — Дазваляй, іншага выйсця няма.

— Ну, добра. Падзякуй, дачушка. Але няможна шакалад ёй, Раман.

— Буду мець на ўвазе. Дык мне што, можа... рэціравацца?

— Не. Вы пагуляйце тут, а я сенцы закончу мыць. І пойдзем у хату.

Валя стаяла, пазіраючы на яго, і ён зразумеў, што трэба падацца крыху далей, каб не перашкаджаць ёй.

Ён адышоў і паклікаў Наташку:

— Ідзі сюды!

Дзяўчынка з радасцю пабегла да яго, адною ножкаю ступаючы па вадзе. Стала побач, занялася цукеркамі.

Ён міжволі ўздыхнуў. Не так весела было яму, як хацеў гэта паказаць тут...

Хадзіў па вуліцах і неадольна пацягнула да яе, Валі. Каб не яна, то не ведаў бы, куды ўцячы ад усяго непрыемнага, што выпала яму ўчора, што адняло спакой. Лічыў, што хоць маці спрыяе яму... Маці ўдарыла мацней, як хто... Не па суцяшэнне прыйшоў ён да Валі. Проста пабыць з ёю, на якую гадзіну адчапіцца ад думак сваіх... Стаяў, пазіраў на агарод, на Валіну хату. Спыніў пагляд на вадзе, да якой зноў падышла Наташка.

Было нядобрае і ў жыцці гэтых двух жанчын, маленькай і вялікай. Хоць ад нечага можна іх пазбавіць...

— Валя! — гукнуў ён.— Дай мне сякеру.

— Навошта?— выглянула з сянец Валя.

— Мора вось гэта на вуліцу трэба спусціць. Не супроць?

— Ой, не! Зараз падам.

Праз момант яна выйшла, падала яму сякеру.

— Абула б ты што-небудзь, — сказаў ён.

— Прывычка з дзяцінства,— усміхнулася Валя і схавалася ў сенцах.

Ён зняў плашч, павесіў яго на плот, а потым падышоў да Наташкі, узяў яе за руку і адвёў да брамы.

— Стой тут! Да мяне не подыходзь.

— А што будзеце рабіць?— спытала дзяўчынка.

— Што? Выб'ем канаўку, і ўся вось гэта вада пабяжыць на вуліцу.

— А потым і ў раку?

— Правільна. Там ёй і месца.

І ўзяўся Раман за работу. Паляцелі з-пад сякеры іскрыстыя аскалёпкі, пераляталі цераз плот у агарод, падалі ў ваду, адляталі нават да вокан і часта балюча секлі яго па твары. Але ён толькі прыплюшчваў вочы і біў па наледзі: нарос яе слой за зіму на добрую пядзю. Наташка падбіралася бліжэй, і ён, заўважыўшы яе краем вока, паварочваўся, зноў адпраўляў яе да брамы. Выбіўшы жолаб, выпраставўся, правёў далоняй па ілбе — спацеў-такі. Валя на гэты час сваю работу закончыла і выйшла на ганак. Вусны яе гарэлі, і вочы блішчалі так чыста і жыва, што, каб не ведаў, ніколі б не падумаў, што яна маці трохгадовай дачкі. Яму хацелася сказаць ёй нейкія прыемныя словы, але чамусьці стрымаўся. Сказала яна яму:

— Стаміўся, бедны?

— Ды кінь ты, Валя! Сонца вунь пячэ. Зараз закончу.— І павярнуўся да Наташкі.— Бяжы цяпер туды, на ганак.

Ён рабіў пад іх позіркамі, час ад часу пазіраў на Валю, імкнуўся зразумець яе думкі, але бачыў адно як бы паблажлівую ўсмешку.

— Ну, вось і ўсё. Глядзі, Наташа.

Ён выбіў той скібак наледзі, што служыў перамычкай, і вада панеслася па жолабе хутка, напорыста. А яны стаялі, пазіралі на гэты ручай і маўчалі. Калі вада пачала адступаць ад ганка, Валя ціха вымавіла:



— Дзякуй, Раман.— І зусім іншым, вясёлым голасам дадала: — А цяпер можна ў хату. Бяры ж плашч свой! І ногі, ногі...

Ён і Наташка пастараліся, каб не наслядзіць. У хаце блішчала пафарбаваная падлога, ззялі ў праменнях сонца белыя, як снег, фіранкі, бялюткімі былі і чахол на канапе, і абрус на стале, і маленькі настольнік пад тэлевізарам. І ні пылінкі не было ні на важкіх фіранках, ні на трумо, ні на шкле кніжнай шафы. Пакуль Валя распранала і пераабувала Наташку, Раман прахаджваўся па пакоі, спыніўся ля грубкі, паварушыў качарэжкай паленне, што ўжо дагарала.

Валя раз-пораз зіркала на яго і звярнулася да дачкі:

— А чым мы дзядзю пачаступм? Успомні, што ў нас ёсць?

Наташка адказала адразу:

— Яблыкі.

— Ах ты, ласуха!— засмяялася Валя. — І сама хочаш. Так?

Малая кіўнула галавой.

Валя выйшла і вярнулася з талеркай яблыкаў — чыстых, крамяных.

— Пепіны!— здзівіўся Раман.— Адкуль яны?

— З нашага саду. Мама ўмела іх захоўваць і мяне навучыла.

— Не адмоўлюся. Такія прыгожыя!

Валя і сама ўзяла яблык, і яны селі на канапу, а Наташка ўціснулася між імі і стала сачыць, хто ж хутчэй управіцца з яблыкам. І калі Раман управіўся са сваім, яна саскочыла на падлогу, дацягнулася да талеркі на стале і падала яму другі.

«Ах, Наташка, Наташка, была б ты маёй...» — падумаў ён і падхапіў яе, пасадзіў сабе на калені. Дзіўнае адчуванне працяло яго: які б ён быў шчаслівы, калі б гэтае дзеўчанё палюбіла яго.

— Скажы, Наташа, я харошы? — спытаў ён.

Дзяўчынка вельмі ўважліва паглядзела яму ў твар і адказала:

— Харошы. — І дадала. — Еш, а потым пагуляем.

— Наташа, кажы «вы»,— строга вымавіла Валя.

— Не абавязкова. Так нам будзе лепш,— кінуў Раман Валі і шапнуў Наташы на вуха: — Гавары «ты»: мама ўжо дазволіла.

Валя паківала галавой — ён адно ўсміхнуўся ў адказ.

Наташка ўжо не адступала ад яго. А яму было ў радасць забаўляцца з ёю. Пагушкаў яе, паставіўшы на свае ногі, потым ганялі па падлозе адзін аднаму цераз увесь пакой мяч, потым яму, Раману, уздумалася змераць рост Наташкі і зрабіць адмеціну на сценцы. І каб неяк супакоіць іх, Валя ўключыла тэлевізар. Глядзелі яны ўсё: і мультфільм пра зайцоў, і перадачу пра лётчыкаў, і канцэрт. Тым часам сцямнела, і Валя, якая то падсаджвалася да іх, то адыходзіла, запрасіла іх да стала. Тры шклянкі чаю ўбачыў Раман на стале — не, Валя, мусіць, была не супроць, каб ён яшчэ пабыў у іх.

За чаем яна сказала:

— Ты нічога не гаворыш. Як табе дома гуляецца?

— А нічога. Не ўсё ў ажуры... ды не варта перабіраць. Што чалавек, то розум.

— Не разумею.

— Зразумела б, але, кажу, не варта... Іншым разам.

Яму, сапраўды, зусім не хацелася гаварыць ёй ні пра Генку, ні пра сустрэчы з Андрэем і Сяргеем, ні пра размову з маці. Вярталася да яго нешта ад даўніх адчуванняў, калі сустрэча з Валяй была найгалоўнай падзеяй у яго жыцці. Далёка не тыя адчуванні поўнілі душу, але з ёю было яму сёння так спакойна і добра, як толькі калісьці мог

ён марыць. Бадай мала што змусіла б яго ахвяраваць хоць хвілінай гэтага настрою.

Наташка выпіла ўсяго паўшклянкі, сядзела, моршчылася і нарэшце сказала:

— Спаць хачу.

— Ага, дачушка... Дурэла ты сёння, як ніколі. Ну, пойдзем.

Валя ўстала з-за стала. Раман, адчуўшы сябе няёмка, тут жа сказаў:

— Мне ў цябе сёння, як дома. Але час і ўспомніць, што госць.

— Я яшчэ буду глядзець фільм. Калі хочаш, заставайся, паглядзіш,— сказала Валя і панесла Наташку ў спальню.

Ён яшчэ наўздагон спытаў, які фільм, і Валя адказала, што «Дні кахання», але яму было ўсё роўна, які фільм: ён рады быў, што не трэба пакідаць яе, выходзіць у цемень, быць на адзіноце.

І здалося яму, што Валі таксама не хацелася заставацца адной, хоць нічым не выдала яна гэтага.

Яна адразу зірнула на гадзіннік, калі выйшла са спальні, і сказала:

— Уключай. Вось-вось пачнецца фільм.

Яна хутка прыбрала са стала і, выключыўшы святло, таксама падсела да тэлевізара.

Раскручвалася на экране гісторыя кахання італьянскіх хлопца і дзяўчыны, сумная і вясёлая гісторыя. Раман бачыў гэты фільм, ведаў наперад кожны кадр і, паглядаючы на экран, сачыў, як рэагуе на падзеі Валя. Яна смяялася куды меней, чым можна было. Ці нешта ўспамінала сваё, ці другі раз глядзела фільм? Ён спытаў, ці бачыла ўжо фільм.

— Не. У нас ішоў, але я...— і змоўкла, не дагаварыла.

Ён зразумеў, што ёй адной назвы фільма хапіла, каб не пайсці ў кіно. І падумаў, што, значыць, тыя перажыванні мінаюцца, калі згадзілася глядзець фільм разам з ім. Ды нешта ўсё ж такі журботнае выклікаў фільм у душы яе, бо як толькі закончыўся, яна адышла да акна, сцішаная, углядалася ў цемру.

Ён не выключыў тэлевізар, адно паменшыў гучнасць і падышоў, стаў побач з Валяй.

Што яна магла бачыць там, за акном? Вісеў на фіялетавым полагу тонкі сярпок месяца, чорная, ірваная аблачына наплыла на яго, пасвятлела, пажаўцела і зноў чорнай паплыла далей.

Раман зазірнуў у Валін твар, але яна як не заўважыла гэтага, маўчала.

— Ты што, Валя? — вымавіў ён. Яна не азвалася, і, поўны жалю да яе, ён загаварыў бязладна, у шчырым жаданні яе суцешыць: — Усё, як быццам, што трэба... Чаго ж там?.. Весялей трэба... Я вунь, калі хочаш, зайздрошчу табе... Такую дачку маеш!

— Яна падабаецца табе? — Валя павярнулася да яго.

— А то не... Хіба не бачыш?.. Цудоўнае дзяўчо!..

Валя зноў павярнула твар да акна. Яна маўчала, і вочы яе блішчалі — ці не слёзы то набеглі?

— Дык што ты, Валя?.. Чуеш?.. — Ён асцярожна правёў пальцамі па яе шчацэ, потым у абедзве далоні ўзяў яе твар, прыхінуў бліжка да свайго.

— Ты пакінь усё такое... Будзе яшчэ ў цябе парадак! Не трэба думаць... Чуеш?— І прыхінуў яе твар да свайго так, што вуснамі крануўся яе вуснаў. Валя неяк сутаргава ўздыхнула, і ён абняў яе, прытуліў усю да сябе, прашаптаў ёй на вуха: — Сама ты яшчэ малое дзі-

цянё.— І знайшоў яе вусны сваімі і цалаваў, пакуль яна не разняла яго рукі.

— Дзівак ты, Раман...— з горыччу сказала яна.— Дзівак...

— Чаму?

— Хіба ты мяне яшчэ кахаеш?

Ён не сумняваўся, што кахае, але толькі і сказаў:

— Сам не ведаю... Не магу разабрацца...

— І я ў табе не магу разабрацца. Цяпер ты харошы... Ну, добра. Позна ўжо, я не хачу ўключаць святло. Ты як-небудзь апраніся... Правяду цябе да весніц.

Ён надзеў плашч, Валя выключыла тэлевізар і выйшла з ім на вуліцу. Працягнула яму руку.

— Калі да вас прыйсці? — спытаў ён.

— Да нас? — ёй спадабалася, што ён так сказаў, яна ўсміхнулася. — Да нас — калі захочаш.

— Ну, добрай ночы.

— І табе.

Валя адступіла да весніц, ён яшчэ затрымаўся, паслухаў яе крокі і пайшоў. І даў волю роздуму, вызначаючы межы таго, што змянілася ў ім за гэты вечар.

## 17

Рака яшчэ не ўвайшла ў свае берагі. Левы, больш высокі, там-сям паказваўся з вады, а правага нідзе не было відаць і знаку. Правы бераг — лугавы. Ускрай поплаву, пры агародах, ужо падсыхаў на сонцы, ледзь зеляніўся леташняй травой, а тая яго прастора, дзе да позняй восені пасвіліся каровы, скрозь хавалася пад вадою. Час ад часу з поўдня налятаў вецер, рабаціў гэтую роўнядзь, гнаў невысокія хвалькі ўпоперак плыні — яны нячутна біліся ў борт лодкі.

Генка веславаў, пазіраў на ваду, на Таню, якая выдатна адчувала сябе ў ролі пасажыркі.

Гэта яна прапанавала пакатацца на лодцы: калі яшчэ будзе столькі вады, як не вясной? І радавалася, як малая. Апускала руку за борт, глядзела, як бруіцца вада між пальцаў, потым хукала на пачырванелыя далоні, смяялася. А раптам брала ў рукі фотаапарат і шчоўкала кадр за кадрам. Здымала і мост, і вуліцы мястэчка, і старыя, пахілыя вербы. Генка пасмейваўся: што там у яе атрымаецца?

Так вось, весела, прабягалі дзень за днём вясновыя канікулы. Таня яшчэ ў першы дзень сказала, што канікулы павінны пакінуць аб сабе самую добрую памяць — бо гэта ж апошнія школьныя ў іх жыцці. І прайшліся ўжо шашой у лес, адбілі кіламетраў пятнаццаць. І з'ездзілі ў горад — разам з Ігарам. Думалі толькі ў тэатр наведацца, але, як выйшлі адтуль, Ігар сказаў, што «Дзень цудоўных падманаў» выклікаў у яго жаданне пабыць у цырку, і настояў на сваім. Пасля цырка паглядзелі і фільм. Натаміліся, а назаўтра смяяліся самі з сябе: трэба ж было мець ахвоту на такі вінегрэт?

Увогуле яго, Генкі, настрой быў поўны штодня рэзкіх перападаў. Было яму хораша, пакуль побач была Таня. А расставаўся з ёю — і вярталіся да яго самота, неспакой. Раман апошнія дні пахмуры і маўклівы. Маці перажывае, не ведае, як падступіцца да яго. Больш за ўсё баіцца пачуць ад Рамана, што надумаў ён ехаць у Вугальск...

— Давай спынімся,— прапанавала Таня.

Генка падплыў да маладой бярозкі з тонкім бела-карычневым камлём. І Таня ўзялася рукой за камель — яны нібы сталі на якар.

Агледзеліся. Воддаль было мястэчка, і не блізка чарнелі абшары палёў. Мора вады абкружала іх. Яно было люстрам і белым аблокам і сонцу — усяму небу.

Чамусьці маўчалі.

— А цяпер давай я павяслую,— сказала Таня. Яна села на яго месца, а ён стаў кіраваць лодкай. Павярнуў яе назад, да мястэчка. І хоць лодка ішла па плыні, Таня скора змарылася. І тады яны зноў памяняліся месцамі.

Узяўся Генка за вёслы, і лодка пашыбавала вясялей. Вадзяныя віхры знікалі ля бартоў, ледзь выбіраў ён вёслы, і тут жа заставаліся далёка ззаду.

Таня не брала ў рукі рулявое вясло. Генка працаваў з тым спрытам, які не даваў лодцы адхіліцца ад узятага напрамку. Ён толькі зрэдку пaглядаў наперад.

Нечаканая думка ўразіла яго. Гады два назад яны з Ігарам не ўмелі так упраўляцца з лодкай. Калі ніхто не браўся кіраваць, то лодка гойсала ад берага да берага, а то і наогул круцілася на адным месцы. А вось так і ў жыцці... Адны ўмеюць выбраць напрамак і трымацца яго без віхляння, а іншыя, як нявопытны вясляр, будуць круціцца на месцы, матляцца з боку ў бок, трапляць на мель. І сярод такіх — няўмелых весляроў — Раман. Яму патрэбны рулявы. Сам, адзін, ён заблудзіўся, можна лічыць, сеў на мель.

А хто яму стане рулявым, калі нікога не хоча ён прызнаваць? Ці знойдзецца такі чалавек?

Задумаўся Генка... А Таня, якая пазірала наперад, па ходу лодкі, неяк імгненна павярнулася да яго, усклікнула:

— Хораша як, праўда?

Бровы яе ўзняліся, прагнуліся, нібы трымцелі, блішчалі шырока раскрытыя вочы, а ўсмешка была яшчэ не поўнай, як бы пачаткам самай шчаслівай усмешкі — і стала згасаць.

— Табе ўжо надакучыла катацца? — спытала яна.

— Ды не, што ты! Хоць да вечара!

А яна ўглядалася: што ты ўтойваеш, чаго не хочаш сказаць? Не, калі ён думаў пра Рамана, то навошта, каб адчувала гэта яна?

— Потым, Таня... Ты падай мне апарацік.

Таня падала фотаапарат, і ён, нахіліўшыся над бортам, навёў на яе аб'ектыў. Яна сядзела, расшпіліўшы сваю лёгкую куртку, з амаль празрыстай капронавай хусцінкай на галаве, твар ужо быў спакойны, задуменны — і такую ён зняў. І, рассмяшыўшы яе ўспамінам пра паездку ў горад, зняў зноў. У яго то атрымаюцца здымкі, ён будзе даражыць імі, захавае назаўжды.

Неўзабаве лодка апынулася насупраць парку. Генка падагнаў яе да берага паблізу ад ліпавай алеі. Скочыў на зямлю, пабіў рукамі па штанах, абцягнуў світэр, прыгладзіў пяцярнёй валасы. За ім сышла на бераг і Таня.

Бераг быў ужо падсохлы, з жухлаю травою і чорным леташнім лісцем дзе-нідзе — многа лісця знесла вада. Старыя вербы стаялі побач. На тонкіх доўгіх галінках густа сядзелі шэра-залацістыя коцікі. Таня адламала галінку, правяла па сваёй, кранутай ружовасцю, шчацэ. А потым правяла гэтак жа і па яго, Генкавай шчацэ. І па яго вуснах. Халодныя, пяшчотна-аксамітныя былі коцікі. І Таня неяк збянтэжылася і павярнулася тварам да ракі. А ён адчуў, як забілася

сэрца, і не ўтрымаўся, абняў Таню, пацалаваў. Яна пачырванела, спалохана азірнулася.

— Не трэба. Пойдзем па алеі.

Яны пайшлі па алеі да цэнтра парку.

— Я ўсе гэтыя дні запомню... І праз дваццаць год буду помніць,— сказаў Генка.

— Праз дваццаць?— Таня ўзняла позірк на яго.

— І праз сорак! І табе не дам забыць.

Таня зразумела яго. Яны пра гэта гаварылі — што ўсё жыццё будуць разам.

— Праз сорак год,— усміхнулася Таня,— мы будзем сівенькія. І ты будзеш ужо вядомы ўрач. Я ведаю, ты будзеш харошы ўрач.

— Пабачым. А ў цябе будзе армія выпускнікоў.

— Ой, цяжка ўявіць усё!

Яны дайшлі да цэнтральнай алеі і раптам убачылі Рамана. Ён падыходзіў да іх, пазіраючы долу, і здзівіўся, падняўшы вочы.

— Вы... адкуль тут?

— Каталіся на лодцы,— адказаў Генка.

Таня зірнула на яго, і ён здагадаўся, што яна скажа Раману.

— А вы хочаце пакатацца? Пойдзем з намі.

— Дзе два, там трэці лішні... Ну, я жартую. А па праўдзе, няма мне часу. Было многа, а цяпер вось няма.

Раман неяк дзіўна пазіраў на іх. Нібы штосьці ўспамінаў. І ўсміхаўся. З чаго?..

— Катайцеся, а я пайду. Трэба мне.

Ён махнуў ім рукой і пайшоў. Цяпер яго крокі былі чутны — ён спяшаўся.

— Куды ён? — вымавіў Генка. Падумалася яму самае непрыемнае: ці не збірацца ў дарогу пайшоў Раман?

Таня з журботаю зірнула на Генку. Яна ведала, што яго непакоіць.

— Пойдзем, Гена, адгонім лодку. На сёння хопіць. Праўда?

Яны вярнуліся да лодкі. Таня сама ўзялася павеславаць. Але Генка, сказаўшы, што доўга яна адна не павяслуе, прапанаваў веславаць удваіх — кожнаму па вяслу. І сеў побач з ёю.

Ап'янелы ад гайданкі на вадзе, вяртаўся Генка дамоў. Развітаўся з Таняй — і ў зусім невясёлым настроі скіраваў у завулак.

Яго ўжо не пакідала меркаванне, што Раман хадзіў па парку з думкамі пра свой ад'езд. Гнятліва зрабілася на душы... Было такое адчуванне, нібы Раман паехаў ужо, а яны зноў засталіся ўдваіх — ён, Генка, і маці. З чым? Замест усяго, чым мог парадаваць Раман, жаль да яго, такое нечаканае і ўжо звыклае пачуццё расчаравання... І сам Раман не лепшае будзе насіць у сабе. Прыкрасць, незадаволенасць ім, Генкам: «Не думаў, што ты такі... Запомні: у сваім доме сцены памагаюць...» Засталіся кожны пры сваім. Нічыя... Хіба нічыя? Адны страты. Толькі ў Рамана іх яшчэ больш...

Не маглі яны жыць душа ў душу, калі такія розныя...

Востра пасля чыстага рачнога паветра пачуў Генка ў хаце той пах, які прыносіла маці з бальніцы — пах лекаў.

Ён здзівіўся, убачыўшы маці. Яна стаяла ля акна ад вуліцы, у светлай летняй сукенцы, з маленькімі абцужкамі ў руцэ, і зірнула на яго з такой усмешкай, з якой паказала некалі тэлеграму ад Рамана. Што яе ўзрадавала? Так звыкла было бачыць штодзень невясёлы одум у яе вачах, а тут нібыта зноў вярнуўся той дзень. Ці проста

ўзрадавалася яму? Заўжды святлеў яе твар, калі прыходзіў дамоў. Але не так.

Яна спытала:

— Дзе ж ты гуляў, сынок?

— Каталіся на лодцы.

— Прагаладаўся?

— Не вельмі. Абцужкі ў цябе... Навошта?

— Падвойнікі пара вымаць, сынок.

— Давай я.

Генка ўзяў абцужкі і ўмомант выцягнуў цвікі, якімі ўвосень сам замацаваў раму. Потым лязом нажа правёў наўкол па паперы, якой былі заклеены пазы. Раму больш нішто не трымала, ён пацягнуў яе на сябе і зняў з падаконня. А маці прыняла ватную пракладку і на ўсю шырыню раскрыла акно. Подых свежага паветра гайдануў яе каштанавую з сівізной пасмачку. І маці адышла ад акна, села на крэсла.

— Што я табе скажу, Гена,— загаварыла яна.— Няхай бы ўжо на шчасце наша... Раман пайшоў да Валі. Хоча ажаніцца з ёю. Сказаць пайшоў.

Вось і навіна! Генка ўражана заміргаў. Хмыкнуў, радасна засмяяўся. Перапытаў:

— Сапраўды... жаніцца?

— Ты бачыў, думаў ён усё. І надумаў... Прыйшла я з работы, ён і сказаў. Любіць ён Валю. Памучыўся праз яе, але цяпер, можа, усё і добра будзе. Валя харошая...

Маці не дагаварыла, але Генка яе разумеў. Ажэніцца Раман — значыць, нікуды ўжо не паедзе. І Валя такі чалавек, каля яе хутчэй адумаецца Раман, не стане займацца тым, што толькі няславіць яго...

Генка ўсміхаўся... Валя з той маленькай яе дачкой будзе ім сваячкай. З Валяй ён пасябруе па-сапраўднаму. А Наташку яе будзе катаць на веласіпедзе... Тым летам правёз аднойчы, дык за зіму не раз малая пытала, ці скора зноў пакатае. Уволю!

А між тым, новая думка была невясёлай. Ён спытаў:

— А калі Валя... не захоча выходзіць замуж?

Ён нібы спалохаў яе сваім пытаннем:

— Хто ж ведае... Але Раман лічыць, што пойдзе Валя за яго. Думалася яму харошае.

## 18

Здавалася, тая вясна вярнулася.

Як многа падобнага было навокал. Пачатак красавіка, а стаяла такая цеплыня, што ў паліто чалавека ўжо не стрэць. І дзеці паўсюль гулялі ў «пікара», у «паляны», у лапту. Прычакалі пару на такія гульні.

Адступаць ад вырашанага Раман ужо не думаў. Яшчэ гадзіны дзве назад, блукаючы па парку, прыкідваў усе «за» і «супраць», а цяпер адчуваў сябе лёгка і вольна. Цяпер ён бачыў у сабе і таго дзевятнаццацігадовага юнака, што на край свету гатовы быў ісці за Валяй.

Каля стадыёна Раман міжволі прыпыніў крок. Плойма падлеткаў, хто як апранутыя, гуляла ў футбол. Заваладаў мячом ці не самы меншы з іх. Ён уюном выкручваў, гонячы мяч да варатара, цыбатага хлапчука, які ўжо захваляваўся, заскакаў. І пранёсся мяч міма ва-

ратара, пад перакладзінай, пераляцеў цераз паркан і ўпаў на брук. Мяч вярнулі на поле, і зноў там узвіўся пылок. Раман успомніў сябе на гэтым стадыёне, Валю, жаданую і чужую сярод гледачоў. Шчымлівы ўспамін... Будзе цяпер чым такія ўспаміны ўраўнаважыць. І ён зноў прыбавіў кроку. З усмешкай прыгадаў чутыя недзе словы: «Калі нясеш радасць чалавеку — паспяшайся».

Так, ён падумаў і за сябе, і за Валю... Яму без яе — цяжка жыць. А ёй хіба і векаваць у адзіноце? Ёй, хоць і дачку мае, яшчэ горш. Але гэта між іншым... Заўважыў у Валі штосьці больш значнае. Тую ўвагу, прыхільнасць, якой так неставала ў мінулым. Яна не старалася выдаць сваёй цікавасці да яго, але ж у тым уся і штука, што яна — не Паліна. Такая яна, але тым мацней і вабіць. Урэшце, калі б ведаў Валю столькі часу, як і Паліну, то невядома яшчэ, да каго хутчэй пацягнуўся б, але на Валіных вагах было самае галоўнае — яго каханне. Яно, як прыхоплены попелам жар, жыло ў ім доўгія гады, не пагасла. Убачыў Валю — і ўзгарэлася старое вогнішча. Не, больш не жадае ён чакаць, калі зноў яно прытухне, няхай гарыць, няхай светла будзе ад яго...

Шкада Паліны. Але не раздвоішся. Яна недзе тое-сёе ўжо зразумела, бо знарок стараўся не трапляць ёй на вочы. Пазней сам пагаворыць з ёю, скажа, як яно ўсё склалася. Пагаруе, пазлуецца, ды не прападзе, знойдзе некага, каму адна будзе дарагой. З яе спрытам у гаротніцах не застаюцца...

А добра было б прыйсці да Валі з кветкамі. Ды дзе іх узяць? Яшчэ і лісце на дрэвах не так скора акажацца. За вокнамі вунь тырчаць буйныя чырвоныя галоўкі, але, па ім, вазонныя кветкі — не кветкі. Што ж, заявіцца сам, малады, не сказаць каб непрыгожы — будзьце рады Галубовічу Раману Антонавічу.

Ён сышоў з тратуара, каб перайсці на другі бок вуліцы, але магутны гул змусіў яго прыпыніцца. З мястэчка ў горад ішлі адзін за адным тры «МАЗы». Ёмістыя кузавы, адкрытыя толькі ад задняга барта, былі запоўнены людзьмі. «Рабочыя... Другая змена»,— падумаў Раман, і зноў набег успамін, як сам ездзіў на работу на аўтазавод. Даўно, даўно тое было...

Ён сігануў цераз брук, бо насустрач неслася «Волга», і ўбачыў, што з купкі дзяцей, якія гулялі крыху наводдаль ад Валінага дома, аддзялілася малое, усё ў чырвоным. То была Наташка. Яна бегла да яго і ўчапілася сваімі ручкамі за яго руку.

— Дзядзя Рома, вы да нас?

— Да вас, Наташа. Мамка дома?

— Дома. Я вас завяду.

Яна і павяла яго і не адпусціла рукі ні на двары, ні ў сенцах, ні ў пакоі, калі ўжо стаяў перад Валяй. І толькі паспеў прывітацца, Наташка ўсклікнула:

— Мама, я ўжо нагулялася! Не пайду на вуліцу.

— Знайшла новую забаву? — усміхнулася Валя.— Праходзь, Раман. Я тут заканчваю.

На крэсле ля стала ляжала ладная купка ўжо адпрасаванага, а на стале квяцістая штора.

— Калі не прыйду, заўжды ты нешта робіш,— як бы з дакорам прагаварыў Раман.

— Нас мала, работы многа,— сказала Валя весела.

Ён прайшоў, сеў на канапу. Наташка тулілася да яго, шчабятала сваё, і ён нешта адказваў ёй, а тым часам пазіраў на Валю. Яна то нахілялася над сталом, адводзячы ад сябе прас, то выпросталася,

падцягвала штору, і зноў туды-сюды хадзіла рука, і ў рухах яе, у нахіле галавы было ўсё знаёмае, звыклае, хоць упершыню застаў яе за такім заняткам — звыклае праз маці, праз іншых жанчын, якіх бачыў за прасаваннем. Але ён залюбавана сачыў за ёю і думаў, што век у кожнай сваёй праяве будзе яна ў радасць яму, нічым не надакучыць. Гэта самае найпершае для жыцця — каб чалавек не дакучаў, каб можна было заўжды з замілаванасцю глянуць на яго. З Валяй у яго будзе так. І гэтае малое, што сядзела ў яго на каленях, будзе мілае яму, і ён падумаў, што запіша Наташку на сваё прозвішча і ў крыўду ніколі не дасць.

Не ведалі яны ні адна, ні другая, з чым ён прыйшоў... Між тым, Валя заўважыла яго ўзрушанасць.

— Ты сёння маўклівы, Раман. Чаму?

Не хацеў ён кідацца драбязой перад тым, што меў сказаць. А сказаць — яшчэ не хвіліна: няхай усё збяжыцца на больш урачысты момант.

— Маўчанне, Валя, золата,— усміхнуўся ён.

— А чаго ты так глядзіш?

Яна збянтэжылася пад яго позіркам, нават перастала прасаваць, з разгубленай усмешкай чакала нейкага слова. Потым зразумела, што ён любаваўся ёю, павяла брывом: што з табой зробіш, глядзі сабе...

Была яна ў простай дамашняй сукенцы, у басаножках. Проста зачасала назад валасы, а лепшай прычоскі, здавалася, і не прыдумаеш. Твар яе ўвесь быў адкрыты, і не знаходзіў Раман у ім ніводнай рысы, што не падабалася б яму. А блакітная жылка на пераноссі выклікала жаданне прытуліць Валю, як Наташку, даць адчуць, што яна не адна, і тым змыць горыч, што таілася ў яе чыстых, разумных вачах. Што ж, так і будзе...

Ён спытаў, што ў яе новага, і Валя пасмяялася: кожны раз, калі прыходзіў, чула гэтыя словы. Усё па-старому, адказала, працуе, Наташку гадуе, рада пагодзе: памытае сохне хутка. І з жаданнем паставіць яго ў яе ж становішча спытала, што новага мае сам.

— Ёсць, Валя,— адказаў ён.— Праўда, не зусім новае.

— Хваліся тады!

— Пачакаем крыху.

Валя кончыла прасаваць, сабрала ўсё, паклала ў шафу. Зайшла ў спальню, і тады ён сказаў Наташцы:

— Ты бяжы пагуляй на двары. Добра? Мне з тваёй мамай трэба пагаварыць. Я цябе скора паклічу.

— Добра,— кіўнула галавой Наташка.— Я на вуліцу не пайду. Я буду на двары чакаць.

І яна хуценька патэпала, азіраючыся на яго.

Валя выйшла са спальні, здзівілася:

— Куды яна пайшла?

— На двары пагуляе.

Яна ступіла да акна, убачыла Наташку.

— На вуліцу не ідзі! — загадала ёй.

І, сеўшы на крэсла ля стала, сказала:

— На вуліцы дазваляю гуляць толькі з большымі дзяўчынкамі. Машын многа...

— Правільна,— Раман устаў, не мог ужо сядзець, прыхоўваючы хваляванне, прайшоў, глянуў у люстра на сябе, стройнага, у светлашэрым касцюме, і павярнуўся да Валі.— Вось маё новае і старое,

Валя. Хачу табе сказаць... Самым сур'ёзным чынам. Выходзь за мяне замуж.

Яна пазірала на яго і маўчала. Нібы зусім не здзівілася яго словам. Усміхнулася — слаба, як думцы сваёй.

— Паўтарыць, Валя?

— Што ты, Рома... Не трэба.

Ён падышоў, узяў яе руку ў свае.

— Ну, скажы, што згодна. Чуеш? І ніякіх слоў.

— Не магу,— ціха сказала Валя.

— Чаму? — у яго голасе ўсё яшчэ чулася весялосць.

Валя вызваліла руку.

— Сядзь, Рома.

Ён сеў на крэсла супроць яе, так блізка, што каленямі ледзь не кранаў яе калені. Усміхаўся.

— Што ты, Валя, надумала палохаць мяне?

— Спалохала?

— А як? Сапраўды.

— Ты апошнія дні быў такі... Я і не чакала, і чакала, што гэта скажаш...— Валя ў нейкім пакутлівым роздуме апусціла вочы.

— Дык што думаць? Хіба ты мяне не ведаеш?

— Ведаю,— з горыччу прагаварыла яна.

— Можа... боязна за Наташку? Дарэмна. Крыўдзіць век не стану. Павер. Не думай нават. Будзе мне дачкой.

— Ці надоўга, Рома?

Валя глянула яму ў вочы так, што ў яго схаладнела ўсё ў грудзях: цяжка будзе пераканаць... Ну, што ёй сказаць?

— Паслухай, Валя... Я наогул не магу крыўдзіць людзей. Бязлітасны толькі да ворага. А ты і Наташка... Вы мне будзеце адно... Я не ўмею прытварацца. Як не люблю, то не люблю. Няўжо ты не бачыш, як мы з Наташкай? Ужо — свае!.. А далей бы — і не разлучыць нас!

— Хацела б я, каб так было. Ёсць у табе харошае, Рома. Ды гэта яшчэ не ўсё...

Валя ўстала, адышла, прыхілілася да шафы, заклаўшы рукі за спіну. Нявесела глядзела ў акно.

Раман сцяў вусны... Зноў тое, што і сем год назад? Зноў яна хутчэй пакахае якога вытанчанага піжона, чымсьці яго...

— Валя,— стрымліваючы сябе, загаварыў ён.— Няўжо ўсё па-ранейшаму? Нехта новы, хто не знаў, не ведаў цябе, паявіцца і стане табе даражэй, бліжэй? Няўжо я ніякай цаны для цябе не маю?

— Я не скажу, што ты мне не падабаешся,— ціха адказала яна.— Я магла б выйсці за цябе замуж, дазволіла б сабе гэта... Я ведаю, сябе... за харошае магла б моцна пакахаць. Але... Я баюся, што ўсё паўторыцца. І толькі... А што потым? Як мне жыць?

Яму стала лягчэй. Усміхнуўся.

— Разумею. Не хочаш рызыкаваць... Але ж ён адно, а я другое. Я цябе ніколі не пакінуў бы...

— Гэта словы... А слоў мне мала, Раман.

— А што да іх трэба? Што? Калі чаго і няма, то... Усё, Валя, нажыўное. Руку прыклаў — і будзеш мець.

— Што ж ты тады... не нажыў да гэтага часу? — Валя сумна зірнула на яго.

Ён няўцямна паціснуў плячыма.

— Не даходзіць... Ясней кажы.

— Мусіць, трэба... Прабач, успомню Віталія...— Валя зморшчыла лоб, неяк пакутліва перасмыкнуўся яе твар і зноў стаў спакойны.—

Спачатку я верыла кожнаму яго слову. Ці гаварыў ён пра сваю любоў да музыкі, ці пра пачуцці да мяне. Потым, калі выйшла замуж, стала заўважаць, што не ўсё сыходзіцца з яго словамі. Убачыла, чым яго вабіла работа ў Доме культуры. Ён страшэнна баяўся якой другой. Бо гэта давала яму магчымасць жыць вольна, бесклапотна. Захоча — пойдзе пакруціцца ў клубе, не захоча — не пойдзе. Пацягаць баян на рэпетыцыях яму было як забава, а аклад ёсць. А яшчэ запрашалі яго іграць і школа, і тэхнікум, і завод — зноў там аклад, там паўаклада. Так і жыў, пасмейваўся. Калі ад яго патрабавалі лепшай работы, ён проста звальняўся, бо ведаў, што яшчэ недзе прымуць. Заяўляўся ў які бліжэйшы калгас і з важным выглядам гаварыў, што шукае новыя таленты. Прымуць кіраўніком самадзейнасці. Тры-чатыры месяцы плацяць, спадзеючыся, што наладзіць самадзейнасць, а потым гоняць... З гэтага боку ён мне скора адкрыўся. Але думала, што мною ён даражыць. Ніколі не чула ад яго грубага слова: усё Валечка, Валечка... Да апошняга дня. І раптам пайшоў жыць да другой. Я была як апантаная... Адкуль, што? Зразумела ўсё пазней. Святога ў яго адносінах да людзей, да работы, нават да музыкі не было ніколі. Прырода надзяліла яго нейкімі здольнасцямі, ён убачыў, што гэты конік вывезе, і выязджае на ім. Спажывец, умее толькі браць... Так і са мной. Ці ж будзе ў яго адданасць аднаму чалавеку? Пайшоў ад мяне, ад Наташкі. І хіба яго гэта мучыла? Мучыць сумленне. А было яно ў яго?..

Валя на імгненне замоўкла, і Раман тут жа сказаў:

— Навошта, Валя, успамінаць тое? Калі ён не мае сумлення, то не значыць, што і я...

— Я адчуваю, што ты цяпер шчыры. Але ведаеш... Сёння так, а заўтра...

— Чаму? Не раўняй мяне з ім!

— Не раўняй... Хочаш, крыўдзіся, ды я скажу. Я не бачу вельмі вялікай розніцы між тваім жыццём і яго. Пры іншых абставінах, пазнаёміўшыся, вы сталі б прыяцелямі. У вас адзін падыход да жыцця. Ты ад сябе патрабуеш не больш, чым ён. Вось чаго, Рома, не нажыў ты за час сваіх вандраванняў. Я не знаходжу ў табе... як тут сказаць... той сталай сур'ёзнасці, якая дазволіла б мне моцна паверыць табе. Раз апяклася, больш не хачу.

— Паклясціся, што са мной усё інакш будзе? Вандраваў я па свеце праз цябе. Ты гэта ведаеш. Хіба не мог я даўным-даўно жаніцца? Ты адна ў душы ўсе гады была і ёсць. Што яшчэ сур'ёзней? Тваё слова было б мне законам. Я кроку ад цябе не ступіў бы, усё аддаў бы, каб ты шчаслівая была. Павер, што гэта так!

— Ох, Раман...— Валя з горыччу паківала галавой.— Ты сябе яшчэ не знайшоў, а хочаш зрабіць мяне шчаслівай.

Яна так і стаяла, прыхінуўшыся плячыма да шафы, з рукамі за спіной. Спакойна-самотна пазірала на яго. Нічым нельга было яе пераканаць. І крыўда за ўсе даўнія пакуты, за гэтае халоднае няве'ре ўзгарэлася ў ім. Усё. Больш не скажа ён ні слова за сябе. Такую яе не праб'еш ніякімі довадамі, і не прабіваць ён ішоў.

Ён закурыў. Узняў вочы на Валю, згадаў, што не спытаў дазволу. Устаў з крэсла.

— Бадай, пайду... каб не дыміць тут.

Валя пазірала на яго.

— Куры, куры.... Што там. Няважна.

Ён зрабіў крок і тут жа спыніўся.

— Бязлітасны ты чалавек, Валя. Біла і б'еш.

— Магчыма, я жорсткая, Раман. Але ты і сам сябе караеш. Я цябе

ўспамінала. Не спадзявалася такога ўбачыць. Такога я баюся. Цяпер усё залежыць ад цябе. Пазбавіш мяне ад гэтай боязі, тады... лепшае скажу. Зразумей мяне.

Нешта такое прагучала ў яе голасе, што ў іншы момант яго працяў бы жаль да яе.

— Так, Валя... Што ж... Бывай.

Ён хутка выйшаў з хаты, але толькі саступіў з ганка, Наташка кінулася да яго.

— Дядзя Рома, вы ўжо дамоў?

Ён застыў перад ёю. Сінія вачаняты здзіўлена і сумна пазіралі на яго, шукалі ўсмешкі. Ён сцяў вусны — баяўся свайго голасу. Падняў малую, пацалаваў, апусціў на ногі.

— Калі вы прыйдзеце да нас? — Наташка ўчапілася за яго палец.

— Не ведаю...

— А заўтра?

«Мо і прыйду... развітацца»,— мільганула думка.

— Добра, Наташка... Я цябе не забуду.

Ён затрымаў далонь на яе галоўцы. І пачуў крокі. Валя з накінутай на плечы пушыстай белай хусткай падышла да іх.

— Бяжы ў хату, дачушка. Халадае.

— Я правяду дзядзю Рому... Да вуліцы.

Яны пайшлі побач: Наташка з аднаго боку, Валя з другога. Ля форткі ён спыніўся.

— Ну, бывайце.

— Не злуйся, Раман,— ціха сказала Валя.— Усё яшчэ наперадзе. Калі пажадаеш...

Ён кіўнуў злёгку — як бы сказаў, што ўсё ясна, зразумела, што яшчэ гаварыць... І апошні раз узняў вочы на Валю. Мілы, бялявы твар, адзіныя ў свеце вочы — цеплыня і жалоба ў іх... І незалежнасць ва ўсёй яе паставе, у тым, як трымала за плечы Наташку, сваё дзіця...

Ён пайшоў. Крок, другі... дзесяты. І пачуў стук весніц.

Ён нейкі час ішоў краем бруку. Пранеслася міма, абдаючы хваляй бензінавага перагару, некалькі машын. Ён перайшоў на тратуар.

Хацелася да некага, хто б зразумеў, пашкадаваў. Зноў адчуў сябе дзіцем, якое ў крыўдзе на матку шукае спагады ў бацькі і, пакрыўджанае бацькам, бяжыць па ласку да маці.

А да каго яшчэ пойдзеш? Усіх абышоў у пошуках спагады. Так і адбываў дні ў мястэчку — кідаўся ад аднаго да другога... Хопіць. Новага круга не будзе.

«Дарэмна ехаў... Дарэмна».

Сонца апусцілася ўжо за дахі. І з кожнага прагалу між дамоў біла ў вочы сляпучай яркасцю. Нібы пацяшалася. Яму, сонцу, усё ні па чым...

Насустрач ішлі людзі, следам ішлі людзі. Голас ззаду:

«Ох і рубану я, хлопцы!» Абагнаў яго гурт, усе ў сінім... Хлопцы з вучылішча, спяшаюцца на вячэру... Ідуць насустрач дзве дзяўчыны, сакочуць нешта сваё. Расступіліся, як перад слупом... Нікому няма да яго справы...

Перакінуўся ў думках у Вугальск. Лёгка чуў сябе ў той цаглянай хароміне. Зачакаўся недзе Ганчарэнка. Узрадуецца...

І сціснуліся яго кулакі... Валя і... Ганчарэнка. Валя і... маленькія вочы, непаваротлівае тулава, ліслівасць і насліненыя пальцы, што адлічваюць траячкі. Быў нібы чалавек, а супроць Валі бачыш яго пачварай. І спагада Ганчарэнкі — за яго, Раманавы, рукі. А інакш і нанач

не пусціў бы. Ехаць да яго? Не бачыў Валю чатыры гады — жыў у Ганчарэнкі. А якое жыццё там будзе цяпер?..

Ён крочыў паўз стадыён. Лёталі па полі, ганялі мяч нястомныя хлапчукі.

Збочыў у сквер. Пустых лавак яшчэ многа. Прамінуў некалькі, сеў спіной да стадыёна. А ўсё-такі было ў яго такое прадчуванне. Было, было такое, што з Валяй ладу не знойдзе, але гнаў яго ад сябе, не верыў яму. Адкуль узялося? Яны пасялілі ў душы гэтае прадчуванне, хлопцы, сама Валя... На чым ён зубы ломіць, ім тое не арэшак. Колькі ж яшчэ болю яму знаць? І праз каго? Праз сябе—так лічыць Валя...

Успомніў, што маці чакае. Мо і Генка. Не парадуе іх... І наогул, нікога не парадаваў. Паліну? Адна супроць Генкі, маці, Валі, Андрэя, Сяргея... Думаў, яны прымуць, як бога. І з кожным — сутычка. Хлопцы трымаюцца так, быццам ён ім дарагі чалавек. Але ён усё памятае...

Штосьці зварухнулася ў ім... Каму быць у радасць? Шэфу? Не, лепш старым сябрам, Генку, маці, Валі. Ён заўжды хацеў іх радаваць сабой. То неяк трэба. Трэба, бо інакш сам сабе агоркнеш!..

Ці пройдзе праз лес умоў? Не, не адступіць, будзе рвацца наперад. Няхай не скора прарвецца праз гэты лес, але дойдзе да свайго... І, мусіць жа, Валя сапраўды скажа лепшае... Яна ніколі не кідалася словам...

Загарэліся на слупах ліхтары, калі Раман выйшаў са сквера. Гэтым часам закончыўся ў кінатэатры першы сеанс, і вясёлы людскі гоман стаяў над вуліцай.

Раман павярнуў на сваю вуліцу і раптам убачыў Генку. Той ішоў насустрач яму. Лёгкая ў Генкі хада... Мусіць, падрыхтаваўся віншаваць. Усміхаецца. І раптам знікае ўсмешка.

— Я цябе сустрэць...— неяк разгублена вымавіў Генка.

— Быў і вяртаюся халасцяком. Вось так, Гена...

Ідуць побач. Сумны Генка. Руціць яму штосьці спытаць. І зазірае ў твар.

— Ты што... і паедзеш, значыць? У Вугальск?

Паклаў яму руку на плячо.

— Застаюся з вамі, Генка... Неяк будзем жыць.

— Чаму неяк? — Голас Генкі зазвінеў.— Як захочам!

— Будзем думаць.



●●*Перапёлка*

Уладзімір ПРАВАСУД



●

Ёсць на Палессі вёска Палессе —
Скарбонка казак, легенд і песень.
Яна ад вятроў абгароджана борам,
Хмялееш адразу ў ёй ад чабору.

Ёсць на Палессі такая вёска,
Дзе выбягаюць насустрач бярозкі,
Дзе сосны гамоняць ля самай хаты,
Дзе песні да зорак кідаюць дзяўчаты.

Ёсць на Палессі вёска такая —
Мясціна майго дарагога краю.
Калі ад'язджаеш адтуль, здаецца,
Што там пакідаеш часцінку сэрца.

●●

Перапёлка мая, перапёлка,
Раскажы, раскажы мне толькі,
Чым табе палюбілася поле,
Што нікуды не хочаш ты болей,
Чым цябе яно так паланіла?—
Раскажы, мая мілая.

— Палюбіла за тое поле,
Што для песень там шыр-раздолле.
Нарадзілася тут я на волі,
Не хачу я нікуды болей:
Я навекі зраднілася з полем.

Перапёлка мая, перапёлка,
Раскажы,
Раскажы мне толькі,
З-за чаго, з-за чаго твае песні
Любяць летам, парою весняй
І адкуль ў іх такая сіла?—
Раскажы, мая мілая.

— Я сваю толькі песню спяваю.
Тая песня над полем лунае.
А яна — ад зары-зараніцы
Ад зямлі, ад жытоў, ад пшаніцы:
Мо таму яна й сілу мае.

*ДЗВЕСЦЕ ГАДОЎ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ІВАНА АНДРЭЕВІЧА КРЫЛОВА.*



# ГОНАР І СЛАВА РУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

*«Мне чин один лишь лестен был...*
*Чин человека...»*

*І. А. КРЫЛОЎ.*

Есць літаратурныя з'явы, вартасць якіх вымяраецца сусветным эталонам. Да іх належыць творчасць вялікага рускага пісьменніка, аднаго з за-

снавальнікаў рэалізму, Івана Андрэевіча Крылова. Яго байкі — гэта крыніца народнай мудрасці, сведчанне таго, каму павінна служыць сапраўднае мастацтва. Па словах Бялінскага, у байках Крылова, «як у чыстым, паліраваным люстэрку, адбіваецца рускі практычны розум з яго ўяўнай няўвішнасцю, але і з вострымі зубамі, што балюча кусаюцца; з яго кемлівасцю, дасціпнасцю і дабрадушна-саркастычнай кплівасцю; з яго прыроднай праўдзівасцю погляду на рэчы і здольнасцю сцісла, выразна і разам з тым кучарава выказвацца».

Нарадзіўся Крылоў у 1769 годзе ў сям'і беднага армейскага афіцэра. Калі хлопчыку мінула адзінаццаць гадоў, ён вымушаны быў зарабляць сабе на хлеб, працуючы то судовым пісарам у Цвяры, то чыноўнікам казённай палаты ў Пецярбурзе.

Пачатак літаратурнай дзейнасці Крылова прыпадае на 1782 год, калі ім была напісана камедыя «Варажбітка» («Кофейница»). З таго часу звыш двух дзесяткаў гадоў пісьменнік спрабаваў свае сілы ў розных жанрах: у драматургіі (трагедыі «Клеапатра», «Філамела», камедыі «Модная лаўка», «Падшчыпа», «Урок дочкам» і іншых), паэзіі (пасланні, сатырычныя вершы), прозе (усходняя аповесць «Каіб», гутаркі), журналістыцы (супрацоўніцтва ў часопісах «Почта духов», «Зритель», «Санкт-Петербургский Меркурий»). Драматургія і сатырычная проза Крылова былі даволі арыгінальнай з'явай у рускай літаратуры канца XVIII стагоддзя. Развіваючы далей традыцыі крытычнай прозы Навікова, сатыр Кантэміра, пісьменнік ствараў стартавую пляцоўку рэалістычнаму напрамку ў рускай літаратуры пачатку XIX стагоддзя.

Сусветную славу прынеслі пісьменніку яго байкі. Да Крылова таксама пісаліся байкі. Гэтым найбольш дэмакратычным жанрам карысталіся Сумарокаў, Хемніцэр, Дзмітрыеў. Але для іх байка была толькі лёгкай салоннай навелай з элементамі дыдактызму. Крылоў жа здолеў удыхнуць рэалістычны змест у старадаўні жанр, надаў яму баявітасць, сацыяльную завостранасць, удасканаліў форму, дэмакратызаваў мастацкія сродкі. Мовай баек Крылова гаварыў прыгнечаны рускі народ пра сваю нядолю і крыўду, гора і цемру. Рускі байкапісец узбагаціў сусветныя традыцыі байкі Эзопа, Федра, Лесінга, наблізіўшы яе да канкрэтных патрэб часу, зрабіўшы з яе зброю ў барацьбе з сацыяльнай несправядлівасцю.

Вобразы баек Крылова — гэта вострая і з'едлівая сатыра на маральную нікчэмнасць, эгаізм, тупасць пануючых класаў, на самадзяржаўна-бюракратычны апарат, на самога дэспата-цара. «Эзопаўская мова» дазволіла аўтару выказаць незадаволенасць існуючым парадкам, асудзіць беззаконне моцных у байках «Леў і Барс», «Воўк і Ягнятка», «Сяляне і Рака», «Слон на ваяводстве». Перад нашымі вачыма выразна паўстае і бязлітасны Воўк, для якога Ягнятка вінаватае толькі таму, што ён хоча есці, і ваявода-Слон, гора-гуманіст, які дазволіў Ваўкам здзерці з Авечак толькі па адной шкурцы «к зіме на кажухі» але з умовай «болей не чапаць з іх нават валаска». Пазнавалі сябе ў байках Крылова і фанабэрыстыя вяльможы («Вяльможа»), і царскія суддзі («Шчупак»), і хапугі («Ліс і Сурок»), і лёкаі («Два Сабакі»).

Байкі Крылова памагалі рускаму народу ў цяжкія гады выпрабаванняў, узнімалі яго на барацьбу з іншаземнымі захопнікамі. Байку «Воўк на сабакарні» чытаў перад рускімі салдатамі апалены ў баях, стомлены, сівы Кутузаў. Чытаў і здымаў шапку перад талентам сапраўды народнага паэта, вялікага рускага патрыёта.

Некаторым крылоўскім байкам не хапала часам выразнай палітычнай акрэсленасці, зрэдку ў іх выказваліся думкі, далёкія ад перадавых ідэй,— у гэтым выявілася частковая абмежаванасць практычнай філасофіі пісьменніка. Але самае галоўнае ў тым, што на працягу ўсяго жыцця вялікі рускі

байкапісец заставаўся гуманістам, чалавекалюбцам, шукальнікам дабра і справядлівасці.

Светапогляд народу выразна выяўляецца ў творах Крылова праз мастацкія сродкі і мову, максімальна набліжаныя да фальклору. У казкі, у вуснага падання, у прыказкі і прымаўкі вучыўся дасціпнасці вялікі рускі байкапісец. Зліццё крылоўскага досціпу з фальклорным настолькі арганічнае, што часам цяжка сказаць, дзе крылоўскія, а дзе народныя выразы, выслоўі, думкі і персанажы.

Байкі Крылова — вельмі дынамічныя, экспрэсіўныя. Многія з іх уяўляюць сабой невялічкія драматычныя эцюды. Таму невыпадкова, што імі часта карыстаецца наша сучаснае кіно, асабліва для дзяцей. Па іх ствараюцца дасціпныя мультыплікацыйныя фільмы, якія маюць шматмільённага прыхільнага гледача. Да баек Крылова ўвесь час звяртаюцца нашы педагогі.

Крылоў наблізіў гучанне сваіх твораў да гутарковай мовы, раскаваў рытміку, пачаў карыстацца вольным ямбам, памерам, які ўзялі на ўзбраенне і многія савецкія байкапісцы.

Узнікненне і развіццё беларускай байкі, як і рускай, таксама звязана са станаўленнем крытычнага рэалізму. Францішак Багушэвіч, Альгерд Абуховіч, пазней Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч стварылі беларускую байку, якая несла ў сабе зарад дэмакратызму і змагалася з царызмам за сацыяльнае і нацыянальнае разняволенне. Але, нягледзячы на свае багатыя сатырычныя фальклорныя і пэўныя пісьмовыя традыцыі, усё ж, як адзначаюць даследчыкі, ля калыскі беларускай літаратурнай байкі стаяў Іван Андрэевіч Крылоў.

Імя геніяльнага байкапісца было вядома нават у самых далёкіх і глухіх кутках Беларусі. Яго байкі ахвотна чыталі, слухалі, вучылі на памяць людзі розных узростаў і пакаленняў.

Яшчэ ў 1891 годзе Францішак Багушэвіч у зборніку «Дудка беларуская» змясціў байку «Воўк і Авечка», а пазней у зборніку «Смык беларускі» — байку «Свіння і жалуды», створаную паводле сюжэта крылоўскай байкі «Свіння пад дубам».

Перакладалі крылоўскія байкі Альгерд Абуховіч, Адам Гурыновіч, Марыя Косіч, пазней Янка Купала, Якуб Колас, Кандрат Крапіва, Міхась Клімковіч, Алесь Якімовіч, Валянцін Таўлай, Максім Лужанін, Янка Брыль і іншыя. На творах Крылова яны вучыліся ашчаднасці народнага слова, трапнаму яго выкарыстанню, мудрай жыццёвай прастаце. Кожны, хто піша ў жанры сатыры, адчуў на сабе калі не прамы, то ўскосны ўплыў Крылова. Якуб Колас з гэтага поваду ў сваёй біяграфіі проста пісаў: «З літаратурных твораў мацней за ўсё зрабілі на мяне ўплыў байкі Крылова. Я іх любіў, амаль усе ведаў на памяць; самога Крылова я багатварыў і схіляўся перад ім, з прагнасцю чытаў пра яго. Пад уплывам Крылова я пачаў пісаць...» У пісьме да акадэміка Карскага Колас прызнаецца, што Крылоў доўгі час быў яго богам.

Бясспрэчна, што Кандрат Крапіва — наш беларускі Крылоў — таксама адчуваў на сабе плённы ўплыў геніяльнага байкапісца. Адчуваецца гэты ўплыў і ў творах сённяшніх беларускіх байкапісцаў Эдуарда Валасевіча, Сяргея Дзяргая, Уладзіміра Корбана і іншых.

Два стагоддзі — вялікі прамежак часу. Але гэты час не засланіў ад нас вялікага значэння творчасці Крылова. На яго байках вучыліся рэалістычнаму адлюстраванню жыцця ў свой час і будуць вучыцца ў часы наступныя новыя пакаленні майстроў мастацкага слова.

**Яўген АДАМОВІЧ,**
**Мікалай МІШЧАНЧУК.**



**Асабісты прыклад. Малюнак Мікалая ЖУКАВА.**

*Не магу ўявіць сабе іншага чалавека, які, стоячы так высока над людзьмі, умеў бы ўсцерагчыся ад спакусы любіць славу і не страціў бы жывой цікавасці да „простых людзей“.*

*Максім ГОРКІ.*

# ПУБЛІЦЫСТЫКА



- Уладзімір ТАРАНОВІЧ
- Валянцін ЖДАНОВІЧ
- Вадзім ЦІКАВЫ
- Дзмітры БУГАЁЎ
- Янка ШПАКОЎСКІ
- Уладзімір ЛАЎРОЎ
- Валянцін ГРЫЦКЕВІЧ
- Леанід ПОБАЛЬ
- Віктар МАРТЫНАЎ
- Арнольд МІХНЕВІЧ
- Сяргей ПАНІЗНІК
- Аляксей НІКАНЧЫКАЎ
- Аляксей СУЭЦІН

# СВЯТА МАЦІ-БЕЛАРУСІ

Фота В. Ждановіча




# УКАЗ
## ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР

### АБ УЗНАГАРОДЖАННІ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ ОРДЭНАМ КАСТРЫЧНІЦКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ

**За вялікія заслугі працоўных Беларускай ССР у рэвалюцыйным руху, у Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, у стварэнні і ўмацаванні першай у свеце сацыялістычнай шматнацыянальнай дзяржавы — Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, за мужнасць і гераізм, праяўленыя ў баях з ворагамі нашай Радзімы, і поспехі ў камуністычным будаўніцтве ўзнагародзіць БЕЛАРУСКУЮ САВЕЦКУЮ САЦЫЯЛІСТЫЧНУЮ РЭСПУБЛІКУ ордэнам КАСТРЫЧНІЦКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ.**

**Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. ПАДГОРНЫ.**

**Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. ГЕАРГАДЗЕ.**

Масква, Крэмль, 27 снежня 1968 г.

Вернасць ідэям Леніна, справе камунізма прадэманстраваў беларускі народ у дні слаўнага 50-годдзя БССР і Кампартыі Беларусі.

Свята пачалося задоўга да Новага года, калі ў Мінск пачалі прыязджаць госці з усіх саюзных рэспублік, з гарадоў-герояў. На ўрачыстасці прыбыў Генеральны сакратар ЦК КПСС таварыш Л. І. Брэжнеў.

Залаты юбілей Савецкай Беларусі і КПБ ператварыўся ў свята ўсіх народаў нашай Радзімы, у трыумф ленінскай нацыянальнай палітыкі. Гэтай думкай былі прасякнуты даклад першага сакратара ЦК КП Беларусі П. М. Машэрава, прамова Л. І. Брэжнева і выступленні кіраўнікоў дэлегацый усіх рэспублік на ўрачыстым пасяджэнні ЦК Кампартыі Беларусі і Вярхоўнага Савета Беларускай ССР 28 снежня 1968 года.

**«Усюды ў нашай краіне,—** сказаў Л. І. Брэжнеў,— **паважаюць і любяць беларускі народ, любяць за мужнасць і працавітасць, за вернасць рэвалюцыйным ідэалам, за адданасць справе камунізма».**

Невыказнай радасцю перапоўнілася сэрца кожнага беларуса, кожнага працоўнага нашага краю, калі Л. І. Брэжнеў прышпіліў да сцяга БССР ордэн Кастрычніцкай Рэвалюцыі як прызнанне вялікіх поспехаў рабочых, калгаснікаў і інтэлігенцыі рэспублікі, як вялікі давер народу і яго баявому авангарду — Камуністычнай партыі Беларусі.

Апафеоз юбілейных урачыстасцей надышоў 29 снежня, калі беларуская сталіца расцвіла чырванню сцягоў, пад якімі выйшаў на дэманстрацыю працоўны Мінск.

На трыбуны ўзняліся Генеральны сакратар ЦК КПСС Л. І. Брэжнеў, кіраўнікі партыі і ўрада Беларусі, кіраўнікі дэлегацый, што прыехалі на свята з усіх рэспублік нашай шматнацыянальнай Радзімы. У стройным, бездакорным маршы прайшлі войскі Мінскага гарнізона, узоры сённяшняй баявой тэхнікі Узброеных Сіл Краіны Саветаў.

А потым тэатралізаваным пралогам, у якім як бы ўзнавіўся ўвесь шлях гістарычных здзяйсненняў беларускага народа,— ад беднасці і галечы ў мінулым праз найцяжэйшыя выпрабаванні ваеннага ліхалецця да сённяшняй працоўнай славы,— пачалося святочнае шэсце мінчан.

Больш за тры гадзіны хвалявалася на Цэнтральнай плошчы людское мора, расквечанае сцягамі змагання і перамог, мора радасці і святла, вясёлых усмешак і гордых позіркаў. Усё, чым сёння багата Беларусь,— яе аўтамабільная, трактарная, радыёэлектронная, хімічная, нафтавая прамысловасць, высокаразвітая сельскагаспадарчая вытворчасць, сацыялістычная культура,— было адлюстравана ў яркім святочным убранні.

Народжаныя ў агні Кастрычніка Беларуская ССР і Камуністычная партыя Беларусі ўступілі ў другую палову свайго першага стагоддзя поўныя найглыбейшай удзячнасці народам-братам магутнай сям'і Краіны Саветаў за сённяшні свой росквіт.

**«Рабочы клас, калгаснае сялянства, інтэлігенцыя Савецкай Беларусі,—** зазначыў у сваім дакладзе П. М. Машэраў,— **будуць і далей заўсёды і ва ўсім прытрымлівацца ленінскіх прадвызначэнняў, высока трымаць усеперамагаючы сцяг марксізма-ленінізма, аддадуць увесь запал сваіх сэрцаў, усю сілу свайго розуму, усе свае здольнасці і энергію дасягненню запаветнай мэты — поўнай перамогі камунізма!»**



Салігорскія шахцёры — стваральнікі новай славы Беларусі.

Яны разам з рэспублікай крочаць ад самага дня яе нараджэння.



Маладым і ў мароз горача.





**Апафеоз святочнай урачыстасці: чырвона-зялёная вежа Крамля, збудаваная сілай, грацыяй і спрытам беларускіх спартсменаў.**



**Агні святочнага Мінска.**



● Уладзімір ТАРАНОВІЧ,
генерал-палкоўнік запасу

# СТАРОНКІ ЮНАЦТВА

Мінск — мая радзіма. Я рос у ім да пятнаццаці гадоў. За губернатарскім садам мы здымалі невялікую кватэру. Бацька мой служыў на Лібава-Роменскай чыгунцы тармазным кандуктарам на таварных цягніках. Здаралася, што ён не меў работы.

У рэвалюцыю 1905 года чыгуначнікі баставалі. Ад маці я даведаўся пазней, што ў бацькавым пашпарце быў штамп: «Занесены ў алфавіт Мінскага аддзялення Віленскага жандарскага ўпраўлення».

Нялёгкія гады бацькавага беспрацоўя супалі з маім дзяцінствам. Але я са старэйшым братам Мікалаем усё ж вучыўся ў Мінскай прыватнай гімназіі, дзе, апрача любімых прадметаў,— геаграфіі і матэматыкі,— даводзілася зубрыць латынь, грэчаскую мову і закон божы. Апошняе вельмі не задавальняла мяне. Таму зразумела, што кожную вольную хвіліну аддаваў я зялёным садам Мінска і рацэ Свіслачы...

Нехта сказаў, што «пошукі высакароднай справы складаюць частку непатрэбных падарожжаў юнацтва». Нешта такое здарылася і са мной, калі я прадаў свае падручнікі і ўпотайкі, «зайцам», паехаў з Мінска ў Лібаву. Там я паступіў юнгай на нарвежскі парусніх і паплыў у далёкія краіны. Гэта падзея знайшла водгук у мясцовай газеце ў аддзеле здарэнняў. Заметка пачыналася словамі: «знік хлапчук...» і канчалася: «хадзілі чуткі, што захацеў стаць маракам».

Калі карабель вяртаўся з вострава Ямайкі з грузам чырвонага дрэва для Рыгі, у праліве Катэгат з дацкага горада Гельсіньер прасігналілі, што ідзе вайна паміж Аўстра-Венгрыяй і Сербіяй, што ў Расіі аб'яўлена мабілізацыя і далей Капенгагена нам ісці нельга.

У лістападзе 1914 года я, нарэшце, здолеў вярнуцца ў Мінск. Гэта быў ранейшы горад майго дзяцінства: дамы з аканіцамі, таполі, каштаны...

Ішла вайна. Мінулі ўжо такія падзеі, як адступленне рускага войска з Усходняй Прусіі, разгром арміі Самсонава. У старую царскую армію я ўступіў добраахвотна. І пайшоў ваяваць не за «веру і цара», а, як і тысячы юнакоў, за Айчыну. За яе быў гатовы аддаць жыццё.

Разам з Мішам Казловым, сябрам дзяцінства, мы паехалі на Заходні фронт. У польскім горадзе Цэханове заўважылі многа коней. Мы палічылі, што тут павінна стаяць кавалерыйская часць. Як высветлілася, гэта была 8-ая батарэя 3-га дывізіёна 1-й палявой цяжкай артылерыйскай брыгады. Нас залічылі ў каманду разведчыкаў-назіральнікаў. Гэты выпадак на ўсё жыццё вызначыў маю прафесію. Я стаў артылерыстам.

У студзені 1915 года наш дывізіён накіравалі пад Ломжу, дзе разгортвалася нямецкае наступленне.

Мінуў год ваеннага жыцця. Войскі рускай арміі пакінулі Польшчу і частку Беларусі. За гэты час я прыняў першае баявое хрышчэнне і атрымаў першую баявую ўзнагароду — георгіеўскі медаль за храбрасць.

Пасля баёў каля Смаргоні восенню 1915 года нашай батарэі было загадана ісці праз Маладзечна, Мінск, Оршу да Віцебска, каб там здаць гаўбіцы ў ра-

монт. Калі наша батарэя спынілася на начлег у вёсцы на Віленскім тракце, я адпрасіўся на суткі дамоў, у Мінск.

Я доўга стукаўся ў дзверы нашай кватэры. Яны так і не адчыніліся. А суседка паведаміла мне: «Іх няма, сам паехаў цягнікам, а маці з дзецьмі эвакуіравалася ў Сімферопаль».

Я парашыў пераначаваць у бацькоў Мішы Казлова, якія жылі ва ўласным доме на Кладбішчанскай вуліцы. Ехаць мне не хацелася. Я вёў каня побач. Мой Шэсцік стаміўся і ціха цокаў па бруку, апусціўшы галаву. Я глядзеў на Мінск. Вечарам ён заўсёды прыгажэў. Вуліцы і дамы рабіліся меншыя, аціхалі. Пахла кветкамі.

Старыя Казловы жылі адны. Іх старэйшы сын закончыў юнкерскае вучылішча і ў чыне капітана служыў у 55-й артылерыйскай брыгадзе, якая знаходзілася на фронце. Да сябе ён перавёў і брата Мішу, таго самага, з якім нам не ўдалася кавалерыйская кар'ера. Старому Казлову патрэбен быў субяседнік. Ён з хваляваннем гаварыў аб нашых адступленнях, аб вайне да поўнай перамогі, аб петраградскіх бунтаўшчыках-рэвалюцыянерах, аб тым, што іх трэба вешаць.

Раніцай я дагнаў на маршы сваю батарэю. Каля Віцебска ў вёсцы Паўлавічы мы прастаялі тры месяцы. Да нас пачало прыбываць папаўненне. Галоўным чынам, маладыя рабочыя з Петраграда, якіх за гарачы характар пазбавілі «брані» і накіравалі ў дзеючую армію. Пачалі вяртацца з адпачынку і нашы салдаты. Батарэя жыла рознымі чуткамі і пераказамі. Гаварылі пра Распуціна, пра здраду ваеннага міністра Сухамлінава, пра царыцу-немку...

Нарэшце, нашы гарматы вярнуліся з рамонту. Камандзір дывізіёна наладзіў агляд. І мы накіраваліся на фронт. У сакавіку 1916 года батарэя прыняла ўдзел у наступленні паміж азёрамі Вішнеўскае і Нарач. Але яно было няўдалае. Салдаты, у большасці старыя, марылі пра дом, сям'ю. А афіцэры пераважна былі маладыя і рваліся да чыноў ды ўзнагарод. Гэта выклікала маральную няўстойлівасць войска. Але ўзнагароды былі і за гэта наступленне. Я атрымаў георгіеўскі крыж 4-й ступені. І зазначу, што ўзнагароды салдаты заслужылі сумленна.

Хутка з Заходняга фронту наш дывізіён перакінулі на Паўднёва-Заходні пад горад Чарнавіцы, дзе мы прынялі ўдзел у славутым Брусілаўскім прарыве. Я быў перадавым назіральнікам. І за ўдалую аперацыю атрымаў другі георгіеўскі крыж.

На каляды і Новы год я атрымаў дазвол зноў наведаць Мінск, які лічыўся франтавым горадам. Тут стаяў штаб Заходняга фронту. Было шмат вайскоўцаў, усюды гаварылі аб непаладках у Петраградзе. Пасля дзевяцідзённага адпачынку я вярнуўся ў сваю часць пад Тэрнопаль. Хутка нас пасадзілі на цягнік, і мы рушылі на фронт. У значных аперацыях на гэты раз мне не давялося ўдзельнічаць.

У канцы лютага наш дывізіён атрымаў загад выдзеліць групу афіцэраў і салдат на фармаванне артылерыі асобага прызначэння. У гэту каманду трапіў і я. Нас накіравалі ў горад Цвер, дзе размясцілі ў бараках непадалёк ад станцыі і тэкстыльнай фабрыкі Марозава. Яе пазней перайменавалі ў «Пралетарскую».

Мы пачалі хадзіць на фабрычныя сходы і мітынгі. На пачатку для палітычнай асветы лепшага і прыдумаць нельга было. Там жа, у Цвяры, быў абраны салдацкі камітэт дывізіёна. Да нас на ўкамплектаванне пачалі прыбываць салдаты, народ бывалы. На сходах пачалі гучаць новыя словы: буржуй, капіталіст, кулак. Салдаты ўжо адкрыта гаварылі: «Далоў вайну!» А на вуліцах Цвяры пачаліся дэманстрацыі супраць Часовага ўрада. І я са сваімі разведчыкамі ў лютым 1917 года ў калоне тэкстыльнай фабрыкі нёс плакат: «Далоў дзесяць міністраў-капіталістаў!» А між тым, нас настойліва рыхтавалі да адпраўкі на фронт.

Праз некалькі дзён мы атрымалі старыя французскія стодваццаціміліметровыя гарматы, канадскую амуніцыю і ў маі ўжо былі на фронце. Зноў пад Тэрнопалем. Тут мы даведаліся, што многія часці адмаўляюцца наступаць, што войскі наведвае сам Керанскі і ўгаворвае салдат ваяваць. Але мы ведалі і тое, што ў Расію вярнуліся Ленін і рускія эмігранты-рэвалюцыянеры. Сярод салдат паявіліся пракламацыі. Чэрвеньскае наступленне, нягледзячы на вялікую шчыльнасць артылерыі, не мела поспеху, бо пяхота ішла ў атаку неахвотна. Зноў пачалося адступленне. Дывізіён быў адведзены ў тыл пад Кіеў на дафарміраванне. Хутка знайшліся салдаты, якіх называлі сацыял-дэмакратамі, бальшавікамі. І наш дывізіён заваяваў славу неспакойнага, бальшавіцкага... Такія часці накіроўвалі на фронт. І мы сапраўды хутка былі там.

...Я зноў вярнуўся ў Мінск у лютым 1918 года. У дваццацігадовым узросце не згадваеш дзяцінства, але шукаеш сведак яго: углядаешся ў будынкі, дрэвы, паркі, дзе прайшло маленства. І адзін дом той пары ў Мінску па былой Захар'еўскай вуліцы я берагу ў сваёй памяці. Тут у 1910—1912 гадах жыў збяднелы памешчык Вярыга са сваёй сяброўкай, жонкай загінуўшага марскога афіцэра Міхеевай. Сюды я бегаў падлеткам. Тут я слухаў расказы Міхеевай пра вайну і ў руках трымаў рэліквіі марскога жыцця. Але самае дзіўнае высвет-




**Каманда нарвежскага карабля, на якім плаваў юнгай Валодзя Тарановіч** (у першым радзе злева).

лілася пазней — у гэтым доме і ў гэтым пакоі праходзіў I з'езд РСДРП.

Сямейныя справы пад гэты час у нас былі невясёлыя. Мой бацька і малодшы брат памерлі яшчэ ў 1916 годзе. Не было пры маці і Міколы, старэйшага брата-лётчыка. У часе Брусілаўскага наступлення яго збілі ў паветраным баі, і ён знаходзіўся ў палоне ў Аўстра-Венгрыі. З маці жыла толькі мая сястра.

На гэтай невялікай сямейнай нарадзе мы парашылі, што мне рабіць. Я не меў ні грошай, ні зямлі, ні пэўнай адукацыі, бо працоўнае жыццё сваё пачаў з пятнаццаці гадоў. Салдацкае жыццё я прымаў так, як яно вакол мяне разгорталася. Але з цягам часу пачаў разбірацца ў абставінах. Было тады добрае слова: «спачуванне». І яго сэнс я разумеў дакладна. Я стаў спачуваць чырвоным, і гэтае спачуванне скіравала мяне да Савецкай Расіі.

І я зноў з Мішам Казловым, які ў гэты час быў у Мінску, паехаў у Барысаў, а далей мы пайшлі па шпалах да Оршы. За плячамі ў мяне быў мяшок, у якім мелася з паўфунта сала і бульбяныя аладкі, што спякла маці.

Міша нёс два чамаданы, на дне якіх ляжалі афіцэрскія пагоны і браўнінг.

У Калузе мы ўбачылі зварот Камуністычнай партыі — уступаць у шэрагі Чырвонай Арміі для абароны сацыялістычнай бацькаўшчыны. Я рашыў стаць чырвонаармейцам. На пытанне: «Чаму ідзеш у армію добраахвотнікам?», я адказваў, як і большасць з нас: «Хачу абараняць уладу Саветаў». На агульным сходзе чырвонаармейцаў 7 красавіка 1918 года я быў абраны камандзірам першай Калужскай савецкай батарэі.

Міша Казлоў не пайшоў у Чырвоную Армію. Ён застаўся жыць у Калузе і наняўся часова інструктарам у нашу батарэю. Праз месяцы два ён усё ж паехаў у Мінск.

Грамадзянская вайна была ў разгары. Батарэю накіравалі на Паўднёвы фронт. У жніўні 1918 года нашым часцям прыйшлося пакінуць горад Нова-Хапёрск. Але мы, як толькі атрымалі падмацаванне,— 123-ці прэсненскі стралковы полк,— зноў авалодалі Нова-Хапёрскам. Я паехаў на кватэру, дзе стаяў да адступлення. Гаспадыня падала мне пісьмо ад афіцэра, які жыў у яе. Гэта пісьмо было ад Мішы Казлова. Ён пісаў мне: «Валодзя, пара табе апамятацца, дні чырвонапузнікаў мінулі», і далей на той жа лад.

А калі праз два дні пад вёскай Каменскай-Садоўскай 37-ы Гундараўскі полк, што складаўся з георгіеўскіх кавалераў, пайшоў у псіхічную атаку на нашу пяхоту, я адказаў на пісьмо Мішы Казлова карцеччу.

У 1920 годзе пасля разгрому Калчака мне выпала шчасце вызваляць Беларусь і родны Мінск. За фарсіраванне Беразіны я атрымаў мой першы ордэн Чырвонага Сцяга. Мне было 23 гады. Я моцна стаяў за савецкую ўладу. Для мяне, я лічу, тады мінула юнацтва і пачалася пара сталасці.




# 1969

## САКАВІК



М. І. Татур.

**3**

50 гадоў з дня нараджэння (1919) М. І. Татура, беларускага пісьменніка і перакладчыка.

45 гадоў назад (1924) ВЦВК прыняў пастанову аб перадачы БССР паветаў Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губерняў з большасцю беларускага насельніцтва.



М. Р. Лупсякоў.

**4**

50 гадоў з дня нараджэння (1919) М. Р. Лупсякова, беларускага пісьменніка.

**4—6**

50 гадоў назад (1919) у Вільні быў аб'яднаўчы з'езд Кампартыі Літвы і Беларусі (II з'езд КП(б)Б).

**5—6**

10 гадоў назад (1959) быў першы з'езд журналістаў БССР.

**5—7**

15 гадоў назад (1954) адбыўся XVIII з'езд ЛКСМ Беларусі.



В. Д. Маракоў.

**14**

60 гадоў з дня нараджэння (1909) В. Д. Маракова, беларускага паэта.

10 гадоў з дня адкрыцця (1959) у Мінску гарадскога Дома народнай творчасці.

**17**

60 гадоў з дня нараджэння (1909) М. М. Паўлючэнкі, вучонага ў галіне фізічнай хіміі, акадэміка АН БССР.

50 гадоў з дня нараджэння (1919) Р. В. Шкрабы, беларускага крытыка.



М. М. Паўлючэнка.

**20**

60 гадоў з дня нараджэння (1909) С. Н. Іванова, вучонага-аграхіміка, члена-карэспандэнта АН БССР.



Р. В. Шкраба.

**23**

70 гадоў з дня нараджэння (1899) В. У. Галіны (Александроўскай), народнай артысткі БССР.

**28**

50 гадоў з дня нараджэння (1919) В. С. Палтаран (Ляпескай), беларускай пісьменніцы.



В. С. Палтаран.



В. У. Галіна (Александроўская).



С. Н. Іваноў.



Ідзе мантаж параксілолавага цэха.

Некалі Іван Грозны сказаў: «Берагі ў Дзвіны срэбраныя, а дно — залатое». Цар быў рэалістам і метафарамі карыстаўся не толькі дзеля красамоўства. Ён сапраўды пачаў заграбаць срэбра і золата з Заходняй Дзвіны, якая павяла рускія караблі ў Прыбалтыку.

Прайшло чатырыста год з таго часу, як маскоўскі цар адкрыў «залатыя капальні» пад Сафійскім саборам, і ў другім месцы, кіламетраў на пятнаццаць ніжэй, на бераг Дзвіны выйшаў юнак у ватоўцы і, глянуўшы на заінелы лес, сказаў:

— А ў Дзвіны ж берагі — срэбраныя!

Фотарэпартаж Валянціна Ждановіча

# СРЭБРА І ЗОЛАТА

Галіна Кулага і Яўген Пруднікаў.



Яшчэ праз пяць гадоў сюды прыбыў першы эшалон золата. Не чырвонага, праўда, а чорнага. 9 лютага 1963 года свет пачуў:

— «Ёсць беларускі бензін!»

●

— Пруднікаў? Ну, чаму, менавіта, Пруднікаў? Галя Кулага, што была групкамсоргам да Пруднікава, на заводзе пяць гадоў, вучыцца ў інстытуце, аператар... А Пруднікаў пакуль толькі памочнік. І Каця Казакова тут з самага пачатку. У пяцьдзесят восьмым яна тынкоўшчыцай была, а потым на кране працавала...

— Ну, а Пруднікаў што — дрэнны чалавек?

— Пруднікаў?! Цудоўны хлопец! І ўсё ж пра ветэранаў трэба гаварыць. Пра ветэранаў!..

Дзесяць гадоў гораду. Стаж ветэранаў-навапалачан — таксама дзесяць гадоў. Паміж тым чэрвеньскім днём 1958 года, калі на ўскраіне вёскі Слабада забялела першая палатка будаўнікоў, і тым урачыстым вечарам, калі адзначаўся залаты юбілей Ленінскага камсамола, а на сцягу наваполацкай гарадской камсамольскай арганізацыі заззяў ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга,— паміж гэтымі дзвюма датамі сотні вялікіх падзей і тысячы звонкіх імёнаў.



Маладыя навапалачане.

# РАБОЧАГА ГОРАДА

У кар'еры — экіпаж Анатоля Крэменя.





Самы малады ў рэспубліцы — філіял політэхнічнага інстытута ў Наваполацку. Яго студэнтамі сталі Тамара Новікава і Юры Троіцкі.

Камсорг Каця Казакова.

Над Дзвіною выраслі гмахі нафтаперапрацоўчага завода, роўнага якому няма ў Еўропе. Уражанне ад яго — непаўторнае. Я бачыў усе буйныя прадпрыемствы Беларусі. Полацкі НПЗ — так скарочана яго завуць — буйнейшае прадпрыемства рэспублікі. Да хмар узняўся цыклапічны арган з труб і калон. Стаўшы ў адным канцы завода, другога канца не ўбачыш. Завод працуе і будуецца. Насупроць — хімкамбінат, першая чарга якога здадзена ў эксплуатацыю на тры месяцы раней тэрміну.

За зялёным поясам лясоў — белыя кварталы горада. У ім 35 тысяч жы-



Ёсць у Наваполацку пры Доме культуры балетная студыя.

хароў, 230 тысяч квадратных метраў жылплошчы. Галоўная вуліца — Маладзёжная. Сярэдні ўзрост навапалачан — 27 год. Штомесяц нараджаецца 70 грамадзян. Кожны трэці жыхар горада — будаўнік.

Гэта — сёння. Праз два гады ў Наваполацку будзе жыць 60 тысяч чалавек. Старажытны Полацк і беларускі горад нафтавікоў шчыльна наблізяцца адзін да аднаго.

●

Што азначае пабудаваць такі горад і такія заводы?

Экіпаж экскаватара Э-652 — Герой Сацыялістычнай Працы Анатоль



У вольны ад працы час.

Крэмень, Дзмітры Казлоў і Валянцін Ганебны — за 10 месяцаў 1968 года выкапаў 173,2 тысячы кубоў грунту. Гэта дзве гадавыя нормы. А 141-ае Упраўленне механізацыі, у якім працуе гераічны экіпаж, за дзесяць гадоў работы ў Наваполацку перамясціла бульдозерамі і экскаватарамі больш за 30 мільёнаў кубоў грунту. Такі аб'ём мела б траншэя глыбінёй два і шырынёй 1,5 метра, калі яе пракапаць ад Рыгі да Уладзівастока.

Адна з лепшых камсамольска-маладзёжных брыгад новабудоўлі, якой кіруе Леанід Куніцкі, можа ўкласці за змену шаснаццаць кубаметраў бетону. Яны перакрываюць зменную норму ў паўтара раза, але не задаволены сваёй працай, хоць лічбы, з якімі маюць справу бетоншчыкі, астранамічныя. Толькі ў падмурак 156-метровай трубы атмасферна-вакуумнай трубчаткі ўкладзена 1 700 кубоў бетону — шэсцьсот мінскіх самазвалаў спатрэбілася, каб перавезці яго.

Але досыць лічбаў. У Наваполацку ўсё самае вялікае і самае лепшае. На заводах — найноўшае абсталяванне. Палац культуры нафтавікоў паспрачаецца са сталічнымі клубамі сваёй прыгажосцю і ўтульнасцю. Вуліцы горада шырокія і такія чыстыя, як у Ленінградзе. Ёсць тэхнікум, прафесіянальна-тэхнічнае і музычнае вучылішчы. Летась адкрылася першая ў горадзе вышэйшая навучальная ўстанова — філіял Беларускага політэхнічнага інстытута.

Усё гэта не з неба звалілася, а заваявана навапалачанамі ў гераічнай працы, у змаганні, бо не толькі былі перамогі, але і страты. Без гэтага не робіцца ніводная сапраўдная справа.

●

За ўсю гісторыю Наваполацка толькі аднаго яго жыхара пазбавілі грамадзянства. Ён быў варты таго: хлус, п'яніца, распуснік. З ім доўга нянькаліся, спрабавалі перавыхоўваць. Пераканаўшыся, што ўсё дарэмна, вырашылі: ідзі, чалавеча, адкуль прыйшоў. Ён заенчыў. Тады Каця Казакова, камсорг НПЗ, сказала членам бюро гаркома:

— Я яму не веру. І не хачу, каб гэты тып хадзіў па вуліцы Пятра Блахіна.

Імем Пятра Блахіна пачынаецца летапіс Наваполацка. Ён кіраваў выдатнай брыгадай бетоншчыкаў. Потым яго выбралі камсоргам новабудоўлі. Пятро працаваў, як кажуць, дваццаць пяць гадзін у суткі. Ён вучыўся ў вячэрнім тэхнікуме, паспяваў усюды. Зімой Пётр Блахін захварэў. Але ішоў вялікі штурм, і камсорг да апошняй мінуты быў сярод сваіх сяброў. Ён не мог жыць без вялікай справы, без сяброў.

Направа — жылыя дамы, налева — дрымучы лес. Гэта і ёсць вуліца Пятра Блахіна. Цяпер яна на ўскраіне, а хутка будзе ў цэнтры. Па ёй пабяжыць трамвай.



Ну, а Пруднікаў? Што ж, Пруднікаў — тыповы прадстаўнік свайго горада. Жэня Пруднікаў родам з вёскі Галубова, што на Расоншчыне. Яму дваццаць два гады. Ён памочнік аператара ўстаноўкі фенольнай ачысткі масел на НПЗ, таму носіць вялізныя пластмасавыя акуляры, такія, як у даваенных лётчыкаў.

Працуе Жэня так. Старшы аператар сядзіць ля пульта і сочыць за прыборамі. А памочнік па яго камандзе раз-пораз выбягае да ўстаноўкі і пакручвае махавічкі засавак. І мяняе паранітавыя пракладкі. Вось і ўсё, калі не лічыць некалькіх кіламетраў лесвіц, па якіх прабягае за змену памочнік аператара.

Жыве Жэня ў інтэрнаце, у пакоі на чатыры чалавекі. Вучыцца ў дзявятым класе сярэдняй школы завочна. Займаецца спортам. Лыжнік першага разраду. Трэніруе яго майстар спорту Валянцін Палякоў.

Да службы ў арміі Жэня паспеў скончыць наваполацкае ГПТВ-28, прай-

Наваполацк дыхае на поўныя грудзі.



сці практыку на Навакуйбышаўскім нафтаперапрацоўчым заводзе і пусціць тую ўстаноўку, на якой цяпер працуе. Працуе ўсяго паўгода.

Жэня Пруднікаў групкамсорг. Семнаццаць чалавек у яго групе. Шэсць з семнаццаці вучацца ў школах, тэхнікумах, інстытутах. Яшчэ сем — у цэхавай школе марксізма-ленінізма.

А пра камсамольскія справы Жэневай групы і яго сяброў з цэха № 3 расказаў цэхавы камсорг Багдан Труш.

Багдана выбралі сакратаром у той час, калі камсамольская работа ў цэху разладзілася. Тры сакратары паспелі памяняцца за год. Так што Багдану і новаму бюро было, над чым падумаць. Ён ведаў, што народ у цэху — цудоўны. Столькі выпрабаванняў разам прайшлі...

Варта толькі ўспомніць пуск устаноўкі дэпарафінізацыі. Пускалі яе зімою. З устаноўкай не ладзілася: густое масла ў адно імгненне застывала ў трубах. Па некалькі разоў збівалі тэрмаізаляцыю. І ўсе — інжынеры, апаратары, машыністы — пабраўшы шлангі, гарачай парай разагравалі трубы. Стаялі па дзве змены, бо не хапала людзей. І ніхто не скардзіўся на холад і стому.

Значыць, справа ў арганізацыі, у агульнай зацікаўленасці, у энтузіязме. На бюро вырашылі: камсорг — такі ж рабочы, як і ўсе. Таму абавязкі размеркавалі на ўсіх пароўну. Усе вытворчыя справы пачалі вырашаць разам з прафсаюзнай і партыйнай арганізацыямі. Так стварыліся саветы ўстановак. Пачалі працаваць гурткі мастацкай самадзейнасці і спартыўныя секцыі. Пражэктарысты павялі барацьбу за эканомію і ашчаднасць.

Калі Жэня Пруднікаў прыйшоў на завод, цэх № 3 ужо славіўся сваімі добрымі справамі. Артысты на заводскім аглядзе занялі другое месца, а спартыўны калектыў хадзіў у чэмпіёнах.

...Жэнева працоўнае жыццё толькі-толькі пачалося. Дзесяткі юнакоў і дзяўчат, якія штодня прыязджаюць у Наваполацк на работу, таксама адкрываюць новыя старонкі ў сваіх біяграфіях. Са здзіўленнем яны адзначаюць, што закахаліся ў Наваполацк з першага погляду і — на ўсё жыццё.

Нельга не любіць гэты горад. Сапраўды, яму пашанцавала з месцам, а яшчэ больш, што яго жыхарамі сталі камсамольцы. Іх залатымі рукамі ён узведзены, іх срэбным галасам звінець над сівою Дзвіной.

# ЧАМУ НЕ ХАПІЛА БАЛА?

Якая асаблівасць характэрна для ўступных экзаменаў у вышэйшыя навучальныя ўстановы? Перш за ўсё — ад абітурыента патрабуецца не толькі і не столькі веданне адпаведнага мінімуму, колькі ўменне творча асэнсоўваць вывучаны матэрыял. У большасці выпадкаў абітурыенты ведаюць усё, што пададзена ў падручніку, але, звычайна, гэта толькі запамінанне матэрыялу, а не глыбокае яго засваенне. Абітурыент здольны растлумачыць на падставе нейкіх агульных прынцыпаў або законаў толькі тыя з'явы (напрыклад, хімічныя рэакцыі), якія дадзены ў падручніку ў якасці ілюстрацый гэтых прынцыпаў ці законаў. Дастаткова прапанаваць яму абсалютна аналагічную рэакцыю, але з іншымі рэчывамі, як ён губляецца, не здольны адказаць вычарпальна.

Нярэдка, завучваючы фармуліроўку таго ці іншага закону, вучань не ўнікае ў яго сэнс. Фармуліроўка ж закону — гэта канцэнтрацыя думкі, дзе кожнае слова мае сваё адпаведнае месца і значэнне. Таму зусім недастаткова памятаць фармуліроўку, трэба разумець глыбокі сэнс яе, г. зн. разумець сам закон. Напрыклад, амаль усе абітурыенты даюць правільную фармуліроўку перыядычнага закону Д. І. Мендзялеева, але на пытанне, чаму закон называецца перыядычным і як разумець, што ўласцівасці хімічных элементаў знаходзяцца ў перыядычнай (іменна ў перыядычнай!) залежнасці ад зарадаў іхніх атамных ядраў, выразнага адказу падчас атрымаць нельга. Гэта і ёсць якраз неразуменне закону, асноўны сэнс якога і заключаецца ў перыядычным паўтарэнні ўласцівасцей элементаў з павелічэннем зараду ядраў іхніх атамаў. Як вядома і як гавораць пра тое перыядычны закон, зарады ядраў атамаў няспынна павялічваюцца, пачынаючы з адзінкі, а ўласцівасці элементаў перыядычна паўтараюцца. І паўтор гэты тлумачыцца паўторам будовы знешніх электронных абалонак атамаў. Неразуменне таго, што перыядычнасць іменна — у змяненні ўласцівасцей элементаў, вядзе і да другой памылкі, калі падабенства ўласцівасцей элементаў тлумачыцца тым, што яны знаходзяцца ў адной групе перыядычнай сістэмы. У гэтым выпадку прычына падмяняецца вынікам. Якраз падабенства ўласцівасцей, г. зн. аднолькавая будова знешніх электронных абалонак атамаў, абумоўлівае знаходжанне элементаў у адной групе перыядычнай сістэмы, а не наадварот.

Сустракаюцца вялікія цяжкасці і ў адказе на такое праграмнае пытанне, як вытлумачэнне асноўных законаў хіміі з пункту гледжання атамна-малекулярнага вучэння. Напрыклад, многія абітурыенты не могуць растлумачыць закон пастаянства саставу рэчыва. Яны не разумеюць таго факта, што малекула — гэта мера колькасці рэчыва, тая найменшая часцінка, якая яшчэ захоўвае яго хімічныя ўласцівасці. А паколькі малекула складаецца са строга адпаведнай колькасці атамаў адпаведных элементаў, састаў таго ці іншага рэчыва будзе заўсёды пастаянны і незалежны ад спосабу яго атрымання.

Неразуменне малекулярнай прыроды

рэчываў вядзе да няўмення рашаць некаторыя прасцейшыя задачы. Так, некаторыя абітурыенты не могуць адолець нават такую задачу: да раствору, які мае адпаведную колькасць грамаў кіслаты, дадалі раствор, які мае адпаведную колькасць грамаў шчолачы. Неабходна вызначыць, якое будзе асяроддзе ў атрыманай сумесі двух раствораў. Якія ўзяты кіслата і шчолач, ва ўмове задачы сказана. Пры рашэнні яе некаторыя абітурыенты проста параўноўваюць вагавыя колькасці кіслаты і шчолачы і робяць адпаведныя вывады: калі вагавыя колькасці кіслаты і шчолачы аднолькавыя, асяроддзе будзе нейтральнае; калі кіслаты больш — кіслае; калі больш шчолачы — шчолачнае. Такі ў корані памылковы шлях рашэння — вынік неразумення таго, што рэагуюць не грамы, а малекулы. Для правільнага рашэння задач такога тыпу трэба спачатку напісаць ураўненне рэакцыі паміж дадзенай ва ўмове задачы кіслатой і шчолаччу і вызначыць, у якіх мольных суадносінах яны рэагуюць. Потым вылічыць і параўнаць колькасці молей кіслаты і шчолачы ў абодвух растворах. Калі мольныя, а не вагавыя, колькасці гэтых рэчываў такія, што яны рэагуюць цалкам, асяроддзе будзе нейтральным, калі кіслата ці шчолач застаюцца ў лішку, асяроддзе будзе адпаведна кіслае або шчолачнае. Прынцыпова да таго ж тыпу належыць і шэраг іншых задач, напрыклад, на вызначэнне колькасці новага рэчыва, што ўтвараецца пры ўзаемадзеянні адпаведных вагавых колькасцей пачатковых рэчываў, і г. д.

Неразуменне атамна-малекулярнай прыроды рэчываў стварае цяжкасці і пры рашэнні задач на вывад формул рэчываў па іх працэнтнаму саставу. Працэнтны састаў рэчыва паказвае толькі на вагавыя суадносіны тых або іншых элементаў, якія ўваходзяць у састаў малекулы. Хімічная формула дае суадносіны колькасцей атамаў элементаў у малекуле. І для пераходу ад вагавых да атамных суадносін неабходны адпаведныя пераразлікі.

Часам для рашэння простых задач абітурыенты выбіраюць вельмі складаныя метады, што часта вядзе да блытаніны і памылковых вынікаў. Напрыклад, трэба вызначыць, колькі літраў кіслароду неабходна для поўнага спальвання аднаго літра метану. Рашэнне задачы ў пераважнай большасці выпадкаў пачынаецца правільна са складання ўраўнення рэакцыі гарэння метану і расстаноўкі адпаведных каэфіцыентаў. А потым некаторыя спрабуюць вызначыць вагавую колькасць метану для далейшых разлікаў. Такі шлях сведчыць пра неразуменне закону Авагадра і пра няўменне карыстацца яго вынікамі. Паводле закону Авагадра, граммалекулярныя аб'ёмы ўсіх газападобных рэчываў аднолькавыя, значыць, каэфіцыенты ва ўраўненнях рэакцыі гарэння метану, як і ў кожнай рэакцыі паміж газамі, паказваюць непасрэдна на суадносіны аб'ёмаў рэчываў, якія рэагуюць. Такім чынам, для рашэння гэтай задачы дастаткова толькі скласці ўраўненне рэакцыі, і ніякія дадатковыя разлікі не патрэбны.

Вялікія цяжкасці сустракаюцца пры рашэнні задач на пераход ад аднаго спосабу выражэння канцэнтрацыі раствору да другога. Але гэта, хутчэй, вынік няўмення рашаць простыя арыфметычныя задачы, чым няведанне хіміі.

Многія з абітурыентаў не ўмеюць аналізаваць ураўненні рэакцый і растлумачваць, чаму яны ідуць так, а не інакш. Усё зводзіцца часам да стараннага завучвання саміх ураўненняў, але дастаткова прапанаваць абітурыенту напісаць ураўненне рэакцыі, аналагічнай той, што ў падручніку, толькі паміж іншымі рэчывамі, як гэта ўжо бывае не па сіле і часам проста невырашальна для яго. Напрыклад, у падручніку хіміі ўласцівасці спіртоў ілюструюцца ўраўненнямі рэакцыі з удзелам этылавага і метылавага спірту. Напісаць аналагічныя рэакцыі з іншымі спіртамі абітурыенты часта не могуць.

На пытанне наконт лабараторных метадаў атрымання хлору і хлорыстага вадароду ў большасці выпадкаў даецца правільны адказ: хлор атрымліваюць пры ўзаемадзеянні двухвокісу марганцу і салянай кіслаты, а хлорысты вадарод — пры дзеянні канцэнтраванай сернай кіслаты на спажыўную соль. Аднак некаторыя абітурыенты, правільна напісаўшы ўраўненні гэтых рэакцый, не могуць адказаць, чым прынцыпова рэакцыі адрозніваюцца. А між тым, прыведзеныя рэакцыі належаць да двух розных тыпаў. Рэакцыя атрымання хлору — акісляльна-ўзнаўляльная, дзе двухвокіс марганцу акісляе хлорысты вадарод да свабоднага хлору. У другім выпадку мы маем справу з выцясненнем нелятучай сернай кіслатою лятучага хлорыстага вадароду са спажыўнай солі, г. зн., што рэакцыя абменная. Неразуменне гэтага перашкаджае абітурыенту адказаць таксама і на пытанне, што адбудзецца, калі да сумесі спажыўнай солі і двухвокісу марганцу дадаць канцэнтраваную серную кіслату. Адказ просты: серная кіслата будзе выцясняць хлорысты вадарод, які, у сваю чаргу, будзе акісляцца двухвокісам марганцу да свабоднага хлору, і ў прадуктах рэакцыі, значыць, будуць хлор, сульфат натрыю, сульфат марганцу і вада. Хлорысты марганец у гэтым выпадку не ўтвараецца, таму што хлорысты вадарод, які выдзяляецца, адразу будзе акісляцца да хлору.

Многія абітурыенты не ведаюць прамысловых спосабаў атрымання тых хімічных прадуктаў, вывучэнне ўласцівасцей якіх прадугледжана праграмай.

У прыватнасці, абітурыенты негрунтоўна разбіраюцца ў прамысловых спосабах атрымання асноўных неарганічных кіслот, такіх, як саляная, серная, азотная, фосфарная. Гэта таму, што вучні імкнуцца запомніць толькі спосаб атрымання кіслот, не звязваючы яго ні з якімі ўмовамі атрымання, не ўлічваючы той факт, што прамысловыя спосабы атрымання любога рэчыва залежаць ад характару прыроднай сыравіны або першапачатковых прадуктаў.

Прыродная сыравіна для атрымання салянай кіслаты — гэта яе солі, ці хларыды. Найбольш пашыраная ў прыродзе і найбольш танная соль салянай кіслаты — гэта спажыўная соль. Якраз з яе і атрымліваюць у прамысловасці саляную кіслату, але шляхі яе атрымання могуць быць розныя. Мы ўжо гаварылі, што хлорысты вадарод можна атрымаць уздзеяннем на спажыўную соль канцэнтраванай сернай кіслаты. Аднак гэты спосаб зусім нявыгадны, таму што ён звязаны з затратамі такога каштоўнага прадукту, як серная кіслата. Сульфат натрыю, які атрымліваецца пры гэтым як пабочны прадукт, ёсць у прыродзе ў дастатковай колькасці. Таму цяпер хлорысты вадарод атрымліваюць са спажыўнай солі іншым шляхам. Спачатку падвяргаюць электролізу водны раствор спажыўнай солі і атрымліваюць хлор і вадарод, потым прамым узаемадзеяннем хлору і вадароду атрымліваюць хлорысты вадарод, які раствараюць у вадзе. Такім чынам, для атрымання хлорыстага вадароду гэтым метадам расходуецца толькі спажыўная соль.

Солі сернай кіслаты, або сульфаты, ёсць у прыродзе ў дастатковай колькасці, аднак выцесніць серную кіслату з яе солей іншай кіслатою немагчыма, таму што серная кіслата — кіслата моцная і нелятучая. Але ў прыродзе, апрача солей сернай кіслаты, сустракаюцца і іншыя злучэнні серы. Найбольш пашыраным і танным з'яўляецца жалезны калчадан, або пірыт. Ім і карыстаюцца як першапачатковай сыравінай для атрымання сернай кіслаты. Сера ў калчадане двухвалентная, а ў сернай кіслаце шасцівалентная, значыць, тэхналагічны працэс атрымання сернай кіслаты з калчадану павінен складацца з акіслення серы да шасцівалентнага стану. Як гэта робіцца, добра апісана ў падручніку.

У адрозненне ад сернай, фосфарная кіслата слабая, яе магчыма выцесніць з яе солей больш моцнай кіслатою, напрыклад, сернай. Так і робяць пры атрыманні фосфарнай кіслаты з прыродных фасфарытаў.

Солей азотнай кіслаты ў прыродзе няма, таксама як няма і іншых злучэнняў азоту, з якіх можна было б атрымліваць азотную кіслату. Асноўная маса азоту ў прыродзе знаходзіцца ў паветры ў элементарным стане, значыць, паветра і ёсць тая «прыродная сыравіна», з якой можна атрымліваць гэтую кіслату. Але малекула азоту вельмі трывала і непасрэдна ўзаемадзейнічае з кіслародам толькі пры вельмі высокіх тэмпературах. Таму для атрымання азотнай кіслаты карыстаюцца абходным шляхам. Спачатку з азоту і вадароду атрымліваюць аміяк, потым аміяк акісляюць да вокісу азоту, а гэтае рэчыва ўжо лёгка далучае кісларод з утварэннем двухвокісу азоту. Двухвокіс азоту належыць да кіслотных вокіслаў і пры растварэнні ў вадзе дае азотную кіслату, пры гэтым выдзяляецца вокіс азоту. Калі рабіць растварэнне двухвокісу азоту ў прысутнасці кіслароду, утвараецца толькі азотная кіслата.

Многія вучні ўраўненні рэакцый узаемадзеяння двухвокісу азоту з вадою пішуць няправільна, г. зн. раствараюць двухвокіс азоту ў вадзе проста як ангідрыд азотнай кіслаты, ці, калі пішуць, як трэба, то, у большасці выпадкаў, не здольны растлумачыць асаблівасці рэакцыі растварэння двухвокісу азоту ў вадзе. А ўся справа ў тым, што двухвокіс азоту не з'яўляецца ангідрыдам азотнай кіслаты, таму што ў азотнай кіслаце азот пяцівалентны, а ў двухвокісу азоту — чатырохвалентны. Значыць, рэакцыя растварэння двухвокісу азоту ў вадзе — акісляльна-ўзнаўляльная рэакцыя. Пры растварэнні двухвокісу азоту ў вадзе без доступу кіслароду сам азот акісляецца і сам узнаўляецца, таму побач з азотнай кіслатой (акісляльная форма) утвараецца вокіс азоту (узнаўляльная форма). Пры растварэнні двухвокісу азоту ў прысутнасці акісляльніка—кіслароду—атрымліваецца толькі азотная кіслата. На гэтыя асаблівасці растварэння двухвокісу азоту ў вадзе многія абітурыенты не звяртаюць увагі, што і вядзе да памылак.

Такім чынам, веданне форм знаходжання ў прыродзе тых ці іншых рэчываў і іх уласцівасцей само наводзіць на думку пра спосабы атрымання вытворных рэчываў. Для лепшага разумення, а значыць, і лепшага запамінання, спосабаў атрымання рэчываў вельмі карысна параўноўваць іх адзін з другім, знаходзячы аналогіі і адрозненні. Пры гэтым неабходна заўсёды імкнуцца вытлумачыць, чым выкліканы асаблівасці таго ці іншага спосабу атрымання рэчыва, а не проста завучваць гэтыя асаблівасці.

Усё, пра што тут гаварылася, вельмі важна ўлічыць усім, хто будзе здаваць уступныя экзамены ў вышэйшую навучальную ўстанову з адной мэтай — атрымаць найвышэйшы бал па хіміі.

**Вадзім ЦІКАВЫ,**
**дацэнт БДУ імя У. І. Леніна.**

# РАШЭННЕ ЗАДАЧ

## ПА ФІЗІЦЫ

### ЗАДАЧА 1.

Пасля ўзаемадзеяння куля і шар рухаюцца па парабалах (мал. 1) і дасягаюць зямлі за адзін і той жа час

$$t = \sqrt{\frac{2h}{g}}. \qquad (1)$$




Мал. 1.

Адлегласць паміж пунктам падзення кулі і асновай падстаўкі роўна

$$S = v \cdot t, \qquad (2)$$

дзе $v$ — гарызантальная складаючая скорасці кулі пасля яе ўзаемадзеяння з шарам. Гэтую складаючую скорасці кулі можна знайсці з закону захавання колькасці руху, па якім

$$mv_0 = mv + m_1v_1, \qquad (3)$$

дзе $v_0$ — скорасць кулі да яе ўдару аб шар, $v_1$ — гарызантальная складаючая скорасці шара пасля прабівання яго куляй, $m$ — маса кулі, $m_1$ — маса шара. З роўнасці (3) знаходзім

$$v = v_0 - \frac{m_1}{m} v_1 \qquad (4)$$

Падстаўляючы гэты выраз у формулу (2), атрымліваем

$$S = v_0t - \frac{m_1}{m} v_1t. \qquad (5)$$

Але $v_1t = S_1$, дзе $S_1$ — адлегласць ад асновы падстаўкі да пункта падзення шара. Таму

$$S = v_0t - \frac{m_1}{m} S_1,$$

або з улікам выразу (1)

$$S = v_0 \sqrt{\frac{2h}{g}} - \frac{m_1}{m} S_1. \qquad (6)$$

Падстаноўка ў выраз (6) лікавых значэнняў велічынь, якія ўваходзяць у яго, дае вынік $S = 150$ м.

Кінетычная энергія кулі да і пасля ўзаемадзеяння з шарам роўна адпаведна

$$W_0 = \frac{mv_0^2}{2}, \quad W = \frac{mv^2}{2}. \qquad (7)$$

Кінетычная энергія шара пасля ўзаемадзеяння роўна

$$W_1 = \frac{m_1v_1^2}{2}. \qquad (8)$$

Такім чынам кінетычная энергія кулі, што перайшла ў цеплыню пры прабіванні шара

$$\Delta W = W_0 - (W + W_1). \qquad (9)$$

Яна складае ад першапачатковай энергіі кулі частку, роўную

---

Умовы задач былі надрукаваны ў № 1 «Маладосці».

$$\frac{\triangle W}{W_0} = 1 - \frac{W + W_1}{W_0} = 1 - \frac{mv^2 + m_1 v_1^2}{mv_0^2} = 1 - \frac{v^2}{v_0^2} - \frac{m_1}{m}\frac{v_1^2}{v_0^2}. \quad (10)$$

Разлік паказвае, што $\frac{\triangle W}{W_0} = 0{,}8$, г. зн. 80% кінетычнай энергіі кулі перайшло ў цеплыню пры прабіванні шара.

## ЗАДАЧА 2.

У працэсе руху на шарык дзейнічаюць тры сілы: сіла цяжару $P = mg$, нармальная рэакцыя апоры $N$ і сіла электрастатычнага ўзаемадзеяння шарыка з кропкавым зарадам $q_2$, роўная $F = \frac{q_1 q_2}{r^2}$, дзе $r$ — адлегласць паміж шарыкам і зарадам $q_2$. Сіла $F$ пры руху шарыка мяняецца; таму рух шарыка па нахіленай плоскасці ёсць рух нераўнамерна пераменны.

Для рашэння гэтай задачы неабходна выкарыстаць закон захавання энергіі. У агульным выпадку, калі на цела, апрача сілы цяжару, дзейнічаюць другія знешнія сілы, закон захавання энергіі гаворыць: змяненне поўнай механічнай энергіі цела ў працэсе пераходу яго з аднаго стану ў другі роўна рабоце гэтых знешніх сіл

$$W_2 - W_1 = A, \quad (1)$$

дзе $W_1$ — поўная механічная энергія цела ў першым становішчы, $W_2$ — у другім становішчы, $A$ — работа знешніх сіл (апрача сілы цяжару), што дзейнічаюць на цела пры пераходзе з першага стану ў другі.

Прымем за першае становішча шарыка яго пачатковае становішча на нахіленай плоскасці (мал. 2), за другое—становішча яго ля асновы нахіленай плоскасці. Тады механічная энергія шарыка ў першым і другім становішчах будзе роўная адпаведна

$$W_1 = mgh, \; W_2 = \frac{mv^2}{2}. \quad (2)$$

На шарык, апрача сілы цяжару $P$, дзейнічаюць яшчэ дзве сілы $N$ і $F$. Сіла $N$ работу не выконвае, таму што яна ўсюды перпендыкулярна перамяшчэнню; работа ж у полі электрычнай сілы $F$ роўна

$$A = q_1(\varphi_2 - \varphi_1), \quad (3)$$

дзе $\varphi_1$ — патэнцыял электрычнага поля, якое ствараецца зарадам $q_2$ у пункце I, а $\varphi_2$—патэнцыял поля таго ж зараду $q_2$ у пункце II. Патэнцыял электрычнага поля, якое ствараецца кропкавым зарадам $q$ на адлегласці $r$ ад яго, роўны $\varphi = \frac{q}{r}$. Таму



Мал. 2.

$$\varphi_1 = \frac{q_2}{h}, \; \varphi_2 = \frac{q_2}{S} = \frac{q_2}{h}\operatorname{tg}\alpha.$$

Такім чынам

$$A = \frac{q_1 q_2}{h}(\operatorname{tg}\alpha - 1). \quad (4)$$

Падстаўляючы выразы (2) і (4) у асноўную формулу (1), атрымліваем

$$\frac{mv^2}{2} - mgh = \frac{q_1 q_2}{h}(\operatorname{tg}\alpha - 1),$$

адкуль

$$v = \sqrt{2gh + \frac{2q_1 q_2}{mh}(\operatorname{tg}\alpha - 1)}. \quad (5)$$

Пры $\alpha = 45°$ з формулы (5) маем

$$v = \sqrt{2gh},$$

г. зн. скорасць шарыка ля асновы нахіленай плоскасці такая ж, што і пры адсутнасці ў яго электрычнага зараду.

Калі зарады $q_1$ і $q_2$ маюць розныя знакі, дык $q_1 q_2 < 0$ і пры $\alpha < 45°$

$$v > \sqrt{2gh},$$

а пры $\alpha > 45°$

$$v < \sqrt{2gh}.$$

У выпадку ж, калі знакі зарадаў аднолькавыя:

$$v < \sqrt{2gh} \quad \text{пры} \quad \alpha < 45^\circ$$

$$v > \sqrt{2gh} \quad \text{пры} \quad \alpha > 45^\circ.$$

## ЗАДАЧА 3.

Абазначым шукаемую скорасць шарыка ў верхнім становішчы I праз $v_1$, а скорасць у ніжнім становішчы II — праз $v_2$. За нулявы ўзровень адліку патэнцыяльнай энергіі возьмем ніжняе становішча шарыка.

Паводле закону захавання энергіі

$$W_2 - W_1 = A, \qquad (1)$$

дзе $W_1$ і $W_2$ — поўныя механічныя энергіі шарыка ў становішчах I і II адпаведна

$$W_1 = \frac{mv_1^2}{2} + mg \cdot 2l \text{ і } W_2 = \frac{mv_2^2}{2}, \qquad (2)$$

дзе $A$ — работа знешніх сіл, што дзейнічаюць на шарык.

На шарык дзейнічаюць тры сілы (мал. 3): сіла цяжару $P = mg$, сіла нацяжэння ніці $T$ і электрычная сіла $F = qE$. Работа сілы цяжару ўлічваецца пры змяненні патэнцыяльнай энергіі шарыка, калі ён пераходзіць з верхняга становішча ў ніжняе; сіла $T$ работы не выконвае, таму што яна перпендыкулярна перамяшчэнню; работа ж электрычнай сілы $F$ роўна

$$A = qU, \qquad (3)$$

Мал. 3.

дзе $U$ — рознасць патэнцыялаў паміж пунктамі I і II.

З той прычыны што электрычнае поле аднароднае, дык $U = E \cdot 2l$.

Таму

$$A = qE \cdot 2l \qquad (4)$$

Падстаўляючы (2) і (4) ва ўраўненне (1), атрымліваем

$$\frac{mv_2^2}{2} - \frac{mv_1^2}{2} - mg \cdot 2l = qE \cdot 2l,$$

адкуль

$$v_1^2 = v_2^2 - 4l\left(g + \frac{qE}{m}\right). \qquad (5)$$

Скорасць шарыка $v_2$ у ніжнім становішчы можна знайсці з той умовы, што раўнадзейная ўсіх сіл, што дзейнічаюць на шарык у гэтым становішчы, надае яму дацэнтраімклівае паскарэнне $a_ц = \frac{v_2^2}{l}$.

$$T - mg - qE = \frac{mv_2^2}{l},$$

адкуль

$$v_2^2 = \frac{l}{m}(T - mg - qE). \qquad (6)$$

Падстаўляючы гэты выраз у формулу (5), знойдзем

$$v_1^2 = \frac{l}{m}T - 5l\left(g + \frac{qE}{m}\right). \qquad (7)$$

Таму што паводле ўмовы задачы $T = 10\ mg$, дык

$$v_1^2 = 5l\left(g - \frac{qE}{m}\right)$$

і

$$v_1 = \sqrt{5l\left(g - \frac{qE}{m}\right)}. \qquad (8)$$

З формулы (8) вынікае, што ў выпадку, які мы разглядаем, калі сілавыя лініі электрычнага поля накіраваны вертыкальна ўніз,

$$v_1 < \sqrt{5gl} = v_{10},$$

дзе $v_{10} = \sqrt{5gl}$ — шукаемая скорасць пры адсутнасці ў шарыка электрычнага зараду.

### ЗАДАЧА 4.

Калі $R_1$ і $R_2$ — супраціўленні каструлі і чайніка і $U$ — напружанне сеткі, дык колькасці цеплыні, якія выдзеляцца ў іх, пры паралельным уключэнні ў сетку будуць роўныя.

$$Q_1 = \frac{U^2}{R_1}t; \quad Q_2 = \frac{U^2}{R_2}t, \qquad (1)$$

дзе $t$ — час закіпання вады, які, паводле ўмовы, аднолькавы і для каструлі і для чайніка.

Пры паслядоўным жа ўключэнні ў сетку будзем мець

$$Q_2' = I^2R_1t_1, \quad Q_2' = I^2R_2t_2, \qquad (2)$$

дзе $t_1$ — час закіпання вады ў каструлі, $t_2$ — у чайніку $I$ — сіла току ў ланцугу. Паводле закону Ома

$$I = \frac{U^2}{R_1 + R_2}.$$

Таму

$$Q_1' = \frac{U_2}{(R_1 + R_2)^2}R_1t_1, \; Q_2' = \frac{U^2}{(R_1 + R_2)^2}R_2t_2. \qquad (3)$$

Але, відавочна, $Q_1' = Q_1$ і $Q_2' = Q_2$. Такім чынам

$$\frac{U^2}{(R_1 + R_2)^2}R_1t_1 = \frac{U^2}{R_1}\cdot t$$

$$\frac{U^2}{(R_1 + R_2)^2}R_2t_2 = \frac{U^2}{R_2}t,$$

адкуль атрымаем

$$t_1 = \left(\frac{R_1 + R_2}{R_1}\right)^2 t = \left(1 + \frac{R_2}{R_1}\right)^2 t$$

$$t_2 = \left(\frac{R_1 + R_2}{R_2}\right)^2 t = \left(1 + \frac{R_1}{R_2}\right)^2 t.$$

Таму што

$$N_1 = \frac{U^2}{R_1} \text{ і } N_2 = \frac{U^2}{R_2},$$

дык

$$\frac{R_2}{R_1} = \frac{N_1}{N_2} \text{ і } \frac{R_1}{R_2} = \frac{N_2}{N_1}.$$

Таму канчаткова атрымліваем

$$t_1 = \left(1 + \frac{N_1}{N_2}\right)^2 t = 9t = 180 \text{ мінут}.$$

$$t_2 = \left(1 + \frac{N_2}{N_1}\right)^2 t = \frac{9}{4}t = 45 \text{ мінут}.$$

**ЗАДАЧА 5.**

Дапусцім, што ў абодвух выпадках прадмет знаходзіцца за фокусам ($d_1 > F$ і $d_2 > F$), так што яго адлюстроўкі ў збіральнай лінзе з'яўляюцца сапраўднымі (мал. 4). Тады

$$\Delta S = S_2 - S_1 = (d_2 + f_2) - (d_1 + f_1),$$

дзе $S_1$ і $S_2$ — адлегласці паміж прадметам і яго адлюстроўкам у першым і другім выпадках, $d_1$ і $d_2$ — адлегласці ад прадмета да лінзы, а $f_1$ і $f_2$ — адлегласці ад лінзы да адлюстроўкаў. Таму што, паводле ўмовы, $d_2 = d_1 - l$, дык

$$\Delta S = f_2 - f_1 - l. \tag{1}$$




Мал. 4.

Карыстаючыся ў абодвух выпадках формулай лінзы, атрымліваем

$$\frac{1}{d_1} + \frac{1}{f_1} = \frac{1}{F} \tag{2}$$

$$\frac{1}{d_1 - l} + \frac{1}{f_2} = \frac{1}{F}. \tag{3}$$

Паводле ўмовы задачы

$$d_1 - F = \frac{1}{3}(f_1 - F). \tag{4}$$

Рашаючы ўраўненні (2) — (4), знаходзім

$$f_1 = (1 + \sqrt{3})\,F,\; f_2 = \frac{(1 + \sqrt{3})\,F - \sqrt{3}\,l}{F - \sqrt{3}\,l}\,F. \tag{5}$$

Падстаноўка гэтых выразаў у (1) прыводзіць да наступнага выніку:

$$\Delta S = \frac{2F + \sqrt{3}\,l}{F - \sqrt{3}\,l} \cdot l.$$

Аналагічным чынам можа быць разгледжаны выпадак, калі $d_1 > F$, але $d_2 = d_1 - l < F$


**Васіль КУЗЬМІЧ і Іван ЗЯЦЬКОЎ,**
**кандыдаты фізіка-матэматычных навук,**
**дацэнты БДУ імя У. І. Леніна.**

## ПА МАТЭМАТЫЦЫ

### ЗАДАЧА 1



Мал. 1.

Асявое сячэнне геаметрычнай фігуры паказана на мал. 1. Адрэзак $DN = DK$ як адрэзкі датычных да акружнасці, праведзеных з аднаго і таго ж пункта $D$. Па той жа прычыне $CM = CN$, $\angle OND = 90°$. Няхай $KDN = \alpha$, $OK = ON = R$. $\Delta DKO = \Delta DON$, $\Delta CON = \Delta COM$. Такім чынам $\angle ODK = \frac{\alpha}{2}$. $\angle CON = 90° - \angle OCN = 90° - \frac{180° - \alpha}{2} = \frac{\alpha}{2}$.

У адпаведнасці з умовай задачы

$$\frac{4}{3}\pi R^3 = \frac{1}{2}\cdot\frac{1}{3}\pi\cdot 2R(KD^2 + KD\cdot MC + MC^2) \qquad (1)$$

Вылічым: $KD = R\cdot\operatorname{ctg}\frac{\alpha}{2}$, $MC = R\cdot\operatorname{tg}\frac{\alpha}{2}$. Падставіўшы ў (1), атрымаем

$$3 = \operatorname{ctg}^2\frac{\alpha}{2} + \operatorname{tg}^2\frac{\alpha}{2} = \frac{4 - 2\sin^2\alpha}{\sin^2\alpha},$$

$$\sin\alpha = \frac{2}{\sqrt{5}}; \quad \alpha = \arcsin\frac{2}{\sqrt{5}}.$$

### ЗАДАЧА № 2

Дадзена: $OS = OA = R$. $AB = BC = AC$, $\angle SAO_1 = \alpha$.

Паколькі $\triangle ABC$ правільны, то $AO_1 = \frac{\sqrt{3}}{3}AC$

$OO_1 = \sqrt{R^2 - \frac{1}{3}AC^2}$, $OO_1 + OS = OO_1 + R = \frac{\sqrt{3}}{3}AC\operatorname{tg}\alpha$,

адкуль $(1 + \operatorname{tg}^2\alpha)\ AC = 2\sqrt{3}\ R\cdot\operatorname{tg}\alpha$; $AC = \sqrt{3}R\sin 2\alpha$.

$V = \frac{1}{3}\cdot S_{осн.}\ SO_1 = \frac{1}{3}\cdot\frac{1}{2}(\sqrt{3}R\sin 2\alpha)^2\cdot$

$\frac{\sqrt{3}}{2}\cdot R\sin 2\alpha\operatorname{tg}\alpha = \frac{\sqrt{3}}{2}R^3\sin^2\alpha\cdot\sin^2 2\alpha.$



Мал. 2.

### ЗАДАЧА № 3

Рашыць сістэмы ўраўненняў:

$$\text{а)}\begin{cases}(y+1)^x = 10\,000\\ (y^2-1)^{2x-2} = \dfrac{(y-1)^{2x}}{(y+1)^x}.\end{cases}$$

Перапішам сістэму так.

$(y+1)^x = 10^4$; $(y-1)^{2x-2}(y+1)^{2x-2}\cdot(y+1)^x\cdot(y-1)^{-2x} = 1,$

адкуль $\begin{cases} (y+1)^x = 10^4, \\ (y+1)^{3x} = (y-1)^2(y+1)^2 = (y^2-1)^2. \end{cases}$

Заменім $(y+1)^x$ у другім ураўненні праз $10^4$. Атрымаем $10^{12} = (y^2-1)^2$, $y^2 = 1+10^6$, $y = \pm\sqrt{1+10^6}$.

Значэнне $y = -\sqrt{1+10^6}$ не падыходзіць. Таму $y = \sqrt{1+10^6}$ і $(1+\sqrt{10^6+1})^x = 10^4$, адкуль $x \lg(1+\sqrt{10^6+1}) = 4$; $x = \frac{4}{\lg(1+\sqrt{10^6+1})}$.

**Адказ.** $x = \frac{4}{\lg(1+\sqrt{1+10^6})}$, $y = \sqrt{1+10^6}$.

$$\text{б)} \begin{cases} \sqrt[x-y]{x+y} = 2\sqrt{3}. \\ (x+y)\cdot 2^{y-x} = \frac{1}{\log_{\frac{1}{8}} 2^{-1}}. \end{cases}$$

Абазначым $x+y = u > 0$, $x-y = v$. Паколькі $\log_{\frac{1}{8}} 2^{-1} = \frac{1}{3}$, сістэма прыме выгляд

$$\begin{cases} u = (2\sqrt{3})^v \\ u = 3\cdot 2^v, \end{cases}$$

адкуль

$$2^v\cdot 3 = 3^{\frac{v}{2}}\cdot 2^v;\ v = 2.$$

$$u = 3\cdot 2^v = 12.$$

Такім чынам. $\begin{cases} x-y = 2, \\ x+y = 12, \end{cases}$

адкуль $x = 7$, $y = 5$.

## ЗАДАЧА № 4

Рашыць ураўненні:

а) $10\sin^2\frac{x}{2} + 13\sin\frac{x}{2}\cos\frac{x}{2} = 5 + \cos^2\frac{x}{2}$

Заменім 5 праз $5\left(\sin^2\frac{x}{2} + \cos^2\frac{x}{2}\right)$. Ураўненне прыме выгляд

$5\operatorname{tg}^2\frac{x}{2} + 13\operatorname{tg}\frac{x}{2} - 6 = 0$, $x \neq k\pi$, $k = 0, \pm 1, \pm 2, \ldots$,

адкуль $\operatorname{tg}\frac{x}{2} = 3$ і $\operatorname{tg}\frac{x}{2} = -\frac{2}{5}$;

$x = 2(\operatorname{arctg} 3 + k\pi)$, $x = 2\left(\operatorname{arctg}\left(-\frac{2}{5}\right) + k\pi\right)$. $k = 0, \pm 1, \pm 2, \ldots$

б) $1 + \sin x = \cos x + \operatorname{tg} x$.

Ураўненне можна перапісаць так:

$$\cos x + \sin x\cos x = \cos^2 x + \sin x,\ \text{адкуль}\ (\sin x - \cos x)(\cos x - 1) = 0.$$

$$\sin x - \cos x = 0;\ x = \frac{\pi}{4} + k\pi,\ k = 0, \pm 1, \pm 2, \ldots$$

$$\cos x = 1,\quad x = 2k\pi,\quad k = 0, \pm 1, \pm 2, \ldots$$

**Мікалай ЛУКАШЭВІЧ,**
**кандыдат фізіка-матэматычных навук,**
**дацэнт БДУ імя У. І. Леніна.**




Барыс САЧАНКА
АПОШНІЯ І ПЕРШЫЯ.
Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1968.

# НОВЫ РАХУНАК ВАЙНЕ

Кажучы мовай анкеты, Барыс Сачанка ў Вялікай Айчыннай вайне непасрэднага ўдзелу не прымаў — у чэрвені сорак першага яму не было яшчэ і шасці гадоў. Але жахі, якія чынілі гітлераўцы на часова захопленай зямлі Беларусі, ён памятае добра. Справа ў тым, што сям'я Сачанкаў, разам з іншымі жыхарамі палескай вёскі Вялікі Бор, летам 1943 года была вывезена ў Нямеччыну, за Эльбу, дзе Барысу, яшчэ зусім дзіцяці, давялося перажыць «аж два гады пакут і здзеку», спазнаць, «што такое бізун прыганятага «майстра», што такое чалавечая кроў, смерць».

Вяртаючыся пасля вызвалення на радзіму, Барыс Сачанка, мусіць, міжвольна «занатоўваў» у памяці свежыя сляды найцяжэйшай вайны, сляды фашысцкага варварства і вялікай мужнасці свайго народа. «Каміны абгарэлых печышчаў на месцы былых вёсак, зараслае травою і маладым ляском поле — так доўга яно не бачыла рук руплівага хлебароба! — магілы з чырвонымі зорачкамі на драўляных, збітых з дошак, абеліcках, перавернутыя, пакарэжаныя, абгарэлыя вагоны, а то і проста кучы жалязячча і друзу паабапал чыгуначнага палатна... І побач — новыя смалістыя зрубы, загоны чорнай, уробленай чалавекам, зямлі. Людзі вярталіся да сваіх селішчаў і браліся за работу, браліся папраўляць разбуранае і будаваць новае — балазе ў рабоце забывалася гора, нараджалася новая, шчодра змочаная горнымі, салёнымі слязьмі і ад таго яшчэ даражэйшая радасць...» — так напісана ў «Аўтабіяграфічных нататках». Так запомніліся хлопцу тыя пакутныя і вялікасныя дні сорак пятага года, з якіх пачалося для Сачанкі, тады дзевяцігадовага падлетка, вольнае жыццё на вызваленай зямлі.

Перажытае ў вайну не дае спакою Барысу Сачанку. Стаўшы пісьменнікам, ён зноў і зноў вяртаецца да асобных эпізодаў ваеннага часу, прысвячаючы ім аповесці «Палон» і «Пакуль не развіднела», а таксама шэраг апавяданняў. На матэрыяле Вялікай Айчыннай вайны створана выдадзеная летась кніга Барыса Сачанкі «Апошнія і першыя», у якую, акрамя вялікай аднайменнай аповесці, увайшла і «Ноч няволі» — драматычная аповесць у чатырох частках (так вызначае жанр гэтага апошняга твора сам аўтар).

Аповесць «Апошнія і першыя» аўтар прысвяціў памяці сваіх «аднавяскоўцаў, жыхароў Вялікага Бору, якіх спалілі нямецкія фашысты ў чэрвені 1943 года». У аповесці часта ўгадваюцца канкрэтныя дэталі рэальных трагічных падзей, не раз скарыстаныя пісьменнікам у апавяданнях. Нямала самім перажытага ў часе гітлераўскай акупацыі Беларусі аддае аўтар падлетку Ясю Панявежу, ад імя якога вядзецца апавяданне ў аповесці і які з'яўляецца яе галоўным героем.

Увогуле, пісьменнік вельмі шчодра выкарыстоўвае асабісты вопыт і ў цэлым надзвычай дакладна ўзнаўляе атмасферу тых страшных дзён, калі на нашай зямлі лютавалі карнікі, бязлітасна распраўляючыся з мірным насельніцтвам. Але было б памылкай лічыць твор цалкам аўтабіяграфічным — лёс Яся Панявежы, а таксама лёс Ясевых бацькоў яўна не супадаюць з лёсам аўтара і яго блізкіх (я маю на ўвазе толькі падзеі перыяду вайны). Ды і трагічная доля вёскі Рудня з аповесці «Апошнія і першыя» не ва ўсім адпавядае таму, што на самай справе адбылося ў Вялікім Бары, як пра гэта пісаў Сачанка ў нарысе «Зямля маіх продкаў».

У аповесці нічога не гаворыцца пра людзей, вывезеных у Нямеччыну. Тут гутарка ідзе ў асноўным толькі пра тых, хто загінуў у страшным пажары або выпадкова ўратаваўся, як Ясь ды яшчэ некалькі чалавек. Пісьменнік імкнуўся да сюжэтнай стройнасці свайго

твора і таму абмежаваўся, як гэта звычайна бывае ў жанры аповесці, параўнальна невялікім колам падзей. Аднак і выбранага Сачанкам падзейнага стрыжня аказалася зусім дастаткова, каб пераканаўча, усхвалявана паказаць бесчалавечнасць фашызму, яго поўную несумяшчальнасць з законамі цывілізаванага грамадства.

Іменна гэтая думка пра бесчалавечнасць фашызму і складае асноўны пафас аповесці «Апошнія і першыя». Выкрываць жа фашызм, яго агіднае аблічча пісьменнік Барыс Сачанка лічыць сваім прамым грамадзянскім абавязкам. У «Аўтабіяграфічнай нататцы» ён зазначае: «Тыя, хто нарадзіўся пазней і хто не бачыў, што такое фашызм ва ўсіх яго агідных праявах, павінны ведаць пра яго хоць з кніг. Асабліва гэта неабходна цяпер, калі над светам паўстаў атрутны атамны грыб і калі зноў падымае галовы ўсякая недабітая фашысцкая погань, рыхтуючы новыя забойствы і новыя разбурэнні».

Рэальная небяспека новай вайны прымушае Барыса Сачанку шмат увагі аддаваць антыфашысцкім, антыімперыялістычным матывам. У асобных выпадках разважанні пра вайну на першы погляд гучаць у аповесці крыху абстрактна, як пракляцце вайне наогул. «Хто, хто выдумаў цябе, вайна?.. І чаму ты такая крыважэрная, ненасытная?.. Мала таго, што ты разлучаеш дзяцей з бацькамі і бацькоў з дзяцьмі, жонак з мужыкамі і мужыкоў з жонкамі на гэтым свеце, дык ты яшчэ разлучаеш іх і на тым—рассейваеш, раскідаеш іхнія косці, іхнія магілы дзе папала, па ўсіх абшарах, па ўсёй Зямлі! Дык будзь жа назаўсёды праклята ты, вайна! І хай да канца дзён сваіх будзе пракляты той, хто цябе выдумаў!.. Вечны праклён мой табе, вайна!..» — з горыччу і вялікім душэўным болем думае Ясь Панявежа, пакідаючы родную вёску, якая, па волі гітлераўцаў, стала магілай для большасці былых яе жыхароў.

Міхаіл Гарбачоў у рэцэнзіі на кнігу Б. Сачанкі («Литературная газета», 7 жніўня 1968 года) успрыняў гэтае разважанне менавіта так, знайшоў у ім «адценне пацыфісцкай усеагульнасці». Узятыя самі па сабе, без сувязі з канкрэтнымі абставінамі дзеяння і асноўным пафасам твора, працытаваныя радкі сапраўды даюць некаторыя падставы для такога папроку. Але трэба мець на ўвазе, што гэты гнеўны праклён зрываецца з вуснаў падлетка, ашаломленага фашысцкім варварствам. І таму яго пракляцце вайне — гэта, у першую чаргу і галоўным чынам, пракляцце фашызму, ягонай жорсткасці і бесчалавечнасці, выкрыццё якіх для Сачанкі ў аповесці «Апошнія і першыя» мае найважнейшае значэнне.

Нянавісць да нямецкіх фашыстаў у Яся настолькі моцная, настолькі яна падпарадкавала сабе ўсе яго пачуцці і ўяўленні, што хлопец літаральна ў кожным немцы бачыць свайго зацятага ворага. У гэтым сэнсе вельмі характэрная і шматзначная сустрэча Яся з антыфашыстам, які дэзерціраваў з гітлераўскай арміі і туляецца па лясах, імкнучыся неяк выбрацца на радзіму — у Германію. Гэты хворы, здарожаны і асабіста менш за ўсё вінаваты ў няшчасцях Яся чалавек спрабуе растлумачыць хлопцу: «Не ўсе такія немцы, як тыя, што спалілі тваю вёску. Ёсць немцы і другія. Яны не абыякавы да таго гора і слёз, што прынеслі нашы суродзічы на вашу зямлю. Ім сорамна. Сорамна і балюча. Помні пра гэта, малы! Помні заўсёды!..» Але Ясь, перажыўшы тыя жахі, што выпалі на яго долю, ужо не можа быць разважлівым. «Ён быў немец,— успамінае праз шмат гадоў гэтую сустрэчу Ясь.— А я не забыўся, я вельмі добра памятаў, што зрабілі немцы з нашаю вёскаю, з маёю маці, з усімі нашымі людзьмі. Я яго проста ненавідзеў, як ненавідзеў бы ўсякага немца, хто б ён ні быў».

Думаю, што пісьменнік зусім не перабольшвае, не парушае псіхалагічнай праўды і тады, калі паказвае, як знясілены падлетак, па сутнасці амаль яшчэ дзіця, з голымі рукамі кідаецца на дарослага чалавека, салдата. У Яся гаворыць цяпер нянавісць, якая падначаліла сабе ўсё — і страх, і асцярогу, і разважлівасць, і клопат пра будучыню.

Далей адбываецца нешта не зусім верагоднае ў звычайных жыццёвых абставінах, але цалкам заканамернае ў той канкрэтнай сітуацыі, што даследуецца Сачанкам,— дарослы і яшчэ, не зважаючы на здарожанасць і хваробу, усё ж дужы немец адступае перад разгневаным падлеткам. Адступае не таму, што фізічна не змог бы яго адолець, і, вядома, не са страху (як гэта бывае ў павярхоўна-надуманых творах), а таму, што адчувае Ясеву справядлівасць, яго права, вялікае чалавечае права на гэтую нянавісць, народжаную жахамі фашысцкіх зверстваў.

Тое, што ў аповесці «Апошнія і першыя» зверствы фашыстаў падаюцца праз успрыманне падлетка, мае свой зусім пэўны сэнс і глыбокае ўнутранае, мастацкае апраўданне. Жахлівасць гэтых зверстваў, якія з пункту гледжання звычайнага чалавечага разумення здаюцца дзікім шаленствам і нават нейкім ірацыянальным абсурдам, у кожным разе, ніяк не ўкладваюцца ў свядомасці, а таксма трагічнасць са-

мой вайны, якая заўсёды ў той ці іншай меры парушае нармальнае грамадскае існаванне хоць бы таму, што непазбежна выклікае большыя або меншыя чалавечыя ахвяры і матэрыяльныя страты,—усё гэта ва ўспрыманні Яся выступае асабліва выразна і наглядна.

Дзеці, як правіла, мацней за дарослых, больш востра рэагуюць на ўсякую ненармальнасць, на любыя праявы жорсткасці і бесчалавечнасці, ад якіх яны і пакутуюць непараўнальна больш. Барыс Сачанка добра выкарыстоўвае гэтыя асаблівасці дзіцячай псіхалогіі, дзіцячага ўспрымання свету. Жахліва-трагічная рэальнасць усё перавярнула ў Ясевай галаве: у яго свядомасці пачынаюць блытацца ўспаміны, страшная ява і не менш страшныя сны. Гэта адлюстравана не толькі чыста дэкларатыўна, у форме прамых сцверджанняў, але і даволі спецыфічным характарам апавядальнай плыні твора, знешне не заўсёды паслядоўна звязанай, як бы нават крыху хаатычнай. Пісьменнік свядома дапускае «разарванасць» асобных звенняў апавядання, імкнучыся перадаць псіхалагічны стан свайго апавядальніка, вельмі супярэчлівы, пакручаста-хаатычны ход яго думак і разважанняў, натуральная плынь якіх парушана, «збіта» тым, што хлопец сутыкнуўся з нечуванай, жахлівай падзеяй.

«Агаломшаны, прыбіты горам», Ясь баіцца паверыць страшнай праўдзе, намагаецца неяк ашукаць сябе, але такое ашуканне аказваецца немагчымым — то адна, то другая жахлівая ў сваёй неаспрэчнасці дэталь раз за разам вяртаюць хлопца да рэчаіснасці. Аўтар піша пра гэта вельмі пераканальна і праўдзіва, выбіраючы такія падрабязнасці, якія пакідаюць моцнае ўражанне. Напрыклад, папялішча Ясевай хаты. Тут хлопцаў позірк спыняецца перш за ўсё на тым, як «зеўрала не закрытая засланкай, уся абкуродымленая, з абваленым комінам і праламаным чараном, нейкая надта ж голая, як бы раздзетая, а таму і страшная ў святле месяца печ...»

Гэта і само па сабе застаецца ў памяці, а яшчэ больш кранае, літаральна ўзрушвае, дадатковая падрабязнасць, звязаная з той самай печчу: «На загнетцы, куды маці звычайна выграбала вуголле, стаяў накрыты скавародкай чыгунок, у якім маці варыла есці... Салонікі як зварыліся, так і стаялі нечапаныя».

Па законах кантрасту, гэтыя нечапаныя салонікі, што ўцалелі ў страшным пажары, як нельга лепш падкрэсліваюць усю жахлівасць і нават своеасаблівую алагічнасць сітуацыі — людзі з іх клопатамі, турботамі, з іх надзеямі і марамі загінулі, а салонікі засталіся, як бы перажылі людзей. Хіба гэта не самы сапраўдны алагізм? Хіба ў гэтым няма найвялікшай ненатуральнасці, недарэчнасці і несправядлівасці? У кожным разе, такія дэталі не забываюцца. Яны зноў і зноў вярэдзяць душу, не даюць ёй супакоіцца...

Зрэшты, і печ на голым папялішчы мае ў сабе прыкметы той жа алагічнасці. Такая звычайная і «свойская» ў сялянскай хаце, яна, страціўшы сваю ранейшую ўтульнасць і цеплыню, цяпер таксама выглядае нейкім жахлівым прывідам, выступае як нямы, але красамоўны сведка бязмежнага і таму злачыннага разгулу людской нянавісці, фашысцкага варварства.

Звяртаючы ўвагу чытача на гэткія страшныя пераўтварэнні, калі нават звычайныя рэчы ў жахлівай сітуацыі пачынаюць здавацца жахлівымі, празаік сцвердзіў, што ён умее пісаць і шматзначна, і эканомна. Аднак трэба сказаць і пра тое, што ў аповесці «Апошнія і першыя» трапляюцца асобныя няўдалыя, натуралістычныя дэталі, якія вызначаюцца не столькі сваёй ёмістасцю, і, значыць, незамянімасцю, колькі неэстэтычнасцю і нейкай грубай аголенасцю.

Прыгадаю толькі адзін характэрны прыклад такой неперабарлівасці аўтара. Апісваецца смерць Аўхіма Аглабелькі, фашысцкага прыслужніка і палахліўца. Дарэчы, палахлівасць Аўхіма спачатку падкрэслена адным невялічкім штрыхом: у чалавека няма пальца. Яшчэ ў маладыя гады Аглабелька сам сабе адсек яго, каб не забралі ў войска, на вайну, дзе можна і загінуць. З цягам часу палахлівасць, усё разрастаючыся, прыводзіць Аўхіма да таго, што ён, як той крот, зарываецца ў зямлю. У спецыяльна абсталяваным паграбе ён хаваецца і ад немцаў, і ад партызан. Жыццё адплаціла Аглабельку поўнай мерай, пакарала яго страшэнна: Аглабелькава сям'я (жонка і трое дзяцей), над якой фашысты за Аўхімавы паслугі гатовы былі злітавацца, выбрала за лепшае смерць з усімі адаваяскоўцамі, чым жыццё з гэтым нікчэмным чалавекам. Жахнуўшыся ўсяго зробленага, Аглабелька канчае самагубствам.

Развенчаны, выкрыты гэты агідны тып. Далей, здаецца, ужо няма куды. А пісьменнік усё яшчэ сумняваецца— ці не мала? І ён нагнятае і нагнятае агіднасці, падводзячы да такой сцэны: «Аўхіма на грушы не было. Звісала толькі вераўчаная пятля. Сам жа Аўхім ляжаў у картапляніку, і я з жахам убачыў, што ён без галавы... Не, галава была, але яна ляжала крокі за два ад Аўхіма, асобна. Валасы адвалі-

ліся ад яе разам са скураю, і з-пад іх відзён быў голы чэрап... Па ім поўзалі вялікія белыя чарвякі, мухі... Чарвякі, мухі капашыліся і ў ямках вачэй, у роце, яны поўзалі і па расхрыстанай, уздутай грудзіне, па руках, нагах... Непрыемны, саладкаваты пах стаяў навокал, біў у нос, давіў горла...»

Спатыкаючыся на такіх безгустоўных мясцінах, мусіш пагадзіцца з Янкам Брылём, які на нядаўнім пленуме Саюза пісьменнікаў Беларусі не без падставы гаварыў пра неабходнасць скарачэнняў у аповесці «Апошнія і першыя».

Акрамя дэталей выразна натуралістычнага характару, лішнімі мне здаюцца і некаторыя разважанні Яся пра маці ў самым пачатку твора. «Кажуць, матчына сэрца заўсёды чуе бяду, якая б яна, тая бяда, ні была. Можа і сэрца маёй маці чула тое няшчасце, што навісла над нашаю вёскаю, над усімі тымі, хто ў ёй жыў. Але што гэта за няшчасце, маці, пэўна, не ведала, а таму, можа, гэтак і ўгаворвала мяне, каб я ішоў у Замошкі, разважыўшы, мусіць, па-свойму, пажаночы, што калі я астануся разам з ёю ў вёсцы і, не дай бог, прыедуць немцы нас паліць, дык мы загінем абое...»

Праз некалькі старонак хлопец зноў задае сабе рытарычнае пытанне ўсё пра тое ж: «Чаму яна выправіла мяне сёння нанач з дому?» Праўда, цяпер Ясь, успамінаючы мінулае, расказвае, як ён думаў яшчэ тады, калі ішоў з дому з гладышкаю малака і не здагадваўся аб тым, што чакае яго наперадзе. Пасля ўсяго, што адбылося, гэтае пытанне ўспрымаецца як лішняе, неістотнае і зноў жа непатрэбнае.

Калі падзеі толькі пачыналіся, Ясь, нічога не ведаючы пра будучае, мог так разважаць, як ў аповесці Сачанкі над тым, чаму гэта маці, на ноч гледзячы, загадала яму ісці ў тыя Замошкі. Так што пэўная недакладнасць тут адносіцца не да першапачатковых паводзін і думак хлопца, а да яго пазнейшага вопыту, які практычна аўтарам не ўлічваецца. Іменна пазнейшы Ясеў вопыт, яго пазнейшае веданне ўсіх акалічнасцей справы павінны былі зняць у свой час правамерныя «чаму», праясніць усе няясныя раней пытанні адносна матчынай здагадлівасці і прадбачлівасці.

Барыс Сачанка, увогуле, умее даволі тонка і трапна перадаваць самыя складаныя рухі дзіцячай душы, але часам прыкметна парушае дакладнасць першапачатковага ўспрымання падзей вачыма ўзрушанага падлетка. Псіхалагічная неадпаведнасць у гэтых адносінах заўважаецца ў многіх пейзажных малюнках, у залішне глыбакадумных развагах хлопца, якія нярэдка прэтэндуюць на філасофскае абагульненне, у знарок стылізаваных, вытрыманых у падкрэслена ўзвышанай, урачыстай танальнасці выказваннях, у некаторых, таксама стылізаваных, страшных кленічах.

Прыгожа ўспрымае Ясь навакольную прыроду, узвышана думае: «Ноч яшчэ спала, дабачвала апошнія, самыя прыемныя, самыя салодкія перадсвітальныя сны свае — адпачывала перад доўгім, спякотна-гарачым да зморы, да смягі сухім чэрвеньскім днём. Нават раскідака і калашмай вецер і то не гайдаўся, не гушкаўся ў голлі дрэў, а недзе прытаіўся, нібы баяўся неасцярожным уздыхам патрывожыць некага, разбудзіць...

Хай спяць тыя, хто вас даглядаў, хто вас карміў і паіў, хто за вамі ўсюды хадзіў... Хай спяць... Спяць вечным, непрабудным сном. Спяць там, дзе вучыліся іхнія дзеці... Хай спяць, а мы памаўчым... І я разам з вамі таксама памаўчу... Хаця ...што ж гэта я? Хіба я забыўся, што і вас ужо няма ў нашай вёсцы, што вас пагналі адсюль... Хто пагнаў? Куды? Чаго?.. Хіба вам мала было тут, на нашых лугах, травы, хіба вам мала было тут, у нашых крыніцах, вады? Ці не былі цёплыя ў вас хлявы, ці гаспадыні і гаспадары былі няласкавыя?..»

Само па сабе ўсё гэта напісана нядрэнна, аднак мала стасуецца з псіхалагічным станам хлопца, літаральна праз некалькі дзён пасля страшнай трагедыі. Не столькі апавядальнік Ясь, колькі сам аўтар паўстае і за такімі пейзажнымі дэталямі: «Вісела ўсё яшчэ нізка над лесам толькі Мілавіца — самая вялікая і чыстая, як сляза, ранішняя зорка»; «Прачыналася, неахвотна ўставала, праціpала заспаныя вочы раніца»; «Пацягнуўся, закурэў, заварушыўся і папоўз да кустоў хавацца малочна-белы туман». Ва ўсіх гэтых выпадках аўтар не прымае пад увагу, што ў той канкрэтнай сітуацыі, якая ўзнаўляецца ў творы, Ясь, ашаломлены жудаснымі падзеямі, так тонка і прыгожа ўспрымаць навакольны свет проста не можа, не ў стане. Сачанка куды больш дакладны, калі перадае стан свайго героя ў тыя жахлівыя для яго часы: «Дні чаргаваліся ночамі, а ночы днямі, і я не лічыў іх, нават, калі хочаце, не бачыў, яны проста міналі мяне, пралятал. нада мною, як пралятаюць птушкі, хмары, нічуць і нічым мяне не кранаючы, не ўражваючы». Гэта зазначае пра сябе Ясь. І пры такім яго душэўным здранцвенні яму, вядома, не да прыгожых падрабязнасцей.

Мала верагоднымі здаюцца і думкі Яся пра смерць, якія паяўляюцца ў

яго пасля таго, як хлопец даведаўся пра трагічны лёс сваіх аднавяскоўцаў, у тым ліку і маці. «Лепей бы я быў мёртвы...— бядуе, галосіць Ясь, успомніўшы маці і іншых спаленых фашыстамі людзей.— Ляжаў бы я разам з табою, разам з усімі ў школе, і мне было б гэтак жа добра, як і табе... Я не ведаў бы, што цяпер на зямлі — раніца ці вечар, ноч ці дзень, свеціць сонца ці лье дождж, не ведаў бы, што зрабілі немцы з нашаю вёскаю, з людзьмі, з табою, мама! Я нічога-нічога не ведаў бы, нічога-нічога не бачыў бы, не адчуваў... Да ўсяго-ўсяго я быў бы абыякавы. Мне не трэба было б хадзіць па папялішчах, не трэба было б ні пра што думаць, не трэба было б жыць... Я быў бы тым, чым сталі цяпер вы ўсе,— попелам, касцямі...»

Вядома, Ясь у гэты момант страшэнна ўзрушаны, прыгнечаны жахлівым няшчасцем. Але і ў такім стане жаданне падлетка стаць «попелам, касцямі» выглядае перабольшаным. Усё ж чалавеку ўласціва натуральная агіда да смерці. І не з зайздрасцю, а хутчэй з жахам, у кожным разе, з нейкім інстынктыўным спалохам глядзіць ён на мёртвых. Каб неяк прымірыцца са смерцю, прызнаць яе непазбежнасць і для сябе асабіста, трэба навучыцца мысліць абстрактна, па-філасофску. А тут хлопец, якраз нагледзеўшыся на жахлівае відовішча людскога знішчэння, сам жадае быць мёртвым. Не верыцца ў такое. Прынамсі, напісана пра гэта не тымі словамі.

Іншая справа, калі Яўмен Тарбачэня, аплакваючы сваю сям'ю, на хвіліну дапускае страшную думку пра тое, што не варта было тысячу разоў размінацца са смерцю на вайне, каб цяпер, здавалася, усё перамогшы, сутыкнуцца з трагедыяй страты самых блізкіх і дарагіх людзей. Разважанні Яўмена, лепш сказаць, крык яго душы, яго боль, яго скруха ўяўляюцца зусім натуральнымі, сапраўднымі. Яны ўзноўлены таленавітай рукой майстра. «Чатыры гады я жыў толькі тым: вось скончыцца вайна, прагонім немца, я вярнуся зноў дадому, да свае жонкі, дзяцей...І ўсё тое, што я пабачыў, пераджыў на фронце, забудзецца, адыдзе, як непатрэбны і страшны сон... Гэта давала мне сілы, і я ішоў і ішоў ад акопа да акопа, ад зямлянкі да зямлянкі... І вось вайны няма, я вярнуўся дадому... І бачу — вяртацца сюды мне не было чаго... Немцы спалілі маю хату, спалілі жонку, спалілі дзяцей. Астаўся адзін я... У мяне ёсць сіла. Але на што мне тая сіла, калі ў мяне няма мае Алены, калі ў мяне няма майго Лявонкі, мае Наташкі?.. Мне няма цяпер чаго рабіць на гэтым свеце, толькі хіба сядзець ды ўспамінаць, як жылося да вайны... Мне няма каму аддаць тых драбочкаў цукру, што я прынёс у сваім ранцы, няма каму заплясці ў косы тых стужак, што навыбіраў у горадзе ў магазіне, няма каму завязаць той хусткі, што купіў я сваёй Алене... Дзеткі мае, салавеечкі ненаглядныя, нашто я без вас? Лепей бы я не вяртаўся сюды, хай бы і мяне забіла на фронце!..» — выгуквае на самым высокім напале пачуцця Яўмен. І ўсхваляваныя словы яго гарачай, пакутнай споведзі бяруць за жывое, абпальваюць пякучым агнём і нашу душу. За гэтымі словамі стаяць жывыя пачуцці, духоўны свет менавіта Яўмена.

Высокая эмацыянальная напружанасць, безумоўна, ёсць і ў стылізаваных зваротах Яся да смерці, зямлі, ночы, ветру, сонца, месяца, неба, хмараў. Але паколькі ў іх няма псіхалагічнай дакладнасці, дык яны ўсё ж многае страчваюць у сваім уздзеянні на чытача. Вельмі нялёгка паверыць, што Ясь можа вось так прасіць зямлю: «О, Зямля, зямелька! Спрадвечная карміцелька ты нашая! Усяму жывому ты даеш жыццё, усіх і ўсё корміш і поіш... І ўсіх забіраеш да сябе, усім даеш месца, калі замыкаецца круг жыцця, калі канчаюцца чые б то ні было дні на белым свеце і прыходзіць смерць». Гэты і падобныя да яго звароты не могуць прагучаць як жывая споведзь, бо яны залішне літаратурныя, умоўныя, стылізаваныя пад плач, народнае галашэнне.

У прынцыпе гэта законная літаратурная форма. І там, дзе Барыс Сачанка не ад імя героя, а ад свайго ўласнага, пісьменніцкага, імя дае вытрыманыя ў казачна-прытчавым стылі ўстаўкі-алегорыі, як, напрыклад, прытчу пра маці і дзіця, там усё становіцца на сваё месца. Такія ўстаўкі не маюць непасрэднай, падзейнай сувязі з асноўным сюжэтам аповесці, але ўнутраная сувязь тут ёсць — разважанні ад аўтара, алегарычныя ўстаўкі пашыраюць гарызонты твора, паглыбляюць яго ёмістасць, узбуйняюць адлюстраванне, узмацняюць гуманістычныя матывы аповесці. Разам з тым, гэта таксама спосаб выйсці за межы дзіцячага ўспрымання падзей, якія пакладзены ў аснову твора. І калі б пісьменнік смялей, больш паслядоўна карыстаўся гэтым сваім правам «падпраўляць», неяк карэкціраваць Ясева бачанне трагічнай гісторыі, тым ці іншым шляхам выказваючы ўласныя адносіны да расказанага падлеткам, яму, аўтару, не прыйшлося б дапускаць тыя псіхалагічныя нацяжкі, пра якія ішла ўжо гутарка.

Алегарычна-казачныя, прытчавыя элементы, вытрыманыя ў стылі адкрыта эмацыянальнай, узвышанай прозы, у аповесці «Апошнія і першыя» здаюцца мне важнымі яшчэ і таму, што яны ў пэўнай ступені адкрываюць новага,

не вядомага чытачу Сачанку. У сваіх ранейшых творах пісьменнік паказаў сябе прыхільнікам аб'ектыўнай, бесстаронняй манеры апавядання, пры якой ацэначныя моманты часцей за ўсё выяўляюцца не прама, а ўскосна, як бы скрыта. Яны адчуваюцца, напрыклад, у падборы і расстаноўцы адпаведных, вельмі старанна адшліфаваных дэталей, у падтэксце твора, увогуле, ва ўсёй сукупнасці мастацка-выяўленчых сродкаў сучаснай аналітычнай прозы. Залішне яркія, кідкія, эфектна разлічаныя фарбы, розныя эмацыянальныя нагнятанні раней таксама не вабілі Сачанку, як і іншых пісьменнікаў-аналітыкаў. На гэтым фоне яркія і квяцістыя эмацыянальныя пасажы алегарычных уставак, стылізаваных пад узвышаны фальклорны лад, выглядаюць у аповесці «Апошнія і першыя» як новае слова пісьменніка, пашыраюць і ўзбагачаюць яго мастацкую палітру, робяць яе больш разнастайнай.

**Дзмітры БУГАЁЎ.**




**Алесь НАЎРОЦКІ.**
**ГАРАЧЫ СНЕГ.**
**Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1968.**

# «...МІЖ ДВУХ ЖОРНАЎ»

Дзіўны ён паэт, Алесь Наўроцкі. Усё ў яго не так, як у людзей, увесь ён у крайнасцях, супярэчнасцях... Гэтым і цікавы, як сказаў бы Маякоўскі. Па прафесіі ўрач, па прызванню паэт, ён ніяк не можа прыйсці да гармоніі інтарэсаў, да поўнага задавальнення жыццём і працай.

Многа таго не знаходжу, чаго
шукаю.
Горкая дума часамі агорне:
навошта сэрца сваё пераціраю
між двух жорнаў?

Высокае і нізкае, мара і рэчаіснасць, проза і паэзія ў яго цесна пераплятаюцца, уражваючы сваёй неадпаведнасцю, сваім дысанансам... Узяць хоць бы такое рамантычнае сумаванне па ідэале, як: «Слата імжыстая, зябкая, асенняя. Уцячы б ад яе па загуменню ў той край...», і раптам: «дзе куры на сметніку не таўкуцца...»

Адольвае, аднак, рамантыка, паэтычнасць. «У тым краі ёсць лужок з травою густою,—месячнымі начамі прыходзіць туды дзяўчына з русай касою і непадмалёванымі вачамі»..., і далей: «...мы вусны сальём. Пад сум серабрысты, пад сум салаўіны у вечнасць на лодцы мы той паплывём». («Слата імжыстая».)

Паэт перагортвае, высвечвае словы ў розных ракурсах, аспектах, часта «знаходзячы» нечакана свежы сэнс нават у банальнасці, шаблоне, у самых шурпатых і «няправільных» радках: «Пра каханне маё знае кожная ў лесе сасна... Толькі ты не знаеш адна», «прыляці і прысядзь за вёскай пад алешын зрудзелых сям'ю».

Дасягаецца гэта рознымі сродкамі. Напрыклад, поўным супадзеннем прамога і пераноснага значэнняў тропаў, ці перабудовай іх структуры, або іх «паралельным мантажом».

«Бегчы полем няма як—далёка лясок. У жыццё я ўчапіўся, як зубамі ў пясок», а далей: «Бомбы выюць і выюць, і завываюць, і пясок з-пад зубоў маіх вырываюць». Вырываюць пясок сапраўдны, рэальны, і пясок як сімвал жыцця, паратунку.

А вось як памяняліся месцамі такія параўнанні: «асколак сасне скрыжаваў галіны рук. Рукі галіны ўзняцца не маюць сілы». Або: «чатырохгранная ваза—гэта прырода, дзе чатыры грані—поры года». Па прынцыпу «паралельнага мантажу» паэт будуе цэлыя вершы, лірычныя цыклы, паэмы. І яны найбольш удалыя тады, калі паралельнае развіццё лірычных

вобразаў, матываў падаецца як своеасаблівая градацыя, нарастанне думак і пачуццяў:

Ападаюць у садзе яблыкі
сопкія,
а ў думках: ці не сынавы гэта
крокі?
Рыпяць незачыненыя весніцы,
а ў думках: а што, калі ён,
а не вецер?
У акно галіна шкрабецца
глуха,
а ў думках: можа ён стукае?

І пры гэтым, ёсць пэўная цэльнасць і закончанасць лірычнай дзеі, апошняя кропка:

Доктар,
парашкоў і мікструры мне
даў,—усяго.
Сына дай толькі мне,
сына майго...
(*«Палячыце нас, доктар!»*)

А вось верш «Чым ты будзеш, дрэва?», пабудаваны па такім жа прынцыпе, можна скараціць або прадаўжаць да бясконцасці, і ад гэтага ён не стане ні лепшы, ні горшы.

Вось так, не без промахаў, але і не без поспеху, удумваючыся ў жыццё і яго супярэчнасці, паэт ідзе да больш глыбокага і ўскладнёнага яго адлюстравання, а таму іншы раз бывае цяжкі для разумення і ўспрыняцця.

Безумоўна, лягчэй за ўсё ад гэтага адмахнуцца: нельга так пісаць! не разумею! Існуе, між іншым, і такая форма абмежавання мастака... Адзін вядомы паэт не так даўно пісаў: «Як гэта можна мыліць усмешкі?» Чытаючы новы зборнік, ён, мабыць, запытае: «Як гэта можна скубсці цішыню?» Але паслухайце, аказваецца, можна: «Юнкерсы скінулі бомбы і зніклі. Упершыню я пачуў, як карова на полі скубе цішыню». Смела выкарыстоўваючы ўмоўную асацыятыўнасць і тым самым парушаючы дробязнае праўдападабенства, аўтар дамагаецца большага—мастацкай праўды: менавіта такім, як паказвае ён, і бывае стан кантужанага пасля авіяцыйнага налёту.

Умоўнасць Наўроцкі цяпер выкарыстоўвае радзей, але затое больш сціпла і па-мастацку абгрунтавана:

Я бачу, як расходзіцца сцяна,
ўваходзіць ціха праз сцяну
ЯНА.
І незаўважана, не кажучы
нічога,
снег дзеркачом збівае ля
парога.
Кухвайку скідвае на лаву,
ля акна...
І да мяне—у сукенцы лёгкай,
белай.
Усё ва мне ад шчасця
амярцвела.

Уяўнае ўспрымаецца як рэальнае і ад таго становіцца яшчэ больш пачуццёва-канкрэтным. А далей—мастацкае абагульненне:

Сустрэчы ўхіліўся я. Прадрог
перад хвілінай той адзінаю
святой,
пасля якой я быў бы той і ўжо
не той.
Як часта я ўзіраюся ў сябе,
у сцюдзёны вецер, што так
цёпла б'е,
ніколі з ёй, ніколі не
сустрэцца...

Так, дарэчы, праяўляецца і адзін з пастаянных матываў лірыкі Наўроцкага—няўдача ў асабістым жыцці і ў каханні. Паэт не ставіць пытанне проста: каханне і грамадства. Але каханне ў яго—сацыяльнае, бо сацыяльны сам лірычны герой як член грамадства, прадстаўнік пэўнага асяроддзя, часу. Гэта надзвычай супярэчлівы герой: знешне млявы і памяркоўны, унутрана ён нервовы, імпульсіўны. «Я выцягну з кішэні млява запалак змяты карабок» і—«апячэ мае пазногці каханне дрэва і агню». А затым: «Я страсану рашуча думкі. І ўздыхну... І пазяхну...» («Адзінота»). Ён знемагае, як яму здаецца, ад адзіноты і бязглуздасці існавання, таму не толькі спагада да боляў чалавечых, але і рэўнасць і зайздрасць раз'ятраюць яго душу.

Раўнуе ён звычайна да тых, хто не варты кахання яго абранніцы. Але «тыя» валодаюць грубай сілай, і іх сіла,—як гэта ні балюча і ні крыўдна,—часцей за ўсё перамагае сарамлівую закаханасць, сапраўдную шчырасць і прыгажосць пачуццяў: «Нехта з прыкусанай папяроскай далоні прысвоіў твае. Б'юцца полы пальта трывожна, супакоіцца хутка яны»; «Толькі мне, хто плаваць не можа, недасяжны той бераг лясны».

За каханне, як і за жыццё, трэба змагацца. Герой жа Наўроцкага, на жаль, не супрацьстаіць лёсу, мірачыся з яго немінучасцю: «Асыпаецца лісце жаўтапёрае нібы ў здзеклівым сне. Так, здаецца, лёг бы ў разору—хай засыпле яно мяне» («Вецер ясені чорныя чысціць»). Чалавека апаноўвае нейкая нерушучасць, раздваенне; з унутранай сарамлівасці прабіваецца неадчэпная эратаманія, змрочная вульгаршчына: «з двух—зноў цень адзін, няйначай... Ці мо падалося мне?.. Раптам чую—шэпт гарачы ўсё мацней... мацней... мацней... Як бы нехта пад той ліпай са штаніны пыл змахнуў... Як бы нехта ўсхліпнуў, як бы нехта уздыхнуў...» Або: «буду калупаць сонна ў носе, каб выкалупаць нясонную рыфму з галавы».

Так, між іншым, паэт страчвае акрэсленасць і актыўнасць сацыяльнай пазіцыі, і ў гэтым асноўная яго сла-

басць. Асабліва, калі ён настолькі «захопіцца» сваімі болямі і перажываннямі, што не заўважае нікога і нічога, і ўсё навокал здаецца непрыхільным да яго: «чарвівай грушай пачастуюць мяне вятры па галаве», «задрамі ў гняздзечку і ты, мая птушка, у цябе камнямі кідалі і пяском, ты крычала не раз ў чырвонай лужыне ля аконнага шкла з перабітым крылом».

У прыродзе ўсё так разумна, гарманічна, а вось лірычны герой — адзінокі, адчужаны, нават сярод сваіх землякоў і нават у гасцях у бацькоў. Ніхто яго не разумее, не прымае:

Думкі па шышцы — па чорнай
кропцы —
як мурашкі рудыя снуюць.
Тут, у лесе, мяне не
абсвішчуць хлопцы
і дзяўчаты не абсмяюць.
Тут не буду я чырванець
недарэчна
і маўчаць, забіўшыся ў куток...
Калышыся ж спакойна, маё
гняздзечка,
тут цябе не зачэпіць ніхто
*(«Я сяджу пад хвояй».)*

Адзінота засмоктвае яго ўсяго:

Я страсану рашуча думкі...
І ўздыхну... І пазяхну...
Па тых жа самых недакурках
дадому стому пацягну...
Слёз маіх соладка-салёных
у горле перасядзе ком.
Зноў мухі будуць бзымкаць
сонна
за павуцінным мутным шклом.

Не, гэта не манфрэдаўская гордая адзінота са знявагай да небяспекі і незалежнасцю волі, не бунт, а проста непрыманне жорсткасці, нялюдскасці і нярэдка, — што горш за ўсё, — адыход ад барацьбы, бездапаможнасць. Бо, пакутуючы ад чужога раўнадушша, адкідаючы псіхалогію мяшчанства і яго спажывецкі індывідуалізм («сусед бядуе, што здохла яго свіння, а бабка хворая не памерла»). Наўроцкі, на жаль, нічога, або амаль нічога, ім не супрацьстаўляе, акрамя сваёй незадаволенасці і самоты. Яго крыўда за неацэненую любоў і дабрату, яго зайздрасць да другіх і незадаволенасць сабой — ад няўмення перамагаць зло, ад бяссілля перад ім. Чаму так здарылася з мужнай і няўрымслівай музай паэта? Таму, здаецца, што паэт часам зняверваецца ў людзях і ў сабе і шукае паратунку ў прыродзе, мары, каханні. Але прырода адабрана ад гараджаніна, мара не супадае з явай, а каханне няўдалае, нерэальнае...

Вядома, гэта крайнасць — такое хваравіта-абвостранае і аднабаковае ўспрыманне складаных супярэчнасцей жыцця. Аднак гэта ўсё ж нешта лепшае ад самазадаволенасці і «добранадзейнасці», бо ў гэтым — боль і пакуты мастака, які шукае адказу на пякучыя пытанні, што ставіць перад ім час. Ён, калі хочаце, — таксама аптыміст, жыццялюб, можа і крыху стомлены, унурысты і ваўкаваты, але і неадступны, зацяты... Свет прываблівае яго сваёй універсальнай узаемапераўтваральнасцю, бясконцасцю: «карэннем буду заўтра я, засыпаны пяскамі, і яблык напішу ў сааўтарстве з лістамі», «я засну ў траве, а прачнуся... травой». І яшчэ: «як каціўся і кропляй ляцеў у пясок, у след капытны, раздвоены, як лісток. На імхах журавінаю я чырванеў...»

Яблык, трава, кропля, журавіна — гэта, па сутнасці, не смерць, а прадаўжэнне жыцця.

Пафас Алеся Наўроцкага, як паэта, узгадаванага новым светам і нашым часам, — у пошуках сувязей паміж чалавекам і яго чалавечай сутнасцю. Але пакуль існуе сутыкненне асабістых і пазаасабістых узаемаадносін людзей, — адчужэнне непазбежнае. Гэта ўсім сэрцам адчуў паэт, і гэта нараджае не толькі яго абвостранае ўспрыняцце, але падчас — разгубленасць, расчараванне, адчай. І ўсё ж ён не мірыцца з гэтым — ён пакутліва сэрца сваё перацірае ў супярэчнасцях —

...між двух жорнаў.

**Янка ШПАКОЎСКІ.**

# ЗАЎСЁДЫ НА МАРШЫ

**Аляксандр МІРОНАЎ.**
**ШЛЯХІ, ЯКІЯ МЫ ВЫБІРАЕМ.**
**Яўген РАДКЕВІЧ.**
**КАМСАМОЛЬСКАЯ ДЫНАСТЫЯ.**
**Зборнік «КАРЧАГІНЫ ШАСЦІДЗЕСЯТЫХ ГАДОЎ».**
**Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1968.**

Час Карчагіных працягваецца. У працоўных буднях нараджаюцца новыя героі. Іх мы сустракаем штодзень у маладых беларускіх гарадах, на будоўлях Гродзенскага завода капралактаму, Гомельскім суперфасфатным, Лукомльскай ДРЭС, на рэчыцкіх нафтапромыслах.










Праўда, юнакі і дзяўчаты, нашы маладыя сучаснікі, не адразу здзяйсняюць подзвігі, становяцца перадавікамі вытворчасці. Яны нават не адразу могуць знайсці адказ на вельмі хвалюючае, часам трывожнае пытанне: куды пайсці далей? Кім быць? Гэтае непазбежнае пытанне паўстае перад кожным маладым чалавекам. А потым узнікае, і таксама непазбежна, другое не менш важнае пытанне: якім быць?

І зноў хваляванні, пошукі.

Шчырую размову з моладдзю па гэтых хвалюючых пытаннях вядзе пісьменнік **Аляксандр Міронаў** у кнізе **«Шляхі, якія мы выбіраем».**

Спачатку здаецца, што аўтар занадта агульна разважае, гаворыць пра вядомыя ісціны. Але так здаецца толькі на першы погляд. У канкрэтных, цікавых і вельмі характэрных прыкладах пісьменнік шукае і знаходзіць адказы на пытанні, што хвалююць маладых. У яго разважаннях няма дакучлівага павучання. Гэта глыбокі роздум пра месца чалавека ў жыцці, карысныя, разумныя парады старэйшага, вопытнага, чулага сябра. У сваіх адносінах да людзей пісьменнік і добразычлівы, і суровы, і патрабавальны, толькі не абыякавы. Яго размова з моладдзю заўсёды шчырая, усхваляваная, па-сапраўднаму зацікаўленая.

Дастаткова ў гэтым сэнсе прывесці ў прыклад своеасаблівую палеміку з Нінай Ф-вай, пісьмо якой выклікала вялікую дыскусію чытачоў на старонках газеты «Знамя юности». Дваццацігадовая дзяўчына катэгарычна адмаўлялася пагадзіцца з агульнавядомай ісцінай, што ў нашай краіне для маладога чалавека адкрыты ўсе дарогі. Яна сцвярджала, што няма ні сяброўства, ні дружбы, ні вернасці і падтрымкі, ні разумення і дапамогі. Усё гэта, маўляў, прыдумалі пісьменнікі, якія любяць ідэалізаваць чалавека.

Аляксандр Міронаў растлумачвае дзяўчыне памылковасць яе сцверджанняў, аргументуючы свае доказы прыкладамі з жыцця і літаратуры, спасылаючыся і на свае творы. І робіцца гэта, вядома, не дзеля самарэкламы. Сталы чалавек, які мае вялікі жыццёвы вопыт, пісьменнік, кнігі якога карыстаюцца поспехам у чытачоў, імкнецца пераканаць свайго маладога апанента на прыкладах уласнай мастацкай творчасці. Думаецца, што ў дадзеным выпадку такі аргумент, нягледзячы на некаторую яго рызыкоўнасць, гучыць правамерна і пераканальна. І самае важнае: пісьменнік імкнецца не толькі пераканаць дзяўчыну, якая раптам разгубілася, заблудзілася ў трох соснах, але і ўберагчы яе ад бяды, памагчы знайсці правільную дарогу ў жыцці.

Асяроддзе і ўмовы, у якіх мы ўсе жывём, даюць чалавеку бязмежныя, сапраўды невычарпальныя магчымасці для таго, каб выбраць сабе правільны жыццёвы шлях. У патомных сем'ях шахцёраў і сталевараў, будаўнікоў і хлебаробаў жыццёвы уклад і даўнія традыцыі загадзя вызначаюць увесь далейшы шлях кожнага з сямейнікаў.

Пра адну з такіх працоўных сем'яў расказвае ў брашуры **«Камсамольская дынастыя»** журналіст **Яўген Радкевіч.** Цікава, што гэта не толькі патомная рабочая сям'я, а сапраўдная камсамольская дынастыя, пачатак якой паклаў рабочы Бабруйскага дрэваапрацоўчага камбіната Фёдар Андрэевіч Белагур.

Камсамолец дваццатых гадоў, ён прыйшоў на камбінат спачатку парторгам, потым стаў начальнікам цэха. Да гэтага Фёдар Белагур паспеў ужо адслужыць у арміі, папрацаваць на фанерным заводзе, скончыць эканамічную школу пры Саўнаргасе БССР. А калі праз тры гады ў ліку дваццаціпяцітысячнікаў ён паехаў у вёску праводзіць калектывізацыю, на камбінат прыйшоў камсамолец трыццатых гадоў, Фёдараў брат Васіль Белагур, слесар-рамонтнік.

Пасля вайны на лесакамбінат зноў прыйшлі Белагуры. Сакратар парткома Фёдар Андрэевіч і яго старэйшы сын

Уладзімір, камсамолец саракавых гадоў, вучань слесара. Другі сын, Павел, камсамолец пяцідзесятых гадоў, скончыўшы лесатэхнічную акадэмію, працуе галоўным тэхнолагам на Добрушскім папяровым камбінаце. Таксама абраў сямейную прафесію. І, нарэшце, унук Ігар. Ён яшчэ піянер, але ўжо цяпер пэўна ведае, куды пойдзе працаваць.

Адчуваецца, што аўтар добра знае людзей, пра якіх піша. Пра камсамольскую дынастыю Белагураў ён расказвае ўсхвалявана, імкнецца зацікавіць чытачоў іх лёсам і працоўнымі справамі. На жаль, аўтар больш захапляецца біяграфічнымі звесткамі і храналогіяй, чым паказам характараў.

Брашура набыла б большую каштоўнасць, калі б аўтар не толькі зацікавіўся сваімі героямі, але і раскрыў чытачам вытокі прыхільнасці рабочай і камсамольскай дынастыі да адной прафесіі.

Чамусьці на апошніх старонках парторг камбіната Фёдар Андрэевіч Белагур выглядае нейкім, калі так можна сказаць, не сучасным. Маецца на ўвазе не ваенны кіцель, які ён носіць, а яго разважанні пра сённяшнюю моладзь прадпрыемства. Быццам стаіць ён недзе ўбаку. «Вунь, кажуць, валейбалісты першае месца занялі... Вечары, КВЗ розныя...» Пра камсамольскага сакратара камбіната разважае так, быццам дакладна не ведае, што той «...аднойчы ўсю змену сваю наладжваў прэс, каб зменшчык не стаяў».

Тым, хто вырашыў для сябе пытанне, «кім быць, хто сваім штодзённым жыццём і працоўнымі справамі паказвае, якім трэба быць», прысвечаны зборнік нарысаў **«Карчагіны шасцідзесятых гадоў»**.

...Калі ў ранішнім прыцемку пасажырскі цягнік імчаўся на нечаканую перашкоду, машыніст цеплавоза Мінскага лакаматыўнага дэпо Уладзімір Аляксандравіч Яцкевіч, колькі мог, адбіраў у хуткасці метры. У выніку ніхто з пасажыраў не пацярпеў. Але машыніста не стала... І памочнік машыніста Валеры Сямёнаў, які цудам застаўся жывы, у тую раніцу быў мужны да апошняй секунды. Каб у момант сутычкі не здарыўся выбух, ён кінуўся да аварыйнага шчыта ў дызельнае аддзяленне. «Я не ведаю,— гаворыць Валеры,— проста паспрабаваў зрабіць тое, што заставалася...»

Так, ён зрабіў самае правільнае і неабходнае.

Геадэзіст Сяргей Амельянчук, трактарыст Аляксандр Глаз, вучоны Уладзімір Платонаў і героі іншых нарысаў не здзяйсняюць подзвігаў, але іх будзённыя, здаецца, самыя звычайныя працоўныя справы з кожным днём робяць нашу Радзіму яшчэ больш магутнай, набліжаюць наша светлае заўтра.

Як жа журналісты, аўтары нарысаў, паказваюць сваіх герояў, іх характары і ўнутраны свет?

Нельга не прывесці ў гэтым сэнсе выказванне, а дакладней, своеасаблівае журналісцкае прызнанне А. Бяржынскага, аўтара нарыса «Янтарная рунь»: «...гэта ж каб можна было заглянуць чалавеку ў душу, добраму чалавеку, з неўтаймаваным характарам,— колькі неацэнных каштоўнасцей убачыў бы... Пасля ўжо, калі вызначыцца чалавек, пачынаем вяртацца ў думках назад, да пройдзеных ім сцежак, і тады ўжо з упэўненасцю, што не церпіць ніякіх пярэчанняў, зазначаем: «Дык гэтага ж і трэба было чакаць». Дарэчы, сам А. Бяржынскі далей сваіх добрых намераў не пайшоў. Пры дапамозе даволі заштампаванага кампазіцыйнага прыёму ён расказаў пра мінулае жыццё героя, пра яго ўспаміны, а пра сённяшняе — абмежаваўся кароткай інфармацыяй.

А. Станюта, аўтар нарыса «Твой блакітны цягнік», не толькі расказаў пра подзвіг Валерыя Сямёнава. Ён здолеў зазірнуць у душу свайго героя, паказаць чытачу вытокі яго мужнасці, бадай, з самага нечаканага боку. І сапраўды, чалавек здзейсніў гераічны ўчынак, а баіцца, пазбягае, здаецца, самых звычайных рэчаў. І ўспамінаць яму яшчэ нельга, і рукавіца жончына на той руцэ, дзе бінт. А потым толькі адно пытанне і адзін адказ: «Ну што, Валера, зноў чыгунка?» — «Так... Толькі б дапусцілі». І аўтару, і чытачу зразумелы сэнс яго слоў і дзеянняў. Ён занадта добра ведае цану мужнасці і рызыкі і беражэ сябе ад усяго выпадковага, што можа затрымаць, перашкодзіць вярнуцца зноў туды, на чыгунку. Бо ён будзе, абавязкова будзе, і надалей выконваць свой працоўны і грамадзянскі абавязак, працягваць справу свайго загінуўшага таварыша, справу, дзеля якой змагаўся і загінуў у барацьбе з фашыстамі яго бацька, член Мінскага падпольнага гарадскога камітэта КП Беларусі.

Свой нарыс «Бяскрайнасць, іду на вы!» А. Карэлін прысвяціў вядомаму савецкаму вучонаму Уладзіміру Пятровічу Платонаву. Прыблізна сказаўшы аб тым, у якім напрамку працуе дваццацісямігадовы вучоны, аўтар прапануе чытачу для пачатку і бліжэйшага знаёмства зазірнуць у анкету загадчыка кафедры алгебры і тапалогіі Беларускага універсітэта, доктара фізіка-матэматычных навук Платонава. На жаль, цікавы пачатак застаўся без працягу. Паспрабаваўшы даказаць, што пераадоленне непераадольнага пачалося ў вучонага з таго, што ён, зусім не ведаючы французскай мовы, здолеў за месяц прачытаць артыкул, надрукаваны ў зарубежным часопісе, і даволі прымітыўна пераказаўшы вядомую ісціну аб тым, што выдатныя адкрыцці робяцца на мяжы навук, аўтар

нарыса зазначае: «Калі мне ўдалося хоць крышачку прыадчыніць дзверы ва ўнутраны свет майго героя, тады я разумею, як з сельскага хлопца Валодзі Платонава атрымаўся доктар навук Уладзімір Платонаў».

Ну што ж, прыйдзецца паверыць аўтару, як кажуць, на слова. Магчыма, ён і зразумеў, ды толькі чытачам гэтага не паказаў. Добра, што А. Карэлін спасылаецца на выказванне акадэміка А. П. Мальцава, які ў адным абзацы расказаў пра Уладзіміра Платонава значна больш, чым аўтар у цэлым нарысе.

І яшчэ адно, бадай, апошняе знаёмства — з Любай Арцёменка, камсоргам інжынерна-педагагічнага факультэта Беларускага політэхнічнага інстытута. Наогул, нарыс В. Дончыка «Медаль камсорга» некалькі адрозніваецца ад іншых нарысаў зборніка. Па-першае, таму, што яго героем, дакладней, гераіняй, з'яўляецца дзяўчына. Па-другое, калі героі іншых нарысаў — гэта людзі, якія ўжо абралі свой шлях у жыцці, дык Люба яшчэ студэнтка, у яе ўсё наперадзе.

Аўтар нарыса, напэўна, з салідарнасці з калегамі-журналістамі, таксама аддае даніну штампу. Нягледзячы на тое, што гераіня яго нарыса яшчэ толькі на парозе самастойнага жыцця, ён, тым не менш, з самым сур'ёзным выглядам прымушае яе «ўспамінаць». Але, разам з тым, В. Дончык не толькі расказаў пра «доўгую біяграфію» Любы Арцёменка, але і паказаў яе ў канкрэтных дзеяннях, падгледзеў асобныя рысачкі яе характару. І мы верым, што гэтая няўрымслівая, энергічная дзяўчына пойдзе ў жыцці правільнай дарогай. Лепшы доказ — медаль «За працоўную адзнаку», якім камсамолка Люба Арцёменка ўзнагароджана яшчэ ў самым пачатку свайго працоўнага шляху.

Гэта вельмі добра, калі пра камсамольцаў, нашых юнакоў і дзяўчат, пішуць маладыя журналісты. Хто ж лепш за іх павінен ведаць і адчуваць думкі і жаданні, імкненні і запатрабаванні сучаснай моладзі. Застаецца толькі пажадаць, каб іхнія творы былі вартыя слаўных прадстаўнікоў карчагінскага племя.

**Уладзімір ЛАЎРОЎ.**

# ЛАЎРЭАТЫ ЮБІЛЕЙНАГА ГОДА

Мінуў яшчэ адзін год у шэрагу гадоў, што склалі сёлета круглую лічбу — паўстагоддзя. Паўстагоддзя беларуская савецкая культура служыць справе выхавання чалавека, якому гісторыя наканавала пракладваць шляхі ў нязнанае. Пра тое, як яна выконвае гэты свой пачэсны абавязак, сведчыць высокае званне народнага паэта, што нададзена ў лістападзе 1968 года Аркадзю Куляшову і Максіму Танку, а таксама ганаровыя званні, прысвоеныя вялікай групе дзеячаў культуры напярэдадні юбілею нашай рэспублікі.

У самы пярэдадзень Новага года Цэнтральны Камітэт КП Беларусі і Савет Міністраў Беларускай ССР разгледзелі прапановы камісіі па Дзяржаўных прэміях і прысудзілі Дзяржаўныя прэміі Беларускай ССР за 1968 год дзевятнаццаці дзеячам мастацтва і літаратуры

Вось яны, лаўрэаты юбілейнага года:

**ПЫСІН Аляксей Васільевіч.** Прэмія імя Янкі Купалы прысуджана за зборнік вершаў **«Тваё далоні»**. Мужная, стрыманая і па-мудраму прасветленая паэзія Аляксея Пысіна заваявала любоў і пашану шырокага чытача. У ёй багата сардэчнай цеплыні, чысціні і пяшчоты. Глыбокая вынашанасць думкі, шырыня духоўных інтарэсаў, шчыльная сувязь са светам думак і пачуццяў сённяшняга чалавека робяць паэзію Аляксея Пысіна ў поўным сэнсе слова сучаснай.

**ЛЫНЬКОЎ Міхаіл Ціханавіч.** Прэмія імя Якуба Коласа прысуджана за раман **«Векапомныя дні»**. Міхась Лынькоў стаяў ля калыскі беларускай савецкай літаратуры і шмат зрабіў для яе развіцця і росквіту. Школу Лынькова прайшло не адно пакаленне беларускіх празаікаў. Раман «Векапомныя дні» — вынік шматгадовай карпатлівай работы пісьменніка, у ім намалявана шырокая карціна барацьбы беларускага народа супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у гады Вялікай Айчыннай вайны.

**НОВІКАЎ Іван Рыгоравіч.** Удастоены Дзяржаўнай прэміі імя Лепяшынскага за дакументальную аповесць **«Тварам да небяспекі»**. Кніга Івана Новікава займае пачэс-

нае месца ў сучаснай беларускай дакументальнай прозе; у ёй створана карціна жыцця і барацьбы савецкіх патрыётаў у акупіраванай ворагам Беларусі.

У галіне музыкі Дзяржаўная прэмія прысуджана кампазітару **ЦІКОЦКАМУ Яўгену Карлавічу** за оперу **«Алеся»**, якая з'яўляецца лепшым здабыткам беларускага опернага мастацтва.

У галіне тэатральнага мастацтва і кінематаграфіі Дзяржаўныя прэміі прысуджаны:
**КАЗІМІРОЎСКАМУ Саламону Савельевічу,** рэжысёру-пастаноўшчыку, **НІКАЛАЕВУ Яўгену Дзмітравічу**, мастаку, **ШМАКАВУ Фёдару Іванавічу,** выканаўцу ролі У. І. Леніна,— за спектакль **«Шостае ліпеня»** ў Беларускім дзяржаўным драматычным тэатры імя Я. Коласа; **ВЕЙНЯРОВІЧУ Іосіфу Навумавічу**, рэжысёру, **ВЯЛЮГІНУ Анатолю Сцяпанавічу,** аўтару сцэнарыя,— за хранікальна-дакументальны фільм **«Генерал Пушча».**

У галіне архітэктуры Дзяржаўных прэмій удастоены:
**БАГДАНАЎ Генадзь Пятровіч, БАРШЧ Міхаіл Іосіфавіч, БАТКОЎСКІ Сяргей Барысавіч, ВОІНАЎ Аляксандр Пятровіч, КАРОЛЬ Уладзімір Адамавіч, МУСІНСКІ Сяргей Сцяпанавіч, ПАРУСНІКАЎ Міхаіл Паўлавіч, СЫСОЕЎ Георгі Васільевіч, ТРАХТЭНБЕРГ Навум Яфімавіч, ШПІГЕЛЬМАН Нута-Аўрум Эльевіч** — за архітэктуру ансамбля цэнтральнай магістралі г. Мінска — **Ленінскага праспекта.**

Адбылося таксама прысуджэнне прэмій Ленінскага камсамола Беларусі за лепшыя творы літаратуры і мастацтва пра камсамол і моладзь. Прэмій удастоены:

**КУЛЯШОЎ Аркадзь Аляксандравіч** — за паэмы і вершы **«Песня аб слаўным паходзе», «Грозная пушча», «Толькі ўперад», «Камуністы», «Камсамольскі білет», «Ліст з палону», «Балада аб чатырох заложніках»;**

**ГОЛУБ Леў Уладзіміравіч,** кінарэжысёр,— за кінафільмы **«Міколка-паравоз», «Дзеці партызана», «Дзяўчынка шукае бацьку», «Вуліца малодшага сына», «Анюціна дарога»; ГУБАРЭВІЧ Канстанцін Лявонавіч,** драматург, аўтар сцэнарыяў фільмаў **«Дзяўчынка шукае бацьку», «Анюціна дарога»;**

**ДАНЦЫГ Май Вульфавіч,** мастак — за серыю жывапісных палотнаў **«Навасельцы», «Я ведаю, горад будзе Салігорск», «Гудзе зямля салігорская», «У заводскай сталоўцы», «Сонечны дзень»;**

**Жаночая група Дзяржаўнага народнага хору БССР,** мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага народнага хору **ЦІТОВІЧ Генадзь Іванавіч;**

**Народны агіттэатр «Усмешка»** Палаца культуры Магілёўскага завода штучнага валакна імя В. У. Куйбышава.

Прысуджэнне Дзяржаўных і камсамольскіх прэмій — сведчанне шчыльнай, непарыўнай сувязі беларускага нацыянальнага мастацтва з жыццём народу, яго мудрай сталасці і маладой нястомнасці. Гэта стымул, які будзе служыць далейшаму росквіту нашай сацыялістычнай культуры.

**Валянцін ГРЫЦКЕВІЧ,**
**кандыдат медыцынскіх навук**



# ВАЧЫМА ДАЎНІХ ПАДАРОЖНІКАЎ

*Вядомы прасторны наш край дрымучых лясоў і пушчаў,*
*Раскінуўся ён да граніц далёкага Скіфскага царства.*
*У гэтай багатай краіне, дзе гонар сябруе з ваеннаю славай,*
*Шмат лугоў меданосных, ніваў багатых і пашаў.*

***„Пруская вайна"***
***Ян з Вісліцы (1490—1520).***

Навакольная прырода азначае шмат для чалавека. Ён спрадвеку будаваў хаты з дрэва, апрацоўваў глебу, паляваў, лавіў рыбу, гадаваў жывёлу, збіраў мёд. Ён рабіў чаўны і калёсы, вырабляў палатно, шыў адзенне і абутак, гатаваў ежу.

Пад уплывам дзейнасці чалавека прырода паступова змянялася. Цяпер лясы і балоты ўжо не такія, як былі даўней, і насельнікі іх ужо таксама не тыя. Як жа ўявіць сабе, якой была прырода ў мінулым?

Пра гэта расказваюць нам пісьмовыя гістарычныя помнікі: фінансава-гаспадарчыя і юрыдычныя акты, судова-следчыя справы, загады, пратаколы і г. д.

З актаў, што складаліся пасля рэвізіі пушчаў у XVI—XVII стагоддзях, можна, напрыклад, даведацца пра «бабровыя гоны», гэта значыць, паляванне на баброў. У прыхода-расходных кнігах магілёўскага магістрата гаворыцца, што для членаў магістрата былі куплены на магілёўскім рынку асятры. Значыць, вадзіліся ў той час у лясах і рэках Беларусі каштоўныя пароды звяроў і рыб.

У актавых матэрыялах далёкіх часоў мы знаходзім таксама звесткі пра каштоўны «рачны жэмчуг», які здабывалі ў шмат якіх рэках Беларусі і вывозілі на продаж. А больш за ўсё звестак пра прыроду Беларусі ў далёкія ад нас часы мы знаходзім у літаратурных крыніцах і летапісах, хроніках, літаратурных і філасофскіх творах і іншым. Сярод іх асобнае месца належыць апісанням падарожнікаў. Гэта часцей за ўсё іншаземцы, якія бачылі краіну звонку і фіксавалі тое, што іх уражвала.

Заходнееўрапейскія падарожнікі XV — першай паловы XVIII стагоддзяў амаль у адзін голас скардзіліся на суровую зіму ў Беларусі. Пасол Свяшчэннай Рымскай Імперыі З. Герберштэйн пісаў, напрыклад, што першага студзеня 1527 года, калі ён ехаў з Гародні ў Крынкі, «нахапіліся жорсткія маразы і моцны вецер... слупамі круціў снег», і ад холаду памерзлі коні і сабакі. «Я сам,— пісаў падарожнік,— ледзь не адмарозіў нос, але прыстаў папярэдзіў мяне. Я выйшаў з гасцініцы і па яго парадзе пачаў расціраць нос снегам». Другі пасол гэтай дзяржавы І. Г. Корб пісаў пра высозныя снежныя гурбы, пра мяцеліцы і глыбокі снег у канцы лютага 1698 года.

У Літве і Масковіі шмат буйных рэк і азёр, адзначаў польскі вучоны Мацей з Мехава (1517 год). У іх упадае мноства малых рэк і ручаін. З. Герберштэйн удакладняў, што гэтымі буйнымі рэкамі з'яўляюцца Дзвіна, Дняпро, Бярэзіна. Ён жа адзначаў лінію прыкладнага водападзелу Беларусі: «Пачынаючы адсюль (ад Мінска.— **В. Г.**) усе рэкі цякуць у Дняпро, тады як іншыя, якія

**Возера Свіцязь.**



мы пакінулі ўжо, цякуць у Нёман». Ён жа прыкмеціў паміж Вільняй і Полацкам вельмі шмат азёр. Ля Дзісны ён бачыў возера той жа назвы, а ля Браслава — возера Навер, якое мела ў даўжыню адну мілю.

На мноства рэк і балот у Беларусі звярнуў у 1565 годзе ўвагу італьянец Р. Барберыні. Ён пісаў: «Краіна гэтая вельмі багатая на ваду». Польскі немец Р. Гейдэнштэйн, сучаснік Барберыні, лічыў, што Полаччына не ўступае ніводнай другой мясцовасці па багаццю рэк і азёр. А ў рускага дзяка Т. Карабейнікава, які праязджаў паміж Мінскам і Слуцкам у 1593 годзе, склалася ўяўленне, што «...ехаці ўсё паўз балоты».

Уражвалі гасцей з чужых земляў беларускія лясы. Жыльбер дэ-Ланаа, фламанскі рыцар пачатку XV стагоддзя, пісаў, што ехаў два дні і дзве ночы праз вялікі дзікі лес і не сустрэў аніводнага жылля. Пра неабсяжныя лясы, што раскінуліся паміж Магілёвам і Мінскам, гаворыць і А. Маербер, аўстрыйскі пасол.

Жывёльны свет Беларусі, мяркуючы па апісаннях падарожнікаў, быў вельмі багаты. Мацей з Мехава пісаў: «Дзікіх звяроў там больш, чым ва ўсім хрысціянскім свеце. Паколькі лясы такія вялікія, то шмат трапляецца і буйных звяроў: буйвалаў і лясных быкоў, якіх яны на сваёй мове завуць турамі, або зубрамі, дзікіх аслоў і лясных коней, аленяў, ланяў, газеляў, коз, дзікоў, мядзведзяў, куніц, вавёрак і іншых парод, апрача таго, там шмат птушак».

Асаблівую ўвагу звярталі падарожнікі на тыя пароды звяроў, якія рэдка або зусім не сустракаліся за межамі Беларусі. Так, Мацей з Мехава пісаў пра расамаху, якая вадзілася ў тыя часы: «Яшчэ ёсць у Літве і Масковіі вельмі жорсткая і некарысная жывёліна, якая не сустракаецца ў іншых месцах... завецца расамаха. Велічынёй яна з сабаку, з кацінаю пысай, целам і хвастом, падобная да лісіцы, чорнага колеру, харчуецца мярцвячынай...»

З. Герберштэйн пісаў пра капытных жывёл, якія вадзіліся ў беларускіх пушчах — пра зуброў, тураў, ласёў: «Апрача тых, якія водзяцца ў Германіі, у Літве ёсць наступныя звяры: бізоны, буйвалы, ласі... На роднай мове літоўцаў бізон завецца зубрам; германцы няправільна завуць яго Aurox, або Urox; гэта імя належыць буйвалу, які мае выгляд быка, тады як бізоны зусім не падобныя на іх з выгляду. Бо ў бізонаў ёсць грыва, шыя і лапаткі калматыя, а з падбародка звісае нешта накшталт барады. Шэрсць іх смярдзіць мускусам, галава кароткая, вочы вялікія і страшныя, як бы вогненныя; лоб шырокі, рогі знаходзяцца на такой адлегласці адзін ад другога, што паміж імі могуць сесці тры чалавекі... На спіне ў іх узвышаецца нешта накшталт гарба, а пярэдняя і задняя часткі цела ніжэйшыя, чым спіна».

Пра лася З. Герберштэйн пісаў: «...Той звер, якога літоўцы завуць на сваёй мове ласём, носіць па-нямецку назву Ellend, некаторыя ж завуць яго па-лацінску Alce. У яго раздвоеныя капыты... Гэтая жывёла вышэй за аленя, з выступаючымі вушамі і ноздрамі, рогі яго адрозніваюцца ад рагоў аленя, колер поўсці таксама бялейшы. На хаду яны вельмі шпаркія. Ласіныя капыты нашы продкі насілі пры сабе як сродак, які засцерагаў ад падучай хваробы».

Французскі ксёндз Ф. Аўрыль, які наведаў Беларусь у 1692 годзе, расказваў сваім суайчыннікам пра лісіц, аленяў і, галоўным чынам, пра мядзведзяў Беларусі, як яны спяць узімку, як іх прыручалі і навучалі ў вядомай Смаргонскай акадэміі, і называў мядзведзя «сябрам чалавека».

У нашых рэках і азёрах было шмат рыбы. Пра гэта пісаў Мацей з Мехава, які адзначаў, што вадаёмы нашага краю «ў вышэйшай ступені багатыя на рыбу. Там дзе ёсць вада, ёсць і рыба».

З. Герберштэйн называе прыток Прыпяці Тур «рыбнай ракой». А мясцовы пісьменнік Міхаіл Літовец піша пра гэта ў 1550 годзе больш падрабязна: «Рэкі маюць неверагодную колькасць асятроў і іншых вялікіх рыб, якія паднімаюцца з мора ўверх па рэках у прэсную ваду. Па гэтай прычыне многія рэкі завуцца залатымі, асабліва Прыпяць, якая ў адным месцы паблізу ад Мазыра штогод у пачатку сакавіка напаўняецца такім мноствам рыбы, што, калі кінуць у ваду кап'ё, яно стаіць старчком, нібы ўваткнецца ў зямлю, так густа збіваецца там рыба. Я не паверыў бы гэтаму, калі б сам не бачыў, як адтуль чэрпалі рыбу і напаўнялі ёю ў адзін дзень да тысячы купецкіх вазоў».

Калісьці паляванне было адным з галоўных заняткаў насельніцтва Беларусі. Ды і ў пазнейшыя часы палявалі на буйных звяроў. Паколькі зубр не сустракаўся нідзе больш, толькі ў Беларусі, для З. Герберштэйна было цікава расказаць сваім сучаснікам пра паляванне на гэтага цара лясоў.

«Тыя, хто жадаў паляваць на бізонаў (г. зн. зуброў,— **В. Г.**), павінны былі валодаць вялікай сілай і спрытам. Для палявання выбіраецца месца, дзе дрэвы не тоўстыя, каб іх можна было абысці, але і не тонкія, каб за імі можна было схавацца. Ля гэтых дрэў становяцца паляўнічыя па адным, і калі бізон, якога падпялі сабакі, выходзіць на гэтае месца, то ён кідаецца на таго з паляўнічых, хто трапіцца яму першы. А той хаваецца за дрэва і, наколькі можна, дастае звера рагацінай. Але бізон не падае, нават калі яго дастаюць раз, і два, і ад неаднаразовых удараў, а толькі ўсё больш і больш запаляецца, трасучы не толькі рагамі, але і языком, які ў яго такі шорсткі, што чапляе паляўнічага за адзенне. Пакідае жывёла сваю ахвяру не раней, чым заб'е яе. А калі паляўнічы часам стоміцца, бегаючы вакол дрэва, то кідае зверу чырвоную шапку, якую той топча, ірве нагамі і рагамі...»

Палявалі на Беларусі і на мядзведзяў. Так, каля Паўлавіч (паміж Цяцерынам і Бабром) слугі князя Агінскага запэўнялі І. Корба, што ў гэтай мясціне былі зацкаваныя пяцьдзесят мядзведзяў.

Паляванне на буйных звяроў у магнатаў было «спартыўным», а не промыславым, як можна было б сказаць сёння. З гэтай жа мэтай,— сабраць больш дзікай жывёлы, каб паляваць на яе, калі захочацца,— магнаты стваралі спецыяльныя звярынцы. Пра адзін з іх рускі стольнік П. Талстой пісаў: «Ад таго ж горада Міра з паўвярсты месца вялікае, сасновым борам агароджанае, і гэта таго ж Радзівіла звярынец. У тым звярынцы шмат аленяў, ласёў, сайгакаў, коз дзікіх і іншых звяроў».

Пры панскіх дварах трымалі і мядзведзяў. Шклоўскі губернатар, у якога гасцяваў І. Корб, трымаў вялікага мядзведзя.

З другой палавіны XVIII стагоддзя прыродай Беларусі зацікавіліся рускі акадэмік У. І. Ляпёхін, французскі натураліст Ж. Э. Жылібер, рускі мінеролаг акадэмік В. М. Севяргін і батанік А. К. Башняк, польскі эканаміст К. Контрым і іншыя. Для іх апісанняў характэрна ўжо навуковасць.

Вось як апісвае месцазнаходжанне і рэльеф Беларусі Жылібер:

«Вялікае княства Літоўскае, вялізная вобласць Паўночнай Еўропы, раскінулася з поўначы на поўдзень на 45 нямецкіх мілях, а з усходу на захад на 55. Гэтая краіна абвадняецца двума шырокімі рэкамі, якія цякуць пакручаста з усходу на захад: Бугам, які аддзяляе Літву (г. зн. Беларусь.— **В. Г.**) ад Польшчы, і Нёманам, які цячэ амаль у яе сярэдзіне.



**Балота ля Пінска.**

Каб мець сапраўднае ўяўленне пра Літву (г. зн. Беларусь.— **В. Г.**), трэба ўявіць гэтую краіну ў выглядзе шырокага поля з невялікімі пагоркамі: найвышэйшыя прыкмячаюцца каля Вільні, Гародні, Наваградка...

На прасцягу ўсёй гэтай плошчы часта прыкмячаюцца нізіны шырыні неаднолькавай. Яны складаюць цяпер азёры ці балоты, з якіх некаторыя на некалькі міль распасціраюцца ў шырыню. Некаторыя з гэтых азёр прарвалі берагі свае, і воды праз утвораную адтуліну або зусім сышлі або і цяпер яшчэ цякуць, ад чаго многія малыя рэчкі і пачаліся».

Жылібер наведаў толькі заходнюю частку нашага краю, яго назіранні датычаць толькі даліны Нёмана, таму іх дапаўняюць нататкі Севергіна, які так апісвае Наваградскае ўзвышша: «...прыемныя, у выглядзе хваль распасцёртыя ўзгоркі або горы, з якіх некаторыя зараслі вельмі змешаным лесам». Пра дарогу з Полацка паўз раку Обаль Севяргін пісаў: «Узвышшы тут перарываюцца глыбокімі лагчынамі... ад чаго гэтая краіна мае выгляд узгаркаваты».

Башняк падводзіць вынік назіранням над рэльефам паўночна-ўсходняй часткі Беларусі, якую ён наведаў праз дванаццаць год пасля Севергіна: «Землі часткаю... узгаркаватыя, часткаю ж нізінныя; узгоркі невысокія; глебы іх складаюцца большай часткаю з буйнага пяску, зусім падобнага на марскі, месцамі змешанага з глінаю. Гэтыя пагоркі падзяляюцца калі-нікалі азёрамі, рознымі па велічыні, з якіх адны акружаны крутымі пясчанымі і камяністымі бера-

гамі, іншыя ж дрыгвою, што складаецца з рознага моху, які паступова засцілае паверхню вады. У гэтай дрыгве знаходзяцца так званыя вокны, у якія людзі ўвальваюцца і гінуць, калі не паспеюць ухапіцца за купіны, што акружаюць вокны».

Меркаванні пра геалагічнае мінулае Палесся можна знайсці ў Ю. У. Нямцэвіча і К. Контрыма. Першы ў 1819 годзе пабываў у Пінску і адзначаў, што пяць рэчак басейна Дняпра, якія працякаюць у горадзе, «робяць мора пасярод Літвы (г. зн. Беларусі.— **В. Г.**), якое разліваецца на сто міль аж да Дняпра пад Крэменчугом. Але мора гэтае зарасло трыснягом. Часта тут знаходзяць марскія ракавіны». Контрым праз дзесяць гадоў удакладніў гэтую цікавую думку, спасылаючыся на мясцовага жыхара Іпаліта Кяневіча, які меркаваў, што Прыпяць калісьці была дном мора, падобнага да Каспійскага, але з часам высахла.

Гэтае меркаванне пацвярджаецца і сучаснай геалагічнай навукай.

Нават сённяшні чытач можа ўзяць вельмі шмат карыснага з успамінаў падарожнікаў, калі захоча даведацца аб складзе глебы і карысных выкапнях Беларусі. Жылібер так уяўляў сабе ўтварэнне торфу ў заходняй частцы краю: «Многія (рэкі.— **В. Г.**) мала-памалу заплылі праз паступовае накапленне і разбурэнне вадзяных раслін, гэтыя нізіны ўтвараюць цяпер шырокія лугі, чорная, накшталт торфу, зямля якіх вельмі ўрадлівая. У некаторых азёрах тарфяное дно паднялося раўнінаю над паверхняй вады і стала шырокай лугавою дрыгвою, іншы раз гэта тарфяное дно гарыць агнём, дыміцца і ператвараецца ў гразь.

...У торфе гэтых даўніх балот... знаходзяць вялікую колькасць жалезнай балотнай руды ў масе, у зернях або ў блёстках, якія прыцягваюцца магнітам».

Буры жалезны камень на Полаччыне знаходзіў і Севяргін. Торф вучоны знаходзіў у некаторых месцах Аршанскага павета і ля Полацка, прычым адзначаў, што гэты торф добра гарыць. Пра гэта ж пісаў і Башняк: шмат якія балоты Полаччыны,— гаварыў ён,— павінны быць багатыя на торф, які ўжо адкрыты і выкарыстоўваецца на броварах паблізу Ліфляндскай граніцы.

У Гародні мясцовы жыхар палкоўнік С. Лахніцкі паказаў Севергіну торф, знойдзены ў яго маёнтку за 20 вёрст ад Гродна па дарозе на Брэст. Торф быў трох гатункаў: буры рыхлы, шчыльнейшы і вельмі шчыльны, падобны на каменны вугаль.

Але Беларусь была багатая не толькі на торф і жалезную руду. У яе нетрах даследчыкі яшчэ тады знаходзілі іншыя карысныя выкапні і ў тым ліку камені, якія карысталіся ў той час вялікім попытам пры пабудове палацаў.

Паміж каменнямі Жылібер знаходзіў шмат скамянелых шкарлупін малюскаў: эхінітаў, астрытаў, белямнітаў... Яны былі змешаны з пародамі, сцэментаванымі вапнавай асновай. У некаторых месцах вучоны і яго вучні знаходзілі каменныя глыбы цёмна-сіняга і чырвонага, як кроў, колеру, з якіх рабілі прыгожыя дошкі: пасля паліроўкі яны мелі цвёрдасць лепшай яшмы. Іншы раз дажджы агалялі або вымывалі з пясчаных узгоркаў, асабліва каля Гродна, янтар. Аднойчы Жылібер знайшоў кавалак янтару апельсінавага колеру велічынёю з кулак.

Шмат карысных выкапняў у басейнах Дзвіны, Дняпра і Нёмана знайшоў і Севяргін. Ён пералічвае выкапні Полаччыны: «...крэмні шэрыя і бурыя, агат стракаты і буры, ружовы кварц, граніт. Яшма кававага і іншых колераў, серпенцінавы камень... абломкі крыццёвага сланцу, аспіднага і прабірнага каменю, буры жалезны камень... гаршковая трубачная і цагляная гліна, таксама гліністыя вохры, у фарбу годныя, яшчэ наступныя скамянеласці: мадрэпарыты, тубуліты, тубіпарыты, хаміты, пекцініты, якія вымываюцца з берагоў Дзвіны і ў якіх знаходзіцца вапнавы камень і абломкі мармуру.

На берагах Дзвіны сустракаецца іншы раз вапнавы камень светла-шэры з белым вапнавым шпатам, таксама вохрысты жоўты, буры алебастр з белымі пражылкамі і струменісты селеніт: але ўсе ў абломках або ў выглядзе круглякоў. Такім чынам, вядомы тры цяпер у Расіі месцы, дзе знаходзіцца ружовы кварц, г. зн. у Калывані, паблізу Шлісельбурга і ў Полацкай акрузе. Тутэйшы трапляецца ў выглядзе круглякоў».

Севяргін знайшоў тры мінеральныя крыніцы: у Сянне, маёнтку «Спас» ля Полацка і ў Палыкавічах каля Магілёва. Яшчэ пра адну мыльна-салянуюкрыніцу ля Гродна яму расказаў мясцовы жыхар Лахніцкі.

Абапіраючыся на свае назіранні над Панямоннем, Жылібер і Башняк апісалі клімат розных частак Беларусі.

«Клімат у Літве халодны, але менш, чым уяўляюць,— расказваў Ж. Жылібер.— Я старанна прыкмячаў на працягу сямі год найвышэйшыя ступені гэтага празмернага холаду і магу сцвярджаць, што год у год ледзь знойдзецца 10 або 12 дзён, калі тэрмометр паказваў бы 20 або 25 градусаў холаду. На працягу ж астатняй часткі зімы, г. зн. з 15 кастрычніка па 15 красавіка, тэрмометр бесперапынна апускаецца ніжэй або паднімаецца вышэй 0°. Я прыкмячаў нават цэлыя месяцы, на працягу якіх стаяла цёплае надвор'е, як, напрыклад, у студзені 1782 года. Іншы раз холад бывае даволі настаянны на працягу лістапада, снежня, студзеня, лютага і сакавіка, і тады ўжо снег з зямлі ўсю зіму не сыходзіць; у гэты час тэрмометр часцей за ўсё паказвае ад 5 да 10 градусаў ніжэй 0°, але калі ён значна ніжэй апусціцца, то моцны холад не доўжыцца больш 2 або 3 дзён.

Тут, як і ўсюды, кірунак ветру ўздзейнічае на сілу холаду: пры паўночна-ўсходніх вятрах зімы халаднейшыя, пры паўднёвых жа сцюжа ледзь адчувальная.

Дзіўна, як хутка пачынаюць цыркуляваць сокі зямлі, ледзь толькі сыдзе снег. Прырода мёртвая, лугі пакрыты жаўцізною, азімых не бачна ад зямлі; падзьме з тыдзень паўднёвы вецер, і сумнае адзенне прыроды ў момант змяняецца буйным, зелянеючым, кветкамі ўбраным дыванам. Зямля поўнасцю ачышчаецца ад снегу толькі ў маі, аднак жыта наспявае яшчэ ў першыя дні жніўня; значыцца, хлеб тут за тры месяцы наспявае. Калі паўночны вецер будзе моцна дзьмуць на працягу мая і чэрвеня, то трэба чакаць небяспекі маразоў, ад якіх гінуць у садах усе іншаземныя расліны, але тутэйшыя вытрымліваюць гэтыя выпадковыя маразы».

Халадней было на поўначы Беларусі. Пра клімат Падзвіння Башняк пісаў:

«Клімат вельмі халодны; марозіць пачынае іншы раз з першых дзён жніўня і перастае ў канцы мая, а то і ў пачатку чэрвеня; гэтая суровасць тутэйшага клімату зусім не шкодзіць здароўю жыхароў... Паветра на пагорках лёгкае і сухое; а цяжкае і сырое на балотах, і берагах азёр, якія зараслі мохам».

Севяргін і англічанін Р. Пінкертан (1819) звярнулі ўвагу на мноства лесу ў Магілёўскай губерні, асабліва на левым узбярэжжы Сожа ў Чэрыкаўскім павеце, а немец фон-Кампенгаўзен пісаў, што шмат лясоў было на Прапойшчыне (цяпер Слаўгарадчына). Асабліва багатыя лесам з усіх беларускіх губерняў была, на думку Севергіна, Міншчына. Ён лічыў, што гэтаму спрыяў большы, чым у іншых губернях, сцёк вады, а гэта давала магчымасць насенню дрэў лепш укараніцца ў пясчанай ілістай глебе.

На ўсход ад Мінска распасціраўся сасновы бор. Бары цягнуліся за Барысаў, Крупкі і аж да Оршы. Англічанін Р. Джонстан (1814) адзначаў, што край між Оршай і Мінскам уяўляў сабой адзін вялікі лес і, нягледзячы на некаторыя адкрытыя месцы наваколл гарадоў і вёсак, быў скрозь густы. Далей ён пісаў: «У гэтым велізарным лесе мы ўсё ехалі па цёмнай дарозе. Елкі былі каля 60 футаў увышыню, але тонкія...»

Асабліва густыя лясы былі за Барысавам, як гэта адзначаў у 1777 годзе і Д. Фанвізін. Шырокія сасновыя лясы,



Зубр. Мал. Герберштэйна. XVI ст.



Бой зуброў з ваўкамі. Мал. А. Хрэнава.

па сведчанню Пінкертана, займалі большую частку Мінскай губерні. Вялікія густыя бярозавыя і сасновыя лясы распасціраліся паабапал дарог Полаччыны.

Хвойныя лясы цягнуліся па ўсім Панямонні. У часы Севергіна па дарозе з Жырмун у Жалудок на пясках раслі ядловец і малая крывая сасна, далей па дарозе з Жалудка на Шчучын сустракаліся ўжо бярозы, дзікія слівы і грушы, алешнік. Але на Гродзеншчыне лясоў было мала. Толькі ля Шчучына падарожнік бачыў добрыя сосны, уперамешку з невысокімі бярозамі. Сустракаліся чаромха, крушына, асіна, ясень, вярба, каліна, рабіна, парэчкі і маліна, а бліжэй да Навагрудка — і пушчы высокіх крывых дубоў. Па дарозе з Навагрудка на Карэлічы было шмат мяшанага лесу.

На Палессі, па сведчанню Контрыма, часцей за ўсё раслі дубы, але яны былі крывыя і сукаватыя, і таму рабіць з іх бярвенні і брусы было цяжка. Дуб ішоў на апал, на вялікія лодкі — «шугалеі» і «абіянікі», а таксама на клёпку.

На берагах Прыпяці расло шмат асіны. Але на поўнач і поўдзень ад ракі распасціраліся сасновыя бары, прычым на больш сухіх і высокіх мясцінах расла найлепшая ў Беларусі сасна. Гэта давала магчымасць гандляваць палескім дрэвам, тым больш, што «навакол нізоўя Дняпра трэскі і сучча — тавар, бо ўсё, што толькі з дрэва, жыхары тых мясцін прымушаны купляць».

Пісьменнік Ю. Крашэўскі дадаваў да гэтага, што ў палескіх лясах раслі бярозы і грабы, было шмат журавін, чарніц, брусніц, малін, ажын, арэхаў, грыбоў. Але тут ён з жалем дадаваў, што сустракаў шмат высечаных і выгаралых лясоў.

Гэта ж назіралася і ў іншых месцах. Пра дарогу з Мсціслаўля да Оршы Севяргін пісаў: «У іншым жа гэта краіна таксама ж, як і іменогія іншыя мясціны Беларусі, уяўляе сабою толькі адны палі. Лесу вельмі мала. Некаторыя робяць з гэтага вывад, нібыта мясціны гэтыя са старадаўніх часоў заселены былі і што шматлікія тут лясы знішчаны былі ўжо старадаўнімі жыхарамі, каб сеяць збожжа, лён і г. д.»

І дзіва што! Хата, паляўнічыя прылады, усё гаспадарчае начынне, дровы,— усё ж гэта бралася з лесу. Сасна, як гаварыў Джонстан, была таксама неабходна для беларуса, як вярблюд для араба.

Шмат шкоды беларускім лясам па дарозе са Смаленска на Мінск і далей на Вільню і Гродна прынеслі войскі Напалеона, якія палілі лясы нават не ссякаючы іх, каб сагрэцца ў лютую зіму 1812 года. Пра гэта ўспамінае Джонстан: «Няма болей сумнага відовішча, як заблытаныя сляды адступлення французскай арміі. Бярозы ўздоўж дарогі поўнасцю былі спалены, кожнае дрэва не толькі ля дарогі, але і ў глыбіні лесу было падсмалена. Здавалася, што (французы — **В. Г.**) раскладалі вогнішча ля камля кожнага дрэва».

Гэты падарожнік бачыў па дарозе з Койданава на Новы Свержань густы лес. Дрэвы былі яшчэ жывыя, але ствалы іх абгарэлыя.

Ды ніхто не панёс такой шкоды нашым лясам, як лесапрамыслоўцы. Пасля далучэння Беларусі да Расіі англійскія прамыслоўцы купілі ў пана Салагуба за 8 000 рублёў Тураў і ў генерала Сялягіна — маёнткі, якія яму падараваў цар, за 56 тысяч рублёў. Англічане меліся высекчы ўсе лясы і сплавіць іх па Дняпры, а потым дакупіць землі ўверх і ўніз па Прыпяці і ссекчы лес там. Але Павел I наказаў вярнуць англійскай кампаніі грошы. На гэтым скончылася трохгадовае панаванне англічан на Палессі. Тураўскія і мазырскія чыноўнікі за кражу і хабарніцтва былі аддадзены пад суд.

Многія падарожнікі вывучалі раслінны свет Беларусі. Жылібер зрабіў першае навуковае апісанне і выдаў яго пад назвай «Літоўская флора». Вучоны ўпершыню сістэматызаваў раслінны свет Панямоння па сістэме Лінея, якая прынята ў навуцы. На гэтыя працы Жылібера спасылаліся ўсе, хто пісаў аб прыродзе Беларусі. Севяргін у канцы сваёй кнігі аб першым падарожжы па Беларусі цытуе яго «Флору», а Башняк пераклаў і надрукаваў геаграфічны нарыс Беларусі, які зрабіў Жылібер. У гэтым нарысе французскі вучоны пісаў і пра расліны Беларусі і адзначаў, што толькі вакол Гродна ён знайшоў каля тысячы відаў раслін, сярод іх і такія, што сустракаліся на гарах Францыі, а іншыя зусім былі не вядомыя для еўрапейскіх даследчыкаў.

Севяргін апісвае раслінны свет Полаччыны. Ён знайшоў тут сасну, елку, бярозу, алешыну, асіну, таполю, вярбу, вяз, граб, ясень, клён, ільм, рабіну, каліну, крушыну, бружмель, а таксама ліпу, бук, дуб, арэшнік, чаромху і барбарыс.

Расліны іншых мясцін Беларусі вы-

вучаліся слаба. У 20-я гады XIX стагоддзя, напрыклад, ніхто не вывучаў раслінны свет Палесся, акрамя двух маладых медыкаў — Вагнера і Гурскага, якія па даручэнню віленскага прафесара Вольфганга збіралі каля Пінска расліны. Найбольш распаўсюджаны на Палессі былі чарот і трыснёг, якія мясцовыя жыхары скарыстоўвалі ў гаспадарцы. Чаротам пакрывалі стрэхі, узімку палілі ў печы, а салодкі сок маладога трыснягу ўжываўся ў страву як прысмак.

Больш нататак захавалася пра жывёльны свет Беларусі. Жылібер адзначаў, што некаторыя жывёлы і птушкі, якіх ён сустракаў толькі ў Альпах, у беларускіх лясах і пушчах траплялiся вельмі часта. Сярод іх былі мядзведзь, дзікая каза, цецярук, а некаторыя, напрыклад, лось, зубр, рысь, амялушка, чапля і іншыя, у Францыі яму не сустракаліся.

На Полаччыне і Магілёўшчыне, гаварыў Севяргін, вадзіліся лось, мядзведзь, серна, воўк, рысь, барсук, ліса, заяц; у лясах Гродзеншчыны — зайцы, чорныя і белыя лісы, ваўкі, мядзведзі, ласі, серны, рысі, расамахі, бабры, у глыбокіх лясах — сабалі, куніцы, норкі. Ля Буга жыло шмат баброў і выдраў.

Цікавей за ўсё для вандроўнікаў быў зубр. Севяргін піша, што, каб яго забіць, трэба было пацэліць толькі ў адно месца — на патыліцы. Мяса яго лічылася добрым, сала вельмі топкім, скура моцнай. Звер сам на людзей не кідаўся і толькі, калі яго дражнілі, рабіўся злосны. Прыручыць яго было цяжка, але вучонаму расказвалі, што маладых зубранят вазілі ў Саксонію для размнажэння. Мядзведзяў у лясах паміж Мінскам і Гродна было столькі, што іншы раз яны пужалі коней, як гэта здарылася тады, калі гэтай дарогай ехаў немец Г. Рэйнбек у 1805 годзе.

У лясах Палесся, адзначае Контрым, было многа дзікіх свіней, якія заходзілі аж да хлявоў, дзе мяшаліся з хатнімі свіннямі. Гэтыя свінні ўсё лета пасвіліся на волі, а ўвосень самі прыходзілі да хлявоў. Вадзіліся таксама вялікія статкі ласёў і серн. Было шмат мядзведзяў, ваўкоў і лісіц. Паводле сведчання горацкага агранома Б. Цалінскага, ля Копыся і Оршы ў 1848 годзе вадзіліся чорныя зайцы.

Цікавыя назіранні над суслікамі прыводзіў У. Сыракомля. Суслікі на Нясвіжчыне паядалі маладое жыта і пшаніцу. Яны вадзіліся толькі ў гэтых месцах. Кажуць, адзін з Радзівілаў прывёз пару гэтых зняркоў у замак, але яны ўцяклі і так размножыліся, што ратунку ад іх не было маладым пасевам.



**Ласі бягуць да вады.**

Пра птаства Беларусі найбольш нататак пакінулі Севяргін і Контрым. Як назіраў Севяргін, на Гродзеншчыне, Полаччыне і Магілёўшчыне вадзіліся жаваранкі, перапёлкі, амялушкі, рабчыкі, рэмезы, шпакі, кулікі, чаплі, дзеркачы, дразды, пататуйкі, дзікія качкі, галубы, чыжы, каршуны, чайкі, крываносы, сокалы, «држэмлікі», дзікія гусі, бацяны, зязюлі і курапаткі. Радзей — вераб'і, шчаглы, чачоткі, цецерукі, глушцы, сойкі, вароны, галкі, малыя арлы, совы, сычы. Яшчэ радзей чыркі. Башняк дадае да іх птушку «быка» (бугай).

На Палессі ж, як пісаў Контрым, больш за ўсё было качак, якія гняздзіліся высока на дрэвах, шмат было і буслоў, якія звычайна сяліліся на стрэхах сялянскіх абор і стадол. Радзей сустракаліся дразды і лебедзі. Але падарожнік тут жа адзначаў, што «на Палессі даўно заўважаюць, што ўсё менш становіцца вады, месц залітых, а таму і вадзяных птушак».

**Дзікі ў пагоні.** Мал. **А. Хрэнава.**



Вадаёмы, як і раней, былі багатыя на рыбу. У Бугу вадзіліся ласосі, міногі, стронгі, у Нарэве — вугры. Але больш за ўсё Севергіну спадабалася сялява, азёрная рыба белага колеру, падобная да селядца, велічынёй ад паўлокця і больш. Яе елі свежую, вэнджаную і салёную. Вучоны прапанаваў разводзіць яе за межамі Беларусі.

У Друці вадзіліся падлешчыкі, язі, шчупакі, акуні, у Дняпры ля Оршы — выразуб, шчупакі, ляшчы, язі, верхаводкі, плоткі, акуні, самы, яршы, судакі, галаўлі і нават корушка. Падарожнік прыводзіў мясцовыя назвы двух парод рыб, якія вадзіліся ў Дняпры ля Оршы. Гэта былі «мурэны» вагою ў 12—20 фунтаў і ментузы вагою ў 3—4 фунты.

Севяргін лічыў, што ў рэках Сож і Проня вадзіліся шчупакі, карасі, акуні, яршы, плоткі, ліні, ментузы, краснапёркі і, зрэдку, выразуб.

Ракаў больш за ўсё было ў рэках на Полаччыне і на Палессі. Крашэўскі пісаў: «Тут ловяць шмат ракаў, іх каменьчыкі, якія звалі рачынымі вачыма, выкарыстоўвалі для лячэння ядавітых укусаў, гарачкі».

На Палессі вадзіліся таксама чарапахі. Крашэўскі называў Пінск «сталіцаю чарапах».

Старадаўнім заняткам беларусаў было паляванне, рыбалоўства і пчалярства. Паляваннем на Беларусі займаліся і з промыславымі і са спартыўнымі мэтамі.

На Гродзеншчыне дзікоў прынаджвалі на гарох у яму і лавілі сеткамі. Інакш іх лавілі на Палессі. Контрым пісаў, што там паляваць было няцяжка не толькі на самак і маладых самцоў «вархлякоў», але нават і на старых дзікоў, якія пільнавалі гэтыя статкі. Сяляне цкавалі сабакамі дзікоў, а таксама «адзінцоў» — старых дзікоў. Калі сабакі затрымлівалі дзіка, сяляне калолі яго пад лапатку нажом або сякераю.

На Палессі сустракаліся вялікія статкі ласёў і серн. На серн, якія хаваліся ў чароце, палявалі зімою, пад'язджаючы да іх на санках.

На Віцебшчыне, як сведчыў Б. Цалінскі, было шмат ваўкоў. Яны шкодзілі гаспадарцы, таму на іх палявалі ў ліпені і жніўні, ваўкоў вабілі голасам, бо яны адгукаліся на голас паляўнічых. Тыя станавіліся ў кола, пускалі ганчакоў, якімі кіраваў сабакар вярхом на кані. Іншы раз знішчалі 2—3 логавы ваўкоў за дзень (каля 5—8 ваўкоў). Маладых ваўкоў бралі жывых, загнаўшы іх гончымі. Іх шкуры фарбавалі і прадавалі пад выглядам «янотаў». Цалінскі адзначаў, што «тутэйшыя паны не трымалі столькі сабакарняў і паляўнічых коней, як у іншых губернях». На ваўкоў капалі яму велічынёю ў сажань і абсаджвалі колікамі, а ў сярэдзіне забівалі вялікі кол. Паверсе клалі галлё і салому, а калі пастка пакрывалася снегам, да верхняга канца кала прывязвалі гуся або качку, якія прываблівалі сваім крыкам звера. Воўк кідаўся на птушку і падаў у яму. Іншы раз іх туды падала аж пяцёра. Адсюль, як гаворыць Севяргін, і пайшла прымаўка: «І гусь цэлы, і воўк спайманы».

Мядзведзі, асабліва маладыя (так званыя «бортнікі»), шкодзілі пчалярству. Іх лавілі некалькімі спосабамі. На пляцоўку, якую прымацоўвалі пад борцю (калодай) пчол, знізу набівалі калкі так, што яна падобна была на барану. Такія пляцоўкі звалі палаткамі. Калі мядзведзь лез на дрэва, каб дабрацца да мёду, палатка затрымлівала яго, тады ён імкнуўся праламаць палатку лапаю, і калі гэта ўдавалася зверу, ён ужо не мог выцягнуць з пасткі лапу.

Лавілі звяроў і капканамі: капалі ямы, на дно ставілі мёд, змяшаны з гарэлкай, каб мядзведзь напіўся і заснуў. А то яшчэ ў адтулінах борцяў ставілі жалезныя петлі. Мядзведзь прасуне туды галаву і не можа яе выцягнуць.

Цікавае было паляванне на бброў — яны калісьці вадзіліся на Палессі. Іх лавілі так званымі «жалезамі» па сцежках, якія тыя рабілі на снезе каля сваіх хатак, або «клікалі» сеткамі, якія апускалі ў ваду. Узімку, у галалёд, баброў цкавалі сабакамі, якія заганялі звяроў у «жалезы». Контрыму гаварылі, што футра з палескіх баброў лічылася лепшым за футры з амерыканскіх і сібірскіх баброў.

Хоць рыбалоўства і не складала ў першай палове XIX стагоддзя колькі-небудзь значнай галіны гаспадаркі, усё ж у параўнанні з XX стагоддзем і рыбы было больш, і пароды яе былі больш каштоўныя. На Палессі рыба давала меншы прыбытак, чым у такіх азёрных мясцінах, як Браслаўшчына. Лепшымі гатункамі рыбы лічылі выразубаў і асятроў, зрэдку траплялася і сцерлядзь, але часцей за ўсё лавілі ўзімку па малых рэках уюноў або печкуроў. Іх крыху прыпякалі, насадзіўшы на ражончыкі, і потым прадавалі па дзесятку на кожным ражончыку. Елі ўюноў пражанымі або вяленымі. Там-

сям іх тлушч скарыстоўвалі для асвятлення замест свечак, бо рыба гэтая вельмі тлустая. На рацэ Ласосне вадзілася стронга. Лавілі рыбу венцярамі, пераметамі, сежнікамі, сакамі.

Па традыцыі на Беларусі займаліся і пчалярствам. Падняпроўе было багата на пчолы. Башняк пісаў, што борці ўсцягвалі на дубы, на сосны, а знізу да іх прыбівалі драўляныя зубцы, каб чалавеку ямчэй было збіраць мёд. Борці выдоўбвалі звычайна з дрэва. Іх было шмат ля Гродна, але больш за ўсё іх бачыў Севяргін на ўсходзе ад Мінска. Амаль на кожным кроку ён сустракаў борці на соснах, а іншы раз і па дзве-тры борці на адным дрэве. Мінская губерня наогул была багатая на пчолы, у дастатку хапала і мёду і воску. За Мазыром борці не ўсцягвалі на сосны, а ссякалі з дрэва вяршаліну, выдоўбвалі ў ёй дупло, і ў тым дупле вадзіліся пчолы.

Пасля збору мёдам частавалі ўсіх, каго сустракалі. З сырога мёду варылі моцнае пітво: ліпец і малінец. Ліпец меў светла-жоўты колер, малінец быў чырванаватага колеру. Першае пітво было салодкае і мела смак віна, а малінец траціў зусім смак мёду. Ліпец у кавалках, як адзначае Севяргін, прадавалі на рынку ў Барысаве.



**Паляванне на мядзведзя.** Мал. **Ф. Фрэнца.**

Усё, пра што тут расказана, можна знайсці ў нататках даўніх вандроўнікаў па нашым краі. Яны пісалі пра вялікія, не выкарыстаныя тады багацці нашай зямлі. І ці не наша справа — зберагчы тое, што пакінулі нам продкі, і як мага руплівей карыстацца прыроднымі багаццямі.



# ПОШУКІ ПРАБАЦЬКАЎШЧЫНЫ СЛАВЯН

Славянскі этнагенез—адзін з самых цікавых, цяжкіх і складаных напрамкаў у археалогіі. Вывучэннем культуры славян на падставе археалагічных крыніц, апрача вучоных Савецкай краіны, займаюцца даследчыкі Польшчы, Чэхаславакіі, Балгарыі, Румыніі, Венгрыі, Югаславіі, ГДР, Аўстрыі і іншых краін. Пэўны ўклад у вырашэнне гэтай праблемы ўносяць археолагі Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР і супрацоўнікі нашых музеяў. У апошнія гады гэтая праца праводзіцца ў супрацоўніцтве з польскімі археолагамі.

На першым Міжнародным кангрэсе славянскай археалогіі, які адбыўся ў верасні 1965 года ў Варшаве, мне давялося зрабіць даклад пра археалагічнае даследаванне помнікаў зарубінецкай культуры ў беларускім Падняпроўі II—V стагоддзяў нашай эры. Прафесар Ё. Вернер з Мюнхенскага навукова-даследчага інстытута дагісторыі і пратагісторыі ў Заходняй Германіі, які прысутнічаў на дакладзе, сказаў, што тыя помнікі зарубінецкай культуры, якія даследуюцца ў паўднёвай Беларусі, належаць, бясспрэчна, старажытным славянам «рымскага часу». Але што датычыць помнікаў пшэворскай культуры ўказанага вышэй перыяду, якія вывучаюцца польскімі археолагамі ў паўднёвай і сярэдняй частках ПНР, то яны быццам бы пакінуты старажытнымі германцамі. Можна зазначыць, што такі погляд вельмі пашыран сярод археолагаў і

гісторыкаў многіх краін Еўропы, хаця ён не адпавядае сапраўднасці і з гісторыяй не мае нічога агульнага. У часе працы кангрэса я не здолеў нічога пэўнага сказаць прафесару Ё. Вернеру па ўзнятым ім пытанні, бо амаль зусім не ведаў археалагічных матэрыялаў пшэворскай культуры Польшчы.

Каб мець свой уласны погляд на навуковую ацэнку археалагічных крыніц гэтай культуры, давялося паехаць да суседзяў у Польшчу і старанна вывучыць старажытнасці пшэворскай культуры, параўнаць іх з матэрыяламі зарубінецкай культуры. Акрамя гэтага, у жніўні—верасні 1968 года прымаў удзел у раскопках селішча познерымскага часу ў Леску Жэшуўскага ваяводства (раскопкі А. Шалапаты) і ў абследаваннях Верхняга Павіслення з археолагамі Жэшуўскага археалагічнага цэнтра (Т. Аксаміт, К. Москва і іншымі). Калі параўноўваеш канкрэтныя археалагічныя матэрыялы зарубінецкай культуры Беларусі і пшэворскай культуры Польшчы, відаць шмат агульных рысаў: у абрадзе пахавання, у тыпах і характары старажытных паселішчаў.

Толькі ў беларускім Падняпроўі помнікаў зарубінецкай культуры рымскага часу выяўлена каля 170. Яны знойдзены ў Гомельскай, Магілёўскай, Мінскай і Брэсцкай абласцях. Аналагічныя аб'екты вядомы ў паўднёва-заходняй частцы Смаленскай вобласці, заходняй частцы Бранскай, а таксама ў паўночнай лясной паласе Украіны. Такім чынам, амаль што ўвесь басейн Верхняга і значная частка Сярэдняга Дняпра ў першай палове першага тысячагоддзя н. э. была занята плямёнамі зарубінецкай культуры. Людзі ў гэты час жылі толькі на адкрытых, не ўмацаваных паселішчах, якія займалі тэрыторыю ад аднаго да дзесяці і больш гектараў. Найбольш даследаванымі помнікамі такога тыпу з'яўляюцца Абідня і Тайманава Быхаўскага раёна на Магілёўшчыне. Абодва яны знаходзяцца на правым беразе Дняпра. Вывучэнне ў Тайманаве селішча і бескурганнага могільніка вялося летам 1968 года на працягу двух з паловай месяцаў. У працы прымалі ўдзел студэнты трэцяга курса гістарычнага факультэта Магілёўскага педінстытута. Усе матэрыялы гэтага даследавання захоўваюцца ў абласным краязнаўчым музеі. Раскопкі тут будуць прадаўжацца і ў наступныя гады. Яны памогуць адкрыць невядомыя старонкі далёкай гісторыі нашага народа. Ужо атрыманыя матэрыялы вельмі багатыя і цікавыя, і яны зоймуць важнае месца ў археалагічным музеі, які мяркуецца стварыць у Быхаўскім раёне. Накапленне старажытных рэчаў для гэтага музея пачалося.

У Абідні і Тайманаве адкрыты рэшткі старажытных дамоў-паўзямлянак, якія мелі плошчу ад 12 да 24 кв. м. Іх глыбіня ў мацерыку дасягала аднаго метра. Некаторыя з паўзямлянак загінулі ў агні. Звычайна, пры раскопках такога жылля сустракаецца вялікая колькасць вугалю, рэштак глінянага грубалепленага посуду, прылад працы, упрыгожванняў. Багатая матэрыяльная культура знойдзена таксама і ў даследаванай частцы могільніка ў Тайманаве, дзе ў 1968 годзе адкрыта 85 старажытных бескурганных пахаванняў са спальваннем у круглых і падоўжаных ямах.

Многія матэрыялы зарубінецкай культуры на тэрыторыі Беларусі ў апошнія гады вывучалі археолагі з ПНР У. Шыманскі, М. Качынскі, Е. Антаневіч, Я. Дамброўскі (Варшава), Я. Гурба (Люблін), А. Шалапата і К. Москва (Жэшуў). Усе яны маглі асабіста пераканацца ў тым, што значная частка археалагічных матэрыялаў, знойдзеных у помніках пшэворскай культуры, вельмі блізкія да беларускіх зарубінецкай культуры. Тут можна зазначыць, што адным з выдатных помнікаў пшэворскай культуры можа лічыцца селішча Аталэнж Мелецкага павета Жэшуўскага ваяводства, дзе даследаванне з 1962 года праводзіць А. Шалапата.

Мы параўналі атрыманыя на гэтым паселішчы знаходкі з матэрыяламі з Абідні, і аказалася, што 70—80 працэнтаў гэтых рэчаў паміж сабой блізкія. Паселішчы і прылады па характару таксама вельмі падобныя: тыпы паўзямлянахных дамоў, лепленая гладкасценная, з прачосамі і глянцаваная кераміка, нажы, сярпы, прасніцы, фібулы і многія іншыя знаходкі. Цікава зазначыць, што арэал помнікаў з такімі матэрыяламі на захадзе цягнецца да Одэра, на поўдні—да Карпацкіх гор. Калі помнікі пшэворскай культуры прыпісваюць старажытным германскім плямёнам, тады, на падставе блізкасці матэрыялаў, і помнікі зарубінецкай культуры таксама трэба было б прызнаць германскімі і арэал германскага свету ў рымскі час пашырыць на паўднёвую тэрыторыю Беларусі, паўночную Украіну, Браншчыну і Смаленшчыну.

Але такому погляду супярэчыць шэраг даных. Па-першае, не толькі на тэрыторыі лакалізацыі зарубінецкай культуры, а таксама і на значнай прасторы пшэворскай культуры няма ні тапонімаў, ні гідронімаў германскіх. Па-другое, калі асноўныя археалагічныя матэрыялы зарубінецкай і пшэворскай культур блізкія паміж сабой, то яны зусім адрозніваюцца ад бясспрэчна германскіх матэрыялаў Скан-



**Посуд славян II—VIII ст.ст. н. э.** З раскопак 1968 года ў Тайманаве Быхаўскага раёна.

дынаўскага паўвострава і заходняй часткі Цэнтральнай Еўропы. Па-трэцяе, тыя рысы плямён старажытнагерманскай культуры ў помніках пшэворскага тыпу сустракаюцца толькі паміж Віслай і Одэрам, на ўсходзе іх ужо амаль што няма. Гэтыя даныя праліваюць святло на пытанні сувязей і кантактаў германскіх плямён са славянамі.

У 1970 годзе ў Берліне (ГДР) будзе працаваць другі Міжнародны кангрэс славянскай археалогіі. На ім пойдзе далей размова з прафесарам Ё. Вернерам аб культуры і гісторыі старажытных славян у рымскім часе. Цяпер ужо ў мяне ёсць усе падставы сказаць, што пшэворская культура на тэрыторыі Польшчы, як пацвердзілі выяўленыя тут матэрыялы, блізкія да зарубінецкай культуры ў Беларусі, не магла належаць у старажытны час германцам. Яна магла быць толькі славянскай.

Тут дарэчы будзе заўважыць, што некаторыя з савецкіх і зарубежных археолагаў лічаць старажытнасці пшэворскай культуры славянскімі, а што датычыць зарубінецкай культуры, то яе носьбіты як быццам бы з'яўляліся балтамі. Аднак гэтыя археолагі не маюць на тое падставы. Як ужо зазначалася, абедзве культуры маюць многа агульных рысаў. На падставе блізкасці матэрыялаў гэтых культур, пшэворскую таксама трэба было б лічыць балтыцкай, а балтыцкі свет у рымскі час трэба было б пашырыць да Карпацкіх гор на поўдні і да Одэра на захадзе. Такі погляд не можа быць прымальны. Па-першае, на значнай тэрыторыі лакалізацыі плямён пшэворскай і зарубінецкай культур няма бясспрэчных балтыцкіх тапонімаў і гідронімаў. Па-другое, матэрыяльная культура гэтых плямён значна адрозніваецца ад матэрыяльнай культуры бясспрэчна балтыцкіх плямён, напрыклад, тэрыторыі Прусіі, Літвы, Латвіі, паўночнай і часткі сярэдняй Беларусі. Па-трэцяе, тыя рысы культуры балтыцкага тыпу, якія і сустракаюцца ў зоне пагранічча, пацвярджаюць сувязі і кантакты розных славянскіх плямён з балтыцкімі. У Беларусі такая зона ў рымскі час праходзіла ў басейне Нёмана, верхняй Бярэзіны і ў вярхоўях Дняпра (паўднёвая частка Віцебскай вобласці).

З усяго сказанага можна зрабіць вывад, што супольнае з польскімі археолагамі вывучэнне нашых краін дасць магчымасць адкрыць многія вельмі цікавыя і важныя невядомыя старонкі далёкага гістарычнага мінулага нашых народаў, расказаць аб гісторыі плямён, якія засялялі басейны Дняпра і Віслы ў часе росквіту і гібелі Рымскай імперыі.

Паўночную Украіну, Паўднёвую Беларусь і прылеглую з усходу частку Смаленскай і Бранскай абласцей, таксама як і значную тэрыторыю Польшчы, ёсць усе падставы разглядаць як тэрыторыю старажытных славян. З гэтага ж арэала і пачалося рассяленне славян у розныя перыяды першага тысячагоддзя н. э. на поўнач, поўдзень, усход і захад. Як сведчаць гістарычныя крыніцы (і пра гэта га-

ворацць археалагічныя матэрыялы), славяне ўжо ў другой палове VI стагоддзя нашай эры занялі значную частку былых Рымскай, а таксама Візантыйскай імперый, засялілі на працягу V—VIII стагоддзяў амаль што поўнасцю Балканскі паўвостраў. Славяне паявіліся нават у ваколіцах сталіцы Візантыі — Канстантынопалі.

Цікава зазначыць, што многія з назваў славянскіх населеных пунктаў на тэрыторыі Візантыі маюць адпаведныя назвы ў паўднёвай Беларусі. На падставе гэтага можна ў якойсьці ступені меркаваць, што славяне і з Верхняга Падняпроўя прынялі актыўны ўдзел у засяленні ў трэцяй чвэрці першага тысячагоддзя н. э. усходняй часткі Балканскага паўвострава. Старонкі далёкага мінулага славянскіх плямён будуць раскрывацца археолагамі многіх краін Еўропы. Важная роля адводзіцца тэрыторыі Беларусі і Польшчы. Навуковае супрацоўніцтва польскіх і беларускіх археолагаў будзе спрыяць вырашэнню праблемы славянскага этнагенезу.

**Леанід ПОБАЛЬ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

*У наступным нумары выступае літаратуразнаўца Мікола РОДЧАНКА з артыкулам пра творчасць Аркадзя Куляшова і Аляксандра Твардоўскага.*



Віктар МАРТЫНАЎ
Арнольд МІХНЕВІЧ

# БЕЛАРУСКАЯ ЭТЫМАЛОГІЯ

## СТАРОНКІ СЛОЎНІКА

Слова і жыццё знітаваны спрадвечна, і калі мы гаворым, што слова — гісторыя народу, то гэта не проста прыгожая фраза,— гэта сапраўды так. Часта іменна слова, і толькі яно, здольна павесці нас у бездань мінулых стагоддзяў, куды не адважваюцца ўжо зазірнуць гісторык і археолаг. Радкі летапісаў даносяць да нас подых старадаўніх падзей. Нястрымнасць думкі сучаснікаў адбіваецца ў новых словах, якім суджана ў будучым стаць сведкамі сённяшніх падзей. І як любоў чалавека да жыцця, так заўжды жыла і будзе жыць цікавасць чалавека да роднага слова.

Можна з упэўненасцю сказаць, што няма чалавека, які б не рабіў спробы хоць раз зазірнуць у глыбіні слова, высветліць, як яно ўзнікла, як склалася яго сучаснае значэнне. Ды адна справа паразважаць у вольную гадзіну, узводзячы і разбураючы картачныя збудаванні домыслаў і здагадак, і зусім іншая — разабрацца ў складаных і супярэчлівых моўных законах. Існуюць шматлікія — часам прывабныя — міфы пра лёс пэўнага слова, і існуе навука аб паходжанні слоў — этымалогія, для якой нават абгрунтаваная гіпотэза — толькі першы крок на шляху да ісціны.

Беручыся расказаць навуковую гісторыю некаторых беларускіх слоў, аўтары добра ўсведамляюць складанасць гэтай справы. Але яны спадзяюцца, што чытач у «Маладосці» не толькі цікаўны, але і цярплівы і настойлівы, што ён здолее прайсці мінімальны «падрыхтоўчы курс», як гэта павінен зрабіць кожны, хто ўпершыню становіцца на этымалагічную сцяжыну.

Навука мае сваю ўласную мову —

## ТЭРМІНАЛОГІЮ

Яна — гэта мова — дазваляе коратка і недвухсэнсоўна гаварыць пра складаныя з'явы. Вось чаму мы і пачнём з таго, што пазнаёмім чытача з некаторымі неабходнымі для карыстання слоўнікам моваазнаўчымі тэрмінамі.

Аблаўт — вельмі старажытнае (індаеўрапейскае) чаргаванне галосных тыпу *воз — везці*.

Адкрыты склад — склад, які заканчваецца галосным гукам: *га-ла-ва, пе-ра-жы-ты*.

Аканне — у беларускай мове вымаўленне галосных *о* і *э* не пад націскам як *а*, напрыклад: *гóд — гады́, стрэ́хі — страха́*.

Асіміляцыя — прыпадабненне аднаго гука другому, суседняму. У слове *лодка* (вымаўляецца: *лотка*) гук *д* прыпадабняецца да наступнага глухога *к*.

Велярызацыя — ацвярдзенне зычнага гука. Параўнайце беларускае *сем*, дзе гук велярызаваўся, і рускае *семь*.

Гукапераймание — утварэнне слоў шляхам перадачы сродкамі мовы розных натуральных гукаў: *пыхкаць, балабон, гаў-гаў*.

Дысіміляцыя — распадабненне гукаў: *карыдор*>*калідор* (*р-р*>*л-р*), *кто*> *хто* (*к-т*>*х-т*).

Дыфтонг — складаны галосны гук: *паўза (аў), лейцы (эй)*.

Калька — утварэнне слова шляхам перкладу па частках іншамоўнага слова: рускае *едино+лич+ник* — беларускае *адна+асоб+нік*, лацінскае *экс+прэссіо* — нямецкае *аўс+друк*.

Л а б і я л і з а ц ы я — агубленне гука. Параўнайце, як вымаўляецца гук *к* у словах *кўля* (лабіялізаванае *к*) і *ка́ня.*

М е т а т э з а — перастаноўка гукаў або складоў у слове: беларускае *талерка* — рускае *тарелка (л-р>р-л).*

П а л а т а л і з а ц ы я — змякчэнне зычных гукаў. Колішняй палаталізацыяй тлумачыцца, напрыклад, пераход гукаў *г, к, х* у *ж, ч, ш* і *з, ц, с: нага — ножка —назе, рука — ручка — руцэ, муха — мушка — мусе.*

П а ў н а г а л о с с е — спалучэнні *оро, оло, ере,* характэрныя для ўсходнеславянскіх (рускай, беларускай і ўкраінскай) моў: параўнайце рускае і ўкраінскае *голова,* беларускае *галава* — і польскае *глова,* балгарскае *глава.*

П р ы с т а ў н ы  г у к — гук, які ўзнікае на пачатку некаторых слоў: *гэты* (рускае *этот*), *ягня* (рускае з царкоўнаславянскага *агнец*), *восень (асенні), іклы* (рускае *клыки*), *ільдзіна (лёд).*

Для перадачы рэканструяваных (узноўленых) індаеўрапейскіх і праславянскіх, а таксама старaславянскіх форм слоў будуць ужывацца наступныя

## ЗНАКІ І ЛІТАРЫ

| Знакі і літары | Тлумачэнне | Знакі і літары | Тлумачэнне |
|---|---|---|---|
| *a* | *а* | *n* | *н* |
| *ā* | *а* доўгае | *o* | *о* |
| *c* | *ц* | *ō* | *о* доўгае |
| *č* | *ч* | *on* | *о* насавое праславянскае |
| *d* | *д* | *p* | *п* |
| *e* | *э* | *r* | *р* |
| *ē* | *э* доўгае | *s* | *с* |
| *ê* | *э* доўгае праславянскае | *š* | *ш* |
| *ѣ* | *э* доўгае (яць) старaславянскае | *t* | *т* |
| *en* | *э* насавое праславянскае | *u* | *у* |
| *g* | *г* (як у слове *ганак*) | *ū* | *у* доўгае |
| *g'* | *г* палаталізаванае | *v* | *в* |
| $g^w$ | *г* лабіялізаванае | *x* | *х* |
| *h* | *г* (як у слове *год*) | *y* | *ы* |
| *i* | *і* | *z* | *з* |
| *ī* | *і* доўгае | *ž* | *ж* |
| *j* | *й* | *ə* | галосны гук неакрэсленай якасці |
| *k* | *к* | *ъ* | гук, падобны да кароткага *о* |
| *k'* | *к* палаталізаванае | *ь* | гук, падобны да кароткага *э* |
| $k^w$ | *к* лабіялізаванае | * | знак рэканструяванай формы |
| *l* | *л* | >< | знак пераходу адной формы слова ў іншую |
| *m* | *м* | ~ | знак роднасці дзвюх форм |

# РОДНАСНЫЯ МОВЫ

Кожны, хто вывучае замежныя мовы, не можа не звярнуць увагі на дзіўнае падабенства паміж асобнымі словамі. Звычайна гэта словы, якія часта сустракаюцца і абазначаюць істотныя паняцці.

Так, беларускі назоўнік *маці* (родны склон *маці* і *мацеры*) не толькі агульнаславянскае слова, але вядома і многім іншым мовам: па-нямецку *муттэр,* па-лацінску *матэр,* па-старажытнагрэчаску *мэтэр* і г. д. Беларускі дзеяслоў *ведаць* мае шмат такіх жа

адпаведнікаў у іншых мовах: у нямецкай *віссэн*, у старажытнагрэчаскай *(в)ойда*, у старажытнаіндыйскай *вэда* і іншае. Беларускі лічэбнік *два* адпавядае літоўскаму *ду*, англійскаму *ту*, лацінскаму *дуо* і г. д.

Такіх прыкладаў шмат. Калісьці іх тлумачылі як вынік запазычвання або змешвання розных моў. Аднак, па-першае, такія словы, як *маці, ведаць, два,* звычайна не запазычваюцца (запазычваюцца словы, якія звязаны з культурным уплывам, напрыклад, назвы прылад, рэчаў і г. д.); па-другое, падабенства было адзначана не толькі паміж асобнымі словамі, але і паміж граматычнымі сістэмамі, для якіх запазычванне зусім выключана. Параўнайце формы дзеясловаў:

| | | |
|---|---|---|
| I. Старажытнаіндыйскія | Старажытнагрэчаскія | Беларускія |
| *бхарамі* | *фэро* | *бяру* |
| *бхарасі* | *фэрэіс* | *бярэш* |
| *бхараті* | *фэрэі* | *бярэ* |
| *бхарамас(і)* | *фэромэн* | *бяром* |
| *бхаратха* | *фэрэтэ* | *бераце̂* |
| *бхаранті* | *фэрусі* | *бяруць* |
| II. Лацінскія | Нямецкія | Беларускія |
| *эст* | *іст* | *ёсць* |
| *сунт* | *зінд* | *(суць)* |

Граматычных адпаведнасцей таксама шмат. Пра што гэта гаворыць? Пра тое, што некаторыя мовы, у якіх мы сустракаем такія падабенствы, паходзяць ад адной агульнай мовы, на якой гаварылі нашы далёкія продкі. Яшчэ ў IX стагоддзі нашай эры славянскія мовы былі вельмі блізкія, можна нават лічыць, што славяне тады гаварылі на адной мове. Калі ж пайсці далей у глыбіню стагоддзяў, можна «прыйсці» да таго часу, калі на адной мове гаварылі індаеўрапейцы — продкі славян, балтаў, германцаў, лацінян, грэкаў, індыйцаў, іранцаў і іншых народаў. Такі стан адпавядае неакрэсленаму дакладна часу (чацвёртае — шостае тысячагоддзе да нашай эры). У апошні час навука атрымала доказы роднасці такіх вялікіх моўных груп, як індаеўрапейская, семіта-хаміцкая, угра-фінская, цюркская, картвельская (мовы Грузіі), дравідыйская (мовы паўднёвай Індыі). Гэтыя мовы названы настратычнымі (што ў перакладзе значыць «нашы»). Калі існавала агульная настратычная мова, цяжка нават сабе ўявіць.

Такія старажытныя агульныя мовы называюцца пра-мовамі (пра- значыць «старажытны», «першасны»), а мовы, якія ўзыходзяць да пра-моў,— роднаснымі мовамі.

Беларуская мова адносіцца да ліку ўсходнеславянскіх (руская, беларуская і ўкраінская). Апрача ўсходнеславянскіх, існуюць мовы заходнеславянскія (польская, чэшская, славацкая, дзве лужыцкія) і паўднёваславянскія (балгарская, македонская, сербскахарвацкая, славенская). Сярод ужо нежывых славянскіх моў — стараруская, стараславянская, палабская. Усе гэтыя мовы ўзыходзяць да праславянскай мовы.

Славянскія мовы ўваходзяць у склад так званых індаеўрапейскіх моў, да якіх адносяцца таксама мовы балтыйскія, германскія, кельцкія, індаіранскія, албанская, армянская і іншыя. Апрача гэтых, вядома шмат нежывых моў, на якіх ужо не гавораць, але якія захаваліся ў пісьмовых помніках. Гэта лацінская, старажытнагрэчаская, старажытнапруская, старажытнаіндыйская, хецкая, гоцкая і іншыя. Усе яны паходзяць ад індаеўрапейскай пра-мовы. З прыкладаў падабенства ў роднасных мовах відаць, што зараз ужо няма поўнага супадзення паміж словамі і граматычнымі формамі гэтых моў. Але, ведаючы строгія правілы фанетычнай і марфалагічнай адпаведнасці, можна аднавіць, рэканструяваць словы і формы такімі, якімі яны былі, калі існавала пра-мова.



АТАВА. Агульнаславянскае слова з праславянскага * *o-tava*, якое ў сваю чаргу паходзіць ад праславянскага дзеяслова * *tyti* — расці ў шырыню, тлусцець. Параўнайце сербскахарвацкае *тіті* — буйна расці. Словаўтваральная сувязь * *o-tava*∼ * *tyti*, як * *slava*∼* *slyti* — славіцца, слыць.

БУЯЦЬ. Буйна расці ў націну. Агульнаславянскае, якое ўзыходзіць да праславянскага * *bujь*<індаеўрапейскага * *bhu*—расці. Параўнайце старажытнаіндыйскае *бхуйан*— большы, мацнейшы. Ад гэтага ж індаеўрапейскага кораня паходзіць і дзеяслоў *быць,* першаснае значэнне якога — «расці ў вышыню», што пацвярджаецца старажытнагрэчаскім *фюомай* — расту (старажытнаіндыйскае *бх*∼старажытнагрэчаскае *ф*). Сюды ж варта аднесці і беларускія словы *буйны, збуялы, быццё, побыт, здабытак* і падобныя да іх.

ВЕРАСЕНЬ. Дзевяты месяц года, назва якога ўтворана ад назвы расліны (верас), якая цвіце ў гэты час.

ВЕТЛІВЫ. Утворана з дапамогай суфікса *-лів-* ад праславянскага дзеяслова * *vetiti* — гаварыць урачыста<* *vetъ* — парада, згода, умова. Параўнайце *веча*. Узыхо-

дзіць да індаеўрапейскай пра-мовы, аб чым сведчыць старажытнапрускае *вайтіамай* — мы гаворым. Сувязь паміж урачыстасцю (гаварэння) і ветлівасцю відавочна.

ВІТАЦЬ. Выказваць пашану, прыязнасць, добрыя пажаданні каму-небудзь. Агульнаславянскае з індаеўрапейскага. Першаснае значэнне — «жыць». Параўнайце латышскае *павіэтат* — кватараваць, літоўскае *віэта* — месца, рускае *обитать* (<*обвитать*). Сучаснае значэнне ўзнікла ў выніку скарыстання слова ў запрашальных зваротах, параўнайце старачэшскае *вітай нам* — жыві ў нас і беларускае *завітайце да нас.*

ВОДАР. Запазычанае з лацінскага *одор* — пах.

ГАІЦЬ. Залечваць. Агульнаславянскае і праславянскае слова. Мае таксама ў некаторых мовах значэнне «адкормліваць» (балгарскае *гоя*). Аднаго паходжання з дзеясловам *жыць. Жыць*<індаеўрапейскага кораня * $g^{w}ei$-. *Гаіць*<індаеўрапейскай аблаўтнай формы таго ж кораня * $g^{w}oi$-. Параўнайце літоўскае *гіті* — папраўляцца і *гіваті* — жыць.

ГАЙ. Гэта агульнаславянскае і праславянскае слова непасрэдна звязана з праславянскім * *gaiti* — вырошчваць. Параўнайце сербскахарвацкае *гаіті* — вырошчваць і рускае *роща* — гай. Суадносіцца таксама з дзеясловамі *гаіць, загойваць.*

ГУСЛІ. Агульнаславянскае слова з праславянскага * *gondsli,* якое звязана з дзеясловам *гудзець.* Само *гудзець* у некаторых мовах захавала значэнне «іграць»: чэшскае (новаўтварэнне) *гудба* — музыка і рускае — *гудошник.*

ДОЙЛІД. Запазычанае з літоўскай мовы: *дайлідэ* — сталяр, цясляр<*дайле* — рамяство. Літоўскае *-дайла* (напрыклад, *рата-дайла* — кола-роб, стальмах)~старасла-вянскае *-дѣлъ (дрѣво-дѣлъ).* Параўнайце балгарскае *дялам* — цяслярыць.

ЖАРТ. З польскага *жарт,* якое, у сваю чаргу, як і чэшскае *жерт,* запазычана з сярэдневерхненямецкага *шерц* — жарт.

ЖЫТА. Агульнаславянскае слова, утворанае ад дзеяслова *жыць* з дапамогай суфікса *-т-о.*

ЗВЕР. Агульнаславянскае<праславянскага * *zu̐erъ*<індаеўрапейскага * $g'^{w}er$-. Параўнайце лацінскае *фэрус* — дзікі (індаеўрапейскае * $g^{w}$>лацінскае *ф*).

ІКЛЫ, адзіночны лік *ікол.* З праславянскага * *kъlъ.* Пасля знікнення рэдуцыраваных (*ъ* і *ь*) іх замянілі ў першым складзе беларускіх слоў у большасці выпадкаў так званыя прыстаўныя галосныя гукі, якія занялі пазіцыю перад тымі зычнымі, за якімі быў рэдуцыраваны. Параўнайце: *ільдзіна*<* *lьdina, іржа*<* *rъgja (ж*<* *gj).* Так і *іклы*<* *kъly.*

КУПАЛА. Свята шанавання агню ў ноч летняга раўнадзенства (23 чэрвеня). У хрысціянскую эпоху да гэтага дня было прыстасавана свята Івана Хрысціцеля. Узнікла традыцыя, паводле якой Іван Хрысціцель быў названы Іванам Купалам. Слова *Купала* тлумачылася як «той, хто ў вадзе хрысціў, купаў». У сапраўднасці *купала* не мае нічога агульнага з імем Івана Хрысціцеля. Беларускае дыялектнае *купала* (Брэсцкая вобласць) значыць «вялікае вогнішча». Гэтае слова паходзіць ад беларускага *кýпіць* — гарэць без полымя, якое ў сваю чаргу звязана з старажытнагрэчаскім *капнос*<(* *квапнос)* — дым, лацінскім *вапор* (<* *квапос)* — пара, дым, агонь.

ЛЯДА. Праславянскае * *lendo,* ад якога паходзіць гэта агульнаславянскае слова, суадносіцца як роднаснае з гоцкім і агульнагерманскім *ланд* — зямля.

МАЖНЫ. Уласнабеларускае. Суадносіцца са словамі *магутны, магчы. Мажны*<<* *togьпъ,* як *нажны*<* *nogьпъ.* Параўнайце старажытнаіранскае *мага-* — сіла, *магаван-* — магутны.

ПАЛОНКА. Узыходзіць да праславянскага * *polъ* — адкрыты, пусты. Параўнайце рускае *полый, полая вода, половодье, полынья.*

ПАЛОХАЦЬ. Да гэтага агульнаславянскага і праславянскага слова найбольш блізкімі з'яўляюцца наступныя паралелі: літоўскае *палшас,* латышскае *палсс* — бледны, лацінскае *паллор* — бледнасць, страх. Развіццё значэння: ад назвы фізічнага выгляду да назвы псіхічнага стану. Параўнайце аналагічны зрух значэння ў слове *сорам.*

РАХМАНЫ. Старажытнаіндыйскае *брахман* мела значэнне «каста служкаў культу,

якія прапаведавалі пакору і добразычлівасць». Да нас гэта слова трапіла або праз цюркскае пасрэдніцтва або праз старажытнагрэчаскае, змяніўшы сваю форму на *рахманы* і набыўшы значэнне «добразычлівы, лагодны, памяркоўны».

РУНЬ. На большай частцы тэрыторыі Беларусі так называюць асеннія ўсходы жыта і пшаніцы. *Рунь*<* *rudnь*. Параўнайце літоўскае *рудуо* — восень. Літоўскае слова паходзіць ад *рудас* — руды. Гэты колер ў народнай свядомасці звязваўся з восенню.

СВЕДКА. Утворана ад кораня дзеяслова * *vědati* з дапамогай суфікса *-к-а* і прыстаўкі *с-*, якая перадае ідэю сумеснага дзеяння: *сведка* — той, хто ведае нешта разам, сумесна з іншымі людзьмі.

СОРАМ. Агульнаславянскае з праславянскага. Цікавы шлях прайшло гэта слова. Першапачаткова яно азначала «чырвань». Параўнайце літоўскае *сартас* — светла-чырвоны, латышскае *сартс* — з чырвоным тварам, *сартуот* — чырванець. А потым набыло сучаснае абстрактнае значэнне. Абодва значэнні адначасова — чырвоны колер і сорам — захавала лацінскае *рубор*.

ТАБАКА. Запазычанне з адной з моў амерыканскіх індзейцаў, якое трапіла да нас праз іспанска-французска-польскае пасрэдніцтва. Жаночы род (у адрозненне ад рускага *табак*) захаваны, як у польскай мове.

ТХОР. Агульнаславянскае. Праславянская аснова * *dъх-* тая ж, што і ў дзеяслове * *dъхnonti* — дыхаць, пахнуць. *Т*<*d* у выніку асіміляцыі па глухасці з гукам *х*. Параўнай старачэшскае *дхоржь* — тхор. Да гэтага ж кораня належыць і дзеяслоў *на-тх-няць*, рускае *в-дох-но-влять*. Маленькі драпежнік быў названы так за яго спецыфічны пах (дух).

УШЧЭНТ. Уласнабеларускае слова, утворанае з дапамогай прыстаўкі *у-* ад запазычанага з польскай мовы *шчонд*~індаеўрапейскія аблаўтныя формы * *skend-*/* *skond-* — кавалак. Параўнайце старажытнаіранскае *сканда* — кавалак, абломак.

ФАРБА. Германізм — слова, якое трапіла да нас з нямецкай мовы *(фарбэ)* праз польскую, захаваўшы сваё значэнне.

ХАВАЦЬ. Наступныя паралелі з'яўляюцца тоеснымі праславянскаму * *xovati:* старажытнаіндыйскае *сьвайаті* — расце, умацоўваецца і *сьава* — дзіцянё. Параўнайце чэшскае *ховаті* — выхоўваць, выкормліваць, старачэшскае *хова* — нянька.

ХЛОПЕЦ. Гэта няпоўнагалосная форма запазычана з польскай мовы. Ва ўсходнеславянскіх словах было б поўнагалоссе (параўнайце *халоп*). Слова *халоп* узыходзіць да праславянскага * *xolpъ*, якое суадносіцца з літоўскім *шелпті* — памагаць (* *xolpъ* першапачаткова — памагаты). Той жа зрух значэння ў гоцкім *магус* — хлопец у параўнанні з дзеясловам *памагаць*.

ХІЖЫ. З праславянскага * *xytiti* — рабаваць. Параўнайце рускае (старaславянскага паходжання) *похищать*. Гук *ж* у слове *хіжы* замест *ч* узнік, магчыма, пад уплывам прыметнікаў *гожы, дужы* і т. п.

ХОРТ. Паляўнічы сабака, ганчак. Праславянскае слова * *хъrtъ* суадносіцца з старажытнаіндыйскім *сараті* — гоніць, праследуе і старажытнагрэчаскім *хормао* — кідаюся, спяшаюся, бягу. Старажытнаіндыйскі дзеепрыметнік *срта* — той, што гоніць, праследуе, абсалютна тоесны па форме і па значэнню праславянскаму * *хъrtъ* (*x*<*s*)

ЦЕМРАШАЛ. Новаўтварэнне, калька з рускага *мракобес:* рускае *мрак+беситься*, беларускае *цемра+шалець*.

ЦЯГНІК. Утворана з дапамогай суфікса *-нік* ад дзеяслова *цягнуць*, праславянскае * *tengti*. Параўнайце ўкраінскае *потяг*, польскае *поцёнг* з тымі ж значэннямі.

ЧЫНШ. Натуральны ці грашовы збор. Гэта слова запазычана з польскага *чынш*, якое ў сваю чаргу — з сярэдневерхненямецкага *цінс*, а тое — з лацінскага *цэнзус*. Гэта слова ёсць у беларускай мове і ў іншай форме: *цэнз* — пэўны кошт маёмасці. Яно прыйшло да нас таксама з лацінскай мовы, але без нямецкага пасрэдніцтва.

ШАЛЕЦЬ. Беларускія словы *шалець, шалёны, шал, шалыга* адносяцца да агульнаславянскай лексікі, якая ўзыходзіць да праславянскай. Яны суадносяцца з гоцкім *холон* — ашукваць, старажытнагрэчаскім *кэлэо* — ашукваю, зачароўваю. Параўнайце

чэшскае *шаліті* — падманваць, ашукваць. Першаснае значэнне слова *шалёны* — зачараваны.

ШЧЫРЫ. Старажытнае запазычанне з гоцкага *скэірс* — ясны, белы. Параўнайце *шчыры бор, шчыры грыб* (эквівалентнае *белы грыб*). У далейшым адбылося семантычнае развіццё «ясны, белы»>«адкрыты, шчыры».

ЯРЫНА. Гэта слова паходзіць ад праславянскай назвы гарачай пары года (вясны або лета). Параўнайце чэшскае *яро,* польскае *яр* — вясна. Праславянскае, у сваю чаргу,— ад індаеўрапейскага: старажытнаіранскае *йара* — год, старажытнагрэчаскае *хора*— пара, нямецкае *яар* — год.



# З БУНТАРНАЙ ДУШОЙ

## ШТРЫХІ ДА БІЯГРАФІІ ЦЁТКІ.

*«Прыгадаць тут належыць Цётку (Пашкевіч-Кейрыс), якая пражыла ў нас у Львове некалькі гадоў і заўсёды ўнесіла ў гурткі, у якіх паяўлялася, асаблівы грамадзянскі настрой і накірунак думкі...».*
**Іларыён СВЯЦІЦКІ. «Росквіт культурна-нацыянальнага жыцця Усходняй Беларусі».**

На пачатку XX стагоддзя ў Львоў «на рэвалюцыйнае ўдасканаленне» трапіў адзін чалавек з Беларусі. Гэта была выгнанніца Цётка, жанчына з бунтарнай душой, паэтэса з надзвычай абвостраным пачуццём рэвалюцыйнасці, эмігрантка, хворая на сухоты.

Выезд за мяжу паняволенай Радзімы не быў уцёкамі. Эміграцыйны манеўр дазваляў захаваць жыццё, выпрацаваць праграму далейшых дзеянняў, даваў час на далейшую адукацыю, на творчую працу. Львоўскае выгнанне выкрышталізавала нацыянальны патрыятызм паэтэсы, надало яе самаахвярнаму характару больш паслядоўнасці, упартасці, моцы.

У вядомым лісце ў Пецярбург да Эпімаха-Шыпілы 28 чэрвеня 1906 года Цётка пісала:

*«Дужа паважаны прафесар!*

*Выбачайце, што незнаёмая і пішу да Вас. Я Пашкевічанка... калісь прабавала вершы пісаць і іх Вам чыталі. Во то-ж цяпер жыву ў Львове, з украінцамі, русінамі і ўніятамі заводжу знаёмства. Шмат нам спрыяюць, памогуць у чом сіла. Цяпер покі што будуць друкаваць па-беларуску. Калі маеце што, то прышліце. Я хачу даведацца ад Вас, што чутна з букваром, ці ўжо гатоў, ці ў нас будзе фанетыка наша беларуская. Гэта вельмі важна, БО БУДУ ЦЯПЕР ВЫДАВАЦЬ ПАПУЛЯРНЫЯ РЭЧЫ ДЛЯ НАРОДА* (падкрэслена мною — С. П.), *дык не ведаю, як чаго трымацца...»*

І вось перада мною чатыры кніжкі Алаізы Сцяпанаўны, выдадзеныя ёю ў Жоўкве, паблізу Львова (цяпер Несцераў).

Гэта: 1) **«Гаўрылы зъ Полацка Скрыпка Белорусска 1906»**, з цудоўнай «Прадмовай»;

2) **«Напісаў Гаўрыла Хрест на свабоду 1906»**;

3) **«Працовита беднота ўсіх краёв, злучайся! Як мужыку палепшыць сваё жыццё. № 3. Год 1906»**.

4) **«Гасцінец для малых дзяцей пералажыў з украінскага языка на беларускі з малымі пераменамі Тымчасовы»**. (Надрукавана лацінкай.—С. П.)

Кіжкі Цёткі, «возбуждающие к учению бунтовщического деяния», разышліся па Беларусі і выклікалі таксама цікавасць у Львове. У 1908 годзе львоўскі вучоны і літаратар Іларыён Свяціцкі рэцэнзуе вершы з паэтычных зборнікаў Цёткі ў сваёй кнізе «Відроджене білоруського письменства».

Вершы, якія пісала Алаіза Сцяпанаўна ў эміграцыі, траплялі на Радзіму і тут друкаваліся. Але цікава паведаміць і пра знойдзеную публікацыю твора Цёткі на Украіне. У 1906 годзе паэтэса напісала верш «Грайка», які ў 1909 годзе быў змешчаны ў «Літературно-науковим вістніку», т. 48 з подпісам Мацея Крапіўкі. Верш меў падзагаловак «Сопілка». Пераклаў яго на ўкраінскую мову Мікіта Шапавал, украінскі грамадскі дзеяч тых часоў, публіцыст і паэт.

Мікіта Шапавал вельмі часта перакладаў з беларускай мовы. У Львове друкаваліся ў яго перакладах вершы Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Юзі Шчупака, Гальяша Леўчыка.

Прыводзім пераклад верша Цёткі «Грайка» поўнасцю і ў тым напісанні, што ў часопісе:

**Богато співав би, так силу вже втято**
**І рветь ся струна за струною,**
**Хоч щеж не замерла і пісня завзята,**
**Хоч думка за думкою ходить за мною.**
**Богато співав би, так смерть каже «годі!»**
**В труну, мені, логадь ся, каже...**
**Гей, рвіть ся ви, струни! Чи се нам пошкодить?**
**Ми разом в могилу поляжем...**
**Може ось з ліри та вийде вербиця,**
**З порваних струн — квітоньки білі,**
**Може весною під тінь веселить ся**
**Будуць збірати ся дітоньки милі...**
**Може хто з діточок вріже сопілочку,**
**Доню розбітоі ліри —**
**Й так заспиває та зрізана гілочка,**
**Що всякий почує мій одголос щирий.**
**Бытьківськи струны, рано розірваны,**
**Знову озвуть ся, мов дзвоны.**
**Пісню, що смерцю була вже увірвана,**
**В серці дитячому гучно задзвоне.**
**Й разом під темною сею вербою**
**Вільне обізветь ся слово,**
**Пісня могутна, широка піде луною —**
**Ліра живе моя знову!**

Паводле апошніх звестак, Цётка пражыла ў выгнанні сем гадоў. З архіўных дакументаў удалося даведацца пра месцы, дзе жыла студэнтка філасофскага факультэта Львоўскага каралеўскага ўніверсітэта Алаіза Сцяпанаўна Пашкевіч. Першы год, яшчэ вольнай слухачкай, яна жыла ў інтэрнаце ўніверсітэта на Сікстуцкай вуліцы, № 39. Цяпер гэта Жаўтнэва вуліца, 41. У гэтым вялізным будынку і цяпер жывуць студэнты ўніверсітэта. Потым яна жыла на вуліцы Руставелі, № 42, на Настаўніцкай, № 6. Зімою 1911—1912 гадоў Цётка здымала кватэру ў доме № 20 на вуліцы Саксаганскага. (Падаюцца сучасныя назвы.—С. П.).

Пошукі матэрыялаў пра Цётку прывялі мяне ў Львове на вуліцу Драгаманава ў сям'ю Свяцiцкіх. Сюды часта заходзіла Цётка. Жыве яшчэ і яе субяседніца Анісся Мацвееўна Свяцiцкая (І. С. Свяцiцкі ў апошнія гады падпісваўся — Свянцiцкі).

Аднойчы Анісся Мацвееўна перадала мне сшытак з успамінамі яшчэ аднаго сябра Цёткі ў Львове — Меланні Бордун. Запіс, прадыктаваны Меланняй Бордун, я пераклаў з украінскай мовы.

*«Я пазнаёмілася з Цёткай у 1908 годзе ў Львоўскім універсітэце. Яна была сярэдняга росту, вельмі пяшчотная бландзінка. Голас яе быў трохі ахрыплы, хоць у хвіліны ўзнёслага настрою і экзальтацыі ён гучаў зусім чыста. Яна нават марыла стаць артысткай. Пра элегантнасць знешняга выгляду яна зусім не дбала. У размовах са знаёмымі выяўляла свае сацыялістычныя погляды.*

*У 1909 годзе яна хацела паехаць на бацькаўшчыну і прасіла мяне атрымаць у паліцыі пашпарт для яе, але на маё прозвішча. Я згадзілася і выканала яе просьбу. Гэта было няцяжка зрабіць. Для пашпарта тады не трэба было фотаздымка, а мы былі нават крышку падобны адна на адну: абедзве яснавокія, светлавалосыя.*

*Яна паехала з пашпартам на маё імя, даехала да дому без якіх-небудзь прыгод, а калі вярталася назад у Львоў, на граніцы западозрылі, што гэта не яе пашпарт. Але яна не разгубілася, бо была вельмі настойлівая і рашучая, і вярнулася шчаслівa ў Львоў. Калі я на вакацыі прыехала дадому, мой бацька — сельскі свяшчэннік у сяле Выкоты — спытаў у мяне здзіўлена: «Ці ты збіраешся ехаць у Кіеў? Бо да мяне прыходзіў жандар і пытаўся, ці я табе дазволіў гэта... Я сказаў, што дазволіў...».*

*Калі я растлумачыла, у чым справа, бацька быў задаволены, што памагла добраму чалавеку.*

*Было гэта прыблізна каля 1909 года. У 1911 годзе была я са сваёй прыяцель-*

*кай Аніссяй Свяціцкай у Вене на ўніверсітэцкіх студыях. Да нас прыехала Цётка. Яна таксама захацела пабачыць Вену. Мы наведалі з ёю музеі, аглядзелі ўсе касцёлы. Асаблівае ўражанне зрабіў на яе сабор святога Стэфана. Пахадзілі мы і па венскіх парках. Алаіза Сцяпанаўна хоць і не ведала мовы, але адчувала сябе свабодна і добра. Гутарыла з людзьмі на мігі. Людзі лёгка яе разумелі, ставіліся да яе дабрадушна і з сімпатыяй. Паводзіла яна сябе з людзьмі проста, дэмакратычна, звярталася да ўсіх пераважна на «ты», называючы мужчын дзядзькамі. У Вене сустракалася з некаторымі галічанамі і лёгка знаходзіла з імі агульную мову. Сама гаварыла пераважна беларускаю моваю, ведала таксама ўкраінскую і рускую.*

*Часта прыходзіла да Нацыянальнага музея на вуліцы Махнацкага, 42, і да дырэктара музея І. С. Свяціцкага, з якім была ў сяброўскіх адносінах».*

Паступіўшы вольнай слухачкай у Львоўскі ўніверсітэт, Алаіза Сцяпанаўна Пашкевіч пачынае настойліва дабівацца залічэння на стацыянар. З гэтым клопатам яна нават ездзіла ў Вену. Просьба не была задаволена. 11 красавіка 1911 года з Вены прыйшоў ліст, у якім міністр асветы і веравызнання Імперыі паведамляў пра гэта.

Якія дысцыпліны вывучала Цётка ва ўніверсітэце — сведчаць яе дэканацкія карткі. На картцы, запоўненай студэнткай А. Пашкевіч на зімовае паўгоддзе 1911—1912 навучальнага года, у графе «родная мова» чытаем: «беларуская». У калонцы «ўласнаручны подпіс слухача» бачым прозвішча, напісанае рукой Алаізы Сцяпанаўны.

Настойлівае хадайніцтва Алаізы Сцяпанаўны аб залічэнні на стацыянар прынесла, нарэшце, поспех. 29 ліпеня 1912 года з Вены ў Львоў прыйшоў рэскрыпт, якім дазвалялася «ў выключным парадку, ...з адступленнем ад патрабаванняў аўстрыйскага грамадзянства» дапушчэнне А. С. Пашкевіч да іматрыкуляцыі як ардынарнай студэнткі філасофскага факультэта.

Перад самым пачаткам новага семестра, 23 верасня 1912 года, Цётка была выклікана ва ўніверсітэцкую канцылярыю. Венскі дазвол быў праведзены праз афіцыйныя паперы факультэта.

Навуковая дзейнасць, атрыманне вучонага звання — усё цяпер для Цёткі было наперадзе. Але ажыўленне рэвалюцыйнага руху на Беларусі клікала паэтэсу-рэвалюцыянерку да вялікай працы. У 1913 годзе пад прозвішчам Кейрыс яна пакідае Львоў, каб здзяйсняць на бацькаўшчыне подзвіг у імя шчаслівай будучыні свайго народа.

У архівах Львова, Кракава, Вены захавана яшчэ многа каштоўных дакументаў пра жыццё і дзейнасць першай беларускай паэтэсы. Варта шукаць гэты скарб.

**Сяргей ПАНІЗНІК.**



# БЮРО ВЕТЛІВАСЦІ

**З кнігі польскага літаратара Яна КАМЫЧАКА «ВЕТЛІВАСЦЬ НА КОЖНЫ ДЗЕНЬ».**

Часта пад ветлівасцю разумелі крывадушнасць. І падручнікі добрага выхавання часта былі падручнікамі маскавання пачуццяў. Наша задача іншая. Гэта будзе размова не пра ветлівасць паказную, а пра ветлівасць шчырую.

Іншымі словамі — мы не хочам раіць, як прыхаваць сваю нядобразычлівасць, а наадварот, як праявіць добразычлівасць.

Усе звычаі ветлівасці маюць агульны сэнс зрабіць больш лёгкім жыццё ў калектыве. Гэта наша агульная мова ветлівасці, зразумелая для ўсіх.

Падкрэслім яшчэ раз:

Формулы ветлівасці могуць змяніцца, але не зменіцца факт, што людзей вабяць у другіх людзях сапраўдныя вартасці сэрца і характар. Будзь прыязным, і ты здабудзеш аўтарытэт добра выхаванага чалавека. Інакш — нічога не выйдзе.

А цяпер, чытач, прымі жменю сяброўскіх парад, як паводзіць сябе ў розных жыццёвых абставінах.

## ЗНАЁМСТВА

Ты павінен пазнаёміць двух чалавек, якія да гэтага часу не ведалі адзін аднаго. Чыё прозвішча ты назавеш першым? Іншымі словамі, каго каму ты прадстаўляеш.

Першым ты назавеш прозвішча асобы, якая паводле ўзросту, заслуг і полу — стаіць на другім месцы. Гэта азначае: ты прадстаўляеш мужчыну — жанчыне, прыяцеля — выкладчыку, супрацоўніка — начальніку, асобу маладзейшую — асобе старэйшай.

Напрыклад, ты стаіш са сваёй сяброўкай Гурскай, падыходзіць твой прыяцель Мацкевіч. Калі да гэтага часу яны не былі знаёмы, ты гаворыш: «Мой прыяцель Мацкевіч — мая сяброўка Гурская».

Альбо ты размаўляеш з прыяцелем Новакам, падыходзіць асістэнт Маліноўскі. Ты вітаешся з асістэнтам, потым гаворыш: «Мой сябар Новак — асістэнт Маліноўскі». Гэта азначае, ты прадстаўляеш прыяцеля асістэнту, а не наадварот.

Калі ты знаёміш дзвюх асоб прыблізна роўнага ўзросту і становішча, то прадстаўляеш асобу, бліжэй табе знаёмую, асобе меней знаёмай. Напрыклад, сястру — сяброўцы, прыяцеля — супрацоўніку.

Усіх знаёмых ты прадстаўляеш сваёй маці, а не наадварот. Ты не скажаш: «Мая маці — майстар Кавальскі», а толькі так: «Майстар Кавальскі — мая маці», альбо: «Мама, дазволь цябе пазнаёміць з нашым майстрам Кавальскім». Гэтак жа ты прадстаўляеш сваёй маці знаёмую дзяўчыну.

Калі адна з асоб, якіх ты знаёміш, чалавек агульнавядомы, заслужаны альбо вельмі пажылы, то можна не называць яго прозвішча. Напрыклад, ты размаўляеш з прафесарам і падыходзіць твой сябар Ліпскі, то ты коратка скажаш: «Мой таварыш Ліпскі», альбо: «Дазвольце, прафесар, прадставіць вам майго калегу Ліпскага». Прозвішча прафесара называць не варта. Мяркуецца, што Ліпскі здагадваецца, хто перад ім.

Калі ты ў вялікай кампаніі і да вас далучаецца твой знаёмы, якога прысутныя не ведаюць, ты не прадстаўляеш яго кожнаму паасобку, а толькі адзін раз (затое галасна і выразна) называеш яго прозвішча, пасля чаго знаёмы па чарзе з усімі вітаецца. А калі табе здарыцца быць гаспадаром таварыскай вечарынкі і госці прыбываюць па адным, ты прадстаўляеш новага госця тым, хто сабраўся, потым ён ужо сам падыходзіць да кожнага з прывітаннем.

Калі прыяцель, знаёмячы цябе з кім-небудзь, галасна і выразна назваў тваё прозвішча, ты не абавязаны яго паўтараць, паціскаючы руку партнёру. Але калі той гэта не зрабіў або ты сам з кім-небудзь знаёмішся, ты абавязаны назваць сваё прозвішча. І выразна — так, каб партнёр яго пачуў.

Жанчыны пры знаёмстве таксама называюць сваё прозвішча. Погляд, што жанчыны не прадстаўляюцца мужчынам — цяпер неактуальны. Толькі пажылыя не называюць свайго прозвішча, калі іх знаёмяць з юнаком. Пры знаёмстве жанчына не ўстае з месца.

Ці трэба прадстаўляцца асобам, спатканым у часе візіту, калі гаспадар дома вас не пазнаёміў? Так, трэба. Гэтага абавязку няма толькі на вельмі людных сходках, якія рэдка наладжваюцца ў прыватным доме. Можна ўзяць за правіла, што ў прыватным доме заўсёды ўсім прысутным трэба прадставіцца.

Што зрабіць, калі прыходзіш на сяброўскі вечар, а ўсе ўжо за сталом і гаспадыня дома толькі ўвогуле прадстаўляе вас і садзіць на вольнае крэсла? Належыць пакланіцца ўсім увогуле, а прадставіцца толькі непасрэдным суседзям за сталом. А ўжо ўстаўшы ад стала, пазнаёміцца з астатнімі.

Калі падыходзіш да знаёмага, а ён — з дзяўчынай, якой ты не ведаеш, то кланяешся ім абодвум. Можаш дадаць: «Дзень добры». І чакаеш, пакуль твой знаёмы прадставіць цябе дзяўчыне. Ён павінен гэта зрабіць адразу. Тады ты вітаешся з ёй, а потым — з ім.



Спаткаўшы вялікую кампанію, у якой ты ведаеш толькі аднаго чалавека, напрыклад, мужчыну, перш вітаешся з ім, хоць бы нават тут былі і жанчыны і старэйшыя за яго людзі. Потым прыяцель пазнаёміць цябе з усёй кампаніяй.

Што зрабіць, калі трэба пазнаёміць людзей, а вы забылі прозвішча аднаго з партнёраў? Тады мы гаворым: «Дазвольце вас пазнаёміць...», альбо: «Пазнаёмцеся, калі ласка...» — і астатняе дагаварыць жэстам, які заахвочвае партнёраў паціснуць рукі, прычым яны ўжо самі назавуць свае прозвішчы.

На «вельмі прыемна» не адказваем нічога. Самае большае — можна міла ўсміхнуцца. Ды і само «вельмі прыемна» — лішняе. Толькі ў выключных выпадках, пачуўшы прозвішча партнёра, гаворым: «Вельмі рад з вамі пазнаёміцца, мне Юзік столькі пра вас расказваў!» Але звычайна прозвішча партнёра прымаем да ведама без каментарыяў.

## ПРЫВІТАННІ, ПАКЛОНЫ

Сустрэўшы знаёмых, мы кланяемся, зняўшы шапку або капялюш. Калі ты ў берэце або лыжнай шапачцы, то можаш пакланіцца, не знімаючы галаўнога ўбору. Можна не знімаць яго і ў памяшканні, праз якое праходзіш мімаходзь, напрыклад, у магазіне. Але ў кафэ, рэстаране трэба зняць нават берэт.



Пры паклоне знімаем толькі галаўны ўбор з брылькам або з палямі (жанчыны шапачак не знімаюць!). Не датычыць гэта ваенных галаўных убораў — там ёсць свае правілы.

Пры паклоне трэба заўсёды выняць рукі з кішэняў і папяросу з вуснаў (вельмі важна!).

Калі сядзіш за столікам у кафэ, то сваім аднагодкам кланяешся толькі нахілам галавы, а асобам старэйшым і жанчынам — нахілам галавы і корпуса, пры гэтым трэба прыўзняцца з крэсла.

Жанчыны вітаюцца толькі нахілам галавы. Але гэта не павінен быць нядбайны ківок. Трэба выканаць рух паклону ў павольным тэмпе. Часта дзяўчына далучае да паклону прамяністую ўсмешку — асобам больш блізкім, сябрам, равеснікам. Старэйшым і маладзейшым людзям кланяюцца з ветлівым выразам твару, але без усмешкі.

Замена паклону вясёлымі кіўкамі галавы ці жэстам рукі і якім-небудзь слоўцам, як гэта любяць рабіць маладыя людзі, можа мець месца толькі ў адносінах з вельмі блізкімі знаёмымі і аднагодкамі.

Калі адной рукой ты падтрымліваеш дзяўчыну, а ў другой — партфель і табе сустракаюцца знаёмыя, то трэба вызваліць руку з-пад локця дзяўчыны, каб прыўзняць капялюш ці шапку, а не ківаць толькі галавой, як робяць некаторыя.



Хто кланяецца першы? Адказ просты: першы кланяецца той, хто больш ветлівы. Або: спачатку пакланіся, а толькі потым (калі варта) падумай, хто каму, паводле агульнапрынятых звычаяў, павінен быў пакланіцца першы.

Звычаі ж такія:

Малодшы кланяецца старэйшаму, студэнт (і студэнтка) — выкладчыку, мужчына — жанчыне.

З двух прыяцеляў першы кланяецца таму, хто ідзе з дзяўчынай ці са значна старэйшым мужчынам. Дзяўчына, якая ідзе з мужчынам, першая кланяецца сяброўцы, што ідзе адна.

Мужчына заўсёды першы кланяецца знаёмым жанчынам, нават тады, калі ён сам сярод жанчын.

Калі асобы, з якімі мы ідзём па вуліцы, кланяюцца чалавеку, якога мы не ведаем, то мы далучаемся да іх паклону хоць бы лёгкім нахілам галавы (мужчыны прыўзнімаюць шапкі або капелюшы).

Паўтараем: у кожным няпэўным выпадку, калі не ведаеш, хто каму павінен пакланіцца, пакланіся першы.

Чаканне паклону ад іншых заўсёды выглядае штучна і прэтэнцыёзна, нават калі чакае асоба, якая «мае права».

**Асаблівыя акалічнасці.** Калі трэці раз за дзень сустракаеш свайго прыяцеля, можаш ужо не вітацца з ім, абмежаваўшыся прыязнай усмешкай. Калі гэта хто-небудзь старэйшы, лепей кланяцца за кожным разам. Хіба толькі ты сустракаешся з ім раз-пораз на пэўнай тэрыторыі. Калі, дапусцім, ты пакланіўся прафесару на факультэце пры першым спатканні, то пры наступных спатканнях у гэты дзень, на той жа самай тэрыторыі, кланяцца не мусіш.

Ці кланяцца асобам, знаёмым толькі з выгляду? Напрыклад, суседзям з твайго дома. Вядома, можна кланяцца, але абавязку няма. Хіба толькі вы ўжо размаўлялі з гэтымі суседзямі пры якім-небудзь выпадку. Тады трэба кланяцца.

Ці кланяцца на вуліцы асобам, якіх мы ведаем толькі «афіцыйна»: прадаўцам магазінаў, дзе мы часта робім закупкі, супрацоўнікам устаноў, дзе часта даводзіцца бываць па справах, і г. д.? Калі гэтыя «афіцыйныя» адносіны падтрымліваюцца стала, то кланяцца.

Табе кланяецца незнаёмы, ці адказваць? Так, бо, відаць, прыняў вас за некага іншага і будзе мець прэтэнзіі да ні ў чым не вінаватай асобы.

Вы пазнаёміліся з кім-небудзь мімаходзь некалькі гадоў назад. Ці кланяцца яму да канца жыцця? У прынцыпе, аднойчы завязанае знаёмства да гэтага абавязвае. Але памяць чалавека мае свае межы.

Апрача паклону, трэба сказаць: «Дзень добры» або «Добры вечар». Словы «прывітанне!», «чэсць!» ужываюцца толькі ў адносінах да аднагодкаў, блізка прыязных і да асоб, маладзейшых за вас. Калі, напрыклад, выкладчык на ваша «дзень добры» адкажа «вітаю вас», то ўсё ў парадку. Але гэта не азначае, што і вы можаце потым сказаць яму «вітаю вас». Трэба па-ранейшаму гаварыць «добры дзень».

Увага! Першым вітаецца той, хто ўваходзіць у якое-небудзь памяшканне (клуб, установу, сталоўку, цэх).

Пераклад з польскай
Алеся МАЖЭЙКІ.

# ДЛЯ ЦЯБЕ, ЗМЕНА

*Думкі ўголас пра сябе, спорт і таварышаў*



Аляксей Ніканчыкаў і яго трэнер Герман Бокун.

## ШТО ЁСЦЬ СПОРТ?

Аднойчы работніца мінскага стадыёна «Дынама», гледзячы на лёгкаатлетаў, якія трэніраваліся, і палічыўшы мяне за назіральніка, сказала:

— Не разумею, навошта яны ўсё бегаюць, бегаюць?!. А ім яшчэ за гэта і грошы плацяць... Калі б іх на завод адправіць, карысць была б большая.— Жанчына памаўчала трохі, а потым дадала: — Вось і мая дачка падалася ў спорт — фігурысткай рашыла стаць. Хадзіла я на яе першае выступленне. Малайчына! І вучыцца добра. І канькі любіць...

Я разумею маю субяседніцу. Яна за дзіцячы спорт і супраць «дарослага» спорту. Магчыма, праз некалькі год пад «непасрэдным уплывам дачкі», радуючыся яе поспехам на спаборніцтвах, маці памяняе свой пункт гледжання. І зразумее, што спорт:

— **гэта здароўе** (у першую чаргу);

— **гэта сяброўства** (у любым узросце);

— **гэта мастацтва** (асабліва, вялікі спорт);

— **гэта палітыка** (міжнародная папулярнасць).

І яшчэ спорт — **гэта вялізная і карпатлівая праца.**

Ні ў адной галіне дзейнасці чалавека няма прамой дарогі. Ва ўсім і ўсюды вяршыні заваёўваюцца працай і толькі працай. Мы часам пра гэта забываем або (як тая жанчына) прымаем працу спартсмена як забаву, як раскошу. А на справе ўсё абстаіць інакш.

## ДАЛЁКА АД РАДЗІМЫ

Гэта было ў Ліване. Напярэдадні новага, 1967 года, тут сабраліся шэсць лепшых шпажыстаў свету, каб разыграць два папулярныя прызы. Адзін удалося выйграць мне, а другі дастаўся майму таварышу па камандзе — Юрыю Смалякову.

Пасля нашых перамог мы сустрэліся з савецкім паслом у Ліване, які пацалаваў нас за «папулярнасць нашай краіны ў гэтай маладой дзяржаве». Ён прызнаўся, што савецкай місіі для такога ўздыму папулярнасці Савецкага Саюза ў Ліване спатрэбілася б «мінімум два-тры гады». Пасля гэтых слоў у мяне штосьці нечакана перавярнулася ў душы. Я адчуў яшчэ большую адказнасць за выступленні пад сцягам зборнай краіны Саветаў — радзімы камунізма. І прызнаюся: вельмі не люблю прайграваць. Хочацца, каб наш савецкі чырвоны сцяг узлятаў вышэй за іншыя сцягі, каб наш савецкі Гімн часцей і часцей гучаў у гонар перамог савецкага чалавека на бегавой дарожцы, на хакейнай пляцоўцы, на футбольным полі...

## ПЕРАМОГІ. КАЛІ ЯНЫ ПРЫХОДЗЯЦЬ

Не ведаю, што мяне трымае ў спорце, але толькі не гучныя тытулы. Іх у мяне, проста, не было. Праўда, чатыры залатыя медалі чэмпіёна краіны (за камандныя пе-



Паядынак пачаўся.

рамогі) служылі хоць невялікай, ды ўцехай. Дзесяць гадоў упартых трэніровак, пошукі новых схем і тактык, і нарэшце — званне чэмпіёна. Так, я быў шчаслівы ў той цёплы летні маскоўскі вечар. Мяне неслі на руках таварышы. Я стаў чэмпіёнам свету.

І толькі калі хваляванне трохі ўляглося, калі мяне зноў пачаў «дапякаць» на трэніроўках Герман Мацвеевіч Бокун,— мой трэнер і настаўнік,— я ўсё часцей пачаў думаць пра тых, хто побач, пачаў успамінаць і супастаўляць лёс тых, хто падаваў, як і я, нейкія надзеі. Пра іх ужо ніколі не даведаецца спартыўны свет. Па-рознаму складваўся лёс гэтых маладых і гарачых людзей, якія марылі пра перамогі і... беззваротна выбылі са спорту.

Рос у нашай беларускай камандзе фехтавальшчыкаў таленавіты рапірыст Юфераў, але з 1967 года яму забаранілі выступаць за зборную рэспублікі. Прычына? Вельмі часта Валодзя падводзіў нашу каманду сваёй самаўпэўненасцю і... парушэннем спартыўнага рэжыму. Ён атрымаў пакаранне суровае, але заслужанае.

Другі рапірыст, Уладзімір Ліўшыц, радаваў усіх сваімі фізічнымі якасцямі, сваімі бліскучымі перамогамі на юнацкіх рэспубліканскіх і ўсесаюзных турнірах. Трэнеры цешылі сябе надзеямі. Але вось Валодзя перайшоў у дарослую групу, і... у яго не хапіла сілы волі: пацярпеўшы некалькі паражэнняў ад больш сталых майстроў рапіры, ён неяк спасаваў і цяпер, у расквіце сіл, выступае ў другарадных ролях, хоць мог бы іграць адну з «першых скрыпак» беларускага фехтавання.

У 1963 годзе чэмпіёнам маладзёжнага першынства свету па шаблі стаў малады грузінскі фехтавальшчык Лордкіпанідзе. Мы чакалі ад яго поспехаў, але яго талент нечакана пачаў знікаць. Чаму? Добразычліўцы... Яны прыйшлі яму на дапамогу зусім не з таго боку — з віншаваннямі і бутэлькай. Гэта і загубіла маладога спартсмена.

Хочацца пажадаць маладым спартсменам быць як мага далей ад гэткіх сяброў і ад зазнайства і самазаспакоенасці.

## СПОРТ — СПРАВА МАЛАДЫХ

Бруна Хабараў. Каму не знаёма гэтае імя. Яно грымела ў 1958—1959 гадах. Ён — чэмпіён свету сярод моладзі, чэмпіён свету сярод дарослых, чэмпіён краіны. Хлопцу ўсяго дзевятнаццаць. Усе ведалі, што Бруна строгі да сябе, патрабавальны. Яго бацька, вядомы фехтавальшчык, вырашыў прысвяціць сябе выхаванню сына. Яны адасабляюцца, ігнаруюць зборы ў зборнай краіны, думаюць, што ў адзіноце дасягнуць дасканаласці. Але выйшла інакш. Ужо ў наступным, 1960 годзе Бруна не заваёўвае ніякіх лаўраў. А яму ж толькі дваццаць! Здавалася, ён павінен быў за год павысіць майстэрства. Выйшла наадварот. І прычына — адарванасць ад калектыву.

Спачатку ў тэхнічным і тактычным аснашчэнні Бруна выйшаў уперад за іншых. І вось, будучы некаторы час у адзіноце, ён думаў, што па-ранейшаму застаецца лепшым. Але сапернікі не драмалі: зведаўшы горыч паражэнняў ад Хабарава, яны здолелі не толькі вывучыць яго манеру бою, але і знайсці контрпрыёмы. Пацярпеўшы, як яму здавалася, «выпадковыя» паражэнні, Хабараў працягваў заставацца на сваіх пазіцыях. Ён лічыў за лепшае трэніравацца на адзіноце. Пакаранне было бязлітаснае. Здольны фехтавальшчык так ні разу і не сказаў за апошнія гады сваё слова ў спорце, хоць застаецца, бадай, самым тэхнічным шпажыстам у нашай краіне.

Цяпер голая тэхніка страчвае галоўную ролю ў спорце. На пярэдні план спартыўных баталій выходзяць тактыка і фізічная падрыхтоўка. Асабліва гэта відаць у футболе, хакеі, канькабежным спорце і ў лёгкай атлетыцы. Напрыклад, англійская зборная ўсяго два з лішнім гады назад была лепшая ў свеце. Лепшая на самай справе. Але варта было англічанам на некаторы час «спачыць на лаўрах», і яны паволі і няўхільна пакаціліся ўніз.

А савецкія хакеісты? Мы здзіўляемся і захапляемся імі. Іх перамогі, іх поспех — гэта перш за ўсё пошук новага, творчы падыход да спорту.

У часе алімпійскіх гульняў мяне ўражвалі сваёй няўрымслівасцю нашы гімнасткі. Іх трэніроўкі — работа да сёмага поту. Наташа Кучынская, Ларыса Петрык, здавалася, не ведалі стомы. Іх залатыя медалі — узнагарода за працу. Мой трэнер Герман Мацвеевіч Бокун любіць паўтараць: «Спартсмен, як вярблюд, заўсёды павінен мець горб у запасе. І чым паўней набіты гэты горб тэхнікай, тактыкай і фізічнай сілай, тым больш у яго магчымасцей для таго, каб быць першым. А для таго, каб горб не бяднеў, трэба ўвесь час папаўняць яго...»

Значыць, спартсмен, як і мастак ці артыст, павінен заўсёды знаходзіцца ў пошуку, ні ў якім выпадку не ігнараваць тое, чаго дабіліся іншыя, і ўзбагачаць іх вопытам свой арсенал. Інакш ён хутка састарэе. А спорт—гэта справа маладых. І вось тут спартыўная тэрміналогія папоўнілася новым тэрмінам: «Маладыя старыя». Мая парада маладым: «Дзярзайце! Тады вы будзеце ісці ў нагу з лепшымі спартсменамі свету».



Калі здабыта перамога.

## ЧАМУ ІСНУЕ РАЗРЫЎ?

Пасля выступленняў зборнай каманды Беларусі на IV Спартакіядзе народаў СССР наша кіраўніцтва, засведчыўшы поспехі беларускага спорту, прызнала той факт, што цяпер у нас існуе вялікі разрыў паміж вынікамі лідэраў і аўтсайдэраў. Гэта, натуральна, выклікае трывогу. Як правіла, лідэры беларускага спорту — гэта ўжо вопытныя, здольныя спартсмены. Яны могуць выступаць яшчэ некалькі гадоў. А далей?

Змена ж у нас, фактычна, не гатова. Здаецца, што для яе падрыхтоўкі ў рэспубліцы ёсць усе ўмовы. Масавасць спорту — залог яго поспеху. У нас масавасць ёсць. А вось поспех не вельмі прыкметны. Чаму? Тут невялікая, але, на мой погляд, вельмі важная дэталь. Большасць маладых спартсменаў займаецца ў секцыях. Тут, прыблізна, такія суадносіны: адзін трэнер — дваццаць-трыццаць спартсменаў. Устаноўлены адпаведныя гадзіны заняткаў, адпаведная сістэма, ёсць план трэніровікі. Дзве гадзіны дваццаць чалавек робяць адно і тое ж. Закончылася трэніроўка — спартсмены і трэнер разышліся. Трэнер, бадай, задаволены: ён сваё зрабіў, правёў заняткі. А спартсмены? Адны задаволены нагрузкай, другія — не. Такое паўтараецца заўсёды, і трэнер нечакана заўважае, што хтосьці адсутнічае. У яго рэдка ўзнікае пытанне, чаму перастаў займацца той ці іншы малады спартсмен. Звычайна, прычына адна: спужаўся нагрузкі або адчуў, што гэты від спорту не для яго... І толькі рэдка які настаўнік пагодзіцца, што вінаваты ён сам: не здолеў прывіць чалавеку любоў да таго ці іншага віду спорту. Не здолеў даць штосьці новае, выявіць сапраўдныя здольнасці спартсмена.

Ёсць яшчэ адзін бок у трэнерскай рабоце. Вельмі часта здольны трэнер прысвячае сябе аднаму-двум перспектыўным спартсменам, з астатнімі трэніроўку праводзіць па штампах. Бясспрэчна, пры такой сістэме падрыхтоўкі яму цяжка будзе знаходзіць новыя маладыя таленты. І тут мне хочацца сказаць некалькі слоў пра трэнера Ларысы Петрык — Вікенція Дзмітрыева. Гэта дзякуючы яго таленту ззяе цяпер алімпійскім золатам слава спартсменкі. І ўсе ўжо ведаюць, што ў Ларысы цяпер расце вартая змена ў асобе чатырнаццацігадовай Ларысы Лазакевіч. Вось што азначае ўлюбёнасць трэнера не ў сваю «зорку», а ў спорт! У гэтым — аснова раскрыцця маладых талентаў.

## ЗНАЙДЗІ СЯБЕ

Мы яшчэ часам з'яўляемся сведкамі таго, што малады хлопец пераходзіць з адной секцыі ў другую і ў выніку — пакідае спорт. Я не адкрыю Амерыкі, калі скажу, што рознабаковасць спартсмена — гэта вельмі патрэбная і важная ўмова для дасягнення вялікіх поспехаў. Аднак жа здараецца, што спартсмен ні на чым не можа спыніць свой выбар: у адным месцы яго палохаюць нагрузкі, у другім — ён проста расчараваны, у трэцім — ён не бачыць перспектывы.

Зусім іншая справа, калі чалавек, які вырашыў прысвяціць сябе хакею, займаецца фігурным катаннем, футболам. Тут усё неабходна для яго будучыні, для канчатковай мэты.

Асабіста я ў дзяцінстве захапляўся і боксам, і футболам, і лыжамі, і баскетболам, але палюбіў толькі фехтаванне.

Вось некаторыя меркаванні, якія мне хацелася тут выказаць юнакам і дзяўчатам, што ўступаюць на спартыўны шлях, падзяліцца з імі тым, што я перажыў, што бачыў і што зразумеў.

**Аляксей НІКАНЧЫКАЎ,**
**заслужаны майстар спорту СССР.**

Раздзел вядзе
міжнародны гросмайстар
Аляксей СУЭЦІН

# НА ШАХМАТНАЙ АЛІМПІЯДЗЕ

## ЗАСЛУЖАНАЯ ПЕРАМОГА

У швейцарскім горадзе Лугана адбылася XVIII Сусветная шахматная алімпіяда. Вельмі паспяхова выступала каманда шахматыстаў, дзе гулялі па парадку дошак: чэмпіён свету Цігран Петрасян, прэтэндэнт на гэтае званне Барыс Спаскі, гросмайстры Віктар Карчной, Яфім Гелер, Леў Палугаеўскі і Васіль Смыслоў. Чатыры савецкія гросмайстры—Ц. Петрасян (1-я дошка), В. Карчной (3-я дошка), Л. Палугаеўскі (4-я дошка) і В. Смыслоў (2-я запасная) заваявалі спецыяльныя прызы за лепшыя індывідуальныя вынікі на дошках. Выдатна выступілі таксама Б. Спаскі і Я. Гелер.

Нельга сказаць, што савецкім удзельнікам лёгка дасталася перамога. Нашы шахматысты ў вельмі цяжкіх умовах, у перапоўненай зале гулялі з вялізным напружаннем сіл і імкненнем перамагчы. Прыклад гэтага—матчы на фінішы з камандамі Югаславіі і Аргенціны.

У першым з іх югаславы арганізавалі моцнае супраціўленне на ўсіх дошках. Калі ў трох партыях былі зафіксаваны нічыйныя вынікі, увагу прыкавала да сябе партыя на другой дошцы **Іўкаў—Карчной.** Тут доўгі час у спакойнай сітуацыі мінімальная перавага была на баку югаслава. Здавалася, што пасля 1. d4 Kf6, 2. c4 e6, 3. Kf3 b6, 4. g3 cb7, 5. Cg2 Ce7, 6. 0—0 0—0, 7. Кс3 Ке4, 8. Фс2 К : c3 9. Ф : c3 c5, 10. Лd1 d6, 11. b3 Cf6, 12. Cb2 Фе7, 13. Фd2 Ка6, 14. Ке1 Лad8, 15. e4 cd, 16. С : d4 С : d4, 17. Ф : d4 Карчной можа марыць толькі пра нічыю. Тым не менш, Карчной смела ідзе насустрач абвастрэнням і заблытвае свайго партнёра. Другая частка партыі вельмі павучальная: 17. ...Фg5, 18. Кс2 Кс5, 19. Ле1 Фg6, 20. Ле2 Лd7, 21. Лd1 e5, 22. Фе3 h6, 23. Ch3 Лdd8, 24. f3 Фf6, 25. Лed2 Фе7, 26. Фс3 g6, 27. Ке3 f5! 28. ef С : f3, 29. Ле1 Ке4, 30. Фс2 К : d2, 31. Ф : d2 Се4, 32. Кg4 С : f5.

Няцяжка пераканацца, што ў белых прайграная пазіцыя. Яны маюць рашаючы матэрыяльны ўрон.

33. К : h6+Крh8, 34. g4 Сс8, 35. Фе3 Фh4, 36. Лd1 Крh7, і белыя здаліся.

Аналагічная сітуацыя ўзнікла і ў другім матчы, з Аргенцінай. Тут рашаючым быў паядынак **Палугаеўскі—Расета.**

Ужо неўзабаве пасля дэбюту савецкі гросмайстар смела ахвяраваў фігуру дзеля атакі на караля партнёра, які засеў у цэнтры, і вельмі зручна выкарыстаў свае пазіцыйныя перавагі.



**Белыя:** Крg1, Фd1, Лa1 і f1, Се3 і g2, Кb3 і c3; пп: a2, b2, d3, e2, f2, g3, h2 (15).
**Чорныя:** Кре8, Фb4, Ла8 і h8, Сс8 і f8, Кс6 і f6; пп: a4, b7, d5, e4, f7, g7, h7 (15).

Было зроблена 12. de! ab, 13. a3 Фа5, 14. ed Ке5, 15. Ф : b3 Се7, 16. Cb6! Фа6, 17. Cd4 Ked7, 18. Кb5!

Гэту пазіцыю і імкнуліся атрымаць белыя, ахвяруючы фігуру. Цяпер матэрыяльныя страты чорных непазбежныя.

18. ... 0—0, 19. Кс7 Фа4, 20. Фс3 Cd6. Пасля 20. ... Лb8 або 20. ... Ла5 будзе 21. b3!, і ферзь чорных у «пастцы».

21. К : а8 Ф : а8, 22. е4 Ле8, 23. Лfе1 Се5, 24. f4 С : d4+, 25. Ф : d4.

У чорных дзве фігуры за ладдзю, але белыя маюць не толькі тры пешкі, але і мацнейшы цэнтр. Гэта робіць іх пазіцыю лёгка выйгравальнай.

25. ... Фа6, 26. Ласl h5, 27. h3 Кf8, 28. е5 К6h7, 29. Лс7 g5, 30. Кh2 Фh6, і тут, не дачакаўшыся ходу ў адказ ад партнёра, чорныя здаліся.



## МЕДАЛІ БАЛГАРСКІХ СЯБРОЎ

На алімпіядзе было нямала сенсацый, якія выклікалі шмат шуму ў сусветным шахматным друку. Тут і выбыццё Р. Фішара (ЗША), які паставіў перад арганізатарамі алімпіяды шэраг спецыяльных для яго персоны ўмоў; тут і буйная няўдача гросмайстра Б. Ларсена, які прайграў пяць партый, у тым ліку і прынцыповыя паядынкі з Б. Спаскім, Л. Порцішам і В. Гортам.

Але, бясспрэчна, самай буйнай сенсацыяй XVIII алімпіяды быў вялікі поспех каманды Балгарыі, якая заняла трэцяе ганаровае прызавое месца. Шахматысты Балгарыі вырваліся наперад. Да гэтага часу яны ні разу нават блізка не былі ля прызавога п'едэстала. Асноўная іх сіла ў згуртаванасці, дружбе і цудоўным адчуванні локця. Найбольш паспяхова выступаў на другой дошцы гросмайстар Т. Трынгаў. Упарта змагаліся не толькі вопытныя гросмайстры М. Бабоцаў і Н. Падзеўскі, але і маладыя майстры. Нам застаецца толькі павіншаваць балгар з заслужаным поспехам і пажадаць ім далейшага росту.

## НОВЫЯ ШАХМАТНЫЯ КРАІНЫ

Упартая барацьба была не толькі за медалі. У кожнай з наступных груп была свая канкурэнцыя, былі свае фаварыты. У групе «Д» нечаканасцю быў поспех дэбютанта алімпіяды—каманды Сінгапура, якая ўпэўнена перамагла ў сваёй групе. Яшчэ нядаўна ў гэтай маленькай краіне міжнародныя шахматы былі зусім не вядомыя. Цяпер жа ў Сінгапуры чатыры тысячы юных шахматыстаў вучацца ў васьмідзесяці спецыяльных шахматных школах. Пра гэта расказаў у інтэрв'ю капітан каманды Сінгапура прафесар, дэкан Сінгапурскага ўніверсітэта К. Лім, гарачы энтузіяст шахмат.

Сінгапур амаль што не наведвалі яшчэ шахматныя «асы». Зафіксаваны пакуль што прыезд толькі двух гросмайстраў: праездам у 1966 годзе выступаў Ю. Авербах і летась С. Глігарыч. Да XVIII алімпіяды сінгапурцы сур'ёзна рыхтаваліся пад кіраўніцтвам майстра Н. Караклаіча, які спецыяльна прыехаў трэнерам у Сінгапур.

Безумоўна, самым моцным шахматыстам Сінгапура трэба лічыць Л. Тана, дарэчы, адзінага шахматыста там, які мае званне майстра. Але і ўсе другія члены каманды—К. Лім, Л. Тан, Г. Гіам, Л. Хонг, Л. Лай—паказалі вельмі добрую гульню. Усе яны маладыя—не старэй 25 год.

## ХОЦЬ І ЦЕСНА, ДЫ НЕ КРЫЎДНА

Калі ўлічыць, што на гэты раз алімпіяда сабрала рэкордную колькасць каманд—53, павільён Конца быў, безумоўна, недастатковы, каб змясціць такі прадстаўнічы форум. І ўсё ж атмасфера на алімпіядзе была надзвычай цёплай, без ніводнага колькі-небудзь сур'ёзнага інцыдэнту.

Цікава, што ў сваіх інтэрв'ю прадстаўнікі і капітаны многіх каманд, у тым ліку і каманды ЗША, адзінадушна асудзілі беспадстаўныя патрабаванні Р. Фішара, які і цяпер працягвае весці небяспечную гульню, супрацьстаўляючы сябе ўсёй шахматнай грамадскасці ў пагоні за таннай сенсацыяй. Цікава, што, навучаныя паводзінамі яго на апошніх турнірах, многія мецэнаты Захаду адмаўляюцца ад запрашэння Р. Фішара на турніры. «Без Фішара спакайней»,—гавораць яны.

У цяжкіх умовах васемнаццацітысячнага горада арганізатары турніра зрабілі ўсё, каб папулярызаваць алімпіяду. І ў гэтыя дні ўвесь Лугана проста такі жыў шахматамі. Перад пачаткам быў аб'яўлены конкурс на лепшую шахматную вітрыну горада. Прыз атрымаў адзін з музычных магазінаў, але з ім маглі паспрачацца многія вітрыны іншых крам. Кандытарскія ўпрыгожваліся вялізнымі шахматнымі тортамі з шакаладнымі і марцыпанавымі фігурамі; магазіны вядомай на ўвесь свет гадзіннікавай фірмы Амега размяшчалі свае тавары на палічках у выглядзе шахматных дошак, нават магазіны цацак у цэнтры вітрын паставілі шахматных каралёў. З'явіліся цацкі, дзе разам з маленькім більярдам і рулеткай (!) былі ўманціраваны і шахматы.

Пры параўнальна высокай уваходнай плаце (тры франкі) для такога невялікага горада, як Лугана, гледачоў было вельмі многа. Да столікаў, дзе гулялі нашы гросмайстры, прыкладна за тры-чатыры гадзіны да пачатку матча нельга было падысці. Савецкія шахматысты выклікалі ўсеагульную ўвагу і захапленне.

**Георгі ЮРЧАНКА**

# ПРАЗ ПАЭТЫЧНЫЯ СУМЁТЫ

Сяброўскія шаржы М. ЛІСОЎСКАГА.

## Сцяпан ГАЎРУСЁЎ

Вы чалавека снежнага шукалі...
Гэта — я.



Без лютай зайздрасці і смеху,
Не апускаючы павек,
Качу рулон бясконцы снегу
Я —
самы снежны чалавек.

Вышэй і ўперад! — майна-віра!
З губамі — парай ледзяшоў —
Хрыбты Цянь-Шаня і Паміра
Я ўздоўж і ўпоперак прайшоў.

Хачу пасведчыць урачыста,
Сяброў не ўводзячы у зман:
Мяне не спыніць снег вячысты,
Вячысты снег і ураган.

Таму шляхі мае крывыя
Прамы пранізвае прамень;
І я ў вышыннай летаргіі
Званю Снягурачцы штодзень...



## Анатоль СЕРБАНТОВІЧ

Ў тры паверхі снегу наваліла,
Стаў тунелем сціснуты бальшак.
Я з зімы дзіўлюся: гэта сіла!
І кажу з павагай: «Гэта — так!..»

А пасля развагі і хваляванняў
Зразумеў, здаволены сабой:
На зямлі не вечна ўсё дазвання:
Сёння — снег, а заўтра — кветабой.

## Янка СІПАКОЎ

Які вуглаваты мароз!
Чапляецца за ўсё-ўсенькае:
За шчокі,
за вушы,
за нос
І нават —
за каленькі.

Наогул, любіць круціцца ля ног,
Ціснe ў чаравіках то пальцы, то пяты.
Што ні кажыце,
а, далібог,
Мароз —
вуглаваты.



## Дзмітры ПАЛОНСКІ



# ШРАЦІНКА ДА ШРАЦІНКІ



Мал. У. ПАШЧАСЦЕВА

- **Вельмі часта мы крыўдзім пень: кожнага дурня з ім параўноўваем.**
- **Знізу яму давалі ў лапу. Зверху — у хвост і ў грыву.**
- **Безгалосы тэнар застаўся ў тэатры: спеўся з дырэктарам.**
- **Скупы толькі аднойчы кінуў грошы на вецер: купіў вентылятар.**
- **З думкаю, што крытыкаваць лягчэй за ўсё, менш за ўсё згодны самі крытыкі.**
- **«Замочваючы» павышэнне па службе, не падмачы сваю рэпутацыю.**
- **Іншага як ні ўзносяць да нябёс, зорак з неба ўсё адно не хапае.**
- **Вузасць сваіх поглядаў пастаноўшчык прыкрываў шырокім экранам.**
- **Трапіў, кажаш, не ў брыво, а ў вока! Чаму ж ён нават вокам не міргнуў!**
- **«Гарбатага магіла выправіць»,— думаў баран пра вярблюда.**







# нашы аўтары

●

**МАКАРЭВІЧ Васіль** нарадзіўся ў 1939 годзе ў вёсцы Купленка Крупскага раёна. Закончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна.

Аўтар зборнікаў «Вогненная камета», «Паралелі і мерыдыяны», «Ясныя падарожжы».

●

**СЦЕПАНЕНКА Адам** нарадзіўся ў 1923 годзе ў вёсцы Лецягі Слаўгарадскага раёна. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Працуе следчым у органах Дзяржаўнай бяспекі БССР.

●

**КАЛЕСНІК Іван** нарадзіўся ў 1932 годзе ў вёсцы Грытчына Дзяржынскага раёна. Скончыў Мінскае педвучылішча і Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве пры СП СССР. Працаваў у рэдакцыях газеты «Чырвоная змена», часопіса «Бярозка» і на Беларускім радыё.

Аўтар зборнікаў «Белыя каштаны», «Пяць сузор'яў», «Калі разам мы».

●

**ЖУК Алесь** нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Клешаў на Случчыне. Цяпер займаецца на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна.

●

**ГАРДЗЕЙ Віктар** нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Малыя Круговічы Ганцавіцкага раёна. Друкаваўся ў часопісе «Маладосць» і ў рэспубліканскіх газетах. Працуе ў рэдакцыі Ляхавіцкай раённай газеты.

●

**КАМЕЙША Казімір** нарадзіўся ў 1943 годзе на Стаўбцоўшчыне, у вёсцы Навікі. Служыў у Савецкай Арміі. Цяпер працуе на Беларускім радыё і завочна займаецца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна.

●

**ПРАВАСУД Уладзімір** нарадзіўся ў 1934 годзе ў вёсцы Падгаць на Гомельшчыне. Працуе ў рэдакцыі «Сельскай газеты» і завочна вучыцца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна.

●

**ГРЫЦКЕВІЧ Валянцін** нарадзіўся ў 1933 годзе ў Мінску. Скончыў Мінскі дзяржаўны інстытут замежных моваў, Мінскі медыцынскі інстытут і гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Кандыдат медыцынскіх навук, працуе ўрачом.

Аўтар кнігі «Падарожжы нашых землякоў».

●

**МАРТЫНАЎ Віктар** нарадзіўся ў 1924 годзе ў Адэсе. Доктар філалагічных навук. Працуе загадчыкам сектара агульнага і славянскага мовазнаўства Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР.

●

**МІХНЕВІЧ Арнольд** нарадзіўся ў 1936 годзе ў горадзе Мінску. Скончыў Гомельскі педінстытут. Кандыдат філалагічных навук. Цяпер працуе ў Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР.

**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 2**

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.**
Карэктар **Лідзія ТАЎЛАЙ.**

Рукапісы, аб'ёмам да аркуша, не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: **Мінск, ГСП, вуліца Карла Маркса, 40.**
Тэлефоны: **2-93-854**—сакратарыят і аддзел крытыкі, **2-93-592**—аддзелы паэзіі і прозы, **2-93-892**—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, **2-93-775**—аддзел інфармацыі.

Здадзена ў набор 2/І-69 г. Падпісана да друку 28/І-69 г.
АТ 03026. Тыраж 11473. Зак. 1. Цана 40 кап. Папера 70×108¹/₁₆. Фіз. друк. арк. 10.
Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5.

**Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі прасп. 79.**



Людміла НАЛІВАЙКА. Шэфы.